# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА,
МАРКСІСЦКА-
ЛЕНІНСКАЙ
ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

5

1937

# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ

ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА, МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ПЯТАЯ*

МЕНСК—1937



## ПЕСНЯ ПРА СТАЛІНА *)

*(З матэрыялаў для тома „Народная творчасць", прысланых у рэдакцыю „Двух пяцігодак")*

З краіны ў краіну, па горных вяршынах,
Дзе вольны арол свой узносіць палёт,
Аб Сталіне, родным, мудрым, любімым,
Цудоўную песню складае народ.

Гучыць гэта песня як гром навальніцы,
І свет прыгнятальнікаў злосна дрыжыць:
Яе не стрымаюць пасты і граніцы,
Яе не стрымаюць краін рубяжы.

Не страшны для песні нагайкі і кулі,
Гучыць гэта песня ў агні барыкад,
Пяюць гэту песню і рыкша і кулі,
Пяе гэту песню кітайскі салдат.

Пра Сталіна песню як сцяг свой узнялі
Народнага фронта стальныя рады.
І полымем грозным народы паўсталі
У бойках апошняй сваёй барацьбы.

А мы гэту песню пяем ганарліва
І сталінскіх славім мы веліч гадоў—
Пяем пра жыццё сваё горда, шчасліва,
Пра радасць квітнеючых нашых садоў.

З краіны ў краіну, па горных вяршынах,
Пілоты дзе толькі гаворку вядуць,
Пра Сталіна, лепшага сына радзімы,
Цудоўную песню народы пяюць.

*Пераклаў* ВІТ. ВОЛЬСКІ.

---

*) Песню гэтую пяе рабочы хор завода імя Фрунзе ў г. Пензе.

*Ялмары Віртанен*

## СТАЛІН І РАДЗІМА

Большай радасці сэрца мае не знала.
Бачу я, кожным нервам жыве і устала
Тут радзіма мая найцудоўнейшым садам,
І ў палётах сталёвых арлоў лёгкакрылых,
І ад танкаў вялікая, грозная сіла,
І ў дыханні кожнай рэспублікі радасць.
Сталінскі геній усіх нас вядзе,
Краіна дарогаю шчасця ідзе.
Праехаў радзімы палі і бары,
Праехаў вазёры, праехаў мары,
Я сонца убачыў магутны агонь,
Ад Сталіна гэтае сонца ўзышло,
Наш Сталін гэта—прастор і святло,
Глыбокая, ясная думка яго.
Сталін народы вывеў змагацца,
Сонца прынёс ён і вечнае шчасце.
Ківач! Я на беразе стромым стаяў,
Дзівіўся гранітнай магутнасцю скал,
На пыл разбіваўся струмень многаводны.
Глядзеў на Ківач я і думаў тады:
Улады Советаў магутны рады,
І вораг знікае пад гневам народным.
Вялікага Сталіна любяць народы,
Яны з роднай партыяй будуць заўсёды.
Між рэспублік саюзных беднай няма,
Сталін няспынна іх уздымаў,
Соцыялізм для народаў багацце,
Цвітуць у саюзе прыгожа яны,
Быццам сады ў вясновыя дні,
Раскрываюцца почкі і ведаў і працы.
Сталін садоўнік цераз гады
Вырасціў слаўны сад малады.
Я бачыў, зара разаслала ў садах
Ясноту праменняў як радасны дар,
Пра гэта ніколі мой зрок не забудзе,
Як вёскаю, горадам, усюды ідзе
Свята насустрач мільёнам людзей,
Я ўведаў: з'явіліся новыя людзі.
Сталінскі геній усіх нас вядзе,
Краіна дарогаю шчасця ідзе.

*Пераклаў ПЯТРУСЬ БРОЎКА*

*Ялмары Віртанен*

## ПЕСНЯ КАРЭЛА

Ён спяваў карэл пакутны
Пра жыццё карэла,
Болем сэрца, чорным горам
Кàнтэле звінела...

Зоры гралі аганькамі,
Сек тапор праз ночы,
Ранне, вечар, зоры зноўку,
А работ не скончыць.

Пні, каменне узнімаў ён,
Сек бесперапынку,
Каб ачысціць тое поле
З дробную хусцінку.

Пры лучыне плёў ён сеткі,
Засынаў галодны.
Не было зусім спачыну
Для сям'і ягонай.

Пад закопчанаю столлю
Жыў ён невясёлы,
Аж пакуль ад горкай долі
Не бяліўся волас.

І спяваў. З глыбіні сэрца
Вылятала слова,
І звінелі, горка, струны
Кàнтэле яловай.

Ён глядзеў: як поп, чыноўнік
Злосна рабавалі,
Што у хаце да астачы
Стражнікі пабралі.

Як ад ворага хаціна
Полымем шугала...
І ненавісцю вялікай
Сэрца запылала.

І тады узяў ён стрэльбу,
Стаў мацней на лыжы,
Стаў пад Серп ён, стаў пад Молат,
Згінуць альбо выжыць.

І спяваў. З глыбіні сэрца
Вылята лі словы,
І гудзелі гневам струны
Кантэле яловай...

Ён бадзёры, будаўнік ён,
Радасць сэрцам спее,
Гаспадар ён ля машыны,
Лес сячэ і сее.

І цяпер усім нам вольным
Цэлы свет адкрылі.
Я заву: такой радзіме
Аддамо ўсе сілы!

Дзе-ж убачыце варожасць,
Біце да астачы,
Каб ніякі вораг, шкоднік
Твар свой не азначыў!

Мы ідзем шырокім крокам,
Мы дужэй ад сталі,
Бо наш сцяг і наша сіла,
Гэта—Ленін, Сталін.

І пяе карэл шчаслівы,
Днём прыгожым, новым,
І звіняць магутна словы
Кантэле яловай.

*Пераклаў ПЯТРУСЬ БРОЎКА*

*Самед Вургун*

## НА ВАРЦЕ СОНЦА

Стары і даўні свет з сівою галавой.
Як смерць старая, нашая зямля,
Але цяпер жыве яна вясной,
Зноў кветкі загараюцца ў палях.
Жывое пакаленне рушыла ў паход!
Мы дзеці сонца, мы—яго народ!
Ішлі мы, падалі, і зноўку йшлі,
Пакут усіх ніяк не апісаць.
Мы маладосць абуджанай зямлі,
Мы чалавецтва гонар і краса!
Над светам ён зарою узышоў
Дзень вызвалення з катаргі вякоў.
І сіла мая дужая цяпер,
З гарачых вуснаў скінута пячаць,
І песня вольная, свабодны смелы верш—
Купіць іх нельга, нельга і прадаць.
Прывет таму, хто нас прывёў сюды
Душою-сонцам бурных, маладых!
Жыцця ты майстар, выгадаваў нас,
Ты вёў з любоўю нас у барацьбе.
Пяро паэта, песняра сааз
Заўсёды будуць услаўляць цябе!
Як добра навакол, цудоўны час настаў,
Я краскаю святочнай грудзі ўвабраў.
Нядаўна вораг паглядзеў на гонар мой,
Ад зайздрасці зялёным, белым стаў.
Што супроцьставіць ён—герой
Пустых прамоў, двудушных спраў?
І помста у яго нягодная гарыць,
Сумленне свету ён хацеў забіць!
Але ён задрыжэў перад паглядам мас,
Дарэмна гадзінай агіднаю ён лез...
Жывы ты, тут, і дыхаеш між нас!
Надзея чалавецтва, ты, жывеш!
Прабрацца да цябе мы не дамо, ты наш,
Мы навакол стаім сцяною мас.
Святло мы бачым, знаем шлях адзін,
Далёка нашы справы паплылі.

Таварыш Сталін—святло маіх краін!
Твой лёс—быць сонцам усяе зямлі!
Жывое пакаленне рушыла ў паход,
Святла мы дзеці, сонечны народ!
І кожны момант мы гатовы ў бой,
На лёс байца, свой зменіць лёс пясняр,
Дай зброю ў рукі мне, любімы мой,
Не пасаромлю я свой горды твар
І грудзі так адданасцю гарэць,
На варце сонца я хачу стаяць.

*Пераклаў* ПЯТРУСЬ БРОУКА

*Булат Ішэмгулаў*

## КАСТРЫЧНІК

Толькі знай працуў, гаруй бедак,
Усяго пракляў цябе кулак.
Па спіне гаротнай пот цячэ,
Многа у жыцці пазнаў ты бед,
Знай працуй і ведай, што цябе
Сонца невыноснае пячэ.
Чахні, сохні, зробішся як цень,
Гніся ў працы ты і ноч і дзень,
І ніхто не скажа: адпачынь!
Сон без сну і голад, што агонь,
Толькі вецер з ласкаю, адзін
На цябе кладзе сваю далонь.
Ты працуй. Ты знай гаруй, бядак,—
Ой як нажываецца кулак!
„Уставай!—сказаў магутны правадыр,
Забірай зямлю і неба шыр!“
Асядлаўшы гнедку, паімчыць
Цераз пыл, снягі, цераз туман,
Па-над стэпам куляй загудзіць,
Шлях сабе пралажыць партызан.
Сабірайся бедныя ў паход,
Не схавацца лютаму нідзе.
Наш кірунак—радасны узлёт
Баявы Кастрычнік павядзе.
На хрыбце Урала ў трох гарах,
Дзе старога тлену даўні прах,
Дзе як маладзенькая сасна
Прабівае шлях сабе вясна,
Акружылі гады нас
Гурмой,
І памёр таварыш верны
Мой.
І адзін застаўшыся між гор,
Паглядзеў далёка на прастор.
Не, не здамся ворагам, о, не!
Я кінжал аб камень шараваў,
І аб камень
Цёрся ён, звінеў,
І кінжал гарачым, вострым стаў.

Загудзела сіла, кроў мая,
Ї тады ў пустыню крыкнуў я:
„Мой Кастрычнік!
Я салдат твой, я іду
Свет стары дашчэнту пакарыць,
Ворагаў усюды я знайду,
Мне з табою сёння
Толькі жыць!“
Паўцякалі гордыя паны.
Адгрымеў суровы гром вайны.
Над марскою хваляй
Спелых ніў,
Разагнаўшы песняю туман,
Ён ляціць і крыллі нахіліў
Над сялом тваім
Аэроплан.
Самалёт далёка ўбачыў ты,
Ты цяпер будуеш новы свет,
Новы свет збудуюць рукі тых,
Што разбілі ворагаў нашчэнт.
Мой Кастрычнік,
Ты мяне завеш.
Ты завеш і я гатовы зноў,
Ты агні вялікія нясеш
Клічаш ты,
Ї партызан гатоў!
Ты завеш,
Ї я, работнік твой,
Я пайду Кастрычніка хадой.
Я аддам душу табе.
І кроў!
„Ці гатовы, партызан?“
„Гатоў!“

*Пераклаў ПЯТРУСЬ БРОЎКА*

*Платон Галавач*

# ЯНЫ НЕ ПРОЙДУЦЬ!

„Загінулі жанчыны і дзеці. Іхная кроў, як чырвоны штандар бітвы, што заклікае да барацьбы, заве да помсты...

... Вораг паспрабуе яшчэ паўтарыць свае крывавыя подвігі. Але няхай! мы раздавім яго і адпомсцім за ўсе нашы ахвяры...

... Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленах!"

*Даларэс Ібаруры (Пасіонарыя)*

Калі поезд прыцішыў ход на завароце, Рыгор Каленік сышоў на самую ніжнюю ступеньку падножкі і скокнуў пад адхон у мякаць травы і красак. З акон і з дзвярэй вагонаў на яго пазіралі салдаты. Гімнасцёркі іхныя змятыя. Твары цёмныя ад укрыўшай іх шчаціны, ад пылу і загару. Стоячы ў траве на шырока расстаўленых нагах, Каленік крыкнуў салдатам:

— Бывайце, хлопцы, адзьюю...

Радасць бліснула ў яго вачах і кранула ўсмешкай патрэсканыя губы. Ён зняў з галавы шапку і замахаў ёю. Салдаты разам некалькімі галасамі крыкнулі яму ў адказ і таксама замахалі з акон вагона шапкамі і рукамі. Грукат чыгунных каткоў заглушыў іхныя галасы. Узняты поездам пыл закружыўся над насыпам і засланіў іхныя твары. І як-бы на развітанне гукнуў паравоз, ускінуўшы ў неба цэлае воблака дыму. І усё знікла ў лесе. Непарушна ляжаў цэлай гарой жоўты гарачы пясок насыпу. Угары, на пяску, гудзелі яшчэ рэйкі. Зверху пякло ліпеньскае сонца. Каленік прыслухаўся да ціхага звону рэек, пасля зірнуў на свае боты, намерыўся сцерці з іх пыл, але пашкадаваў травы, густа перасыпанай краскамі, і не сарваў яе. Прыгладзіў узвіхраныя ветрам валасы, ускінуў на іх салдацкую казырковую шапку і пашоў наўпрост па сенажаці да лесу.

Яму сорак два гады. У яго дома старая маці і чацвёра дзяцей: тры сыны і дванаццацігадовая, самая старэйшая, дачка. Каленік вельмі даўно не бачыў іх. Амаль поўныя тры гады ён прабыў на вайне ў акопах. Два разы быў паранены, ляжаў у лазарэце і зноў вяртаўся ў акопы; пасля другога паранення атрымаў георгіеўскі крыж чацвертай ступені. Гэта было зімой з тысяча дзевяцьсот

шаснаццатага на тысяча дзевяцьсот семнаццаты год. А ў маі семнаццатага полк, у якім служыў Каленік, знялі з фронта і паслалі ў казармы ў Петраград. У казармах салдат трымалі, як у крэпасці, рэдка каму давалі бываць у горадзе. Потым у казармы пачалі наязджаць з гораду штацкія. Салдат зганялі ў вялікі двор казармаў. Штацкія лезлі на трыбуну, складзеную з драўляных скрынь, і гаварылі да салдат прамовы, пераконваючы іх у неабходнасці ваяваць за бацькаўшчыну і святую свабоду. Салдаты слухалі прамовы, думаючы пра даўно пакінутых жонак і дзяцей, пра апусцелыя свае гаспадаркі і праглі хутчэй трапіць як-небудзь дадому. Сярод салдат расло нездаваленне. Яны ўсё часцей перабівалі прамоўцаў, пытаючы, калі будзе мір, і мацюгаліся, або хітра ўсміхаліся на адказы прамоўцаў, паказваючы ім здалёк змятыя нумары „Салдацкай праўды". Адзін раз, калі гэтак сагналі салдат на мітынг, яны не далі гаварыць староннім, а патрабавалі сваіх прамоўцаў, і па прапанове большэвіка-прапаршчыка выбралі палкавы салдацкі камітэт.

Так поўніцца вадой у вясновыя дні рака, паглынаючы сотні малых рэчак і тысячы ручайкоў, каб выйсці з сваіх берагоў, разліцца, затапіўшы навакольныя лугі і поле і панесці вадзяныя свае багацці па зямлі ў далёкае і неабдымна шырокае мора.

Аднойчы ў ліпені семнаццатага году салдаты вышлі з казармаў і накіраваліся ў самы горад. Там яны далучыліся да рабочых, якія ішлі з чырвонымі сцягамі, і цяжкім салдацкім шагам прайшліся па Неўскім праспекце паміж прыгожых, вялікіх і багатых дамоў. Ішлі, азіраючыся па баках, папярэджаныя, што можа ў іх будуць страляць казакі і юнкеры. Каленік ішоў наперадзе сваёй роты. Ён кaціў з сабою кулямёт. Кулямёт пабліскваў на сонцы, уздрыгваючы, браскочучы па маставой. Побач ішлі другі і трэці нумары. Яны неслі на сабе жалезныя каробкі з патроннымі істужкамі. Так ішлі салдаты да царскага Зімняга палаца і спыніліся перад палацам на пляцу. Над людзьмі, запоўніўшымі пляц, развіналіся чырвоныя сцягі і чырвоныя палотнішчы транспарантаў. Рабочыя спявалі марсельезу, а салдаты стаялі моўчкі з вінтоўкамі за плячыма. Салдаты блукалі позіркамі па лозунгах, напісаных на транспарантах і па вокнах і балконах палаца.

Хутка на пляц прыехаў грузавы аўтамабіль. На машыне было двое ў вольнай адзежы і некалькі салдат з вінтоўкамі. „Большэвіцкі дэпутат прыехаў",—сказаў нехта побач з Каленікам. Як толькі машына спынілася сярод пляцу, адзін з прыехаўшых узняўся і пачаў гаварыць:

— Мы патрабуем перадачы ўсяе ўлады ў рукі рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў... Мы патрабуем неадкладнага міру... Мы патрабуем, каб зараз-жа, не трацячы ніводнага месяца, ніводнага тыдня, ніводнага дня, сяляне атрымалі памешчыцкую зямлю... Мы за такі парадак, які на карысць большасці народу—рабочым і сялянству...

На пляцы было ціха. Пагойдваліся на ветры сцягі, пабліскваді штыкі вінтовак, а над усім стаяў невысокі каранасты чалавек, з працягнутай да салдат рукой, у якой трымаў скамечаную шапку.

— Гэты гаворыць, як след,—сказаў Каленіку яго другі нумар. Каленік кіўнуў галавой.

— Самая што ні на ёсць наша партыя, нам толькі да такой прыставаць,—сказаў зноў другі нумар.

Салдаты з грузавіка перадавалі ў натоўп пачкі газет. Белыя газетныя аркушы ішлі па руках усё шырэй і шырэй.

— „Салдацкая праўда“ мусіць,—сказаў Каленік, працягваючы наперад руку, баючыся, што газета да яго не дойдзе.

Позным вечарам полк вярнуўся ў казармы, а назаўтра самым ранкам казармы абкружылі казакі і полк атрымаў загад выязджаць на румынскі фронт. У адказ полк вывесіў плакат на франтоне казармы: „Далоў братазабойчую вайну! Уся ўлада Советам!“ Велізарныя белыя літары выразна вылучаліся на чырвоным палатне. Плакат раздражняў казакаў, але ўвайсці ў двор казармаў яны не асмельваліся: з вакон казармы і з дзвярэй выглядалі кулямёты, а ў двары стаяла пасіленая ўзброеная варта. Полк адмовіўся ехаць на фронт. У гэтыя дні Рыгор Каленік быў прыняты ў партыю большэвікоў, а цераз нейкі час разам з групай салдат, землякоў па губерні, быў накіраваны палкавым камітэтам у свае месцы.

Каленік ідзе даўно наезджанай дарогай. Дарога зарасла травой, у траве мякка нагам, і ён прыпамінае, што ў дзяцінстве баяўся хадзіць па такіх дарогах, думаў, не пачуе, як падкрадзецца воўк. Абапал дарогі густы малады алешнік і бярэзнік, рэдкі ельнік. Алешнік так разросся, што зусім засланіў дарогу. Каленік час ад часу працягвае руку і зрывае жменяй лісце. Маладое лісце ліпне да пальцаў. На пальцах застаецца клейкі пахучы сок. Пад нагамі гэткая-ж ліпкая зямля На ёй трава мяккая і шыракалістая. Ад зямлі і ад травы павявае халадком, ён прыемна абдае твар і Каленік ідзе, зняўшы шапку.

За алешнікам ідуць цэлым гаем высокія, гонкія бярэзіны, спакойныя і велічныя ў сваім густалістым убранні. Вершаліны іхныя купаюцца ў густой дрыготнай сіняве неба, залітыя сонечным святлом. А за імі сцяной стромкія сосны. І над іхнымі вострымі макушкамі густая сінява. Унізе пад імі няма травы, а сухая зямля, слізкая ад хвойных іголак, ды кустамі брусьнічнік і ў лагчынах чарнічнік. Мясцінамі сцелецца сухі буры мох, а тады зноў густы насціл хвойных іголак, шышкі і сухое спарахнелае галлё, апаўшае з дрэў. Дарога ў лесе больш раз'езджаная. На ёй тонкі пласт пяску, перамешанага з хвойнымі іголкамі і шышкамі. Ісці лёгка, замінае толькі крыху шынель, якая за плячыма ўскатку, ды яшчэ салдацкі мяшок.

Лес цягнецца вярсты на чатыры, а можа на больш, а потым зноў сцелюцца раскошныя лугі. З-за лесу злева раптам вынырае з алешніку рака і, разбегшыся самай сярэдзінай луга, гулліва кінуўшы ў зяленіва лугоў гнуткі блакітны стан свой, крута паварвае ў лясы барона Врангеля.

Каленіку ісці ўправа ад рэчкі. Вярсты чатыры дарогай да шляху, а тады яшчэ вёрст восем шляхам, і ён будзе дома. Можна адпачыць перад дарогай. Ён ідзе па траве да ракі. На самым беразе яе скідае з плеч мяшок і шынель, расплікае каўнер гімнасцёркі і падае ў траву. Шчыплівы пах травы і красак раздзьмувае

ноздры. Ён ляжыць тварам да зямлі і слухае, як булькоча ў крутых берагах поўнаводная рака. Ён чуе, як праходзіць паўз берагі вада. Яна нясе з сабою шолахі далёкіх лясоў і гоман птушыных галасоў. Хочацца піць. Вада ў баклажцы нагрэлася за дарогу, ёю не прагнаць смагі. Узняўшыся, Каленік асцярожна апускае пустую баклажку як мага глыбей у раку і чакае, пакуль набярэцца вада, а пасля п'е яе усю, стоячы на каленках, зноў набірае і зноў п'е, закінуўшы галаву. Вада прасочваецца ў кутках паміж губ і сцякае на бараду і на голую шыю за каўнер гімнасцёркі, шчыкоча гарачыя грудзі, але ён не сцірае халодных кропель вады, а толькі па-дзяцінаму смешна ўбірае галаву ў плечы і рагоча, аскаліўшы здаровыя жаўтаватыя зубы.

За ракой шырока стаяць багатыя лясы барона Врангеля. „Як-жа ім не крычаць пра беспарадкі“,—думае Каленік. І следам пра памешчыка Нацэвіча, маёнтак якога суседзіць з вёскай Каленіка. „Паглядзім, што ты запяеш, калі прыдзем зямлю браць“. Гэтыя думкі прыспешваюць яго. Набраўшы яшчэ поўную баклажку вады на дарогу, ён падняўся з зямлі, ускінуў на плечы шынель і мяшок і падаўся дадому.

---

Першым, каго спаткаў Рыгор Каленік, калі падышоў да сваёй вёскі, быў незнаёмы чалавек гадоў трыццаці чатырох—трыццаці шасці, высокі, цёмны з твару. Ён прывітаўся з Каленікам і той па гаворцы пазнаў, што чалавек не з тутэйшых:

— Адкуль, зямляк?

— Як сказаць? І тутэйшы я і не тутэйшы,—адказаў той.—Бач, я таксама нядаўна з войска, але на радзіму не паехаў, бо там немцы, а тут я раней быў ужо з сапёрным батальёнам, вось і заехаў і ажаніўся. А сам ты?

— Я то адсюль, звеку тутэйшы.

Пазней, калі незнаёмы назваў, да каго ён прыстаў у прымы, Каленік сказаў, як-бы ухваляючы яго жаніцьбу:

— Ну і добра. Будзем разам Нацэвічаву зямлю браць. Я салдат і ты салдат, нам у самы раз такое дзела. Самі мужыкі не адважацца, усё яшчэ мусіць законаў баяцца, вось мы ім тут і растлумачым, што царскім законам навек крышка.

Незнаёмы правёў Каленіка да самай хаты. У хаце яго не адразу пазналі. Старая маці, якая была пасадзіла дзяцей есці, узнялася з-за стала, абтрэсла фартух і, толькі прыглядзеўшыся, падалася да сына.

— Рыгорка!.. Дзеткі... гэта-ж бацька прышоў.

Дзеці павылазілі з-за стала, толькі самы меншы хлапчук стаяў за сталом на лаўцы, нясмела і здзіўлена паглядаючы на бацьку. Каленік абдымаў дзяцей, туліў іх тварамі да сваіх калючых шчок, гладзіў, задаволена ўсміхаючыся, і як сеў за стол, самага меншага ўзяў на ўлонне. Калі хлапчук папрасіў піць, даў яму сваю баклажку.

— На, маёй вады выпі, з вайны.

Хлапчук прыклаўся губамі да баклажкі, а старэйшы недаверліва зірнуў на бацьку.

— Маніш, што з вайны вада.

Маці частавала Каленіка, а ў хату да яго ўжо сыходзіліся крапілаўцы. Прышоў Малакавец Гаўрыла і Прорвіч Арцём, даўнія каленікавы дружбакі. Потым яшчэ прыйшлі Канцавы Андрэй, Жытко Міхаль, а з імі і новы каленікаў знаёмы паляк Віняцкі Віктар, а пасля ўжо Рагавец Зіновій і каваль Райтман, да яшчэ Сімкавец Антон, адзін з самых неспакойных у Крапілаўцы. Крапілаўцы прыходзілі пабачыцца з Каленікам і можа што пачуць. Заходзячы ў хату, яны віталіся голасна з усімі, пасля падыходзілі да стала, за якім сядзеў Каленік, абрадавана паціскалі яго руку, перакідваліся парай слоў з ім і, прапануючы закурыць, сядалі на даўгіх шырокіх лаўках каля сцен. Яны густа дымілі махоркай, дым клубкамі віўся пад нізкай столлю, і гаварылі абы пра што, пакуль Каленік вячэраў. Пасля адзін з іх запрапанаваў пайсці з хаты:

— Хутка тут хоць тапор вешай,—сказаў ён.—Хадзем, няхай Рыгор скажа, як нам далей жыцца будзе.

На двор прышлі яшчэ мужчыны і жанчыны з дзецьмі. Прышла і старая ўдава салдатка Кавалевіч Ганна, маўклівая і строгая жанчына з застыглым, нерухомым позіркам у вачах. На руска-японскай вайне загінуў яе муж, а ў апошняй вайне загінулі абодва яе сыны. Ёй няма яшчэ і пяцідзесяці год, але густыя, цёмныя валасы яе пасівелі за апошнюю зіму, калі прышло паведамленне пра смерць сыноў. Калі яна прышла, мужчыны расступіліся, далі ёй дарогу, каб прывіталася з Каленікам. У яе вачах загарэўся рэдка прыкметны бляск.

— Ты малайчына, Рыгор,—сказала яна да Каленіка.—Я хоць і не бачыла яшчэ цябе, але чула, што ты на добры шлях стаў, хочаш рабіць, каб і мужык чалавекам быў. Рабі.—І паказала на мужчын рукой.—Яны не ўсе можа дапамогуць табе, ёсць баязлівыя, але некалі ўсе падзякуюць табе.

— Дзякую за добрае слова, цётка Ганна. На маю дарогу стаць нікому з іх не забаронена,—сказаў Каленік.—А што баязлівыя яны, гэта можа яшчэ і няпраўда. Чалавек баіцца, калі адзін, а мы ўсё гуртам рабіць будзем.

— Іменна правільна,—азвалася ўраз некалькі галасоў. А ў чым правільна, тлумачыў адзін з сялян:

— Па аднаму мы пра панскую зямлю з якой пары гаворым, а крануць баімся. А тут касіць пара.

І той-жа голас пытаў:

— Няўжо-ж як і за старым рэжымам—з капы касіць будзем?

— А як ты думаў? Цара-то няма, але-ж і новых законаў няма: усё панскае панскім засталося,—адказаў яму з натоўпу нехта.

Каленік слухаў і задаволена ўсміхаўся. Яму нават і не спатрэбілася ўсчынаць гаворку пра панскую зямлю.

— Во, чуеш, цётка Ганна, пра што гавораць? А ты казала—баязлівыя.

— Гаварыць яны ўсе смелыя,—падражніваючы, адказала жанчына.—Паглядзім, як касіць пойдуць.

— А так і пойдзем, як гаворым.

— Косы ў рукі і гайда на панскае. Ваявалі не за тое, каб гібець.

— А пасля і араць.

— А можа так будзе, як тады каля воласці?—іранізавала жанчына.

— Хіба збіраліся?—спытаў Каленік.

— Прыязджаў салдат адзін, гаварыў каб зямлю бралі. Людзі былі з усяе воласці, тысячы чалавек. Пакуль гаварыў, слухалі а як рукі падымаць,—хто куды.

— Гэта таму, што староннi ён чалавек,—вытлумачыў нехта.— Прыехаў і паедзе, а разбірацца не будзе каму.

— Нічога, збярэмся яшчэ раз з усяе воласці,—сказаў Каленік.— Ну, а мы, паколькі ў цэнтры жывем, давайце першымі і прыклад паказваць. Я гэта не жартуючы кажу, маю я на гэта і дакумент належны ад свайго палкавога камітэта.—Каленік палез у кішэнь і дастаў з партманэ паперы.—Тут маё ўсё. Полк наш у Петраградзе стаіць. Пакуль што і там яшчэ ў буржуяў улада пасля цара, але народ яе возьме. Паглядзелі-б вы, як народ на вуліцы выйшаў! Увесь народ! І салдаты з вінтоўкамі і кулямётамі... Хутка канец ім. Там іх зверху душыць будуць, а мы тут пад самы корань падсякаць. У Петраградзе наш большэвіцкі дэпутат словамі таварыша Леніна гаварыў. Трэба скінуць панскія загарадкі з зямлі, разгарадзіць яе. Трэба, каб не Нацэвічава зямля была, а твая і твая, і твая...—Каленік паказваў на мужчын, якія стаялі вакол яго.

Змяркалася, надыходзіла кароткая летняя ноч, а людзі не ішлі дадому з каленікавага двара, стаялі, сядзелі на прызьбе на бярвенні і на платах і маўкліва слухалі гаспадара.

— Нам зямля трэба,—казаў Каленік.—Калі возьмем зямлю, тады і парадак у нашым жыцці будзе. А нам прапануюць за буржуйскія парадкі зноў на вайну ісці. Далоў вайну! Да чортавай матары вайну, якая калечыць і забівае наша жыццё. Нам мір патрэбен, нам зямля патрэбна і мы павінны ўзяць яе неадкладна.

Ён гаварыў, прыпамінаючы тое, што чуў ад большэвіцкага дэпутата ў Петраградзе на пляцу перад Зімнім палацам.

— Раз мы сыйшліся,—казаў ён,—давайце адразу і выбярэм, як гэта па ўсёй Расіі робіцца, свой сялянскі камітэт, які павядзе ўсё дзела з зямлёй.

Тады пачуўся голас:

— Можа пачакалі-б крыху, куды так гоніш?

— А чаго чакаць?

— Гэта Беразоўскі гаворыць, яму чакаць можна, сваёй зямлі ўволю.

Каленік спытаў:

— А чаго ты, Беразоўскі, чакаць прапануеш?

— Закону. Я хачу дачакацца якога закону,—адказаў той.

— І я тое-ж скажу,—падтрымаў Беразоўскага нехта з натоўпу.

— Чэрнуш таксама можа пачакаць, і ў яго не гарыць.

— Хто хоча закону чакаць, няхай чакаюць,—з усмешкай адказаў Каленік.—Я мяркую, што і Данат Данатовіч закону будзе

чакаць, і Савіцкі, і Нічыпар Лёгкі, а мы, бедната, сваё рабіць будзем, бо нам законаў ніхто не напіша, пакуль самі іх не ўстановім.

Сялянскі камітэт быў у гэты вечар абраны, а ў нядзелю камітэт склікаў каля воласці вялікі сход і абвясціў сваю першую пастанову пра перадачу сялянам па ўсёй воласці панскай зямлі і сенажацяў.

---

Бралі зямлю крапілаўцы наступнай нядзеляй. Пасля снедання члены сялянскага камітэта накіраваліся ў панскі двор. За імі прышло яшчэ чалавек сорак сялян. У панскіх пакоях спалі ці то снедаць збіраліся, і камітэтчыкі, наказаўшы пану праз эканома, што ён патрэбен па вельмі важнай справе, размясціліся ў садзе на мураве. Частка сялян сядзела, а то пахаджвалі па двару, заглядалі ў адчыненыя пустыя хлявы—каровы былі на пашы, праз шчыліны ў варотах на стайню, блукалі па садзе і перакідваліся словамі, у якіх адчувалася зайздрасць да багатага панскага жыцця.

— Настаяшчы памешчык, як след,—казаў адзін.

— Бачыў коні якія?—уторыў яму другі.

— І дабра і грошай немаведама колькі, мусіць,—думаў голасна трэці. А чацверты выказваў пажаданне:

— Каб і коняй забраць, каб і ўсё...

Асабліва ўвішна аглядаў усё немалады ужо, нізкаросла Гошка Павал. Ведалі ўсе пра яго празмерную скупасць, хоць жыў ён незвычайна бедна і не меў чаго шкадаваць. Скупасць ягоная сказалася і на гэты раз. Змеціўшы сярод прысутных Віняцкага Віктара, Гошка адразу накінуўся на яго:

— А ты чаго тут? Ці мо' таксама думаеш у нас зямлю браць?

— Чаму-ж не?

— Бач, а ці-ж ты наш? Хіба твае бацькі, ці сам ты, скажам, рабіў калі на гэтай зямлі?—І ўзняў ужо сапраўдны крык, звяртаючыся да прысутных:

— Ці-ж гэта парадак? Паслухайце сюды, мужчыны. Гэта як-жа можна, каб нехта дзесьці там хадзіў па свеце, а пасля на нашу зямлю садзіўся? Гэтак-жа іх немаведама колькі набярэцца, калі аднаго пусціш.

Мужчыны спачатку маўчалі, паглядаючы то на Гошку Паўла, то на Каленіка, то на Віняцкага, які стаяў крыху разгублены; яго збянтэжыў такі нечаканы Гошкаў напад. Маўчаў пакуль што і Каленік, і гэта падбадзёрыла Гошку.

— Каб-жа ты наш яшчэ быў, а то-ж паляк, то падавайся ў свой бок, адбірай там зямлю ў свайго пана і бяры яе колькі табе хочацца, а за чужыя плечы няма чаго хавацца.

— Як-то?– пытаў разгублена Віняцкі. Ён не разумеў, жартуюць з ім ці гавораць такое ўсур'ёз і ўсё перапытваў:

— Чаму-ж то за чужыя плечы? Як!

Але на гэты раз аж некалькі чалавек падтрымалі Гошку, загаварыўшы наперабой:

— Яно можа і праўда, калі кожны такі прыдзе, самім не хопіць,—казаў адзін. Яго перабіваў другі:



— Аднаму дай, другому дай, нібы тут зямлі без краю.

Але іх усіх суцішыў Каленік.

— Ого!—сказаў ён, падымаючыся з травы.—Вы гэта напраўду, хлопцы, ці жартуеце?—Ён стаў перад мужчынамі і момант стаяў моўчкі:—Ці ён не чалавек, не мужык? Ці ён не пакутваў так, як мы? Гэта, хлопцы, зусім не па-нашаму выходзіць.

— Старарэжымнікі,—падтрымаў Каленіка Сімкавец Антон, член камітэта.—Старарэжымнікі!—крыкнуў ён яшчэ раз.—Як вас зямля наша носіць? І няхай яшчэ Гошка гаворыць, яму абы гаварыць, а іншыя чаго ўз'еліся!

У гэты час з пакояў вышаў памешчык. Ён сышоў з ганку і стаў непадалёк, здзіўлена пaглядаючы на сялян, якія ішлі да яго следам за чалавекам у салдацкай вопратцы. Калі яны спыніліся перад памешчыкам, на ганак з пакояў выйшаў яго сын афіцэр. Сын моўчкі стаяў на ганку, а бацька сказаў, пытаючы:

— Чаго прышлі, людзі?

У яго голасе ўжо чулася трывога.

— Справа якая ці што?

Яму за ўсіх адказаў Каленік:

— Мы прышлі паведаміць пастанову сялянскага камітэта, што зямля панская з гэтага дня перадаецца крапілаўцам. Сенажаці і пахаць...

Памешчык маўчаў. Перад ім стаяў высокі, плячысты салдат, а за ім і побач старэйшыя мужчыны з Крапілаўкі. У памешчыка раптам задрыжэлі рукі, як ніколі раней, і ён ухапіўся рукамі за полы свайго белага піджака.

— На якой-жа падставе, чаму?

Пытаючы, памешчык зірнуў на сына. Сын нерухома стаяў на ганку. Ён чуў, што сказаў Каленік і гнеў і нястрымная злосць авалодалі ім. Ён сілай стрымліваў сябе, каб не закрычаць на салдата. Яму хацелася падыйсці да салдата, крыкнуць і біць яго па твару. Ад узбуджанасці ў яго ўздрыгвалі плечы.

— Мы хочам парадку, каб зямля была ў таго, хто на ёй працуе,—адказаў Каленік памешчыку.

— Ці не большэвік ты?—раптам выкрыкнуў афіцэр, скрануўшыся з месца, але з ганку не сышоў.

— Гэта не тваё дзела, ваша благароддзе.

— Большэвік!—зноў выкрыкнуў афіцэр.—Ты бунтуеш сялян. А сам, пэўне, уцёк з фронту... Вось я праверу твае дакументы, як ты трапіў дадому і арыштую цябе...

— Ого! Глядзі, ваша благароддзе, каб мы цябе калі не арыштавалі. Я тры гады адседзеў у акопах, ваюючы за цябе і за твае багацці, пакуль ты сядзеў у бабруйскай крэпасці ў інтэндантстве.

Памешчык бездапаможна азіраўся наўкола, разгублена паўтараючы ўсё адно і тое-ж:

— Як-жа так? Як-жа так?

Твар яго ўкрыўся потам.

— Як-жа так? А закон, падставы...

— Калі мы панскую зямлю аддадзім людзям, гэта і будзе закон. Пан, думаецца нам, разумее, што старым законам крышка, скончыўся іхны тэрмін.—Каленік развінуў рукі, як-бы спачуваючы пану, што той не разумее такой простай рэчы.—Так выйшла: з царом і царскія законы скінуліся.

— Я разумею,—мармытаў памешчык,—але нельга-ж без ніякіх падстаў, гэта беспарадак.

Каленік усміхнуўся.

— пан пра беспарадак. Дзіўныя людзі. Па-іхнаму, усё беспарадак, што ім не да смаку.

Тады сын сказаў да бацькі:

— Кінь гаварыць з імі, папа, ты не паважаеш сябе.—І да сялян:—А вам я загадваю неадкладна-ж пакінуць двор. Заўтра я давяду да ведама каменданта пра цябе,—сказаў ён да Каленіка.

— Няма чаго страшыць, ваша благароддзе, лепш ідзі ў пакоі, без цябе тут разбяромся.

Не адказваючы Каленіку, афіцэр крыкнуў бацьку:

— Я патрабую, каб ты не гаварыў з імі. Ідзі ў пакоі. Я сёння-ж паеду ў горад і заўтра іх супакояць.—І да сялян:—Яны зразумеюць, як слухацца большэвіцкіх агентаў.

Тады не стрымаўся Віняцкі.

— Не ўсё-ж нам кланяцца панам у пояс,—сказаў ён.

Афіцэр па гаворцы адразу пазнаў у ім паляка.

— А ты хто такі?—спытаў ён.—Таксама большэвіцкі агент? Ты-ж, здаецца, не тутэйшы?

— Чуеш, Гошка, як твае словы з панскімі супадаюць,—сказаў Каленік.

Сяляне зарагаталі. Афіцэр намерыўся яшчэ нешта сказаць, але Каленік перапыніў яго:

— Нам няма часу, ваша благароддзе, мы сваё ўсё сказалі, адзью...

— Гэтак нельга, я не дазволю,—сказаў яшчэ памешчык.

— Не дазволіце?—Каленік зірнуў на памешчыка, вымерваючы таго позіркам з ног да галавы.—А мы і без дазволу абыйдземся. Давялі да ведама пастанову і годзе. Заўтра выходзім касіць.

— Вы не пасмееце, гэта бунт.

Памешчык не крычаў, а мармытаў, адыходзячы задам да ганку і размахваў рукамі, як-бы баронячыся ад пранізваючага салдацкага позірку і ад шырокіх усмешак на тварах у сялян.

— Акрамя ўсяго мы апішам панскае дабро: коняй, кароў, хлеб, каб усё было ў цэласці.

Гэтыя Каленікавы словы зноў прыкавалі пана да месца.

Ён скрануўся з месца, толькі калі сын крыкнуў з ганка:

— Глядзіце, каб вас не апісалі...

Сын прапусціў наперад бацьку і пашоў за ім у пакої, злосна бразнуўшы дзвярыма. Каленік махнуў услед яму рукой. Ён бачыў перад сабою узбуджаныя, вясёлыя і крыху разгубленыя твары.

— Цяпер у нас з панам вайна,—сказаў ён,—гаварыць больш не давядзецца, скончыліся гаворкі. Вайна такая па ўсёй Расіі

пачынаецца. Цяпер каб толькі не сплахаваць. Заўтра-ж касіць, а там араць і сеяць, каб неадкладна ўсю воласць узняць.

Высокі, плячысты, ён шырока ступае па самай сярэдзіне дарогі паміж старых бярэзін, пагладжваючы пышныя русыя вусы, хаваючы ў вусах сваю хітраватую ўсмешку і паглядае на крапілаўцаў, якія ідуць натоўпам, шырока, на ўсю дарогу, узбуджаныя і гаваркія.

---

Гэта былі дні напружанага чакання: што-ж будзе? Крапілаўцы скасілі панскія сенажаці, размеркавалі пахаць і пасеялі азімае жыта. Гэтак-жа пазней пачалі секці лес. Крапілаўцы гаспадарылі на памешчыцкай зямлі, а ён маўчаў і толькі ўлічваў, як ён казаў, панесеныя страты і чагось чакаў. Зрэдку да бацькі ў маёнтак наязджаў сын-афіцэр, але і ён не спрабаваў бараніць бацькоўскага дабра і нават не паказваўся крапілаўцам на вочы. Не запярэчыў памешчык і тады, калі камітэт прышоў у двор і апісаў коняй, кароў і хлеб, забараніўшы прадаваць што-б там ні было без яго згоды. Ён толькі іранічна скрывіў губы і адмовіўся распісацца на апісным акце.

Мінула тры з паловай месяцы. Доўгімі восеньскімі вечарамі крапілаўцы сходзіліся ў хатах, расказвалі, дзе што каму давялося пачуць і меркавалі, што будзе. Ім усё яшчэ не верылася, што панская зямля ўжо іхная, хоць даўно кожны засеяў азімае жыта і бачыў на сваім надзеле зялёную рунь. І ўсё часцей і часцей сыходзіліся крапілаўцы ў каленікавай хаце і настойліва выпытвалі яго, ці ведае што канчатковае камітэт. Кожнаму хацелася вестак пэўных і такіх, якія замацоўвалі-б яго права на зямлю.

Сялянскі камітэт у Крапілаўцы быў як-бы другім валасным праўленнем. У воласці па-старому сядзелі старшыня Беразоўскі і валасны пісар з памочнікамі, чалавек вёрткі і хітры. У нядзельныя дні і валасны старшыня, барадаты рыжы мужчына, і пісар чыста паголены, з валасамі, зачасанымі вожыкам, таўкліся па цёмнай зборнай, набітай народам, а за сталом, вакол якога збіраліся сяляне, звычайна ў такія дні стаяў Каленік. Побач з ім можна было часцей за ўсё бачыць Гайшынскага, зусім яшчэ маладога хлапчука, і Сімкаўца Антона, ды яшчэ паляка Віняцкага. Віняцкі, як і іншыя, зямлю атрымаў з панскай і засеяў жыта. Аднак жыў ён у чужой хаце, не меў свайго каня і ўсё яшчэ адчуваў сябе сярод крапілаўцаў як-бы чужым. Ён сумаваў, яму не хапала работы ў сваёй гаспадарцы і, з'явіўшыся аднойчы ўвечары да Каленіка, ён абвясціў, што ідзе ў польскія легіёны.

— Бачыш, рабіць мне няма чаго,—тлумачыў ён,—жыць таксама няма асабліва з чаго, і я запісаўся. І да ўсяго я тут нібы чужы, мяне цягне дадому, на радзіму. А ты падумай,—угаварваў ён,— мы прагонім немцаў і ў Польшчы ўстановім гэткі-ж парадак, як і ў вас тут. Будзе свой сялянскі камітэт, адбярэм зямлю панскую, а тады толькі прыязджай у госці.

Каленік ківаў недаверліва галавою:

— Ці варта табе туды запісвацца, навошта?

— Чаму? У Польшчы павінна быць тое-ж, што і ў Расіі. Мы гэта зробім.

А Каленік зноў недаверліва пакручваў галавою.

— Я нічога не ведаю аб польскіх легіёнах,—казаў ён,—але-ж іх збіраюць генералы, я баюся, што не за такія парадкі яны ваяваць будуць, якіх мы хочам. Пачакаў-бы ты, пакуль у нас усё ўстановіцца, а тады і ўбачыў-бы, ці варта табе ісці ў легіёны.

— Я гаварыў з нашым чалавекам,—пярэчыў не менш настойліва Віняцкі.—Мы будзем ваяваць не за старыя парадкі. У нас яшчэ бядней мужыкі жывуць, а ў пана зямлі можа тысяч пятнаццаць моргаў.

Віняцкі доўга і падрабязна апавядаў Каленіку пра сваю далёкую радзіму і пра багацці свайго памешчыка, а назаўтра нібы баючыся, што яго затрымае хто, пашоў у горад і дадому не вярнуўся ні ў той дзень і ні ў бліжэйшыя месяцы.

---

Былі першыя замаразкі. Ноччу іней лёг на стрэхі і на платы і зямля стала цвёрдай і звонкай. Каленік, як звычайна, прышоў пасля снедання ў валаснoе праўленне, каб дастаць газету. Як толькі ён адчыніў дзверы ў пакой, у якім сядзелі памочнікі валаснога пісара, яны абодва ўсхапіліся з-за стала насустрач Каленіку.

— Аляксей Антонавіч узяў газеты сабе і не даў чытаць,— сказаў адзін з іх.

— Ого! Цікава, што-ж там такое?—здзівіўся Каленік.

— Можа, каб пашлі да яго вы, тады не адмовіў-бы,—параіў памочнік.

Пісар снедаў, калі зайшоў да яго Каленік. Ён выцер салфеткай губы і натапыраныя кароткія вусы і ўтаропіўся вачыма ў госця.

— Вы прабачце, Аляксей Антонавіч, я прышоў папрасіць газетку, кажуць, нешта вельмі важнае ёсць.

— Наконт важнасці, як сказаць. У нас тое, слава богу, даўно вашай міласцю робіцца.

Каленік стаяў перад сталом, за якім сядзеў пісар, а той не кранаўся з месца.

— Што-ж там такое?

Тады пісар узняўся з-за стала, узяў з канапы газету і ткнуў яе ў рукі Каленіку.

— Можа з сабой узяць дазволіце?

— Не, я не дам, газету я сабе выпісваю. Калі хочаце ведаць, што там, пачытайце тут. Да вам-жа і не ўсё цікава, вам-жа толькі тое, што ваша.

— Яно ўсё наша.

— Во, во, во, усё. Там так і зроблена. Усё ваша: і палі, і лясы, і горы, і нетры земныя, і рэкі, усё. Дэкрэт выйшаў.

Каленік стаяў перад сталом з разгорнутай газетай, а побач стаяў пісар:

— Тут ваша, вось,—торкнуў у газету пальцам.—Дэкрэт аб зямлі... І чытаў:

— Памешчыцкая ўласнасць на зямлю адмяняецца неадкладна

без усякага выкупу... Акурат так, як вы зрабілі... А вось і яшчэ пункт другі. Памешчыцкія маёнткі, роўна як усе землі ўдзельныя, манастырскія, царкоўныя, з усім жывым і мёртвым інвентаром, сядзібамі, будынкамі і ўсімі прыладамі пераходзяць у распараджэнне валасных зямельных камітэтаў і павятовых советаў сялянскіх дэпутатаў...

Пісар змоўк на хвіліну, утаропіўшыся вачыма ў Каленіка.

— Ну?.. Хоць тут вы крыху не дарабілі яшчэ ў гэтым пункце.— І ўсміхнуўся.—Важна?

— Вельмі важна,—адказаў Каленік зусім сур'ёзна.

— Але не для нас важна.

— Чаму? А для каго-ж?

Пісар пайшоў да канапы, узяў мясцовую павятовую газету і ткнуў яе ў рукі Каленіку.

— Вось чаму. Пачытайце вось гэта,—паказаў на абвяшчэнне, надрукаванае на першай старонцы газеты.—Во... Гэтым даводзіцца да ведама ўсіх жыхароў горада, што ў сувязі з пагрозай большэвіцкіх беспарадкаў, уладу ў горадзе ўзяў у свае рукі...—Не думайце, што совет,—сказаў пісар, перапыніўшы чытанне.—Вось тут далей прапануецца слухацца ўсіх загадаў і распараджэнняў пана польскага каменданта. За непаслушэнства арышт і ваеннапалявы суд. Разумееце? А далей яшчэ і не такое. Рускім вайсковым фарміраванням прапануецца здаць зброю, а салдатам ісці дадому. Вось чаго вы, большэвікі, нарабілі.

— Як гэта мы нарабілі?

Каленік стаяў разгубленым. У Петраградзе і ў Маскве ўладу ўзялі ў свае рукі Советы. З'езд Советаў прыняў дэкрэты аб зямлі і міры, а тут польскія легіянеры.

— Ды пры чым-жа тут яны, тут-жа не Польшча,—злосна сказаў Каленік.

— Гэтага я ўжо не ведаю, але вы разумны чалавек і я раю вам лепш не чытаць гэтых дэкрэтаў сёння ў зборнай. Бачыце, сёння яны ў горадзе ўсё ў свае рукі прыбралі, а заўтра і ў нас. Што гэта за ўлада там такая, я не ведаю, але не думаю, каб яна была вашай.—Пісар іранічна ўсміхаўся.—Лепш паберагчы сябе. Я наўмысне газеты ў пакоі ўзяў, думаю, зойдзе чалавек, параю...

— За параду дзякую, але газетку, Аляксей Антонавіч, дазвольце ўзяць. Як там яно заўтра будзе, пабачым, а дэкрэты я пачытаю, абавязкова.

— Як хочаце. Я раю што разумней, а вы як хочаце рабіце.

— Яно вядома.

Каленік пайшоў з пісаравых пакояў адразу дадому, каб паведаміць навіны сваім камітэтчыкам і каб пазней склікаць сход.

---

Сход адбыўся а полудні, а ўвечары ў той-жа дзень у Крапілаўку прыбыў эскадрон польскіх уланаў з корпуса генерала Доўбар-Мусніцкага. Уланы рыссю праехалі па даўгой крапілаўскай вуліцы і размясціліся на валасным двары. Ніхто з крапілаўцаў не ведаў, чаго прыехалі ўланы, але ў тым ужо, як праскакалі яны

рыссю па вуліцы, кожны адчуў нешта нядобрае, невыразную яшчэ пагрозу сабе і насцярожана чакаў, што здарыцца. Насцярожанасць і трывога яшчэ больш пасіліліся, калі ўвечары крапілаўцы ўбачылі, як засвяціўся раптам усімі сваімі вокнамі памешчыцкі дом, які да гэтага доўгі час хаваў свае нясмелыя агні за шчыльна пазачыненымі вакяніцамі. Пачуццё насцярожанасці і невыразнай яшчэ трывогі авалодала і Каленікам. Яно пасілілася, калі прышоў каваль Райхман і расказаў пра сваю гутарку з уланам.

— Я да яго кажу, як звычайна, па прывычцы, таварыш,— расказваў Райхман,—а ён паглядзеў на мяне, ды я з табой, кажа, свіней не пасвіў, які я табе таварыш. Во, чуў?

Пазней сыйшліся ў Каленікавай хаце ўсе камітэтчыкі. Яны таксама гаварылі пра ўланаў, меркавалі, як паставяцца ўланы да сялянскага камітэта і асабліва да справы з панскай маёмасцю. Позна ўвечары разышліся, умовіўшыся дазнацца пра ўсё падрабязна ад саміх уланаў.

Але дазнавацца пра што-небудзь ад уланаў не спатрэбілася. З самага ранку другога дня па хатах пайшоў староста з двума ўзброенымі ўланамі, загадваючы несці авёс і сена на валасны двор, а ў стараставу хату яечкі і масла. Калі хто пачынаў скардзіцца, што чаго не мае, уланы лаяліся, пагражалі бізунамі і панам камендантам. Пасля снедання пацягнуліся крапілаўцы адзін за другім на валасны двор з ношкамі сена, а жанчыны з маслам і яечкамі на старастаў двор. Коні уланскія стаялі каля частаколу, а ля коней пахаджвалі апранутыя ў незнаёмую форму салдаты. Прымаючы ад сялян сена, яны гурмой абкружылі на дварэ Рагаўца Зіновія, аднаго з самых бедных крапілаўскіх сялян, і пачалі насміхацца над ім:

— Таварыш? Большэвік?—пыталі яны і рагаталі, паказваючы на яго босыя, патрэсканыя ногі, на палапленыя суконныя штаны.

— За Леніна? За дэкрэты стаіш?

Рагавец стаяў у кругу ўланаў, нічога не адказваючы ім і толькі калі яны, разышоўшыся, пачалі абмацваць яго кашулю і штурхаць яго, сказаў:

— Вы што-ж людзі, ці звяры?

Уланы ўбачылі яго вочы, поўныя нянавісці і адышліся.

А ў гэты час і зусім усё ясным стала. На дзвярах валасці з'явілася абвяшчэнне каменданта крапілаўскай воласці, падпісанае паручыкам Нацэвічам:

„Абвяшчаю ўсім жыхарам сяла Крапілаўкі і ўсіх вёсак воласці, што яны абавязаны неадкладна вярнуць у маёнткі ўсю забраную маёмасць: лес, жывёлу, хлеб, сена ды іншае. Тыя, хто па сваёй волі не верне ўкрадзенага, будуць арыштоўвацца і адсылацца ў Бабруйскую крэпасць і там будуць аддавацца ваенна-палявому суду“.

Гэтае абвяшчэнне ўсіх як-бы громам ударыла, і крапілаўцы без ніякага загаду пачалі збірацца ў вуліцы на сход. Пайшоў туды адразу з валаснога двара і Рагавец Зіновій. Ён пашоў да людзей, нёс да іх пачуццё балючай крыўды, пра якую хацеў

сказаць. Па дарозе ён сустрэў жонку Віняцкага, яна несла ў руках лубку з яечкамі.

— Гэта, значыць, і твой у такія легіёны пашоў?—запытаў ён, паказваючы рукою ў бок воласці.—Ї дадаў:—А думалася—свой чалавек, мужык.

— А я што тут,—пакрыўджана адказала яму жанчына.—Бач во, нясу, дарма што пашоў.

Сход збіраўся на двару ў старасты. Тут была палова сяла. Шмат у каго можна было на твары ўбачыць поўную разгубленасць і страх. Некаторыя, прадчуваючы нядобрае, паказаліся на стараставым двару і зніклі. Некаторыя, спалохаўшыся камендантавых пагроз, заранеі шукалі, каб чым апраўдаць сябе. Гэтыя пачыналі ўва ўсім вінаваціць Каленіка.

— Падбіваў, гаварыў, усё па закону, як след, па парадку, аж вунь што...

Гэта сказаў адзін нехта. Але з ім згадзіліся ўраз яшчэ некалькі чалавек.

— Сабраў гэта камітэт на нашу галаву, на гора нам,—казалі яны.

— Што рабілі—прапала, і насенне прапала, усё прапала з-за гэтага.

Так крычалі тыя, якіх спалохаў камендантаў загад. Їх падтрымлівалі самыя багацейшыя, а большасць маўчала, чакаючы, што скажа Каленік. Ён быў тут-жа ў натоўпе, але пакуль маўчаў. У гэты час прышоў на двор Рагавец Зіновій. Яшчэ ў вуліцы ён загаварыў:

— Яны здзекуюцца, што я голы, што я босы... Большэвік... за Леніна...

Ён ішоў і чым больш набліжаўся да натоўпу, тым больш узвышаў голас.

— За дэкрэты, вядома... Хай сабе і большэвік, то гэта-ж не за пана, калі большэвік. Вядома, пан не голы, пан не босы, яму большэвікоў не трэба.

Гэтак гаворачы, ён увайшоў у натоўп і спыніўся перад Каленікам. Ён стаяў пакрыўджаны і ўсхваляваны. Рукой расхінуў каўнер кашулі, агаліўшы худыя аброслыя грудзі.

— Ці то мы так і будзем цярпець ад іх?—пытаў ён, то павяртаючы твар да Каленіка, то да мужчын, якія сходзіліся ўсё шчыльней.— Салдат не павінен над чалавекам здзеквацца,—казаў ён,—я сам салдатам быў. Ён сёння здзекуецца, а там і зусім задавіць цябе захоча, калі ў цябе ногі босыя ды штаны лапленыя. Цярпець няма чаго. Есць-жа у нас камітэт гэты, пагаварыць трэба, каб можна было паняць, хто тут які ўправіцель, хто распараджаецца.

Ён стаяў перад Каленікам з усё яшчэ незгасаючым бляскам крыўды ў вачах. Тое, аб чым пытаў ён, трывожыла ўсіх. Хто-ж сапраўды ўправіцель? Чаму прыехаў панскі сын, сеў у воласці і загадвае аддаваць бацьку дабро? Калі стаць выконваць яго загады, як-жа жыць тады? Што-ж рабіць? Яны пыталі, усё шчыльней сыходзячыся вакол Каленіка.

— Не аддаваць!—сказаў Каленік.—Нічога не аддаваць назад!

Скрозь па Расіі большэвікі. Скрозь прагналі памешчыкаў і буржуяў. Ніхто Нацэвічу і такім, як ён, улады не даваў, самі ўзялі, дзе здолелі. А за каго яны, мы бачым. Дазволь ім, яны ўраз табе на карак ўссядуць. Ніводнага каліва сена ніхто не павінен назад везці! Ніводнага зерняці! Ніводнай плашкі дроў! Калі мы станем як адзін, нічога яны з намі не зробяць. Ён злодзеямі нас абзывае, а хто злодзей, калі не сам ён? Мы ўзялі ў яго лесе палена дроў, а ён краў у нас усё: краў дзяцінства наша, маладосць нашу, сілу нашу краў, працу. Яны былі адзетыя і абутыя, нічога не робячы, а мы голыя і босыя за працай. Яны ў раскошы жылі, а мы ў свінушніках. Не аддаваць! Нічога не аддаваць назад...

Яго нехта перабіў:

— А ўланы? Іх вунь колькі.

— Можна ўправіцца і з уланамі, калі станем як адзін.

Так і згаварыліся крапілаўцы, што ніхто нічога не павязе пану, а калі што, усім збірацца і не даваць сілай. Не даваць! Гэта было аднадумным рашэннем. І ні на другі дзень, ні ў бліжэйшыя чатыры дні ніхто нічога не завёз у панскі двор. На пяты дзень па хатах, па загаду Нацэвіча, пайшоў стараста, каб напомніць усім пра яго загад. Але калі і пасля гэтага ніхто нічога ў двор не вярнуў, Нацэвіч выклікаў да сябе старасту і найбольш уплывовых у сяле мужчын. Іх прывялі ў валасць ужо не ўланы, а жандармы, якія раптам з'явіліся ў валасці. Прывялі проста ў габінет да Нацэвіча і той сустрэў іх крыкам:

— Я ўсіх вас пагнаю ў крэпасці! Я пакажу вам большэвіцкія парадкі! Каб мне за два дні ўсё было на месцы! Калі не—усе будзеце ў крэпасці...

Мужчыны маўчалі, а Каленік наўмысне спытаўся:

— Чаго-ж пан хоча ад нас?

Нацэвіч змерыў яго злосным позіркам:

— Ты аслеп, не чытаў абвяшчэння?

— Мы ніякага панскага дабра яшчэ не бралі.

— Што? Яшчэ не бралі? Хо-о! А сена?.. А лес хто сек? Я ц-цябе ведаю!..

— Калі чалавеку няма чаго даць карове, ён косіць сена,— спакойна адказаў Каленік.—Гэта не толькі ў нас, што сяляне зямлю ўзялі. Па ўсёй Расіі так, як пану вядома, і ёсць адпаведны дэкрэт...

Гэта зусім вывела каменданта з цярпення.

— Па ўсёй Расіі? Дэкрэт?!

Нацэвіч усхапіўся з-за стала і крыкнуў у твар Калeніку, схіліўшыся над сталом:

— Так будзе і па ўсёй Расіі! Я пакажу вам Расію і расійскія дэкрэты!.. Калі заўтра-ж не будзе аддадзена ўкрадзенае, я перш за ўсё заганю ў крэпасць цябе, а за табой і ўсіх. Ідзіце і скажыце пра гэта ўсім з сваёй хэўры. Марш!..

Мужчыны пайшлі дадому, але ні ў той дзень, і ні назаўтра ніхто нічога ў двор не павёз. Былі такія, што баяліся і гатовы былі класці дабро на вазы і везці пану, але не хацелі зрабіць гэтага першымі і стрымліваліся, чакалі, а можа хто павязе першым.

Так прайшлі два дні тэрміну, дадзенага Нацэвічам. Увечары другога дня Каленік доўга не клаўся спаць. І Нацэвіч і ўсе ведалі, што гэта ён сабраў сялян і павёў брацъ зямлю. Цяпер ён арганізаваў сялян, каб нічога не аддаваць пану назад. Нацэвіч даведаецца і пра гэта. Значыць яго заўтра могуць арыштаваць і адаслаць у крэпасць. І не толькі з ім могуць так зрабіць. З крэпасці выйсці будзе не так лёгка. А сяло абяруць тады да-гала. Значыць, не трэба давацца ў рукі ім. І Каленік парашыў на нейкі час сыйсці з сяла, каб не быць на вачах у каменданта. Пра гэта думаў Каленік, калі пастукалі ў сенцах у дзверы. Ён кінуўся да дзвярэй, але ўбачыў жанчыну. Да яго прышла Кавалевіч Ганна.

— Бяда!—сказала яна, не пераступаючы парога ў сенцы і схапіла Каленіка за рукаў, каб вывесці з сянец на двор.—Схавайся дзе-небудзь, пакуль я народ збяру.

— Чаго хавацца!

— Яны прышлі да Антона, усё бяруць, а самога збілі бізунамі і павялі ў воласць. Я бачыла, як яны білі яго...

— Значыць, яны хочуць узяць нас кожнага па аднаму і ўночы,—сказаў Каленік.

— Не трэба давацца. Ты не ідзі да часу ў хату, а я пайду збяру народ,—сказала жанчына.—Тады вядзі мужчын і выганяйце іх.

Яна кінулася ў вуліцу і Каленік не паспеў запытаць, як-жа яна збярэ народ. Ён зайшоў на хвіліну ў хату, каб папярэдзіць на ўсякі выпадак маці, ускінуў на плечы гімнасцёрку, якую быў зняў ужо, сунуў у кішэню рэвальвер і падаўся на гарод. Там ён стаў каля тоўстага ствала дуба, які рос заградамі, і прыслухаўся. Але нічога не пачуў. Над галавой шамацела рэдкае лісце, непаспеўшае апасці. І больш нічога. А да ўсяго было вельмі цёмна. Высока ў небе, прабіваючыся праз хмары, паблісквалі зоры. Святло ад зор ніцямі працінала цемру, не маючы сіл разрэдзіць яе. Цемра ўсё гусцей нагортвалася вакол. Цішыня. Гэта перашкаджала нават сыйсці з месца. З цемры дзе-ні-дзе мігалі агні хат. Каля хат блукала ў цемры і ў цішыні трывога. Але чаго-ж яму стаяць тут пад дрэвам? Каленік адышоўся ад дуба крокаў на дзесяць, калі прагучэў першы ўдар звана ў царкве. Прагучэў і змоўк, захлынуўшыся вільготнай восенскай цемрай. Каленік замёр на месцы. Хутка ўдар паўтарыўся, а за ім другі і трэці, і яшчэ чарадой. Удары рабіліся больш частымі. Яны як-бы клаліся адзін на другі, і звон рос, поўнячы ўсё сабою, ападаючы на цёмныя санлівыя хаты цэлай навалай трывогі, зрываючы людзей з пасцелі, выганяючы на двор. Каленік дагадаўся, што звоніць Кавалевіч Ганна. Ён уявіў яе ў цемры каля царквы. З галавы ў яе на шыю з'ехала хустка, па плячах раскідаліся сівыя валасы, а яна нястомна б'е раз за разам, адцягваючы вяроўкай цяжкае, у некалькі пудоў, сэрца самага вялікага звону. Звон ускрыквае пад ударамі і гудзе, захлынаючыся ў сваім крыку. Здавалася, дрыжыць усё паветра над сялом, разгойданае звонам, а ўдары не сціхалі, рабіліся яшчэ больш частымі. Звон не ўскрыкваў ужо, чуліся цяжкія глухія

стогны. У гэты момант Каленік пачуў галасы і тупат ног і кінуўся ў вуліцу.

Людзі беглі моўчкі. У кожнага з іх было што-небудзь у руцэ: у адных тапары, у другіх вілкі. Яны беглі да воласці. Там непадалёк жыў Сімкавец.

На дварэ ў Сімкаўца было ціха, але нехта стаяў каля хлява з ліхтаром. Калі мужчыны падыйшлі бліжэй, яны пазналі Кавалевіч Ганну. Ад царквы, адзваніўшы трывогу, яна кінулася сюды. Побач з ёю стаяла яшчэ адна жанчына. Кавалевіч падняла ўгору ліхтар да твару другой і сказала:

— Глядзіце, што яны нарабілі.

Усе ўбачылі каля сцяны жонку Сімкаўца. Твар яе быў у крыві. Калі святло ліхтара ўпала на твар ёй, яна сцерла кроў рукою.

З Сімкаўцовага двара пайшлі далей і хутка ўбачылі ўланаў на адным з двароў. Каленік сказаў тады:

— Трэба абкружыць іх і раззброіць. Але не біць. Ніводнага не ўдарыць, хіба толькі баронячыся.

Пачуўшы гоман, уланы насцеражыліся і падаліся з двара. Але ходу ў вуліцу не было, сяляне сцяной стаялі перад дваром з вілкамі і тапарамі. У гэты час узышоў толькі што месяц і ледзь-ледзь разрэдзіў цемру. Сяляне ўбачылі перад сабою чалавек дваццаць уланаў. Яны стаялі, трымаючы ў руках вінтоўкі. Наперадзе стаяў паручык Нацэвіч.

— Хто-ж, злодзеі, пан,—запытаў у яго Каленік,—мы ці паны?

Паручык крыкнуў маўчаць, падаўся было наперад, але зараз-жа адступіўся і выняў з кабуры рэвальвер.

— Ні на адзін крок наперад, я буду страляць,—крыкнуў ён.

— Паспрабуй, стрэльні, тады і касцей не збярэш,—адказалі яму з натоўпу.

Паручык крычаў, узмахваючы рэвальверам, не асмельваючыся падацца наперад.

— Марш, марш па хатах!—крычаў ён, але сяляне не адыходзілі, а ішлі ў двор ужо, і напалоханыя тапарамі і вілкамі ўланы адыходзілі ў глыб двара.

На афіцэра ішла з акрываўленым тварам Сімкаўцова жонка, побач з ёю з ліхтаром Кавалевіч Ганна, а за імі увайшлі ў вароты мужчыны, а некаторыя палезлі праз плот з суседняга двара і з вуліцы. Паручык пазіраў насустрач ім і адыходзіў, размахваючы рэвальверам. На сярэдзіне двара ён яшчэ раз крыкнуў не набліжацца, але ўбачыўшы, што мужчыны не спыняюцца, два разы стрэліў у паветра. Пасля махнуў легіянерам рукой, крыкнуў каманду прыгатавацца страляць і шмыгнуў у адчыненыя дзверы сянец гаспадара. Легіянеры бразнулі затворамі вінтовак. Сяляне спыніліся. Перад імі стаялі салдаты, гатовыя страляць, яны бачылі, як пабліскваді ў цемры, разрэджанай месяцам, штыкі. Гэта спыніла сялян на адзін момант толькі. Але ў гэты-ж момант у вуліцы пачуўся густы топат шматлікіх ног. Пачуўшы звон, уланы, якія ўжо адпачывалі, пабеглі ў сяло і натрапілі на сялян. Яны з крыкам кінуліся на сялян і пачалі біць іх ложамі карабінаў. Іх было багата. Сяляне, якія былі ў вуліцы і на якіх адразу накінуліся ўланы, мятнуліся

ў вуліцу, у суседнія двары, каб уцячы, а хто быў на двары ўжо кінуліся з двара на агарод. Каленік амаль апошнім пабег за імі. Калі ён прабягаў паўз сенцы, з дзвярэй высунуўся паручык. Пазнаўшы Каленіка, ён выстраліў, Каленік інстыктыўна прыгнуўся і пабег шпарчэй. Калі афіцэр выстраліў у другі раз, Каленік быў ужо каля самага агароду. Куля трапіла ў левую руку вышэй локця. Гэта на адзін момант спыніла Каленіка, як-бы прыкавала да месца. Наперадзе мільгалі постаці ўцякаўшых. Некаторыя з іх кідаліся на зямлю і паўзлі, баючыся стрэлаў. Каленік прабег у канец гарода і поплавам пабег да кустоў, што каля раўчука за сялом. Там ён перавязаў руку і прасядзеў нейкі час, каб адпачыць.

Было далёка за поўнач, калі сціхлі ў вуліцы сяла стрэлы і крыкі. Вышэй узняўся месяц, і цемра распаўзлася ў бакі. З цемры выступілі шэрыя стрэхі хат. Яму хацелася пайсці ў хату і развітацца з дзецьмі, але гэта было далёка і небяспечна: яго маглі чакаць у двары ўланы. Але нельга было далей заставацца і ў кустах: было халодна, а па-другое, варта было да часу, калі развіднее, адыйсці далей ад свайго сяла. Каленік парашыў ісці ў суседнюю воласць да радні, адпачыць там, пакуль загоіцца рана, і падацца ў Савецкую Расію. Некалькі мінут ён стаяў як зачараваны на адным месцы, пазіраў на шэрыя, асветленыя месяцам, стрэхі хат і слухаў напружаную, густую цішыню, запанаваўшую ў сяле. А пасля пайшоў лагчынай паміж кустоў да лесу, насустрач дню.

---

Вярнуўся дадому Каленік толькі ў ліпені тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага году. Была нядзеля. На двары выканкома, куды зайшоў Каленік, стаялі фурманкі і па ўсяму двару кучкамі сяляне. Больш за ўсё тут было крапілаўскіх. Крапілаўцы, як і ў сябе дома, сядзелі на лаўках уздоўж сцяны выканкома. Сюды да іх і падышоў Каленік.

На яго плечы накінуты шынель. Калі ён казырнуў, спыніўшыся, і пачаў вітацца з сялянамі за руку, усе заўважылі, што левы рукаў яго гімнасцёркі падаткнуты пад папружку. Левай рукі не было. Каленік адразу расказаў землякам, што здарылася з рукой. У тысяча дзевяцьсот семнаццатым годзе ён параненым пайшоў з дому да радні ў суседнюю воласць. Тамашні фельчар лячыў яго і калі рана загаілася, Каленік пашоў у Савецкую Расію. Там ён быў прыняты ў чырвонагвардзейскі рабочы атрад. З атрадам, пазней, трапіў на фронт і прабыў на фронце да вясны, калі раптам адкрылася рана і яго паслалі ў лазарэт. З лазарэта ён выйшаў без левай рукі. Гэта было ўсё, што расказаў Каленік.

Сярод мужчын Каленік сустрэў і даўнейшага свайго знаёмага— паляка Віняцкага. Віняцкі з'явіўся ў Крапілаўцы хутка пасля таго, як мясцовасць за войскам Доўбар-Мусніцкага занялі немцы. Сяляне сустрэлі яго недаверліва, доўгі час многія чураліся яго і яшчэ і зараз усе звалі легіянерам. Недаверлівасць гэтая засталася надоўга.

Пры выканкоме з комуністаў і комсамольцаў быў арганізаваны атрад часцей асобага прызначэння. Атрад, узброены вінтоўкамі і кулямётам, амаль кожны вечар збіраўся на выканкомаўскі двор, або на паповай палянцы для вайсковых заняткаў. Калі ў атрадзе разам з некалькімі яшчэ маладзейшымі мужчынамі з беспартыйных з'явіўся і Віняцкі, да Каленіка прышоў Сімкавец Антон і выказаў сваё нездаваленне.

— Навошта трэба было пушчаць у атрад гэтага?—пытаў ён, стоячы перад Каленікам.

— А чаму-б не пусціць?

— Воўк да сваёй стаі бяжыць, калі што. Я не веру яму.

— Дарэмна. Ён не з такіх.

— Дарэмна, кажаш? А чаму-ж ён тады пабег?

— Але і ад іх-жа хутка пайшоў.

— Мала што, глядзі...

У Крапілаўцы зноў пачыналіся трывожныя дні. Яшчэ ў кожнага ў памяці жыла страшная ноч, калі ўланы абходзілі двары, хапалі мужчын і білі іх бізунамі і шампаламі, а пасля бралі самі з засекаў дабро, выганялі з хлявоў жывёлу і гналі, што на панскі двор, а што ў горад. І вось зноў папаўзлі чуткі, што хутка прыдуць палякі. Чуткі прыходзілі з млына Геллера, з хутароў з-за рэчкі і з гораду. Ім не хацелі верыць і пачыналі баяцца іх. Вечарамі, калі заходзіла сонца і пачынала змяркацца, крапілаўцы палахліва паглядалі на захад, за рэчку, нібы чакалі ўбачыць на тым баку здань страшнага і чужога, што непрыкметна ішла да іх. Калі на зямлю клалася цёмная ноч, калі ўсё змаўкала, шмат хто з крапілаўцаў паціху выходзіў з хаты і, нерухома стоячы сярод двара, услухоўваўся ў цішыню, ці не чуваць глухіх далёкіх гарматных стрэлаў. Але нішто не парушала начное цішы, фронт быў яшчэ далёка і з надыходам дня людзі супакойваліся. Начамі толькі, здавалася, часцей вылі сабакі, уздымаючы ўгору пысы, і ў крапілаўцаў ад іхняга працяглага завывання мурашкі бегалі па целу, верылася, што сабакі чуюць бяду. Іх слухалі і білі нагамі, каб змоўклі.

Праз некалькі дзён яшчэ завідна ў Крапілаўку прыехала верхам чалавек сем чырвонаармейцаў. Яны прыехалі з-за ракі. На валасны двор, дзе сталі яны пакарміць коней, адразу сышлося поўсяла. Сяляне таўпіліся па двару, загаварвалі з чырвонаармейцамі і распытвалі іх, ці далёка фронт. Ім не хацелася верыць, калі чырвонаармейцы сказалі, што да фронта шэсцьдзесят вёрст. Яны бачылі, што вайскоўцы раней, чым прыехаць на валасны двор, аб'язджалі суседнія з Крапілаўкай лясы і праехалі ўздоўж рэчкі. Што-ж яны выглядалі? Сяляне хадзілі каля коней, падкідвалі ім сена, глядзелі ў зубы, ці маладыя, гладзілі па худых спінах і нібы між іншым пыталі ў чырвонаармейцаў:

— Ну, то як, добрая ў нас пазіцыя будзе?

Чырвонаармейцы хітравата ўсміхаліся, адказваючы:

— А калі што—не дрэнная, толькі мабыць, не спатрэбіцца.

— Думаеш?

— Так мяркую,—адказваў чырвонаармеец.—Шэсцьдзесят вёрст

фронтам прайсці—не раз плюнуць. Калі падкінуць нам сіл, можна іх назад штурхануць.—І ў сваю чаргу пытаў:—А вы, што-ж, баіцёся іх, ці чакаеце?

Сяляне злавалі.

— Ласку панскую мы ўжо бачылі, а баяцца—як сказаць, абы вы не збаяліся...

Чырвонаармейцы збіраліся ад'язджаць. З іх камандзірам з выканкома вышаў і Каленік. Чырвонаармейцы падцягвалі коням падпругі ў сёдлах, садзіліся на коней, а сяляне маўчалі. Толькі калі крануліся яны ехаць з двара, Сімкавец Антон сказаў:

— Хоць-бы павячэралі вы ў нас, да пераначавалі, таварышы...

— Няма калі, таварышы, дзякую,—адказаў камандзір разведкі.

— І не пагаварылі, нічога не сказалі нам, — пашкадаваў Сімкавец.

— Другім разам можа, а сёння вам што-ні-што раскажа таварыш Каленік.

І камандзір і чырвонаармейцы разам казырнулі сялянам, кранулі з месца коней і паехалі за раку.

— Разведка ад штаба войск, аглядалі нашыя месцы,—сказаў Каленік, калі чырвонаармейцы зніклі ў змроках вечара. Усе маўчалі. Усе ведалі, што фронт наблізіцца і да іхнага сяла. Чакалі, што яшчэ скажа Каленік. І нехта спытаў, не дачакаўшыся слоў Каленіка:

— Значыць, зноў яны прыдуць...

— Да рэчкі пэўна дойдуць, але далей не пройдуць, не павінны прайсці,—адказаў Каленік.

— Хто-ж іх не пусціць?

— Мы, мы самі не пусцім. Я не жартую, хлопцы,—сказаў Каленік.—Кожны з нас умее страляць. У нас ёсць кулямёт і вінтоўкі. І да ўсяго ў нас незвычайна выгодная пазіцыя. Калі мы паспеем арганізаваць людзей, мы іх не пусцім ні на адзін крок далей.

Назаўтра ўвечары ў памяшканні выканкома адбываўся зачынены партыйна-комсамольскі сход. Сакратар партыйнай ячэйкі пачаў сход з таго, што сказаў пра набліжэнне фронта.

— Фронт, пэўне, не затрымаецца ў нас,—казаў ён.—Давядзецца адыйсці і трэба, як ёсць указанні з павету, каб кожны комуніст і кожны комсамолец зараней сказалі, хто пойдзе з Чырвонай арміяй на фронт, а хто застанецца сядзець дома.

Ён стаяў за сталом, вакол якога сядзелі комуністы і комсамольцы, і маўчаў, пазіраючы на таварышоў. У кожнага на твары ён бачыў цень нездаволення і доўга ніхто не азываўся на яго словы.

— Гавары, хлопцы,—сказаў ён яшчэ.

— А калі ніхто не пойдзе адсюль, а?

Сакратар не разумеў, што хоча сказаць Каленік.

— Ты што?—спытаў ён.

— Я кажу, што ніхто з нас адсюль не пойдзе,—галасней сказаў Каленік.

— Ды ты што, адурэў?

— Не адурэў, пачакай.—Каленік усміхнуўся, здагадаўшыся, як яго зразумеў сакратар.—Я стаўлю пытанне зусім па-іншаму. Трэба бараніцца, а не адступаць. Калі стаць уцякаць ад іх, можна ўсю Совецкую рэспубліку ім аддаць, разумееш? А я кажу: трэба ўсіх узняць на ногі, хто толькі ўмее страляць, і ў акопы разам з чырвонаармейцамі. Па ўсіх вёсках трывогу ўзняць трэба, пабачыш тады, якія атрады збярэм мы, якую сілу людзей мець будзем.

Сакратара Каленікава прапанова крыху збянтэжыла. Ён не думаў пра магчымасць абароны ў такім плане, як гэта меркаваў Каленік. Да гэтага ён меў дырэктыву з павета. Нейкі час абодва яны маўчалі. Пасля Каленік запытаў:

— Што-ж ты маўчыш? Я сказаў не толькі сваё, так усе думаюць. З мужчынамі я гаварыў ужо. Запісывай, браток, каб я заўтра-ж арганізаваў партызанскі атрад у Крапілаўцы, а памочнікамі мне прызначце ўжо каго я сам назаву.

— Але-ж па меркаваннях камандзіра, які быў у нас, фронт адразу адыйдзе за Бярэзіну,—запярэчыў сакратар.

— А па маіх меркаваннях, яны далей нашай рэчкі не пройдуць,—адказаў Каленік.

Каленік падышоў да стала, за якім стаяў сакратар, і паклаў руку на паперу, якая ляжала перад сакратром.

— Запісвай,—сказаў ён,—даручайце, таварышы.—І ўбачыўшы, што сакратар, усміхаючыся, бярэ аловак, дадаў:—А памочнікам Жытко пішы, Сімкаўца і Прорвіча.

Шырока ўсміхаючыся, Каленік яшчэ бліжэй падсунуў паперу да рук сакратара.

— Пішы, бачыш, усе згодны...

Сход скончыўся позна. Ноч цёмная і маўклівая. Каленік развітаўся з апошнім з падарожнікаў і ідзе вуліцай адзін. Ідзе ўслухоўваючыся ў цішыню. Часам яго ўвагу прыцягвае белая постаць чалавека ў двары. Ён пазнае чый двор і аклікае людзей. Людзі, як і ён, выходзяць начамі слухаць цішыню. Каленік перакідваецца ў цемры з чалавекам некалькімі словамі і крочыць далей паміж кануўшых у сон хат і садоў, у якіх спеюць яблыкі.

Дома Каленік не лёг спаць, а ўзяў на паліцы сшытак і, запаліўшы лямпу, сеў пісаць. Сядзеў схіліўшыся над сталом і час ад часу ўзнімаў галаву і нерухомымі ўдумлівымі вачыма пазіраў за вакно ў цемру. За сценамі хаты даўно ішла ў сваіх чорных вопратках ноч. Яна пазірала ў вокны, шчыльна тулячыся да шыб. Пазіраючы насустрач ёй, Каленік бачыў перад сабою доўгія рады людзей, узброеных вінтоўкамі, і над імі чырвоны штандар і паціху перачытваў напісанае ў сшытку. Мінутамі павяртаў твар да пасцелі, дзе спалі дзеці, глядзеў на закінутую на падушцы галаву дачкі, на ўскудлычаныя яе русыя валасы і ласкава ўсміхаўся.

Спаць Каленік клаўся ў гэтую ноч на самым золку. У хаце было душна, і ён выйшаў на двор, каб легчы на калёсах. Гэта была пара самага моцнага сна, калі ноч збіраецца ў дарогу ад ледзь прыкметных яшчэ сполахаў зары. Ноч адыходзіла на захад, навісаючы над небасхілам чорнай хмарай. Каленік зірнуў туды, мосцячыся на сене ў калёсах, і прыслухаўся. Да яго дайшоў далёкі,

але зусім выразны глухі і кароткі гарматны стрэл. Пасля яшчэ і яшчэ. Каленік падумаў, што можа чуе гром. Але не было маланак, чорная хмара не палыхала іхным бляскам, а па тым, як чаргаваліся выбухі, можна было зразумець, што чуюцца ўзрывы знарадаў. Ён нерухома стаяў каленкамі на калёсах і слухаў як раз за разам глуха білі ў цела зямлі цяжкія выбухі. А ўдзень нічога не было чуваць, і крапілаўцы па звычайнаму выйшлі ў поле з косамі і сярпамі, выехалі з плугамі і баронамі. Людзі касілі, пазваньваючы мянташкамі і брускамі. Панукваль аратыя і запявалі час ад часу жнеі. Усё было як і звычайна, толькі часцей людзі пазглядалі за раку. Варта было паказацца на дальнім узгорку за ракой каму-небудзь, як спыняліся касары і аратыя і выпростваліся жнеі. Але вонкава ўсё было як звычайна, і ўдзень Каленік нікому не сказаў, што чуў ноччу.

Пасля полудня Каленік першым прыехаў з поля дадому. Перад захадам сонца, як было ўмоўлена ўчора на партыйным сходзе, на плошчы каля выканкома сабраўся чонаўскі атрад. Чонаўцы прыйшлі з чырвоным сцягам, усе ўзброеныя. Кулямётчыкі прыкацілі на плошчу вычышчаны кулямёт. Другі і трэці нумары стаялі па абодвы бакі кулямёта, абпаясаныя накрыж патроннымі істужкамі. Як толькі сабраліся чонаўцы, у царкве зазванілі трывогу. Густы бас самага большага звона, захлынаючыся ў сваім гуле, клікаў у наваколле. Тры разы пракрычаў так звон, і на плошчы сыйшліся амаль усе крапілаўцы, мужчыны, жанчыны і дзеці. Хто быў дома, адразу кідаў усё і бег да выканкома. Хто затрымаўся ў полі, спяшаўся дадому, каб распрэгчы каня, ці павесіць да часу пад стрэхай касу і ісці на сход. Натоўп людскі рос з кожнай хвілінай.

Чонаўцы стаялі выстраіўшыся ў два рады. На правым флангу асобна стаялі кулямётчыкі і чонавец са сцягам. Каленік стаў наперадзе іх і ўзняў угору руку.

— Таварышы!—сказаў ён.—Мы не хочам хаваць ад вас праўды, хоць і цяжкая яна і можа для каго страшная. З дапамогай Антанты польскія легіёны зноў ідуць, каб аднавіць у нас памешчыцкія, буржуйскія парадкі. Мы ведаем, што гэта значыць. Небяспека падыходзіць да нас, і ўсе як адзін, мы павінны стаць грудзямі за нашу рэспубліку. А калі стане кожнае сяло, кожная вёска, не пройдуць яны далей ні на адзін шаг. Мне паручыў наш партыйны сход клікнуць вас усіх на барацьбу ў партызанскі атрад, каб перагарадзіць жывой сцяной дарогу беламу гаду, каб не даць яму ступіць на нашу зямлю...

Каленік, гаворачы, пазіраў на людзей, што стаялі велізарным натоўпам перад ім. Можа заўтра прыдзе вайна да ракі і кожны з іх пэўне думае зараз, што можа заўтра ўжо не давядзецца выйсці ў поле. Твары ўва ўсіх былі ўдумлівыя, урачыста сур'ёзныя. Бачыў ён перад натоўпам і сваю маці. Маці гаварыла з ім раніцою. Калі дзеці спалі яшчэ, яна вывела яго з хаты і сказала:—„Ходзіш ты нешта не такі, як заўжды, скажы мне“. Ён сказаў, што блізка фронт і будзе збіраць партызанскі атрад. „Значыць, зноў на вайну, на смерць,—сказала яна.—І неяк не пажывеш ты са мною, ды з дзецьмі“. У яе вачах былі слёзы, а яна казала:—„Я не трымаю

цябе, я толькі хочу ведаць усё". Пасля яны моўчкі стаялі на дрывотніку. Каленіку хацелася пахваліць сваю маці, і ён паклаў ёй на плячо руку і сказаў: „Я-ж ад цябе ні ў чым не таюся, што раблю, усё ведаеш. Толькі от зноў табе адной давядзецца дзяцей даглядаць нейкі час". І вось цяпер яна стаіць побач з Кавалевіч Ганнай зусім спакойная, склаўшы наперадзе рукі, сашчапераныя ў пальцах.

Мужчыны адзін за другім выходзілі з натоўпу, каб падыйсці да Гайшынскага і запісацца ў атрад. Паміж іх хадзіла Кавалевіч Ганна.

— Вас на добрую справу клічуць, мужчыны і хлапцы,—казала яна.—За вамі стаяць вашыя жонкі і маткі. Маткі як ніхто ведаюць цану крыві сваіх дзяцей і яны пасылаюць вас. Я страціла сваіх сыноў на вайне для іншых. Я шкадую, што ў мяне няма ні мужа, ні сыноў. Я паслала-б іх. І вы ніколі не пачулі-б маіх галашэнняў, не ўбачылі-б маіх слёз, калі-б я страціла іх. Я ганарылася-б імі, калі-б яны памерлі, як трэба. Ідзіце, мужчыны і хлопцы. Ідзіце і не пусціце іх... Ідзі, Зіновій,—гаварыла яна да Рагаўца і, узяўшы яго пад рукі, вяла да Гайшынскага.—Глядзіце, які ён малайчына яшчэ, у самы раз армеец,—казала яна, ласкава ўсміхаючыся, і сам Рагавец усміхаўся, ідучы побач з ёю

Акурат у гэты час да Гайшынскага падышоў Віняцкі. Ужо калі ён спыніўся перад сталом, за якім сядзеў Гайшынскі, да яго падаўся Сімкавец Антон.

— А ты што, таксама ў партызаны?—спытаў ён.

Віняцкі не разумеў, чаму яго пытаюць аб гэтым.

— Вядома,—адказаў ён.

— А пасля зноў уцячэш у легіёны? То можа, зараней падаўся-б куды ад нас, каб не замінаць.

Віняцкага гэта як громам ударыла. Ён моўчкі стаяў перад сталом, і Сімкавец убачыў, як уздрыганулі яго губы. Можа, ён мерыўся што адказаць Сімкаўцу, але нічога не адказаў. Кавалевіч Ганна, якая прывяла да стала Рагаўца, узяла за руку Віняцкага.

— Антон умее гаварыць і не падумаўшы, не слухай,—сказала яна і сурова і ласкава прыкрыкнула на Гайшынскага.—А ты, малойчык, пішы хутчэй, раз чалавек стаіць перад табой. Глядзі, якога прывяла.

Сімкавец больш нічога не сказаў, а губы Віняцкага кранула ўсмешка і ён сказаў да жанчыны:

— Вельмі дзякую.

Хутка сто семдзесят шэсць чалавек сталі ў два рады побач з чонаўцамі. Стаялі побач старэйшыя і зусім маладыя. Насупроць іх натоўп старых і жанчын з дзецьмі. Гэта была пара, калі канчаецца дзень. Сонца збірала з зямлі свае апошнія промні. Густа чырванела палатно сцяга, асветленае ім. Чырванела і Каленікава вайсковая шапка. Ён прайшоўся перад атрадам, скамандаваў стаць смірна, і калі вышаў наперад партызан са сцягам, сам стаў побач з ім.

— З гэтай самай хвіліны мы ўсе салдаты рэволюцыі,—сказаў Каленік.—Мы прымем бой з ворагамі сваёй Совецкай рэспублікі. Не жадаючы быць пад прыгнётам паноў, мы будзем біцца да

апошняй каплі крыві. Таварышы! Мы стаім перад народам нашым, перад нашымі бацькамі і перад нашымі дзецьмі пад чырвоным сцягам і зараз прымем перад ім сваю партызанскую клятву.

Ён дастаў з кішэні лісткі паперы, спісаныя чарнілам і пачаў чытаць.

„... Клянуся сумленнем і гонарам свабоднага грамадзяніна, што ўсведамляю важнасць узятага на сябе абавязацельства, ад якога залежыць канец нашай барацьбы ў справе вызвалення пролетарскіх мас, якія томяцца ў цяжкай няволі і рабстве, і свята абавязваюся мужна прайсці абраны мною цярністы шлях, як прайшлі яго многія папярэднія мае таварышы, дастойна памершыя ў няроўных баях...“

Каленік не сказаў паўтараць словы прысягі, але калі прачытаў ён першыя словы, каля двухсот чалавек голасна паўтарылі іх. Водгулле галасоў ішло далёка ў цесныя завулкі сяла. Вецер развінаў над плошчай палатно сцяга. Урачыста спакойныя стаялі партызаны, паўтараючы за Каленікам словы клятвы, і ўсе яны разам зірнулі ўлева за рэчку, калі раптам данеслася адтуль глухое водгулле гарматных стрэлаў. І голас Каленікаў зрабіўся больш цвёрдым.

„... Усякую ўскладзеную на мяне задачу ў карысць нашай справы абавязуюся выконваць свята і неадкладна ва ўсякі час дня і ночы: ніякія лішэнні, перажыванні і страх не пахіснуць маёй волі...“

Стрэлы раз за разам ударалі ў зямлю каротка і глуха. Чуліся цяжкія крокі вайны. А партызаны ўторылі голасу Каленіка.

„... Усё, што ведаю і раблю і што ідзе з нашага асяроддзя, буду хаваць у тайне перад грамадой, чужой нашай справе, як хаваю вока сваё. Ад таварышоў-жа сваіх нічога не схаваю і не стаю...

Невыкананне чаго-небудзь з дадзенага мною абяцання лічу злачынствам, а за здраду яму станаўлюся ворагам не толькі грамадзе таварышоў, з якімі іду, але і ў цэлым класу пролетарыяў, і перад ім павінен сваёй галавой...“

Каленік бачыў перад сабою злева вялізны натоўп людзей, і справа два рады партызан і ад імя усіх іх ён сказаў апошнія словы клятвы:

„... За здраду справе хай будзе лёсам маім усеагульная пагарда і смерць...“

Галасы партызан, паўтарыўшых гэтыя словы, змоўклі і на момант на плошчы запанавала цішыня. Шамацеў у паветры сцяг і грымелі далёкія стрэлы. Страшная здань голаду і жабрацтва ішла цяжкімі крокамі, каб стаць на парогі іхных хат.

— А цяпер вітаю вас, таварышы, з ганаровым і вялікім званнем байцоў за пролетарскую рэволюцыю,—сказаў Каленік.

У адказ яму партызаны няўзгоднена, але ўсе крыкнулі сваё першае ўра.

— Ваяваць нам трэба будзе,—гаварыў Каленік далей,—а ваяваць голымі рукамі нельга. Шмат у каго в вас дома заваляласяя яшчэ з часоў старой вайны вінтоўка. Дастаньце яе, пачысціце. Штук дваццаць вінтовак запасных ёсць і ў нас. Спадзяюся, што і горад нас не пакіне без дапамогі. Гэта адна наша справа, а дру-

гая яшчэ больш важная. Калі мы толькі каля свайго сяла сядзем у акопы, то гэтым рэспубліке не абаронім. Сёння-ж, хлопцы, і ў суседнія вёскі збірацъ людзей у партызанскія групы, каб скрозь стаць уздоўж рэчкі аж да самай Старой Рудні такімі во радамі.— Рукою ён паказаў на партызан.—Жытко Міхаль пойдзе ў самыя далёкія вёскі, у Старую Рудню, а бліжэй сюды Сімкавец Антон і Прорвіч Арцём. Раён кожнаму вызначым у штабе...

Калі зусім змерклася і крапілаўцы разышліся па хатах, з двара выканкома выйшла чалавек шесць узброеных партызан. За сялом яны падзяліліся па тры чалавекі і пашлі трое да Галлеравага млына, а трое да мосту. Гэта была першая варта, выстаўленая на ноч партызанскім атрадам.

---

Хутка пасля таго, як вярнуўся Каленік гэтай ноччу дадому, да яго прышоў Віняцкі. Ён быў празмерна ўсхваляваны. Гэта адгадаў Каленік па тым, як ён адразу ўсхапіўся з месца пасля таго, як сеў быў на лаўцы і як загаварыў, перасыпаючы гаворку польскімі словамі.

— То можа і таварыш Каленік не верыць мне?—пытаў ён.— Вядома, я быў легіянерам, гэтага я не магу не сказаць пра сябе. Я думаў, легіянеры пойдуць у Польшчу. Я думаў, легіянеры будуць браць панскую зямлю. Выйшла не так, як думаў, і я кінуў свой полк і пашоў сюды. Мой дом тут. Мая радзіма тут. Я хочу бараніць сваю радзіму разам з усімі. Сімкавец не верыць мне, бо я паляк. Але-ж не ўсе палякі легіянеры. Не ўсе палякі служаць панам.

Ён гаварыў доўга, паўтараючыся, часам не ўмеючы знайсці словы, каб вытлумачыць, што хоча сказаць. І то садзіўся крыху супакоіўшыся, то хапаўся з месца, прыпомніўшы яшчэ нешта, пра што меркаваў сказаць.

Каленік супакойваў яго, апраўдваючы Сімкаўца.

— Ведаеш, яго білі легіянеры. Калі ён думае, што і ты можа гэтак-жа біў каго, ён не верыць табе. Над ім доўга здзекваліся...

— Я нікога не крануў пальцам,—глуха адказваў Віняцкі.—Я другім не даваў біць...

Віняцкі прасядзеў з Каленікам далёка за поўнач. Потым яны яшчэ пастаялі на двары, бо пачулі за сялом галасы. Яшчэ чуваць было тарахцелі калёсы па дарозе ад рэчкі. Ехаў абоз.

— Няўжо Чырвоная армія?

Каленік не вярнуўся ў хату, а пашоў да выканкома. Там на плошчы размяшчаўся абоз. На самым выканкомаўскім двары уладжваліся на мураве чырвонаармейцы. Каленік пашоў у пакой, дзе змяшчаўся штаб партызанскага атрада. У пакоі быў Гайшынскі, каравульны начальнік і некалькі чалавек камандзіраў. Сярод іх і камандзір палка, які прышоў у Крапілаўку.

— Я ад мясцовага партызанскага атрада,—сказаў да камандзіра палка Каленік.—Я хацеў-бы пагаварыць з вамі.

Яны ўдваіх зайшлі ў асобны пакой.

— Заўтра мы пойдзем далей,—сказаў камандзір палка, выслу

хаўшы Каленіка.—Да гэтага трэба вырашыць, як быць з вашым атрадам. Колькі ў вас чалавек?

— Комуністаў і комсамольцаў семнаццаць і сто семдзесят шэсць сялян, беспартыйных.

— Амаль столькі, як у мяне ў палку асталося. Што-ж, заўтра збярэмся і пойдзем за Бярэзіну. Як вы мяркуеце, існаваць асобна ці ўвайсці ў рэгулярныя часці арміі?

Каленік маўчаў. Здавалася, вось-вось усё разбурыцца, аб чым ён марыў, ствараючы атрад. Задрыжэлі рукі і ён узяўся рукамі за край стала, каб не выказаць усхваляванасці.

— Мы спадзяваліся, што вы застанецеся ў нас,—сказаў ён.

— Такія меркаванні раней былі і ў камандавання, але людзі нашы вельмі стаміліся і іх задужа мала, каб утрымацца,—сказаў камандзір палка.—Фронт скрозь адыходзіць за Бярэзіну, там мы здолеем умацавацца.

— Вам трэба застацца,—нясмела запярэчыў Каленік.—Мы будзем несці ўсю службу, а чырвонаармейцы адпачнуць. Дазоры варту, усё на сябе бярэм, толькі ў бой разам, вядома.

— А хіба мы здолеем з такімі сіламі, як у мяне і ў вас утрымаць участак фронта ў пятнаццаць вёрст?—Камандзір разгарнуў на стале карту, адшукаў на ёй крапілаўскую воласць і правёў алоўкам па лініі фронта.—Не, гэта задужа багата для такой колькасці людзей,—сказаў ён.

— Гэта яшчэ не ўсе людзі,—сказаў Каленік.—Такія-ж атрады мы маем у Старой Рудні, у Зубарэвічах і ў Рожанцы.—Ён у сваю чаргу нахіліўся над картай і пачаў шукаць названыя вёскі.

— Але людзей-жа мала?

— Тры атрады. Я не скажу, колькі дакладна людзей у тых атрадах, але...

— Калі вы арганізавалі свой атрад?

— Учора прынялі клятву.

— Значыць, учора толькі паслалі людзей у іншыя вёскі?

Каленік замяўся.

— Гэта нічога, што толькі ўчора. Удзень будзем мець весткі.

— Мала людзей,—ціха сказаў камандзір палка.

— Людзі будуць, людзей трэба і можна сабраць сотні ў два дні.

— Я ўсё-ж думаю, што атрад злучыцца з намі і мы пойдзем на вызначаныя пазіцыі за Бярэзіну,—сказаў камандзір палка.

Каленік маўчаў.

— Мы пойдзем а полудні,—дадаў яшчэ камандзір палка.

— Мы просім застацца,—азваўся Каленік.

— Нельга.

— Тады пакіньце частку чырвонаармейцаў,—прасіў ён.

— І гэтага нельга.

Пауза.

— Гэта дужа крыўдна,—сказаў Каленік, адхінуўшыся ад стала.—Сяляне арганізаваліся, каб не пусціць палякаў, а вы не хочаце падтрымаць іх.

— Як не хочам?—падхапіўся камандзір палка з месца.—Чаму

ты ставіш так пытанне? Прыняўшы тут бой, мы рызыкуем страціць і рэшту людзей.

Каленік не слухаў.

— Мы сабраліся ў атрады, каб ні на адзін крок далей не пусціць іх і мы адсюль не пойдзем, як-бы вы не зрабілі.—І цішэй, спакайней дадаў:—Я толькі хачу прасіць дапамагчы нам вінтоўкамі і патронамі з запасаў палка.

Абодва пасля гэтага доўга маўчалі. Камандзір палка пазіраў на карту і ўсё стукаў па стале алоўкам, а Каленік стаяў, не кранаючыся з месца, трымаючыся за край стала.

— Вы канчаткова так вырашылі?—запытаў камандзір палка.

— Мы прымалі перад усім народам клятву,—адказаў на гэта Каленік.

І зноў абодва доўга маўчалі. Урэшце камандзір палка сказаў:

— Я звяжуся зараз-жа са штабам дывізіі, паведамлю аб вашых сілах і меркаваннях. Да вечара мы будзем ведаць...

Каленік схапіў руку камандзіра палка і пацінуў яе.

— Улічыце, што гэта не ўсе яшчэ людзі, мы збярэм багата людзей.

Назаўтра самым ранкам усе крапілаўцы, партызаны, жанчыны і ўся моладзь прышлі з рыдлёўкамі да ракі і даўгім ланцугом рассыпаліся ўздоўж яе. Іх прывялі Каленік і Віняцкі Віктар, стары сапёр. Віняцкі прайшоў з Каленікам уздоўж ракі, паказваючы, дзе капаць акопы. Пачалі капаць непадалёк ад рэчкі на полі, каб з акопаў добра быў відзен увесь другі бераг рэчкі і поле на тым баку.

Каля моста на рэчцы стаялі дазорныя чырвонаармейцы. Дзяўчаты крыкнулі ім:

— Ідзіце да нас, пасабіце, нам весялей будзе.

Адзін з чырвонаармейцаў застаўся на месцы, а двое прышлі да дзяўчат і ўзялі ў іх рыдлёўкі, а дзяўчатам далі патрымаць вінтоўкі. Пасля прышло з сяла яшчэ чалавек трыццаць чырвонаармейцаў са сваімі рыдлёўкамі. Яны саставілі вінтоўкі ў козлы, і камандзір, які прывёў іх, запытаў, дзе станавіцца на працу. Іх сустрэлі радасным гоманам. Дзяўчаты клікалі чырвонаармейцаў кожная да сябе, каб станавіўся побач. Чырвонаармейцы рассыпаліся па ўсёй лініі, як рылі акопы. Калі гадзіны праз паўтары спынілі працу, каб адпачыць, чырвонаармейцы і дзяўчаты сышліся разам. Да чырвонаармейцаў тады падыйшла Кавалевіч Ганна і сказала да іх:

— Бачыце, якія ў нас дзяўчаты, а вы ўцякаць ад нас хочаце. Што-ж вы за хлопцы?

Чырвонаармейцы ўсміхаліся, пазіраючы на дзяўчат. Яны адказалі:

— Мы не ўцякаем, адыходзім згодна загаду.

— І вам не хочацца застацца ў нас?—хітравата ўсміхалася жанчына, ківаючы галавой на дзяўчат.—Гэта-ж каб я на вашым месцы...

— З ахвотай, калі скажуць застацца, нам усё роўна біць легіёнаў—там, ці тут.

— Каб усё роўна, не найшлі-б ад нас,—пярэчыла яна.—Я думаю, сорамна вам будзе ісці ад нас. Бабы ваююць, а вы—ходу.

Чырвонаармейцы ветліва ўсміхаліся. Адзін сказаў:

— А можа яшчэ мы і не пойдзем адсюль, тады мы вас у акопы не пусцім, нам сорамна будзе.

— Тады я дзевак да вас на вечарынку ў акопы прывяду. Ну, згаворымся? Шкада, няма вашага камандзіра, хоць-бы пасароміла яго.

— А можа не давядзецца сароміць, не спяшайся, цётачка,— адказаў той-жа чырвонаармеец.

— Каб-жа ж! А то прышлі, пераначавалі і ходу. А чаго? Ды калі ім так даваць дарогу, яны могуць далёка зайсці. Ты адкуль?— пытала яна ў чырвонаармейца, які гаварыў з ёю.

Чырвонаармеец пазіраў у твар ёй, бачыў яе сівыя валасы, што выбіваліся з-пад хусткі, бачыў яе светлыя вочы, маршчыны пад вачыма і думаў пра сваю маці.

— Пензенскі,—сказаў ён, абрадавана ўсміхнуўшыся.

— Гэта далёка?

— Далёка, уга.

— Ну, гэта не далёка, калі так даваць ім дарогу. Пусці іх сюды, ды ў другім месцы пусці, яны і да пензенскіх мужыкоў дойдуць.

— Яно верна.

— Ну во, значыць і нельга вам ад нас пайсці, давядзецца ў нас паваяваць.

Цяпер яшчэ з сяла прышло чалавек сорак чырвонаармейцаў з рыдлёўкамі, а за імі хутка прыехаў і камандзір палка.

— Адбілі мы ад вас, таварыш камандзір, вашых чырвонаармейцаў, не пойдуць яны ад нас цяпер, давядзецца і вам застацца. Гляньце во на іх.

Кавалевіч Ганна паказвала рукой у адзін і ў другі бок на чырвонаармейцаў. Тыя ўсміхаліся. Побач з імі, абапершыся на рыдлёўкі, стаялі дзяўчаты і дражніліся ўсмешкамі.

— Так, я бачу, прапала маё войска,—развінуўшы рукі, сказаў камандзір палка.—Давядзецца, мусіць, застацца.

Каленік увесь час чакаў, што скажа камандзір палка. Цяпер ён аж сарваўся з месца.

— Вырашана?

Камандзір палка кіўнуў яму галавою.

— Мы атрымалі загад застацца,—сказаў ён. І Каленік не здолеў што-небудзь адказаць.

— Сёння да ночы трэба звязацца з іншымі атрадамі. Зараз вернемся ў штаб і пашлем людзей для сувязі.

І чырвонаармейцы, і сяляне, усе стаялі цяпер вакол іх, і камандзір палка сказаў, звяртаючыся да сялян:

— Мы застаемся ў вас. Камандаванне дывізіі даручыла мне перадаць вам, таварышы, падзяку за арганізацыю абароны.

Да самага вечара капалі акопы. Вярсты на тры, ад лесу, легла ўздоўж ракі жоўтая паска зямлі, канец якой губіўся каля балотных хмызнякоў, за якімі цягнецца паласа непраходных, амаль зусім голых балот.

Дадому ішлі ўсе разам: крапілаўцы і чырвонаармейцы. Непадалёк ад рэчкі яны сустрэлі сем чалавек чырвонаармейцаў. Гэта

ішла за раку разведка. Чырвонаармейцы перайшлі мост, пасля іхныя постаці выразна вызначыліся над узгоркам на небасхіле і цераз хвіліну яны зніклі зусім, адыходзячы ў ноч, у невядомае. А ноччу прышлі ў штаб людзі з атрадаў, якія былі арганізаваны ў Старой Рудні, у Зубарэвічах і ў Ражэнцы. Яны прышлі прасіць вінтовак і патронаў.

---

Гэтая ноч прайшла спакойна. Чырвонаармейцы вячэралі за сталамі ў Крапілаўцаў, а пазней спалі ў хатах, у мяккіх пасцелях. Яны адпачывалі. Раніцою з-за ракі прышло чацвёра мужчын. Яны расказалі, што яшчэ ўчора ў іхную вёску, вёрст за дзесяць ад рэчкі, прыязджала польская конная разведка з дванаццаці чалавек. Яна паказалася з суседняга з вёскай лесу і ў тым-жа лесе знікла, паехаўшы назад. Пэўне блізка было і ўсё войска. Гэта пацвердзілася і весткамі, якія пазней прынесла разведка. Пасля гэтага камандзір палка паслаў людзей для сувязі ў атрады, у суседнія вёскі і загад з вечара заняць акопы. Акурат у гэты час прыбыў з горада і невялікі абоз, які даставіў харчы чырвонаармейцам, вінтоўкі і патроны.

Як толькі змерклася, атрад Каленіка сабраўся каля выканкома. Ад выканкома атрад аддзяленнямі крануўся да рэчкі. Кожны з партызанаў адчуваў сябе ў гэтыя хвіліны зусім па-іншаму, чым яшчэ ўчора ці нават у гэты дзень раніцою. Учора, нават капаючы акопы, ніхто з іх не адчуваў так рэальна блізка ад сябе небяспекі. Цяпер рэчка лягла граніцай паміж сваім і чужым, варожым. Адтуль са змрокаў ночы, з-за узгоркаў выйдуць ланцугом польскія легіянеры і ў адну з хвілін будзе пададзена каманда страляць. Гэта будзе пачаткам першага боя і з гэтым у жыцці кожнага пачнецца нешта зусім іншае. У кожнага побач была свая *хата*, маці або жонка, дзеці і сёстры, і кожны ў гэтыя хвіліны думаў пра іх.

Сядзелі на зямлі каля акопаў. Каленік быў супроць моста. З ім Гайшынскі і Віняцкі. З таго часу, як Віняцкі прышоў у атрад, яму ніхто ні адным словам не выказаў недавер'я, але ўсведамленне таго, што можа хто з партызан не верыць яму, прыгнятала Віняцкага, і ён увесь час хадзіў маўклівым і стараўся быць разам з Каленікам. Цяпер ён паціху расказваў пра сваё дзяцінства. А яго расказ нагадаў Каленіку пра сваё. Слухаючы Віняцкага, Каленік лёг на зямлю і ўвесь час пазіраў у цемру за рэчку. Калі прайсці крыху за рэчкай ‹улева, будзе млын Гелера, а наперадзе хутар Нічыпара Лёгкага. Увесь узгорак за рэчкай ад дарогі ўлева да зарасніку, усё зямля Нічыпара Лёгкага. Больш дванаццаці год з дзяцінства і да самай салдатчыны Каленік праслужыў у Лёгкага парабкам. Гэта было даўно. Вечарамі ён сустракаўся каля млына з дзяўчынай. Яму было тады дзевятнаццаць год. Над балотамі навісаў шызы туман. Пахла свежа скошаным сенам. Яны падыходзілі да рэчкі, а з рэчкі падымаліся, палахліва лопаючы крыллямі, дзікія качкі і ляцелі, выцягваючы на ўсю даўжыню свае шыі, абганяючы адна адну. Пасля ўсё танула ў цішыні, і можна было толькі пачуць, як булькоча вада ды шамацяць чараты. Яны сядзелі на

мураве і гаварылі, пазіраючы ў неба, дзе кожны вечар для іх запальваліся далёкія першыя зоры. Слухаючы Віняцкага, Каленік пазіраў на той бок рэчкі і перад вачыма паўставала ўсё перажытае.

Па зямлі праходзіла ноч. Далёкае неба іскрылася зорамі, усё неба, куды ні глянь. Зоры над усёй зямлёй, над усім светам. І зорнае неба Каленік памятае толькі з таго часу, калі жыў у Нічыпара Лёгкага. Каленік уздымае вышэй галаву і ўзіраецца ў густы россып зор па млечнаму шляху, аж пакуль стамляюцца вочы. Тады зноў пазірае ў поле за рэчку. Там цішыня. Там нерухома сядзіць на ўзгорку санлівая ноч. Але і ў цемры ночы Каленік угадвае знаёмыя месцы. На тым беразе блукае яго маладосць, яго дзяцінства. Яно там усё, да самай салдатчыны, пасля якой пачалося жыццё на гэтым беразе рэчкі.

Пад раніцу з захаду паднялася цёмная хмара. Цяжкая, шырокая, яна павольна ўздымалася ў неба, гасячы зоры. Аб ёй дагадаліся па водблісках далёкіх бязгучных маланак. А калі дакаціўся глухім водгуллем гром, ноч, якая, дагэтуль непарушна юцілася на ўзгорку за рэчкай, спалохана ўзнялася і падалася ў бок балот, адкуль насустрач ёй узняўся заслонай туман. Цемра парадзела.

Збоку ў Каленіка ляжаў Гайшынскі. Ён скурчыўся і драмаў, нацягнуўшы на галаву каўнер піджака. Гэтак па ўсяму полю драмалі партызаны, то лежачы па аднаму, то па некалькі чалавек разам, а наперадзе бязгучна хадзілі ўздоўж рэчкі дазорныя.

Усё вышэй уздымалася хмара і з гэтым часцей успыхвалі маланкі і вурчэў гром. А над галовамі партызан святлела далёкае неба і зоры танулі ў дрыглівай, бледнай яго сіняве. Каленік не спаў, усё пазіраў на той бок рэчкі. Ён першы і заўважыў постаці коннікаў, якія з'явіліся далёка на ўзгорку на дарозе. Коннікі павольна ехалі, збіўшыся ў кучу. Каленік некалькі секунд моўчкі пазіраў насустрач ім, потым крануў за локаць Віняцкага і паказаў на ўзгорак.

— Глядзі!

Постаці коннікаў выступалі ўсё выразней. Уз'ехаўшы на самы ўзгорак, яны скучыліся яшчэ больш. Каленік разбудзіў Гайшынскага і партызана, які ляжаў улева ад яго.

— Перадаць каманду: падрыхтавацца. Не страляць. Даць пераехаць мост.

Партызаны ўпоўголаса, як-бы баючыся, што іх пачуюць коннікі, перадалі па лініі акопаў каманду. У той-жа час, каб не быць заўважаным, дазорны, які стаяў каля самага моста, лёг на зямлю і адпоўз у бок.

— У акопы. Без каманды ніводнага стрэлу,—перадаў Каленік і сам папоўз улева бліжэй да маста. Коннікі набліжаліся. З кожнай хвілінай адлегласць да іх скарачалася. Яшчэ нейкі час і яны будуць каля самай рэчкі. Гайшынскі поўз следам за Каленікам і не мог адарваць позірку ад коннікаў. У яго часцей, як заўжды, білася сэрца. Ён на фронце. Хутка пачнецца бой. Яму хочацца гэтага. Следам за Каленікам ён спусціўся ў акоп і паклаў перад сабою вінтоўку, трымаючы яе ў руках. Рука ад напружання і ўсхвалёва-

насці дрыжэла, і ён бачыў, як пагойдваецца штык, выстаўлены над пяском за акопам. Тым часам коннікі пад'ехалі зусім блізка, крокаў за сто ад рэчкі. Адзін з іх узняў руку і ўсе спынілі коней. Гэта быў камандзір разведкі. Ён пазіраў у бок Крапілаўкі. Ён бачыў перад сабою рэчку, сенажаці за рэчкай, далей поле і сяло. У сяле ціха і нідзе нікога. Акопаў ён не бачыў, было яшчэ цемнавата і перашкаджаў туман, які нерухомай заслонай стаяў над рэчкай і над сенажацямі. Усё гаварыла яму, што можна спакойна ехаць і далей, але коннікі стаялі на месцы і Каленік сказаў, кіўнуўшы Гайшынскаму галавой:

— О, яны не дурні, на мост яны не паедуць.

— А што-ж мы?—запытаў Гайшынскі.

— Пакуль не будзем страляць,—сказаў Каленік.

— Мы іх так і пусцім назад?

Гайшынскі нічога не разумеў. Да польскай разведкі ўсяго якіх метраў дзвесце, дзвесце пяцьдзесят. Калі-б страляць, палова-б іх напэўна не з'ехала-б з месца, пакуль-бы яны агледзіліся.

— За імі зусім блізка перадавая лінія войск ідзе,—сказаў Каленік.—Калі пачнем страляць, мы папярэдзім іх і не здолеем сустрэць так, як трэба.

Камандзір польскай разведкі махнуў рукой і, завярнуўшы каня, паехаў назад, а за ім і ўся разведка. Цяпер яны пагналі коней рыссю і хутка зніклі за ўзгоркам, адкуль былі з'явіліся. Зноў стала ціха, але цішыня зрабілася больш напружанай і больш трывожнай. З захаду ўсё вышэй уздымалася цяжкая чорная хмара. Маланкі рассякалі яе, разрывалі стрэламі агня і зусім блізка ўжо грымеў гром. Скамечаная ветрам хмара кацілася як сівая хваля морскага прыбою. Падуў вецер. Рэдкі туман хіснуўся і пачаў расплывацца.

— Яны зусім блізка,—сказаў Каленік.—Яны тут, за ўзгоркам.

Як-бы ў пацверджанне яго слоў, над узгоркам замаячылі постаці польскіх дазорных і не паспелі яны сыйсці ў лагчыну, як на дарозе на ўзгорку паказалася вялікая калона легіянераў.

— Падрыхтавацца да бою.

Каманду перадалі па ўсёй лініі акопаў.

Дазоры польскія ўжо зусім блізка. Вось яны сходзяцца і ідуць у напрамку да моста. За імі ў адлегласці на поўкілометра калона, а яшчэ далей абоз! Дазорныя ішлі з вінтоўкамі на руках, гатовыя страляць. Перад самым мостам яны прыпыніліся на момант, як-бы прадчуваючы небяспеку, але пайшлі далей, толькі ўжо ўсе разам. Ішлі насцярожана і нічога не заўважылі. Так дайшлі амаль да самых акопаў, калі змецілі ў акопах людзей і мятнуліся назад, але ім крыкнулі кідаць вінтоўкі і класціся на зямлю. Яны бачылі перад сабою наведзеныя на іх рулі вінтовак. Калі яны спыніліся і ляглі, калона была недалёка ад рэчкі. У калоне не адразу дагадаліся, што сталася з дазорнымі і калона ўсё рушыла наперад з вінтоўкамі на плячах. У гэты час Каленік два разы выстрэліў з рэвальвера і ў адказ яму адгукнуліся стрэлы з абодвух бакоў і зататахкоў кулямёт. Каленік бачыў, як на момант калона замерла

на месцы, а пасля легіянеры кінуліся з дарогі і рассыпаліся па полю.

На тым баку рэчкі на самым узгорку спыніўся абоз. Легіянеры, паляжаўшы, узняліся і пабеглі да рэчкі. Яны прарываліся, каб залегчы каля самай рэчкі. За імі з-за ўзгорка паказалася яшчэ калона, ужо большая. Рассыпаўшыся шырокай паласой, калона пашла ўніз. Цяпер іх было багата. Але адначасова насустрач ім, пачуўшы першыя стрэлы, парушыўшыя прадранішнюю цішу, з сяла пабеглі і тыя чырвонаармейцы, якія адпачывалі там, каб заняць месца ў акопах.

Над маўклівым полем кружыліся раскаты грома. Узмацніўся вецер, закружыў над дарогай пясок і хутка ўпалі на зямлю першыя цяжкія кроплі дажджу. І ў гэты момант ухнула ззаду за сялом батарэя, са свістам пранесліся над полем нябачныя знарады і непадалёк ад месца, дзе ляжалі легіянеры, узняліся горы зямлі і дыму. Дождж паліў густы, спорны і мутнай сеткай засланіў на момант усё. Адразу пацямнела. Раз за разам з ударамі грома, са свістам, прарываючы мутную сетку дажджу, ірваліся снарады. І нельга было адрозніць грому ад выбухаў.

Легіянеры краліся да мосту. Беглі, клаліся на зямлю, падымаліся і зноў беглі. Так яны дайшлі да самай рэчкі і з крыкам уварваліся ў вузкі пралёт мосту. Партызаны сустрэлі іх густымі залпамі стрэлаў і кулямётным агнём.

Каленік бачыў, як пярэднія з легіянераў упалі. І ў гэты момант ён узняўся з акопа, узмахнуўшы рэвальверам. Гэта было камандай. Усе рынуліся за ім. Легіянеры цяпер не маглі страляць, ім перашкаджалі свае, якія былі на мосце. Усё запалоніла гучнае дружнае ўра. Яно падхлёствала і гнала легіянераў, скінула іх з моста і ўзняло з зямлі.

Легіянеры адышлі ў суседнія вёскі за ўзгорак, пакінуўшы ў полі толькі частку сваіх. Дзень прайшоў спакойна. Ноччу паўтарылася атака з боку легіянераў, але ўсяго адзін раз. І так яшчэ суткі прайшлі. А на трэція суткі ранкам партызаны ўбачылі, як пайшлі з узгорку некалькімі радамі легіянеры. Яны ішлі зусім адкрыта, сабраўшы ўсе свае сілы. Чырвонаармейцы і партызаны падрыхтаваліся сустрэць іх. Адразу была peрададзена каманда батарэі і на ўзгорку пачалі класціся адзін за другім знарады. А легіянеры ішлі. Як толькі рассейвалася вобляка пяску і дыму пасля выбуху, Каленік бачыў іхныя рады Потым на дарозе паказалася бронемашына. Яна каціласяз узгорку разам з радамі легіянераў, і Каленік чуў, як вурчыць матор. На калдобінах машына павольна пагойдвалася і наверсе на ёй пакручвалася вежа з кулямётамі, як-бы выглядаючы дарогу.

Бранявік павольна каціўся насустрач стрэлам і выпускаў з перапынкамі чараду за чарадой са сваіх кулямётаў. Хаваючыся за бранявік, беглі легіянеры. І калі ўжо зусім блізка былі яны ад рэчкі, ухнуў выбух, потым другі і над рэчкай узняліся кавалкі дошчак і бярвенняў з мосту. Сярэдзіна мосту апала ў ваду. Бранявік спыніўся і нейкі час страляў па акопах, стоячы на дарозе, каля самай рэчкі, але праз поўгадзіны змоўк, павярнуўся і ад'ехаў, а

легіянеры адышлі за ім на раней занятыя месцы і там пачалі акопвацца.

— Цяпер надоўга, да зімы так будзем сядзець,—падумаў Каленік.

---

На ўчастку фронта, які займалі партызанскія атрады, пачаліся зацішныя дні. Белапалякі, накіраваўшы свае галоўныя сілы бокам на поўнач і на поўдзень ад гэтага ўчастку фронта, доўгі час не падмацоўвалі яго, спадзяючыся, што калі ўдасца прасунуцца далей з флангаў, партызаны, апынуўшыся ў мяшку, адыйдуць самі.

Так пражылі апошнія дні жніўня і ўвесь верасень. Потым пачаліся восеньскія дажджы, частыя і дакучлівыя. Неба ад ранку і да ночы было ўкрыта густымі хмарамі. Яны сунуліся нізка над зямлёй і імжылі бесперастанку цэлымі суткамі. Рэчка ўздулася, напоўнілася вадой да самых берагоў і ад яе пачало павяваць холадам. Зрэдку паказвалася, прарваўшы заслону хмар, пахаладзелае сонца. Яно кружылася ў хмарах нізка над небасхілам, не маючы сілы разарваць цяжкую вільготную заслону іх і рассеяць, і, здавалася, само сонца набракае ў хмарах вільгаццю і гасне.

У канцы верасня аднойчы ўночы нашы пачулі за рэчкай далёкія стрэлы. А ранкам у штаб палка з'явілася двое сялян з карабінамі. Яны прышлі прасіць у партызан дапамогі.

Увесь той дзень імжыў дождж і перастаў, як зусім змерклася. Разрэдзіліся хмары і дзе-ні-дзе блiснулі зоры. Ветру не было. І ў ночнай цішы можна было чуць, як плешчацца аб карэнні прыбярэжных дрэў вада ў рэчцы. Каб сагрэцца і абсушыцца, чырвонаармейцы і партызаны скучыліся за кустамі каля агню, раскладзенага ў яме. Яны моўчкі стаялі шчыльным кругам вакол агня, калі прыбег устрывожаны дазорны.

— Па рэчцы човен плыве, і ў чоўне людзі,—сказаў ён.

Усе кінуліся за дазорным да рэчкі. За плынню ракі, па самай яе сярэдзіне, плыў човен, а ў чоўне сядзела двое. Спачатку ўсіх здзівіла, што човен плыве дужа павольна і не чуваць было, каб хто працаваў вёсламі. Выказалі меркаванне, што можа тыя, хто ў чоўне, тояцца і таму плывуць без вёслаў. Гэтая здагадка здалася праўдападобнай. Тады парашылі спыніць човен.

— Эй, хто там?

Дазорнаму ніхто не адказаў. Човен плыў далей па самай сярэдзіне рэчкі.

— Стой! Страляць буду!

Але і на гэты раз ніхто не азваўся. Чырвонаармейцы ішлі па беразе рэчкі, углядаючыся ў цемру.

— Што за чорт!

— Стой!—крыкнуў яшчэ раз дазорны і выстраліў. Але і пасля гэтага човен не спыніўся і ніхто не азваўся.

— Што за ліха?

Чырвонаармейцы гоняй двое ішлі берагам рэчкі, а пасярэдзіне рэчкі плыў загадкавы човен. Тады адзін з чырвонаармейцаў сказаў:

— Я паплыву, зірну, што там такое.

— Добра, плыві, толькі сцеражыся, халодна-ж вельмі,—сказаў Каленік.

Чырвонаармеец распрануўся і кінуўся ў халодную восеньскую ваду. На беразе стаялі яго таварышы. Яны чулі ўсплёскі вады пад ударамі рук чырвонаармейца. А човен чорнай плямай плыў па вадзе. Урэшце ён спыніўся. Чырвонаармеец з рэчкі нешта крыкнуў і завярнуўшы човен пагнаў яго перад сабою да берага. Калі човен наблізіўся да берага, крыкнулі:

— Ну, што там?

Чырвонаармеец нічога не адказаў. Ён маўчаў і тады, калі човен, ткнуўшыся носам у бераг, спыніўся, а сам ён вылез з вады. Ён дрыжэў ад холаду і ад страху. І толькі паказаў на човен рукой. На дне яго, прыпёртыя плячыма да лавачкі, сядзелі мужчына і жанчына У цемры нельга было разглядзець іхных твараў. На грудзях у мужчыны бялела паперка. Паперку адкалолі і пайшлі да агню. Чырвонаармеец, які прыгнаў човен, усё яшчэ маўчаў, палахліва азіраючыся. Калі ён апранаўся, ногі не траплялі ў штаніны, рукі блыталіся ў рукавах гімнасцёркі.

— Я падплыў, а яны маўчаць,—казаў ён.—Мне зрабілася страшна троху і я крыкнуў, як плыў яшчэ, думаю, мала чаго яны маўчаць. А падплыў і бачу—нежывыя. Мне стала халодна ў вадзе.

Каленік узяў ад чырвонаармейца паперку, знятую з грудзей у мужчыны і прачытаў уголас: „Будзе тое-ж і вам усім“, і сказаў:

— Думаюць гэтым запалохаць, гады.

Ён паслаў партызан у сяло, каб паведаміць камандзіру палка аб знойдзеных трупах. Камандзір палка прыехаў конна. Да яго прыезду човен падцягнулі да агню. Тады ўсе разглядзелі маладога мужчыну з акрываўленым тварам і побач жанчыну. У абодвух на ілбах чырванелі выразаныя пяцікантовыя зоркі. Яны сядзелі непарушна, схіліўшыся адзін да аднаго. Камандзір палка міжвольна зняў з галавы шапку. І за ім гэтак-жа знялі шапкі чырвонаармейцы і партызаны.

— Сволачы!

Толькі і здолеў Каленік адным гэтым словам парушыць маўклівасць. У камандзіра палка задрыжэла рука, у якой трымаў ён шапку. Ён адвярнуўся і падаўся ў бок ад агня. Ён ішоў не спыняючыся і не надзяючы шапкі, камечыў яе ў руцэ. За ім чырвонаармеец павёў каня. І следам пайшло чалавек дванаццаць партызан і чырвонаармейцаў. Каленік не спыніў іх, калі яны пайшлі з месца; нічога не гаварыў ім і камандзір палка. Так дайшлі яны да сяла. Камандзір моўчкі зайшоў у памяшканне штаба і стаў каля стала, пазіраючы насустрач партызанам і чырвонаармейцам, якія гурбой спыніліся ў дзвярах.

— Дазвольце зайсці, таварыш камандзір палка?

Ён кіўнуў моўчкі галавою. Хлопцы сталі перад ім сярод пакою і адзін з іх сказаў:

— Дазвольце, таварыш камандзір палка, сабрацца нам і пайсці за рэчку на некалькі дзён. Мы адпомсцім ім.

Камандзір палка дапытліва зірнуў на іх.

— Хлопцы правядуць нас цераз балота і мы вернемся тудою-ж.

Яны паказалі на сялян, якія прышлі раніцою з-за рэчкі.

— Мы звяжамся там з партызанамі і разам раскалашмацім пару камендатур.

Праз нейкі-ж час у штабе палка адбылася нарада і той-жа ноччу два дзесяткі партызан і чырвонаармейцаў пайшлі за рэчку ў тыл белапалякам.

---

Прайшлі восеньскія надакучлівыя дажджы. Ветры стрэслі з дрэў іхныя дзівосна-барвяныя вопраткі, і аголеныя дрэвы нерухома стаялі, чакаючы марозаў і першых мяцеліц. Марозы прыйшлі хутка. Укрылася лёдам рэчка. Зямля пад нагамі звінела на цвёрда утоптаных сцежках. На стрэхі хат, на платы і на сцежкі клаўся іней. А сапраўдных баёў усё не было. Палякі па-старому рабілі то тут, то там спробу прарвацца за рэчку, але заўжды адыходзілі і на некалькі дзён замаўкалі. Гэтак прыйшлі і дні з першым снегам. Снег выпаў уночы. З вечара ў халодным паветры кружыліся рэдкія белыя матылі. Партызаны, седзячы ў дазорах, з цікаўнасцю сачылі за імі, падстаўлялі далоні рук, ловячы іх, гэта было за навіну, а сярод ночы снег пайшоў густа і адразу забялела зямля.

Партызаны і чырвонаармейцы размясціліся ў вёсках уздоўж рэчкі. Хадзілі яны цяпер у кажухах і цёплых паддзёўках. Удзень і ўначы стаялі ўздоўж рэчкі за вёскамі і на дарогах дазоры. Вакол іх было шырокае ўснежанае поле, месцамі кусты каля рэчкі і высокія алешыны з абламанымі верхавінамі, а за рэчкай зноў бясконца далёкае ўснежанае поле і нікога там, ніводнай жывой душы. Так прайшоў снежань тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага і так ціха пачаўся студзень тысяча дзевяцьсот дваццатага года.

Становішча, аднак, змянілася надвячоркам дванаццатага студзеня. Палякі пасля доўгага перапынку зрабілі першую спробу ісці на Крапілаўку. На стрэл дазорных з хат выскачылі партызаны і, рассыпаўшыся, пайшлі насустрач легіянерам. Непадалёк ад рэчкі яныляглі ў снягу і каля дзвёх гадзін ляжалі так. Спатканыя дружным агнём легіянеры адкаціліся назад, а партызаны, павялічыўшы колькасць дазораў, вярнуліся ў хату. Такія атакі з боку легіянераў паўтарыліся два разы яшчэ трынаццатага студзеня і чатырнаццатага. Адначасова, як можна было меркаваць па стрэлах, гэткія-ж спробы прарвацца за рэчку рабіліся імі і ў напрамку на Зубарэвічы і на Рожанку.

Другая палова дня чатырнаццатага студзеня прайшла зусім спакойна. Але ў прадчуванні небяспекі камандзір палка начаваць пайшоў у штаб, а не на кватэру. Пазней туды прыйшоў і Каленік. Там-жа былі Гайшынскі і Віняцкі. Яны чысцілі кулямёт. Часткі разабранага кулямёта ляжалі на стале, сярод шматкоў замасленай кудзелі.

— Вы дужа не раскідайцеся, а то не паспееце сабраць калі што,— сказаў ім Каленік.

І адразу-ж пасля гэтых слоў Каленікавых Віняцкі пачаў зборку кулямёта. А Каленік пайшоў у пакой да камандзіра палка. Адтуль

ён пачуў, калі ў пакой, дзе былі Віняцкі і Гайшынскі, зайшло яшчэ некалькі чалавек. Яны стукалі ботамі, абіваючы з ног снег, стрэсвалі снег з адзежы, ставілі да сцяны вінтоўкі. Камандзір палка ляжаў на лаўцы, падклаўшы пад галаву рукі. Ён ляжаў тварам угору. Вочы яго былі заплюсчуты. Можа ён і не спаў, але Каленік ціха прычыніў дзверы і сеў на другой лаўцы каля стала, слухаючы пра што гавораць хлопцы ў другім пакоі. Ен чуў галасы партызан і чуў за сцяной посвісты мяцельнага ветру ды зрэдку чые-небудзь шагі на вуліцы. Часам пачуецца вокліч вартавога каля штабу і зноў цішыня, зноў нічога, акрамя галасоў у другім пакоі і посвістаў ветру ў вакяніцах. Каленік паклаў на стол руку і схіліўся над ёй, разглядаючы агрубеўшую, перасечаную зморшчыкамі скуру. Пасля павярнуў далонь рукі ўгору. Шырокая далонь уся зрэзана глыбокімі даўгімі рысамі і густа драбнейшымі.

Прыгадалася як некалі яшчэ варажыла яму цыганка. Ён нічога не памятаў з тае варажбы акрамя ласкавых слоў. „Саколік мой ясны, сынок, золатка маё...“ Гэтыя словы здаліся яму нават дзіўнымі, яны неяк не пасавалі да яго, а цяпер абудзілася да цыганкі пачуццё ўдзячнае і за іх.

Дзе яна? Можа даўно памерла ў дарозе, у часе сваіх бязмэтных блуканняў з калодай карт, з якіх карміласе. А мо‘ жыве дзе і варожыць, і зараз гэтак-жа адорвае людзей ласкавымі, не звыклымі для іхнага вуха, словамі. „Красачка ты мая, дай пагадаю“. Пэўне так просіць яна, хапаючы за руку маладую дзеўчыну і гаворыць ён пра яе каханага, які далёка ідзе суровай дарогай вайны і вернецца да яе яшчэ не хутка.

Галасы ў другім пакоі цішэлі, абрываліся. Яны як-бы насіліся ў паветры, то набліжаючыся, то аддаляючыся. І ўсё насілася з імі, пагойдвалася, ападала ў бездань. Ён яшчэ рэшткамі памяці хапаўся за незразумелыя ўжо гукі, але на момант прыходзіла забыццё, і Каленік пераставаў разумець, дзе ён. Бесперапынны шум ветра за вокнамі здаваўся гулам поезда. Пасля і гэта знікла. Свядомасць танула ў незразумелым, але дзіўным чаргаванні гукаў. Потым нешта парушыла роўную плынь гукаў. Ён прачнуўся і некалькі секунд сядзеў не кранаючыся з месца, каб зразумець, што здарылася. Пасля, зразумеўшы, што чуе стрэлы, крыкнуў і кінуўся да лаўкі, на якой ляжаў камандзір палка. У камандзіра вочы былі ўжо адкрытыя. Ён у момант падхапіўся, надзеў шапку і выбег з пакою. Калі расчынілі дзверы, выносячы кулямёт, у хату з посвістамі ветру і вобла-кам снегу ўварваліся гукі стрэлаў.

З хат беглі партызаны і чырвонаармейцы. Яны кідаліся бегчы ў поле, да рэчкі. А стрэлы несліся з поля за выканкомам. Камандзір палка прыслухаўся на момант да стрэлаў і закрычаў прабягаўшым партызанам:

— Назад! За сяло!—А пасля паціху сказаў Калeніку:—Нас хочуць абкружыць. Трэба абавязкова прабіцца на дарогу да Рожанкі.

---

На ноч з чатырнаццатага на пятнаццатае студзеня дваццатага года польскае камандаванне вызначыла рашучае наступленне на

ўчастку Крапілаўка—Старая Рудня. З другіх участкаў сюды было перакінута тысяча пяцьсот салдат пры трыццаці кулямётах. План аперацыі, распрацаваны ў польскім штабе, зводзіўся да таго, каб зайсці з балота ў тыл і, абкружыўшы Крапілаўку, знішчыць партызанскі штаб і рэўком. Увечары, калі добра сцямнела, з вёскі, у якой былі сабраны польскія сілы, даўгім ланцугом пайшлі яны вузкай сцежкай, пратаптанай у снезе, да балота. Паперадзе ішлі Нічыпар Лёгкі і Геллер, якія запрапанавалі польскаму штабу свае паслугі, і з імі афіцэр, а следам легіянеры. Яны зрабілі вялікі круг, каб прайсці балота і апоўначы выйшлі з балотнага хмызняка ва крапілаўскае поле. Кілометры за чатыры ў цемры дзе-ні-дзе свяціліся ў сяле агні. Без адзінага стрэлу легіянеры падыйшлі да сяла. На стрэлы дазорных з хат выскачылі разбуджаныя партызаны і чырвонаармейцы. Іх было небагата, бо на зіму атрад размясціўся невялікімі групамі, чалавек па шэсцьдзесят-семдзесят па ўсіх вёсках уздоўж рэчкі. Партызаны сустрэліся з легіянерамі на ўскраіне сяла. Легіянеры ішлі густым ланцугом, абстрэльваючы сяло кулямётамі. Бараніцца было цяжка і партызаны прабіваліся ў супроцьлеглы канец вуліцы, на дарогу да Рожанкі. Больш гадзіны цягнуўся бой, пакуль удалося легіянерам абкружыць сяло. З тым, як змоўк партызанскі кулямёт, легіянеры ўварваліся ў вуліцу і пачалі абыходзіць адну за другой хаты. У хатах не было агнёў. Нікога, ніводнай душы не было ў вуліцы. Легіянеры ўрываліся ў хаты і ўсіх мужчын і жанчын гналі на двор.

Збітых, напалоханых сялян сагналі да воласці. Жанчын і дзяцей паставілі ў адзін бок, а мужчын і хлапцоў—у другі. Яны стаялі даўгім няроўным радам, побач старыя дзяды і зусім яшчэ юнакі. Супроць іх натоўпам жанчыны і дзеці. А вакол легіянеры. Уздоўж рада мужчын пашоў афіцэр. Ён ішоў адлічваючы па дзесяць чалавек, торкаючы кожнага кулаком у грудзі і кожнага дзесятага выводзіў з раду. Калі было выведзена дзевяць чалавек, яму здалося гэтага мала і ён пайшоў уздоўж рада другі раз, гэтак-жа сама выводзячы кожнага дзесятага. Цяпер іх было семнаццаць чалавек. Гэта задаволіла афіцэра. Семнаццацярых адвялі ў бок, а астатніх адагналі да жанчын з дзецьмі.

— Я вас навучу партызаніць! Я выганю з вас большэвіцкі дух!

Афіцэр хадзіў каля іх, углядаючыся кожнаму ў твар і ў злосці тузаў кулаком у падбародкі і ў грудзі. За яго плячыма сталі шарэнгай легіянеры. Рулі іхных вінтовак сустрэліся з вачыма семнаццаці, выведзеных з рада. Толькі тады ўсе зразумелі, што хочуць з імі зрабіць. У той-жа час на натоўп навялі кулямёты. Кожны адчуваў, здарыцца нешта нечакана страшнае і кожны маўчаў. Зрабілася як ніколі ціха. Было аж страшна ад цішыні. За адзін толькі момант стала так ціха, на столькі часу, каб паспець чалавеку сказаць самому сабе аб смерці. І адразу напружаную цяжкую цішу прарэзаў жаночы крык, ад якога ўсіх абдало холадам:

— А-а-ай! Ма-а-мачкі! Ратуйце!

Крык уварваўся ў цішыню разам з грукатам стрэлаў. Крык і стрэлы штурханулі людзей з месца. Людзі рынуліся ў цемру на платы і на частаколы. Пад іх цяжарам платы валіліся на зямлю

і з імі падалі людзі, уздымаліся і беглі, пераскокваючы цераз упаўшых і паўзлі па зямлі, па глыбокім снезе, кідаючы ў снег дзяцей, а ззаду як д'ябальскі рогат чулася татахканне куляметаў.

Людзі паўзлі па зямлі і беглі, не спыняючыся і тады, калі ўсё сціхла. Хто застаўся жывым, забіваліся ў хаты і да дня, да ўсходу сонца чакалі, што па іх зноў прыдуць. Але ноччу легіянеры не прыйшлі. Яны прыйшлі назаўтра пад полудзень і сагналі мужчын пахаваць забітых, а за гэтым зноў усіх сагналі на валасны двор, куды прывялі сем'і некаторых з партызан, каб дапытваць іх. Першага дапытвалі бацьку Гайшынскага, паставіўшы яго да сцяны валаснога будынку.

— Ты ведаеш, дзе партызаны,—казаў да яго афіцэр,—ты мне скажаш гэта. А калі захочаш схлусіць, я знішчу ўсе тваё кодла.

Непадалёк ад старога стаяла яшчэ некалькі мужчын і жанчын і з імі Каленікава дванаццацігадовая дачка. У Каленіка ў хаце легіянеры не засціглі нікога больш і, пакінуўшы меншых дзяцей, узялі яе. Стары Гайшынскі маўчаў.

— Каб развязаць табе язык, я дам табе паспытаць вось гэтага,—сказаў афіцэр. Ён узяў ад салдат шампалы і скруціўшы іх дротам па тры разам, загадаў старому класціся на снег. Стары пачаў прасіцца.

— Я нічога не ведаю, пан афіцэр, я стары зусім, вам грэх здзекавацца з мяне.

Салдаты знялі са старога кажух, кінулі яго ў снег і на снег штурханулі самога Гайшынскага. З яго садралі адзежу. Голае цела задрыжэла ад холаду. Прыціснуты да зямлі легіянерамі, стары не спрабаваў вырывацца. Ён ляжаў адкінуўшы ўздоўж цела рукі. Голыя маршчатыя рукі ляжалі на снезе і за кожным ударам шомпалаў толькі скручваліся даўгія кастлявыя пальцы, заграбаючы снег. Снег раставаў ля рук. Яго білі доўга, спыняліся толькі, каб запытаць, ці хоча ён сказаць што.

— Мне ўсё роўна паміраць,—адказаў стары.—Біце хутчэй.

Яго білі па патыліцы і па худых костках плеч, па паясніцы і па нагах. Цела ўздрыгвала пад ударамі і пальцы за кожным ударам хапалі і сціскалі ў жменях снег. Гэтак-жа дапытвалі яшчэ трох мужчын і жонку Сімкаўца Антона, а потым афіцэр падышоў да Каленікавай дачкі.

— Пэўне ты нам усё цяпер скажаш.

Афіцэр узяў яе рукой за падбародак, але яна адхінула афіцэраву руку.

— Што? І ты не хочаш гаварыць?

Дзеўчынка маўчала.

— Ну?!

Афіцэр схіліўся, каб зірнуць ёй у твар.

— Не скажаш? Ты не ведаеш, куды пайшоў твой бацька?

— Не ведаю.

— Што? І ты не ведаеш?

Афіцэр узяў яе за світку і адцёг да сцяны.

— Ты нічога не хочаш сказаць?

Дзеўчынка маўчала.

— Добра. Не кажы. Ты такі больш нічога і ніколі не скажаш.

І ніхто не паспеў апамятацца, як ён выхапіў рэвальвер і выстраліў. Дзеўчынка захіліла твар, ускінуўшы рукі і ўскрыкнула, але не ўпала.

— А чорт, не пацэліў,—спакойна сказаў афіцэр. І зноў пайшоў да дзеўчынкі. Яна ўсё яшчэ трымала рукі, захінаючы твар. Рукі яе дрыжэлі і шырока раскрытыя вочы палахліва пазіралі насустрач афіцэру.

— Ну, што, страшна?

Афіцэр узяў яе рукі і адарваў ад твару.

— Куды пайшоў бацька?

Але бачыў перад сабою толькі немы палахлівы погляд вялікіх дзяціных вачэй.

— Не скажаш?

— Не. Я не...

Афіцэр спрытна падаўся назад ад дзеўчынкі. Акурат, калі ён выстраліў, збоку кінулася да дзеўчынкі Кавалевіч Ганна і адразу ўпала на снег, узмахнуўшы працягнутымі наперад рукамі.

— А, д'яблава баба!

Афіцэр схаваў рэвальвер і крыкнуў салдатам усіх прагнаць з двара. У той-жа час салдаты ўзялі з зямлі нежывую ўжо жанчыну і панеслі пад павець. І толькі дзеўчынка нейкі час стаяла яшчэ на месцы, як прыкаваная да сцяны, а пасля, убачыўшы, што нікога няма з ёю, кінулася з крыкам на вуліцу.

---

Прарваўшыся цераз кальцо агня, партызаны рушылі ў напрамку да Рожанкі. Там яны меркавалі злучыцца з суседнімі групамі сваіх. Але калі падыйшлі вярсты за тры да Рожанкі, убачылі над вёскай зарыва. Вёска гарэла. Ісці туды нельга было. Усе разумелі, што Рожанку ды, відаць, і іншыя вёскі занялі палякі. Партызаны сыйшлі з грэблі ў снег і па цаліне, па снезе пайшлі на ўсход да бліжэйшага лесу, за якім вырашылі сабрацца на хутарах.

На хутары прыйшлі досвіткам. Разведка, пасланая наперад, паведаміла, што на хутарах спакойна. Сяляне сустрэлі партызан і накармілі. А назаўтра пачаліся пошукі сувязі з партызанскімі групамі Жытко, Сімкаўца і Прорвіча. Сувязь была адноўлена цераз пару дзён, і партызаны з другіх груп таксама пачалі збірацца на хутары. Сабраўшыся яны падлічылі свае страты. У гэты дзень не далічыліся ў сваіх радах семідзесяці двух сваіх таварышоў і камандзіра палка.

На хутарах партызаны прабылі каля месяца і пасля невялікіх сутычак з палякамі адыйшлі ў далёка закінутую ў балотах вёску, у якой вырашана было чакаць вясны.

Перад тым, як адыйсці з хутароў, ніхто з партызан не спаў. Недалёка былі свае вёскі, сем'і і кожны думаў як яны? З хутарамі суседзіў лес. Вакол хутароў хадзілі дазорныя, услухоўваючыся ў лясныя шумы. Дазорныя хадзілі па лесе і стаялі ў лесе пад высокімі дрэвамі. А партызаны ляжалі на саломе ў хатах па дзесяць—дванаццаць чалавек. Лежачы на саломе, партызаны прыпа-

міналі нядаўнюю страшную ноч, прыпаміналі сваіх згубленых той ноччу таварышоў і запявалі песню пра Трансвааль—далёкую і невядомую ім краіну.

Пелі гэтую песню і адыходзячы з хутароў. Ішлі гуськом. Песня пачыналася далёка наперадзе і каціліся хваляй ад першага па ўсяму раду. У песні быў смутак, як і на сэрцы ў кожнага з партызанаў. Яе канчалі і зноў пачыналі пець. З ёю было лягчэй ісці па глыбокім, тугім снезе.

Так дайшоў атрад пад вечар да вёскі, у якой размясціўся і прабыў да сярэдзіны сакавіка дваццатага года.

Аднойчы ў пачатку сакавіка ўвечары, калі стомленыя партызаны ляглі спаць, Каленік пазваў з хаты Віняцкага і пашоў з ім да лесу. На дварэ цемра і мяцеліца. Зрэдку з-за хмар прабіваўся месяц. Ён плыў высока ў хмарах, разрэджваючы цемру. Там лапікамі сінела неба, мігалі праз заслону хмар зоры, а над зямлёй кружыў вецер, гнаў табуны сняжын, засыпаў і так мала пратаптаныя сцежкі. Калі яны прышлі ў лес і апынуліся ў зацішным месцы, Каленік пайшоў зусім паціху.

— Ёсць вельмі важнае заданне,—сказаў ён Віняцкаму.—Вырашана, што мы семнаццатага досвіткам знімемся адсюль і ўдарым з тыла ім, а Чырвоная армія ўдарыць сваімі сіламі з фронта. Ты пойдзеш за Бярэзіну да чырвоных, будзеш прасіць, каб у гэты дзень на нашым участку Чырвоная армія пайшла ў наступ. Адначасовым ударам мы адкінем іх. Калі аб усім будзе ўмоўлена, ты вернешся зараз-жа назад, каб пра ўсё паведаміць нам. Можа не прымуць наш дзень, а вызначаць свой, разумееш? Калі ты і не вернешся, мы ўсё роўна ў гэты дзень пойдзем, ты ім так і скажы. Сядзець нам тут далей, нічога не робячы, няма чаго, а хадзіць па пяць чалавек у тыл ім мала толку.

Яны блукалі па дарозе ў лесе, і Каленік усё гаварыў Віняцкаму пра даручэнне атрада і расказваў, як ісці.

— У кожнай вёсцы ёсць свае людзі. Палякі цяпер будуць рыскаць па ўсіх вёсках, ісці будзе не так лёгка, але скрозь свае людзі, яны сустрэнуць і правядуць далей. Давядзецца быць асцярожным і ў той-жа час давядзецца спяшацца, бо часу застаецца зусім небагата.

Так яны блукалі, пакуль было ўсё ўмоўлена, а тады нейкі час стаялі, прытуліўшыся да дрэва, гаворачы зусім пра іншае. За лесам па-над полем кружыліся белыя табуны сняжын. Угары плыў, несціхаючы, роўны гул ветру, мерна пагойдваліся вершаліны дрэў. Дрэвы скрыпелі, цёрліся адно аб адно і гул па ствале ішоў згары да самай змерзлай зямлі і аддаваўся ў дрэве звонам. Каленік гаварыў пра сваіх дзяцей.

На другі дзень раніцою Віняцкі пайшоў з вёскі, апрануўшыся ў сялянскую адзежу. Каленік правёў яго далёка ў лес і там яны развіталіся. Калі постаць Віняцкага знікла ў лясным гушчары, за цёмнымі стваламі старых дрэў, за густа абсыпанымі снегам кустамі, калі заглухлі яго шагі, а з лесу толькі і можна было пачуць шолахі дрэў, Каленік вярнуўся назад.

На дварэ Каленіку сказалі, што яго чакае незнаёмы. У хаце

сядзеў мужчына гадоў трыццаці васьмі, сярэдняга росту, з даволі вялікімі светлымі вусамі. На ім была сялянская адзежа: кажух, даволі падношаны ўжо, былая салдацкая шапка, напалову аблезлая і на нагах боты. Але пад гэтай адзежай Каленік пазнаў бывалага чалавека.

— Хто ты?

— Я адтуль,—незнаёмы махнуў рукою ў бок глухой сцяны хаты на ўсход.

— Адтуль...—Каленік дапытліва ўглядаўся ў твар яму.—А можа адтуль?—Паказаў рукой у адваротны бок.—Чым ты можаш давесці, што адтуль?

— Шацілу Максіма ведаў?—замест адказу запытаў незнаёмы і з усмешкай зірнуў на Каленіка.

— Максіма?

Каленік адразу прыпомніў свайго камісара палка, з якім быў на калчакоўскім і на дзянікінскім фронце. Ладны ў росце, прыгожы мужчына, артылерыст царскай арміі, ён стаў бальшэвіком, і ў адным з баёў, калі быў забіты камандзір палка, стары афіцэр, узяў на сябе камандаванне палком і вывеў яго з засады, у якую полк было трапіў. Вядома, ён ведаў Максіма Шацілу, ён не адзін раз ляжаў у часе баёў побач з ім на снезе і на мокрай ад дажджоў зямлі.

— Ну, ведаю, а што?

— Я ад яго.

Каленік зірнуў на незнаёмага.

— Чаго глядзіш? А Міцьку Арлоўскага ведаў? Арсенал...

Каленік бліжэй падаўся да госця. Ён і да гэтага бачыў як-бы нешта знаёмае ў твары гэтага чалавека. А цяпер прыпомніў Арлоўскага Міцьку, палкавога ардынарца, які хадзіў больш за ўсіх узброеным, насіў за поясам цяжкі маўзер і гранаты. Вечарамі, дзе даводзілася перадыхнуць у хаце, ён скакаў рускага і барыню, а на яго пакрыкваў камандзір палка, казаў:

— Глядзі, арсенал, узарвешся.

Каленік абняў адной сваёй рукой госця, пацалаваўся з ім, а той адразу-ж, як павіталіся, расхінуў полы кажуха і ўсе здзіўлена зірнулі на ягоны пояс. За поясам быў рэвальвер і чатыры гранаты.

— Я па-старому,—сказаў ён усміхаючыся.—Прывык.

Затым ён перадаў Каленіку ліст ад Шацілы. Шаціла быў камандзірам стралковага палка. Ён пісаў, што дзевятнаццатага сакавіка полк выступіць супроць белапалякаў і прасіў партызан быць гатовымі, каб ударыць у тыл ім. Полк сам вызначаў аперацыю, прасіць аб якой партызаны паслалі Віняцкага.

— А мы сёння правялі свайго чалавека, ён пайшоў да вас. Паслалі прасіць аб гэтым-жа, толькі меркавалі на семнаццатае.

— Што-ж, прыдзе назад.

— Ах, гэта здорава,—сказаў Каленік,—дзякую, брат, за навіны, а то сядзім мы тут без настаяшчага дзела. Час ад часу толькі патрывожым іх з тылу і зноў сюды, ды і не ўсе ходзім па чарзе. Ну, дзякую. А цяпер мы пакормім цябе, нябось выгаладаўся...— І яшчэ дадаў.—Будзе ім цяпер поўная крышка.

Штаб галоўных сіл польскіх войск, якія занялі пасля партызан крапілаўскую воласць, размясціўся ў самай Крапілаўцы. Сюды і быў дастаўлены селянін, якога польскі патруль захапіў на адным хутары, вёрст за дзесяць ад Крапілаўкі. Гэта быў высокі, цёмны з твару чалавек, гадоў трыццаці шасці. Яго прывялі ў штаб і цераз нейкі час даставілі на допыт да афіцэра Нацэвіча. Чалавек быў у парванай лапленай сялянскай свіце. На нагах у яго былі лыкавыя лапці і на галаве далёка не новая шапка-кучомка. Афіцэру паведамілі, што ў гэтага селяніна ў кішэні знайшлі некалькі печаных бульбін і абойму з патронамі. Афіцэр усміхнуўся на гэтае паведамленне. Ён загадаў легіянерам выйсці з габінета, а сам пачаў дапытваць селяніна ў прысутнасці штабнага пісара.

— Чаму ў цябе ў кішэні аказаліся патроны?

— Я падняў іх па дарозе, валяліся ў снезе, я не ведаў, што патронаў нельга насіць у кішэні.

— Угу!—Афіцэр усміхнуўся.—А чаму гэта ты гаворыш не зусім, як тутэйшы?

— Я тут жыву не з так даўных часоў. Я сам паляк, тут застаўся з бежанства.

— Паляк? А чаму партызан?

— Я не партызан, я нічога не ведаю аб партызанах.

— Угу,—зноў прагудзеў афіцэр.—Ты нічога пра партызан не ведаеш?—І ўсё ўсміхаўся.—А ці ты думаеш, я цябе не ведаю, а? Я цябе ўраз пазнаў, пан Віняцкі, і табе няма чаго хавацца. Я рад, што мы з табой сустрэліся. Ты, пэўне, добра разумееш, які канец цябе чакае. Я хацеў-бы спытаць толькі, з якога гэта часу паляк ідзе супроць сваёй бацькаўшчыны і ваюе за Расію, за большэвіцкую Расію? Я гавару так з табой, бо ведаю, ты куды больш разумееш, чым тутэйшыя мужыкі.

— А я хацеў-бы ў сваю чаргу спытаць, з якога гэта часу рускі афіцэр пачаў ваяваць супроць Расіі, за Польшчу?—адказаў селянін.

Афіцэр узлаваў.

— Я з табой не збіраюся жартаваць. Гутарка наша будзе дужа кароткай. Калі ты згодзішся сказаць нам, дзе цяпер партызаны і колькі іх, мы пакінем табе жыццё. Калі не—у расход... Ну?!

Замест адказу селянін спытаў:

— Хай пан скажа, якое сёння чысло?

Афіцэр здзівіўся, але адказаў:

— Сёння семнаццатае, табе што да таго?

— Нічога, я хачу ведаць, якога я чысла загіну,—адказаў селянін.

Гэта ўжо зусім вывела афіцэра з цярпення.

— Што? Ты ўсё жартуеш? Не-е, міленькі, кінь, раней мы пажартуем. Ты памрэш яшчэ не так хутка, і ў дзень, калі будзеш паміраць, я пастараюся зрабіць так, каб ты ўжо не здолеў прыпомніць чысла. Але гэта будзе не сёння. Я цябе так лёгка не пушчу. Мы яшчэ пагаворым з табой, але да таго я пажартую, перад тым я пакажу цябе сваім жаўнерам, хай парагочуць, убачыўшы прадстаўніка магутнага большэвіцкага войска.

Праз некалькі мінут селяніна вывелі на плошчу перад валасным дваром. На плошчы стаялі ў два рады легіянеры. Іх было багата, пэўне, цэлы батальён. Селяніна паставілі перад імі.

— Ён паляк,—сказаў афіцэр, звяртаючыся да легіянераў.—Але ваюе за большэвікоў. Мы запытаем у яго, чаму ён здрадзіў сваёй радзіме?—афіцэр усміхаўся, прадчуваючы вясёлую забаўку.

— Я не здрадзіў сваёй радзіме,—адказаў селянін.—Калі я жыў у Польшчы, я ўсё жыццё рабіў на пана і не меў кавалка хлеба. Мне не патрэбна такая радзіма.

Легіянеры з цікаўнасцю слухалі, што гаворыць селянін. Ніхто з іх не зарагатаў, як таго чакаў афіцэр. І афіцэр толькі сказаў:

— Ага, цікава...

А пасля выняў з кішэні ў селяніна печаную бульбу, паказаў яе салдатам і сказаў да селяніна:

— Ці варта-ж ваяваць за такую радзіму, якая дае толькі печаную бульбу і лапці?

Афіцэр задаволена смяяўся. Яго працаўніку цяжка што-небудзь адказаць. Смяяліся і салдаты, паглядаючы на руку афіцэра, у якой ён трымаў дзве печаныя бульбіны, і на селянінаву адзежу. Селянін зусім спакойны. Ён у сваю чаргу з усмешкай пазірае на афіцэра.

— Ці варта паміраць за гэта?—пытае ў яго афіцэр.

— Я паміраю не за лапці і не за бульбу, а за рэволюцыю, за свабоду, за совецкую ўладу, каб навек пазбавіцца ад лапцей і не жыць адной толькі бульбай.

Эфект і на гэты раз атрымаўся зусім не такі, якога чакаў афіцэр. Усмешка збегла з яго губ. І перасталі смяяцца легіянеры, не разумеючы, чаму іх сагналі слухаць гэтага дзіўнага селяніна. Шалеючы ад злосці, разумеючы, што зрабіў вялікую памылку, афіцэр выхапіў рэвальвер і штурхануў селяніна ў грудзі.

— Зараз я табе пакажу рэволюцыю і совецкую ўладу. Твой язык анямее раней, чым ты паспееш прасіць аб літасці.

А Віняцкі ўсміхаўся, пазіраючы на афіцэра.

— Пабачым, як ты засмяешся там, у сутарэнні.

— Іншага я ад цябе і не чакаю,—спакойна сказаў Віняцкі і пайшоў, абкружаны канвоем.

Яго прывялі ў цёмнае сутарэнне пад будынкам валасці і заперлі там. Гэта была халодная яма, выкладзеная каменнем. Праз вузкую дзірку ўгары, забітую жалезнымі кратамі, якая замяняла акно, сюды прабівалася з двара цмянае святло і ўрываўся халодны вецер і снег. Холадам з усіх бакоў несла і ад настыўшага камення. І каб сагрэцца, Віняцкі ўвесь час хадзіў па сутарэнню з кута ў кут.

На змярканні ў сутарэнне прышоў Нацэвіч і тры жандармы. Адзін з жандармаў прынёс запалены ліхтар і паставіў яго на падлозе каля дзвярэй. Цмянае святло ліхтара разрэдзіла цемру ў сутарэнні, а цемра за акном стала ад гэтага яшчэ гусцейшай. На момант святло ліхтара асляпіла Віняцкага, і ён спыніўся на самай сярэдзіне сутарэння. Калі ён раскрыў вочы, убачыў перад сабой Нацэвіча.

— Раю гаварыць, пакуль не знямеў язык,—сказаў Нацэвіч.

Віняцкі маўчаў. Ён думаў пра сваіх таварышоў. Дзевятнаццатага яны прыдуць і выратуюць яго, калі да гэтага часу яго не застрэліць гэты ганарлівы паручык. Віняцкі міжвольна зірнуў на Нацэвічавы рукі, на яго сціснутыя ў кулакі хударлявыя пальцы. Дзевятнаццатага. Гэта ўсяго дзве ночы і дзень, паўтара сутак. Зусім небагата часу. І жартуючы, Віняцкі запытаў:

— Калі-ж пан паручык выправіць мяне на той свет?

Нацэвіч нічога не адказаў. Ен моўчкі ударыў Віняцкага кулаком у твар. Удар быў не сільны і Віняцкі сказаў:

— Эй ты, панок, кінь драпацца, ты не ўмееш біць. Загадай ім хіба.

Віняцкі паказаў рукой на жандармаў, якія набліжаліся да яго. Яны падышлі ўсе трое і амаль разам ударылі ў твар і ў грудзі. Віняцкі закрыў твар рукамі, падаўся да сцяны і стаў абапёршыся на сцяну, каб не адразу ўпасці. Яго білі ў твар і ў грудзі, а ён стаяў на шырока расстаўленых нагах, усё мацней сціскаючы сківіцы, каб не застагнаць, і паваліўся на слізкае, абледзянелае каменне, калі страціў прытомнасць. Тады жандармы спыніліся, а Нацэвіч яшчэ некалькі разоў ударыў яго нагой і загадаў жандармам прынесці вады.

Жандармы не адразу зразумелі, чаго хоча афіцэр. Ён паўтарыў загад.

— Некалькі вёдзер вады,—сказаў ён.

Калі ваду прынеслі, Нацэвіч загадаў пасадзіць Віняцкага ў куце пры сцяне і сам старанна abліў яго вадой. На ноч браўся мароз. Адзежа Віняцкага, аблітая вадой, пачала змярзацца. Мінут цераз пятнаццаць Нацэвіч гэтак-жа старанна выліў на Віняцкага яшчэ два вядры вады і пакінуў яго толькі тады, калі адзежа Віняцкага і валасы на яго галаве абледзянелі.

Збіты да поўсмерці, абледзянелы, амаль увесь час без памяці, Віняцкі праляжаў у сутарэнні паўтара сутак, пакуль яго знайшлі і выратавалі таварышы.

---

Партызаны выйшлі насустрач дню. Далёкае зорнае неба было чыстым ад хмар. У небе высока стаяў, як у дазоры, месяц з абсечаным краем. Цёплыя прадвясенныя дні змяніла марозная ноч. Мароз апрануў дрэвы ў срабрыстыя вопраткі шэрані, і яны нерухома стаялі, урачыста велічныя ў сваім убранні. Шэрань лягла і паверх снегу на дарозе, асыпаўшыся з дрэў, і там, дзе дарогу не засланяў цень, яна ўся іскрылася.

Лес праз нейкі час змяніўся вялізнай палянай, а пасля балотнымі хмызнякамі. Па балоту ісці было цяжка: багна балотная амаль не замярзала і на зіму, ногі правальваліся ў ваду пад снегам. Часам той або іншы з партызан правальваўся ў балота па самыя грудзі. Да яго кідаліся таварышы і выцягвалі за рукі, а калі нельга было падступіцца, падавалі яму вінтоўку і так выратоўвалі з багны, а заднія тады асцярожна абыходзілі небяспечнае месца.

Так дзвесце шэсцьдзесят партызан выйшлі самым ранкам да

ляска, на ускраіне балот, непадалёк ад Крапілаўкі. Над небасхілам на ўсходзе палыхала зарава дня. Над далёкім усходам праплывала дрыглівая палымнеючая сінява. Здавалася, вось-вось прарвецца яна і агнямі разальецца па ўсяму свету. А высока ў небе, куды не даходзіла зарава, усё яшчэ нерухома стаяў, як у дазоры, зблякнелы месяц.

Партызаны спыніліся ў ляску, каб адпачыць. Яны закурвалі, узбуджана гаманілі і то адзін, то другі прабіраліся на ўскрай лесу, каб адтуль непрыкметна зірнуць на блізкія стрэхі крапілаўскіх хат. Партызаны збіраліся групамі. Ад аднае групы да другой хадзіў радасна ўзбуджаны Календік. За два месяцы жыцця па хутарах ён аброс барадою, і партызаны-юнакі цяпер часцей звалі яго проста дзядзькам.

— Акурат на снеданне, хлопцы, дома будзем,—казаў ён спыняючыся перад крапілаўскімі.—А да полудня і пераспім крыху.

Ён думаў пра блізкае спатканне з дзецьмі. Нябось Валька вунь як падрасла ўжо, зусім гаспадыня ў хаце. І хлопцы падраслі. Яны абшчапераць бацьку за шыю і доўга не выпусцяць яго з хаты. Календік ведаў, як дапытвалі дачку палякі. Ён увесь час думаў цяпер толькі пра яе і хацеў як мага хутчэй убачыць яе. Узнімалася пачуццё незразумелай трывогі і пачынала непакоіць яго. Ён пазваў Міцьку Арлоўскага і нібы для таго, каб паказаць яму, што зусім блізка яго сяло, павёў на ўскрай лесу. Адтуль яны ўбачылі стрэхі крапілаўскіх хат. Хаты табуном сышліся ў лагчыне і толькі воласць і папоў дом ды ў баку яшчэ дом Нацэвіча, высіліся на ўзгорку над усім сялом. Дзе-ні-дзе над стрэхамі высока ўздымаліся слупы шызага дыму і непрыкметна расплываліся ўгары. Календік паказваў у бок сяла рукою і ўсё гаварыў, каб заглушыць у сабе раптам узнікшую трывогу. Ён паказваў на стрэхі хат, гаварыў, чыя дзе хата, прыгадваў розныя здарэнні з далёкага дзяцінства свайго і з дзяцінства крапілаўцаў, якія сталі партызанамі.

У гэты час за балотамі, над далёкім лесам, усплыло залатым сваім краем сонца і брызнула на зямлю святлом першых промняў.

— Цяпер будзем чакаць сігналу,—сказаў Календік і раптам змоўк.

Яны доўга стаялі з Арлоўскім, углядаючыся ў цёмную сінявую паску лесу за крапілаўскім полем. Адтуль будзе ісці семдзесят другі стралковы полк. Ён непрыкметна выйдзе ў поле і, разгарнуўшыся фронтам, падасць партызанам сігнал ісці ў бой. Сігнал убачылі хутка, як вышаў з-за небасхіла поўны круг сонца. Адна за другой узляцелі ў неба дзве ракеты і, накрэсліўшы на блакіце неба дугу, рассыпаліся нябачнымі іскрамі. А за гэтым адзін за другім пачуліся чатыры стрэлы. Тады Календік з Арлоўскім кінуліся да сваіх. Атрад яшчэ да таго разбілі на тры групы: Самую большую павёў Арлоўскі з боку рэчкі, каб ударыць палякам у тыл. Другая, меншая група, пайшла проста на сяло з боку балот, а сам Календік з кулямётчыкам і пяцёра партызан накіраваліся паўз бераг рэчкі да маста, які палякі часова аднавілі, і заселі там за кустамі.

Лёд на рэчцы не трывалы. Кінуўшыся ўцякаць, легіянеры пабягуць да мосту і тады ім можна будзе адпомсціць за ўсё.

— Мы сустрэнем іх яшчэ ў полі,—сказаў кулямётчыку Каленік,— а тут расквітаемся з імі канчаткова.

Яны ляжалі на ўзгорку. Перад вачыма поле, лапікамі чорнае ўжо, без снегу. На ўзгорках зусім няма снегу. Яны асветлены сонцам. І гэта нагадвае Каленіку дзяцінства. Як ніколі ён цяпер усё да дробязей прыпамінае з перажытага ў дзяцінстве, нават тагочасныя адчуванні.

Расцягнуўшыся ланцугом, паўз рэчку беглі партызаны, якіх павёў Арлоўскі. Ад ляска, гэтак-жа рассыпаўшыся, згінаючыся, мо' ад таго, што цяжка было бегчы па снезе і няроўнаму полю, прабіраліся партызаны другой групы, а далёка ў полі замільгалі постаці чырвонаармейцаў. І адразу-ж прагучэлі першыя стрэлы трывогі ў сяле. Палякі не чакалі такога нападу, ды яшчэ самым ранкам. Узняўшы трывогу, легіянеры кінуліся з сяла да рэчкі, а пасля, змеціўшы і там партызан, пачалі прарывацца паміж валаснной плошчай і маёнткам. Кожны з іх думаў цяпер, як-бы прабіцца да моста. Усяго тры вярсты і мост, а там, хто прарвецца, будзе выратаваны. Кулямётным агнём яны здолелі прабіць сабе дарогу і вышлі ў поле. Каленік бачыў, як беглі яны адстрэльваючыся, стараючыся затрымаць партызан, каб даць адыйсці ўсім сваім. Калі яны беглі ўжо ад групы Каленіка на адлегласці метраў у чатыраста, ён хапіў кулямётчыка за плячо і падаў яму ў руку кулямётную ленту, а сам лёг да кулямёта і пачаў страляць. Ён бачыў, як уздрыгвае кулямёт і павольна накіроўваў яго, прымушаючы легіянераў разбягацца па полю і класціся на зямлю. Пасля яны паставілі свае два кулямёты і адказалі Каленіку агнём. Цяпер трэба было прымусіць змоўкнуць польскія кулямёты. Каленік пачаў страляць па кулямётах. Некалькі секунд і кулямётны адказны агонь аслабеў, адзін з кулямётаў замоўк, але другі перашкаджаў перагарадзіць агнём дарогу адыходзіўшым на мост. А ў гэтую хвіліну паў на снег яго другі нумар. Можна было клікнуць аднаго з чырвонаармейцаў, але іх было ўсяго пяць чалавек побач з Каленікам і ён нічога не сказаў. Ён страляў адзін, час ад часу беручы зубамі патронную ленту, каб накіраваць яе. Урэшце змоўк і другі польскі кулямёт, астаўшыся чарнець на снезе. Гэта абрадавала Каленіка. Цяпер уся ўвага на тых, якія беглі, прарываючыся да моста. Каленік страляў, шукаючы сярод легіянераў іхных афіцэраў. Часцей зататахкаў кулямёт. Але раптам змоўк. На гэты раз Каленік клікнуў на дапамогу партызана. Кулямёт заела. Ён адмовіўся страляць, а Каленік убачыў зусім блізка Нацэвіча. Яшчэ момант і той узбяжыць на мост. Каленік адштурхнуў ад сябе цяжкое цела кулямёта ў бок, узняўся на ногі і ўскінуў рэвальвер, мецячыся ў афіцэра. Калі прагрымеў стрэл, Каленік адчуў, як хіснулася пад нагамі ў яго зямля. Ён ускрыкнуў. Перад вачыма ў яго калыхнулася, уздымаючыся ўгору, шырокае, усё ў шэрых плямінах поле і дзесьці ўгары мільганулі стрэхі крапілаўскіх хат. Пасля рынулася ўніз глыбокая сіняя бездань неба і з яго палілося сонечнае святло. Яно асляпіла Каленіка і ў той-жа час на момант ён адчуў тварам цяплынь сонца і холад снегу.

---

У вуліцы перад Каленікавым дваром вялізным натоўпам стаялі сяляне—крапілаўскія і з іншых вёсак і сярод іх чырвонаармейцы з вінтоўкамі і партызаны.

Цяжка параненага Каленіка вынеслі з хаты і паклалі ў шырокія сані, засланыя свежай саломай. Яго неслі двое партызан і даўні яго таварыш па дзянікінскаму і калчакоўскаму фронту Максім Шаціла, камандзір семдзесят другога стралковага палка.

Калі неслі Каленіка з хаты, ён пацiху стагнаў, а цяпер моўчкі ляжаў у санях з адкрытымі вачыма, даўгі і шырокаплечы, і толькі зрэдку заплюшчваў вочы і сціскаў сківіцы. Побач стаяла яго дачка. Зусім нядаўна бацьку яе прынеслі былі ў хату. Яна спужалася, убачыўшы яго і дагэтуль не здолела апамятацца. Яна стаіць нерухомая і маўклівая, разглядаючы такі знаёмы бацькаў твар, яго крыху прыжмураныя вочы і вялізную руку з агрубелымі ад працы пальцамі, сабранымі ў кулак.

Калі праз некалькі мінут пара армейскіх коней скранулі з месца сані і таропка пайшлі, перабіраючы капытамі шчыльна ўтоптаны снег, каленікава дачка і камандзір палка пайшлі побач з санямі і за імі пайшлі за сяло ўсе, хто быў у вуліцы.

За сялом на момант коней спынілі, каб паправіць пад галавой у Каленіка падушку. У гэты час далёка з левага боку за рэчкай прагрымелі гарматныя стрэлы. Яны ўсіх прыкавалі да месца і прыўзнялі з падушкі Каленіка. Ён абапёрся на локаць і прыўзняў галаву, а прыслухаўшыся кіўнуў галавой дачцэ.

— Не бядуй, Валюшка, у горадзе я ўраз залатаю галаву і прыеду, буду біць іх яшчэ і на тым баку.

Ён кіўнуў галавой у бок рэчкі, усміхнуўся і апусціў галаву на падушку.

Свяціла сонца, усё была запалонена яго святлом. Сяляне пастаялі на месцы і пачалі разыходзіцца, а каленікава дачка яшчэ доўга стаяла на месцы, блукаючы поглядам у іскрыстай белай далечыні, па якой паімчаліся коні. Побач з ёй стаяў Максім Шаціла. Ён углядзеўся ў яе твар, у спакойныя і суровыя яе дзяцінныя вочы і сказаў да яе:

— Бацька твой сапраўдны чалавек...

А пасля дадаў, калі яна зірнула ў твар яму шырока раскрытымі вачыма.

— Я гэта ведаю, мы разам з ім ляжалі ў акопах...

Шырока раскрытыя вочы дзеўчынкі заіскрыліся. Ледзь прыкметная ўсмешка кранула яе вусны. Шаціла Максім нічога больш не сказаў, а ўзняў галаву і пайшоў моўчкі, пазіраючы ў далячынь, якая раптам затуманілася і задрыжэла.

Мар'іна Горка 1936—1937

---

*А. С. Пушкін*

# БАРЫС ГАДУНОЎ *)

## КРАКАЎ. ДОМ ВІШНЯВЕЦКАГА

Самазванец і Pater**) Чарнікоўскі

Самазванец

Не, мой айцец, нішто не перашкодзіць:
Я ведаю майго народу дух;
Ён, верачы, за край не пераходзіць:
Узор цара—святы для царскіх слуг.
Яшчэ-ж, нішто цярплівых не кранае.
Ручаюся, што не міне двух год,
І мой народ, уся царква Паўночы,
Намесніка Пятра уладу прыме.

Pater

Хай будзе нам святы Ігнат падмогай,
У цяжкія часіны іншых дзён.
А покуль што, вялікай ласкі бога
Расці ў душы, царэвіч, добры плён;
Няшчырым быць перад шалёным светам
Нам іншы раз наш абавязак кажа;
Учынак твой і словы судзяць людзі,
А твой намер адзіны бачыць бог.

Самазванец

Amen***). Хто там?

(Уваходзіць слуга)

Сказаць, што мы прымаем

(Адчыняюцца дзверы; уваходзіць натоўп рускіх і палякаў)

Таварышы! Назаўтра выступаем
Мы з Кракава. Я, Мнішак, у цябе
Спыняюся ў Самборы дзён на тры.

---

*) Пачатак гл. у № 4 „Полымя рэволюцыі“.
**) Айцец, свяшчэннік.
***) Амін.

Я ведаю, што твой гасцінны замак
І пышнасцю шляхетнаю вядомы
І славіцца прыгожай гаспадыняй.
Чароўную Марыну спадзяюся
Пабачыць там. А вы, мае сябры,
Літва і Русь, вы, брацкія штандары
Узняўшыя на ворага майго,
На нашага супольнага злачынца,
Сыны славян, я скора павяду
У жаданы бой адважных вас дружыны.
Але між вас людзей я новых бачу.

Гаўрыла Пушкін

Яны прышлі да светласці тваёй
Прасіць мяча і службы.

Самазванец

Рад вам, дзеці,
Ка мне, сябры.—А хто, скажы мне, Пушкін,
Прыгожы той?

Пушкін

Князь Курбскі.

Самазванец

Імя знатных!
(*Да Курбскага*). Ты не сваяк казанскаму герою?

Курбскі

Я сын яго.

Самазванец

Ён 'шчэ жыве?

Курбскі

Памёр.

Самазванец

Вялікі быў і ў бітвах і ў нарадах!
Ды з тых часоў, калі з'яўляўся ён,
Адпомсціцца за крыўды свае люта,
З літоўцамі пад даўні горад Вольгі,
Слых пра яго спыніўся.

Курбскі

Бацька мой
Канец жыцця праводзіў на Валыні
У маёнтках тых, што дораны яму
Баторыем. Спакойна на самоце
Уцехі ён шукаў сабе ў навуках;
Але яго занятак той не цешыў:
Ён юнасці сваёй айчыну помніў
І да канца па ёй ён сумаваў.

Самазванец

Няшчасны князь! як ярка запалаў
Усход яго мяцежнага жыцця.
Я вельмі рад, вялікародны рыцар,
Што кроў яго змірылася з айчынай.
Віны бацькоў не трэба ўспамінаць;
Спакойны ім спачын! Руку дай... Курбскі!
Хіба не дзіў? сын Курбскага вядзе
На трон, каго? ды—сына Іаана!..
Усё: і лёс, і людзі за мяне.
Ты хто такі?

Паляк

Сабаньскі, шляхціц вольны.

Самазванец

Хвала і чэсць табе, дзіця свабоды!
Наперад даць яму трацiну платы.
А гэта хто? я пазнаю на іх
Зямлі сваёй уборы. Гэта нашы.

Хрушчоў *(б'е чалом)*

Так, гасудар, айцец наш. Мы твае
Старанныя, загнаныя халопы.
З Масквы, наш цар, апальныя прышлі
Мы да цябе, і за цябе паляжам
Галовамі, хай будуць нашы трупы
На царскі трон прыступкамі табе.

Самазванец

Мужайцеся, пакутныя нявінна,—
Каб толькі мне дабрацца да Масквы,
А там Барыс расплаціцца за ўсё.
Ты хто?

Карэла

Казак. Мяне паслалі з Дона
Ад вольных войск, ад смелых атаманаў,
Ад казакоў вярховых і нізовых,
У ясныя царовы глянуць вочы
І кланяцца табе іх галавамі.

Самазванец

Я ведаў Дон. Не сумняваўся бачыць
У шэрагах данскія бунчукі.
Мы дзякуем сваймү данскому войску.
Вядома нам, што сёння казакі
Неправедна прыгнечаны, загнаны;
Але калі паможа бог ступіць
На трон бацькоў, дык мы, як і даўней,
Наш верны Дон узнагародзім зноў.

Паэт (*наближаецца, кланяючыся нізка і хапаючы Грышку за крысо*)

Вялікі прынц, вяльможны каралевіч!

Самазванец

Што хочаш ты?

Паэт (*падае яму паперу*)

З прыхільнасцю прыміце
Мой бедны плён старраннае работы.

Самазванец

Што бачу я? Латынскі стройны верш!
Сто раз святы саюз мяча і ліры,
Адзін вянок іх дружна абвівае.
Пад небам я паўночным нарадзіўся,
Ды мне знаём латынскай музы голас,
І кветкі я парнаскія люблю.
Я верую ў прароцтва слоў паэтаў.
Не марна, не, у іх грудзях гарачых
Кіпіць запал: благаславіцца подзвіг,
Які яны праславілі заўчасна!
Друг, падыйдзі. На памяць аб сустрэчы
Прымі мой дар.

(*Дае яму пярсцёнак*)

Калі са мною стане,
Што лёс судзіў, калі карону продкаў
Надзену я,—пачуць зноў спадзяюся
Твой дзіўны гімн, салодкі голас твой.

Musa gloriam coronat, gloriaque Musam*)
І так, сябры, бывайце, да спаткання.

Усе

Паход, паход! Няхай жыве Дзімітры,
Няхай жыве вялікі князь маскоўскі!

---

## ЗАМАК ВАЯВОДЫ МНІШАК У САМБОРЫ

(Рад асветленых пакояў. Музыка)

Вішнявецкі, Мнішак.

Мнішак

Ён гутарыць з адной маёй Марынай,
Марынаю адной заняты ён...
А справа страх падобна на вяселле;
Ну—думаў ты, прызнайся, Вішнявецкі,
Маю дачку царыцай бачыць? а?

Вішнявецкі

Шмат дзіўнага... а ты ці думаў, Мнішак,
Што мой слуга на трон маскоўскі ўзыйдзе?

Мнішак

Але, скажы, мая дачка якая!
Я толькі ёй прамовіў: ну, глядзі!
Не выпускай Дзімітрыя!.. І вось
Гатова ўсё. Ён у яе руках.

(Музыка іграе Польскі. Самазванец ідзе з Марынаю ў першай пары).

Марына (*ціха Дзімітрыю*)

Так, вечарам, у адзінаццаць заўтра
У ліпавых прысадах ля фантана.

(Разыходзяцца. Другая пара)

Кавалер

Што ў ёй знайшоў Дзімітры?..

---

* Муза вянчае славу, і слава—Музу.

Дама

Як! Яна
Прыгожая.

Кавалер

Мармуравая німфа:
Няма жыцця ні ў вуснах ні ў вачах...

(Новая пара)

Дама

Ён без красы, але прыемны выгляд,
І царская парода ў ім відаць.

(Новая пара)

Дама

Калі-ж паход?

Кавалер

Калі царэвіч скажа.
Гатовы мы; ды пэўна панна Мнішак
З Дзімітрыем нас забярэ ў палон.

Дама

Нішто палон.

Кавалер

Бясспрэчна, калі вы...

(Разыходзяцца. Пакоі пусцеюць).

Мнішак

Мы больш цяпер, старыя, не танцуем:
Мазуркі гром не заклікае нас,
Чароўных рук не ціснем, не цалуем—
Ох, помню я забавы ў даўні час!
Цяпер не так, як некалі бывала:
Адвагі той не мае маладосць,
І у красы не тая весялосць—
Прызнайся, друг: усё нейк заняпала,
Пакінем іх; хадзем, таварыш мой,
Венгерскага, аброслую травой
Адчыняць нам бутэльку векавую,
Удвух яе паціху разап'ем—
Пахучую, іскрыстую, густую,—

А паміж тым гаворку павядзем.
Хадзем-жа, брат.

Вішнявецкі

І праўда, друг, хадзем.

---

### НОЧ. САД. ФАНТАН.

Самазванец (*уваходзіць*)

Вось і фантан; яна сказала—тут.
Здаецца, я не палахлівы з роду;
Перад сабой паблізу бачыў смерць,
Душа мая і там не задрыжала.
Мне вечная няволя пагражала,
За мною гналіся—я не збаяўся
І смеласцю няволю абмінуў.
А што-ж цяпер мае сціскае грудзі?
Што значыць страх непераможны гэты?
Ці гэта дрож напружаных жаданняў?
Не—гэта страх. Я цэлы дзень чакаў
З Марынаю таемнага спаткання,
Абдумываў усё, што ёй скажу,
Як спакушу ганорную яе,
Як назаву маскоўскаю царыцай—
А час прышоў—нічога і не помню.
Завучанай прамовы не знаходжу;
Каханне мой бунтуе розум...
Але там штось мільгнула... шэлест... ціха...
Не, гэта бляск зманлівага святла
І прашумеў тут вецярок.

Марына (*уваходзіць*)
Царэвіч!

Самазванец

Яна!.. Аж кроў уся ва мне застыла.

Марына

Дзімітры! Вы?

Самазванец

Чароўны, дзіўны голас!
(*Ідзе да яе*). Ці гэта ты? Ці гэта ты стаіш?
Адна са мной, пад сховам ціхай ночы?
Як здоўжыўся мне гэты нудны дзень!
Як здоўжыўся мне сёння захад сонца!
Як доўга я чакаў у цемры ночы!

Марына

Мінае час, а мне ён вельмі дораг—
Я тут табе прызначыла спатканне
Не для таго, каб слухаць словы ласкі
Каханага. Слоў не патрэбна. Веру,
Кахаеш ты; ды слухай: я рашыла
З таваёю доляй, бурнай і няпэўнай,
Злучыць сваю; а, значыць, маю права
Патрабаваць, Дзімітры, аднаго:
Я патрабую, каб раскрыў цяпер
Душы сваёй мне тайныя надзеі,
Намеры ўсе і нават небяспеку,
Каб я магла з табою поплеч смела
Пайсці ў жыццё—не дзіцянём сляпым,
Не як раба жаданняў лёгкіх мужа,
Наложніца маўклівая твая,
Але як вартая цябе супруга,
Памочніца маскоўскага цара.

Самазванец

О, дай-жа мне забыцца хоць на час
Пра клопаты маёй трывожнай долі,
Забудзься і сама, што бачыш ты
Царэвіча. Марына! бач ва мне
Каханага, што выбраны табою,
Што поглядам тваім адным шчаслівы.
О, выслухай маё маленне ты,
Дай выказаць усё, што поўніць сэрца.

Марына

Цяпер не час. Марудзіш ты—між тым
Прыхільнікаў тваіх адданасць стыне,
А цяжкасці і клопаты шточас
Становяцца ўсё большымі й цяжкімі,
Ужо ідзе няпэўных многа чутак,
І навізна змяняе навізну;
А Гадуноў свае ўжывае меры.

Самазванец

Што Гадуноў? Ці-ж мае ён уладу
Над радасцю маёй, тваім каханнем?
Не, не. Цяпер гляджу я абыяка
На трон яго, на царскае ўладарства.
Тваё каханне... Што мне без яго
Жыццё і трон і руская дзяржава?
У стэпу, у зямлянцы беднай—ты,
Ты мне заменіш царскую карону;
Тваё каханне...

Марына

Сорам! Памятай
Высокае святое прызначэнне:
Табе твой сан быць мусіць даражэй
За радасці, за земныя спакусы,
Яго ні з чым не можаш ты раўняць.
Не юнаку мяцежнаму, бязмерна
Зачараванаму маёй красой,
Я аддаю руку ўрачыста, ведай,
Наследніку маскоўскае кароны,
Царэвічу, якога збавіў лёс.

Самазванец

Не муч мяне, чароўная Марына,
Не гавары, што сан, а не мяне,
Ты выбрала. Марына! ты не знаеш,
Як моцна тым ты сэрца раніш мне!
Няўжо, калі-б... о страшнае сумненне!
Скажы: калі-б не царам нарадзіцца
Прызначыла святая доля мне,
Калі-б я быў не Іаанаў сын,
Не той, даўно забыты светам хлопчык,
Тады-б... тады-б кахала ты мяне?

Марына

Дзімітры ты і быць другім не можаш;
Другога нельга мне кахаць.

Самазванец

Не! досыць:
Я не хачу дзяліцца з няжывым
Каханкаю, належачай яму.
Не, досыць прытварацца мне! Скажу
Усю праўду я; дык ведай: твой Дзімітры
Даўно прапаў, закопан—і не ўскрэсне;
А хочаш ведаць ты, хто я такі?
Ну, што-ж; скажу: я бедны чорнарызнік;
Сумуючы ў няволі манастырскай,
Пад клабуком, свой замысел адважны
Абдумаў я; здзівіць свет меўся цудам—
І ўрэшце-рэшт уцёк з манастыра
У бурныя курэні украінцаў.
Валодаць шабляй і канём наўчыўся;
Прышоў сюды; Дзімітрыем назваўся
І палякоў бязглуздых ашукаў.
Што скажаш ты, пыхлівая Марына?
Здаволена прызнаннем ты маім?
Што-ж ты маўчыш?

Марына

О сорам! о гора мне!

(Маўчанне)

Самазванец (*ціха*)

Куды завёў мяне запал мой прыкры!
Здабытае з такім цяжарам шчасце
Я, можа быць, навекі загубіў?
Што я зрабіў, шалёны! (*Уголас*). Бачу,
бачу:
Саромішся, што пакахаў не князь,
Дык вымаві-ж ты мне прысуду слова;
Мой лёс цяпер залежыць ад цябе,
Судзі: я твой. (*Кідаецца на калені*).

Марына

Ўстань, бедны самазванец,
Ты думаеш, што стаўшы на калені,
Як дзеўчынкі даверлівай і слабай
Ганорлівасць душы маёй расчуліш?
Мыляешся: ля ног маіх не мала
Было графоў і рыцараў шляхетных;
Я просьбы іх спакойна адхіліла,
Не для таго, каб збеглага манаха...

Самазванец (*устае*)

Не пагарджай, Марына, самазванцам;
Магчыма ў ім затоена адвага,
Што вартая маскоўскае кароны,
Што вартая рукі тваёй каштоўнай...

Марына

А можа вартая пятлі ганебнай!

Самазванец

Я вінават: апанаваны пыхай,
Ашукаваў я бога і цароў,
Хлусіў усім; ды не табе, Марына,
Мяне караць; табе казаў я праўду.
Не, я не мог ашукаваць цябе.
Ты мне была адзінаю святыняй,
А перад ёй не мог я прытварацца.
Каханне ўсё, раўнівае, сляпое,
Адно яно прымусіла мяне
Усё выказаць.

Марына

Чым хваліцца шалёны!
Хто вымагаў прызнання ад цябе?
Калі ўжо ты, брадзяга безыменны,
Мог ашукаць дзівосна два народы,
Дык мусіш сам ужо, прынамсі, ты
Быць вартым поспехаў сваіх тады
І свой падман адважны забяспечыць
Упартаю, глыбокай, вечнай тайнай.
Ці-ж я магу даверыцца табе,
Ці-ж я магу злучыць свой лёс з тваім,
Забыўшы род і сорам свой дзявочы,
Калі ты сам з такою прастатой,
І лёгка так свой сорам выкрываеш?
Ён, кажа, мне прызнаўся праз каханне!
Дзіўлюся: як перад маім айцом
Дагэтуль ты па дружбе не прызнаўся,
Ад радасці прад нашым каралём,
Альбо яшчэ прад панам Вішнявецкім
Па шчырасці стараннага слугі.

Самазванец

Я прысягну табе, што з майго сэрца
Ты вымучыць адна магла прызнанне.
Я прысягну: ніколі і нідзе,
А ні за чараю ў час балявання,
Ні ў гутарцы сардэчнай і сяброўскай,
Ні пад нажом, ні ў муках катаванняў
Вось гэтых тайн не выдасць мой язык.

Марына

Ты прысягнеш! І так мне трэба верыць.
О, веру я! а чым, ці нельга ведаць,
Клянешся ты? а ці не імем бога,
Як пасынак набожны езуітаў?
Ці гонарам, нібы шляхетны рыцар,
Ці, можа быць, адзіным царскім словам,
Як царскі сын? Хіба не так? Кажы.

Дзімітры (*горда*)

Здань Грознага мяне пасынавіла,
З труны імя Дзімітрыя дала,
У ахвяру мне Барыса асудзіла,
Вакол мяне народы узняла—
Царэвіч я. Даволі, сорам мне
Ад гордае палячкі мець знявагу.

Бывай навек. Гульня вайны крывавай
Ї клопаты маёй вялікай долі
Кахання сум, я думаю, заглушаць.
О, як цябе я стану ненавідзець,
Калі міне ганебны жар кахання!
Цяпер іду—пагібель ці вянок
Чакае там мой голаў у Расіі,
Ці стрэну смерць у бітве, як ваяка,
Ці на пляцы загіну, як злачынец,
Не будзеш ты сяброўкаю маёй,
Майго са мной ты не падзеліш лёсу;
Ды, можа стаць, што будзеш шкадаваць
Ты долі той, якую адхіліла.

Марына

А што калі нахабны твой падман
Я загадзя раскрыю прад усімі?

Самазванец

Ты думаеш, што я цябе баюся?
Што больш усе паверацъ польскай панне,
Як рускаму царэвічу? Дык ведай,
Што ні кароль, ні папа, ні магнаты
Не думаюць аб праўдзе слоў маіх.
Дзімітры я, ці не—што ім за справа?
Але я грунт для спрэчак і вайны.
Їм гэта вось і трэба, і цябе,
Мяцежніца, павер, маўчаць прымусяць.
Бывай.

Марына

Пастой, царэвіч. Вось цяпер
Я чую сказ не хлопца, а мужчыны.
Ї гэта, князь, мяне з табою мірыць.
Запальчывасць тваю табе дарую
Ї бачу зноў Дзімітрыя. Ды—слухай:
Пара, пара! прачніся, больш не думай.
Вядзі палкі паспешна на Маскву,
Ачысці Крэмль, сядай на трон
маскоўскі—
Тады ка мне шлі шлюбнага пасла; ты
Ды—чуе бог—пакуль твая нага
На тронныя ступені не ступіла,
Пакуль табой не скінут Гадуноў,
Кахання слоў не буду слухаць я.

(Выходзіць)

Самазванец

Не—мне лягчэй змагацца з Гадуновым,
Альбо хітрыць з прыдворным езуітам,
Як з дзеўчынай—чорт з імі; сіл няма:
І блытае, і ўеццца, і паўзе,
Слізгоча з рук, сіпіць і пагражае.
Змяя, змяя!.. Не дарам я дрыжаў.
Яна мяне ледзь-ледзь не загубіла.
Але канец: назаўтра рушу рацъ.

---

## *ГРАНІЦА ЛІТОЎСКАЯ*

## *(1604 года, 16 кастрычніка)*

Князь Курбскі і Самазванец, абодва верхам. Палкі набліжаюцца да граніцы.

Курбскі *(прымчаўшыся першы)*

Вось, вось яна! вось руская граніца!
Святая Русь, радзімы край! я твой!
Чужыны пыл з пагардай атрасаю
Ад ног маіх, п'ю смагла подых новы:
Ён родны мне! цяпер твая душа,
О, бацька мой, уцешыцца, ў магіле
Апальныя абрадуюцца косці.
Забліскаў зноў наш прадзедаўскі меч,
Наш слаўны меч, гразьба Казані цёмнай,
Наш добры меч, слуга цароў маскоўскіх.
Цяпер ізноў пачне ён баляванне
За нашага гасудара-надзею!..

Самазванец (*едзе ціха, апусціўшы галаву*)

Шчаслівы ён! як чыстая душа
У ім радасцю і славай загуляла!
О, рыцар мой! зайздрошчу я табе.
Сын Курбскага, узрошчаны ў выгнанні,
Забыўшыся на ўсё, што вынес бацька,
Яго віну скупіўшы за магілай,
Ты кроў праліць за сына Іаана
Рыхтуешся; законнага цара
Вярнуць сваёй краіне.. Праўда, князь,
Душа твая павінна быць вясёлай.

Курбскі

Няўжо і ты не радуешся духам?
Вось наша Русь: яна твая, царэвіч,
Чакаюць там цябе людскія сэрцы:
Твая Масква, твой Крэмль, твая дзяржава.

Самазванец

Кроў руская, о Курбскі, пацячэ!
Вы за цара паднялі меч, вам добра.
Я-ж на братоў вяду вас; я Літву
Пазваў на Русь; у родную Маскву
Я ворагам паказваю дарогу!..
Няхай мой грэх падзе не на мяне,
А на цябе, Барыс-царазабойца!
У бой!

Курбскі

У бой! і гора Гадунову!

(Імчацца. Палкі пераходзяць граніцу)

---

## *ЦАРСКАЯ ДУМА*

Цар, патрыярх і баяры.

Цар

Ці-ж можа быць? манах, растрыга збеглы
На нас вядзе злачынныя дружыны,
Дзярзае нам пісаць пагрозы! Годзе,
Вар'ята час уціхамірыць! Едзьце,
Ты, Трубецкой, і ты, Басманаў; помач
Цяпер маім патрэбна ваяводам.
Бунтаўшчыкі Чарнігаў абступілі.
Ратуйце люд і места.

Басманаў

Гасудар,
Трох месяцаў не пройдзе з гэтых дат,
І замаўчыць і слых пра самазванца;
Яго ў Маскву мы прывязем, як звера
Заморскага, ў жалезнай клетцы. Богам
Клянуся я.

(Выходзіць з Трубецкім)

Цар

Мне свейскі гасудар
Цераз паслоў сваіх саюз прапанаваў;
Ды нам не трэ' чужое дапамогі;
Сваіх людзей у нас даволі ратных,
Каб адагнаць і здраднікаў і ляхаў.
Адмовіў я.

Шчалкалаў! разаслаць
Ва ўсе канцы наказы ваяводам,
Каб на каня сядалі і людзей
Як і даўней на службу высылалі;
З манастыроў таксама адабраць
Прычотных слуг. Раней заўжды, бывала,
Калі бяда айчыне пагражала
Пустэльнікі на бітву самі йшлі;
Але цяпер не хочам іх трывожыць;
Хай моляцца за нас яны: такі
Загад цара і прыгавар баярскі.
Мы вырашым цяпер адно пытанне:
Вядома вам, што дзёрзкі самазванец
Здрадлівыя прамчаў усюды чуткі;
Усюды ім разосланыя пісьмы
Пасеялі трывогу і сумненне;
На вуліцах мяцежны бродзіць гоман,
Усе кіпяць... іх трэба астудзіць;
Хацеў-бы я ад кары папярэдзіць,
А чым і як? развяжам тут. Ты першы,
Святы айцец, што думаеш, скажы.

Патрыярх

Благаславен, найвышні, пасяліўшы
Дух літасці і ціхай цярплівосці
У душы тваёй, вялікі гасудар;
Ты грэшніку пагібелі не хочаш,
Чакаеш ты, няхай міне аблуда:
Яна міне і сонца праўды вечнай
Асвеціць нас.
Твой верны багамолец,
У чыннасці людской суддзя не мудры,
Падаць табе асмеліваецца голас:
Сын д'ябальскі, растрыга акаянны,
Праслыць умеў Дзімітрыем у людзях;
Ён імем тым царэвіча, як рызай
Украдзенай, прыкрыўся бессаромна:
Ды толькі варт яе садраць—і сам
Сароміцца сябе тады ён стане.
Сам бог дае на гэтае нам сродкі:
Дык ведай, цар: таму прайшло шэсць год,
Было тады, калі цябе гасподзь
Благаславіў на царскую дзяржаву—
Нейк да мяне ў вячэрні час аднойчы
Прышоў пастух, ужо зусім паджылы,
І дзіўную паведаміў мне тайну:
„З малых гадоў, сказаў ён, я аслеп,
І з тых часін не знаў ні дня, ні ночы
Да старасці: дарэмна я лячыўся
І зёлкамі і тайным намаўленнем;

Дарэмна я хадзіў на багамолле
Ў манастыры вялікіх цудатворцаў;
Дарэмна я вадою жыватворчай
З святых крыніц крапіў сляпыя вочы—
Не пасылаў гасподзь мне прасвятлення.
Нарэшце я зусім надзею страціў,
Да слепаты прывык, і нават сны
Мне бачаных прадметаў не з'яўлялі,
А сніліся мне толькі гукі. Раз
Я ў моцным сне пачуў, дзіцячы голас
Гаворыць мне: устань, дзядок, ідзі
У Вугліч ты, у храм святога Спаса;
Там над маёй магілай памаліся,
Бог літасны—і я табе дарую.
— Хто-ж будзеш ты?—Я запытаў той голас.
— Царэвіч я Дзімітры. Цар нябесны
Прыняў мяне ў лік ангелаў сваіх,
І я цяпер вялікі цудатворац!
Ідзі, стары!--Прачнуўся я і думаў:
Што-ж? можа быць на самай справе, бог
Мне позна дарує прасвятленне.
Пайду—і я пайшоў у шлях далёкі.
Вось я дайшоў да Вугліча, заходжу
Ў святы сабор, і слухаю імшу
І, гаручы душой руплівай, плачу
Так соладка, нібыта слепата
З вачэй маіх слязамі выцякала.
Калі народ выходзіць стаў, я ўнуку
Сказаў: Іван, вядзі мяне к труне
Царэвіча Дзімітрыя. І хлопчык
Павёў мяне—і толькі над труною
Я ціхую малітву згаварыў,
І слепата прапала; я пабачыў
І божы свет, і ўнука, і магілку".
Вось, гаспадар, што расказаў мне старац.

(Агульная збянтэжанасць. На працягу гэтай прамовы Барыс некалькі разоў выцірае твар хусткаю)

Я пасылаў тады знарок у Вугліч,
І зведана, што многа там пакутных
Знаходзіла сабе таксама паратунак
Каля святой царэвіча труны.
Я раджу так: яго святыя мошчы
Прынесці ў Крэмль, паставіць у саборы
Архангельскім; народ убачыць ясна
Тады падман бязбожнага злачынца,
І знікне моц нячыстага, як пыл.

(Усе маўчаць)

Князь Шуйскі

Святы айцец, хто ведае шляхі
Найвышняга? Не мне яго судзіць.
Нятленны сон і сілу цудатворства
Ён можа даць царэвіча астанкам,
Ды толькі след людскую пагалоску
Даследаваць руплiва і разважна;
А хіба-ж нам у гэты бурны час
Аб гэтакай вялікай справе думаць?
Ці не ўпікнуць, што мы святыню дзёрзка
Прыладаю людскіх справункаў робім?
Народ і так хістаецца страшэнна,
І так ужо хапае шумных чутак;
Не час людзей галовы хвалява́ць
Негаданай такою навіною.
Сам бачу я, што неабходна слых,
Рассеяны растрыгаю, прыкончыць,
Ды іншыя, больш простыя, ёсць сродкі.
Так, гасудар,—калі дазволіш ты,
Я сам на пляц народны паяўлюся,
Угавару, усарамлю вар'яцтва
І выкрыю ліхі падман брадзягі.

Цар

Хай будзе так! Вялікі патрыях,
Прашу цябе зайсці ў мае пакоі:
Мне гутарка твая патрэбна сёння.

(Выходзіць. За ім і ўсе баяры)

Адзін баярын *(ціха другому)*

Заўважыў ты, як гасудар бляднеў
І пот буйны з яго аблічча капаў.

Другі

Я—ведаеш—не мог узняць вачэй,
Не мог дыхнуць, не толькі зварухнуцца.

Першы

А выручыў князь Шуйскі. Маладзец!

---

## *РАЎНІНА ПОБЛІЗУ АД НОЎГАРАДА-СЕВЕРСКАГА (1604 году, 21 снежня).*

Бітва.

Ваякі (*бягуць у бязладдзі*)

Бяда, бяда! царэвіч! ляхі! вось яны! вось яны!

(Уваходзяць капітаны Маржарэт і Вальтэр Розен)

Маржарэт

Куды, куды? Allons... *) пашля назад!

Адзін з бегляkoў

Сам пашля, калі маеш ахвоту, пракляты басурман.

Маржарэт

Quoi? quoi? **)

Другі

Ква! ква! добра табе, жаба заморская, квакаць на рускага царэвіча; а мы-ж праваслаўныя.

Маржарэт ***)

Qu'est-ce á dire pravoslavni?.. Sacrés gueux; maudies canaill es! Mordieu. Mein Herr, j'enrage: on dirait que ça n'a pas de bras pour frapper, ça n'a que des jambes pour foutre le camp.

Вальтэр Розен

Es ist Schand.

Маржарэт

Ventre-saint-gris! Je ne bouge plus d'un pas,—puisque le vin est tiré, il faut le boire. Qu'en dites vous, Mein Herr?

---

*) Ну!
**) Што? што?

Маржарэт

***) Што гэта значыць—праваслаўныя?.. Абадранцы акаянныя, праклятая свалата! Чорт вазьмі, майн гер (мой пане), я проста ашалеў: можна падумаць, што ў іх няма рук, каб біцца, а толькі ногі, каб уцякаць.

В. Розен

Гэта ганьба.

Маржарэт

Тысяча д'яблаў! Я не зрушуся адгэтуль ні на крок—раз віно адчынена, яго трэба піць. Што вы скажаце на гэта, майн гер (мой пане)?

В. Розен*)

Sie haben Recht.

Маржарэт

Tudieu, il y fait chaud! Ce diable de Samoswanetz, comme il s'appelle, est un bougre qui a du poil au cul. Qu'en pensez-vous, Mein Herr?

В. Розен

Oh, ja!

Маржарэт

Hé! voyez donc, voyez donc! L'action s'engage sur les derriéres de l'ennemi. Ce doit être le brave Basmanoff qui aurait fait une sortie.

В. Розен

Ich glaube das.

(Уваходзяць немцы)

Маржарэт

Ha, ha! voici nos Allemands. Messieurs!.. Mein Herr, dites leur donc de se rallier et, sacrébleu, chargeons!

В. Розен

Sehr gut. Halt.

(Немцы строяцца)

March!

(Немцы ідуць)

Hilf Gott!

(Бойка. Рускія зноў уцякаюць)

---

*) Вы маеце рацыю.

В. Розен

Маржарэт

Чорт, становіцца горача! Гэты д'ябал—самазванец, як яго завуць, парос шчаціннем пад хвастом. Як вы мяркуеце, майн гер (мой пане)?

В. Розен

О, так!

Маржарэт

Вось, глядзіце! глядзіце! Завязаўся бой у тыле ворага. Гэта напэўна ўдарыў бравы Басманаў.

В. Розен

Я так думаю.

Маржарэт

А вось і нашы немцы! Панове!.. Майн гер (мой пане), загадайце-ж ім пастроіцца і, чорт вазьмі, нападзем!

В. Розен

Вельмі добра. Стой. Марш! З намі бог!

Ляхі

Перамога! Перамога! Слава цару Дзімітрыю!

Дзімітры (*верхам*)

Даць адбой! Мы перамаглі. Даволі; беражыце рускую кроў. Адбой!

(Трубяць, б'юць барабаны).

---

## *ПЛЯЦ ПЕРАД САБОРАМ У МАСКВЕ*

Народ.

Адзін

Ці хутка цар выйдзе з сабора?

Другі

Імша скончылася; цяпер ідзе малебства.

Першы

Што? ужо пракліналі т а г о?

Другі

Я стаяў на паперці і чуў, як дыякан закрычаў:
Грышка Атрэп'еў—Анафема!

Першы

Няхай сабе праклінаюць; царэвічу справы няма да Атрэп'ева.

Другі

А царэвічу спяваюць цяпер вечную памяць.

Першы

Вечную памяць жывому! От ужо будзе ім, бязбожнікам!

Трэці

Чуеш! шум. Ці не цар?

Чацверты

Не; гэта Юрадзівы.

(Уваходзіць Юрадзівы ў жалезнай шапцы, абвешаны вярыгамі, абкружаны хлапчукамі)

Хлапчукі

Міколка, Міколка—жалезны каптур!..
трррр...

Бабуля

Адчапіцеся, чарцяняты, ад блажэннага.—Памаліся, Міколка, за мяне грэшную.

Юрадзівы

Дай, дай, дай капеечку.

Бабуля

Вось табе капеечка; памяні-ж мяне.

Юрадзівы (*садзіцца на зямлю і спявае*)

Месяц свеціць,
Коц к плача,
Юрадзівы, уставай,
Богу памаліся!

(Хлапчукі абкружаюць яго зноў)

Адзін з іх

Добры дзень, Міколка, чаму-ж ты шапкі не здымеш? (*Лопае яго па жалезнай шапцы*). От, звоніць!

Юрадзівы

А ў мяне капеечка ёсць.

Хлапчук

Няпраўда! ну, пакажы.

(Вырывае капеечку і ўцякае)

Юрадзівы (*плача*)

Узялі маю капеечку, крыўдзяць Міколку!

Народ

Цар, цар ідзе.

(Цар выходзіць з сабора. Баярын паперадзе дорыць жабракоў. Баяры)

Юрадзівы

Барыс, Барыс! Міколку дзеці крыўдзяць.

Цар

Надарыць яго. Чаго ён плача?

Юрадзівы

Міколку маленькія дзеці крыўдзяць... Загадай іх зарэзаць, як зарэзаў ты маленькага царэвіча.

Баяры

Прэч ідзі, дурань! схапіце дурня!

Цар

Пакіньце яго. Маліся за мяне, бедны Міколка.

(Выходзіць)

Юрадзівы (*яму ўслед*)

Не, не! нельга маліцца за цара Ірада—багародзіца не дазваляе.

---

## *СЕЎСК*

Самазванец, абкружаны сваімі.

Самазванец

Палонны?

Лях

Тут.

Самазванец

Паклікаць да мяне.

(Уваходзіць рускі палонны)

Самазванец

Хто ты?

Палонны

Ражноў, маскоўскі дваранін.

Самазванец

Ці ты даўно на службе?

Палонны

З месяц будзе.

Самазванец

Не сорамна, Ражкоў, што на мяне
Ты меч узняў?

Палонны

Не наша гэта воля.

Самазванец

Пад Северскім змагаўся?

Палонны

Я прыехаў
Праз тыдні два пасля баёў з Масквы.

Самазванец

Што Гадуноў?

Палонны

Ён вельмі быў стрывожан
Прайгранаю сутычкаю і ранай
Мсціслаўскага, і Шуйскага паслаў
Начальстваваць над войскам.

Самазванец.

А нашто
Адклікаў ён Басманава ў Маскву?

Палонны

Цар даў яму за вьслугі пашану
І золата. Басманаў там у думе
Цяпер сядзіць.

Самазванец

Ён войску больш патрэбен.
Ну, што ў Маскве?

Палонны

Ды, дзякуй богу, ціха.

Самазванец

Чакаюць нас?

Палонны

Бог ведае. Пра гэта
Там гаварыць цяпер не вельмі могуць.
Каму язык адрэжуць, а каму
І галаву—такія ходзяць чуткі!
Там кожны дзень—і кара. Турмы поўны.
Збярэцца дзе трох чалавек на пляц—
Глядзіш—ужо лазутчык там і ўецца,
А гасудар у вольную часіну
Даносчыкаў дапытвае сам.
Якраз бяда; дык лепш ужо маўчаць.

Самазванец

Зайздроснае жыццё людзей Барыса!
Ну, войска што?

Палонны

Што з ім? Хлеб ёсць, адзета,
Здаволена.

Самазванец

Але ці шмат яго?

Палонны

Бог ведае.

Самазванец

А будзе тысяч трыццаць?

Палонны

Ды набярэш і тысяч пяцьдзесят.

(Самазванец задумваецца. Навакольныя глядзяць адзін на аднаго)

Самазванец

Ну? пра мяне што кажуць там у вас?

Палонны

А кажуць так аб светласці тваёй,
Што ты, маўляў, (не гневайся) і злодзей,
А маладзец.

Самазванец (*смяючыся*)

Дык гэта я на справе
Ім давяду: сябры, не будзем больш
Мы Шуйскага чакаць; віншую вас:
Назаўтра бой.

(Выходзіць)

Усе

Няхай жыве Дзімітры!

Лях

Назаўтра бой! іх тысяч пяцьдзесят,
А нас усіх ці ёсць пятнаццаць тысяч:
Ён звар'яцеў.

Другі

Не важна, друг: паляк
Адзін пяцьсот маскалеў клікнуць можа.

Палонны

Так, выклічаш! а як да бойкі дойдзе,
Дык уцячэш ад аднаго, хвалько.

Лях

Калі-б ты меў, палоннік дзёрзкі, шаблю,
Дык я цябе (*паказваючы на сваю шаблю*) вось
гэтым бы суняў.

Палонны

Наш брат русак абыйдзецца без шаблі:
Вось гэтага (*паказваючы кулак*) не хочаш ты,
бязмозгі!

(Лях горда глядзіць на яго і моўчкі адыходзіцца.
Усе смяюцца)

---

## *ЛЕС*

Самазванец. Пушкін.

(Наводдаль ляжыць, здыхаючы, конь)

Самазванец

Мой бедны конь! як лёгка ён імчаў
Сягоннячы ў апошняе змаганне,
І ранены як шпарка нёс мяне.
Мой бедны конь.

Пушкін (*сам сабе*)

Ну, вось чаго шкадуе,
Свайго каня! калі ўсё наша войска
Пабіта ўшчэнт!

Самазванец.

Паслухай, можа быць,
Ад ран сваіх ён толькі замарыўся
І адпачне.

Пушкін

Куды там! ён здыхае.

Самазванец (*ідзе да свайго каня*)

Мой бедны конь!.. Ну, што-ж? вуздэчку зняць
Ды адшпіліць папругу. Хай на волі
Падохне ён.

(Раскілзвае і рассёдлвае каня. Уваходзіць некалькі ляхаў)

Дзень добры вам, паны!
Што-ж Курбскага не бачу я між вамі?
Я бачыў, як ён сёння ў гушчу бойкі
Урэзаўся; шмат шабель малайца,
Што гнуткае калоссе, абляпіла;
Ды меч яго вышэй за ўсе ўзнімаўся,
А грозны крык ўсе крыкі заглушаў.
Дзе-ж рыцар мой?

Лях

Ён лёг на полі смерці.

Самазванец

Хвала яму й спакой яго душы!
Як мала нас ад бітвы засталося.
О, здраднікі! злачынцы-запарожцы,
Праклятыя! вы, вы згубілі нас.
Не вытрымаць і трох хвілін адпору!
І дам-жа ім! дзесятага павешу,
Разбойнікі!

Пушкін

Хто-б там не вінават,
А ўсётакі мы начыста разбіты,
Мы знішчаны.

Самазванец

А выйгрыш быў за намі;
Я змяў было перадавую рацьь—
Ды немцы нас адбілі ніштавата;
А малайцы! дальбог-жа, малайцы,
Люблю такіх; абавязкова после
Я з іх складу асобую дружыну.

Пушкін

А дзе вось нам сягоння начавацьь?

Самазванец

Ды ў лесе, тут. Чым гэта не начлег?
Ледзь стане днецьь—пашлі; абед у Рыльску.
Дабранач вам.

(Лажыцца, кладзе сядло пад галаву і засынае)

Пушкін

Прыемны сон, царэвіч!
Разбіты ўшчэнт, шукаючы ратунку,
Бяспечны ён, як тое дзіцянё:
Бароніць бог святы яго, вядома;
І мы, сябры, не станем сумавацьь.

---

## МАСКВА. ЦАРСКІЯ ПАЛАЦЫ

Барыс. Басманаў.

Цар

Ён зможаны, што за карысцьь з таго?
Мы марную дасталі перамогу.
Ён зноў сабраў рассеянае войска
І нам са сцен Пуціўля пагражае.
А што між тым героі нашы робяцьь?
Стаяцьь ля Кром, дзе кучка казакоў
Смяецца з іх з-пад згніўшай агарожы.
Вось слава! не, я імі не здаволен;
Пашлю цябе камандавацьь над імі;
Начальнікам не род, а розум будзе;
Хай пыха іх аб месніцтве сумуе;
Час ванядбацьь на скаргі знатнай чэрні
І звычаі пагібельныя знішчыцьь.

Басманаў

Ах, гасудар, сто раз благаславёны
Той будзе дзень, калі Разрадаў кнігі
Са сваркамі, з пагардай радаслоўнай
Згарадь агнём.

Цар

Дзень гэты недалёка;
Дай толькі мне спярша уціхамірыць
Народу бунт.

Басманаў

Што на яго глядзець;
Заўжды народ да бунту тайна схільны:
Так цуглі конь ліхі свае грызе,
На бацьку сын за ўладу так злуецца;
І што-ж? канём кіруе смела коннік
І сынам сам загадвае бацька.

Цар

Часамі конь скідае ездака,
У бацькі сын не вечна ў поўнай волі.
Мы строгасцю адною пільнай можам
Стрымаць народ. Так думаў Іаан,
Над бурамі ўладар і цар вялікі,
Так думаў і яго няшчадны ўнук.
Не, літасці народ не адчувае:
Рабі дабро—не выкажа падзякі,
Рабуй, карай—табе не будзе горай.

(Уваходзіць баярын)

Што?

Баярын

Прывялі гасцей там чужаземных.

Цар

Іду прыняць; Басманаў, пачкай,
Застанься тут: з табой яшчэ мне трэба
Пагаварыць.

(Выходзіць)

Басманаў

Высокі дух дзяржаўны.
Дай бог яму з Атрэп'евым праклятым
Управіцца, і многа, многа ён
Яшчэ дабра Расіі прынясе.
Ён важную для нас задумаў думу.
Не трэба ёй даваць астыць. Якая
Прастора мне адчыніцца, калі
Ён зломіць рог баярству радавому!
Сапернікаў у бітвах я не маю;
Ля царскага пасаду стану першы...
І можа быць... Ды што за дзіўны шум?

(Трывога, баяры, прыдворныя прыслужнікі бязладна бягуць, сустракаюцца і шэпчуцца)

Адзін

Па лекара!

Другі

Хутчэй да патрыярха!

Трэці

Царэвіча, царэвіча заве!

Чацверты

Духоўніка!

Басманаў

Што сталася такое?

Пяты

Цар захварэў.

Шосты

Цар памірае.

Басманаў

Божа!

Пяты

На троне ён сядзеў і раптам паў;
Кроў хлынула і з рота і з вушэй.

(Цара выносяць на крэсле; уся царская сям'я, усе баяры)

## Цар

Ідзіце ўсе—пакіньце аднаго
Царэвіча са мною. *(Усе выходзяць).* Паміраю;
Абдымемся, бывай, мой сын: цяпер
Ты царстваваць пачнеш... О, божа, божа!
Перад табой з'яўлюся зараз—і душы
Мне некалі ачысціць пакаяннем.
Ды чую я—мой сын, ты мне даражэй
За ўласнае душы збавенне... Што-ж!
Падданым я радзіўся, і памерці
Падданым мне у мораку патрэбна-б;
А я дасяг высокай ўлады—чым?
Лепш не пытай. Даволі: ты нявінны,
Ты царстваваць цяпер па праву станеш,
Я сам, я сам за ўсё адказ дам богу.
О, любы сын, не спакушайся марна,
Не асляпляй вачэй сваіх самохаць.
У бурны час дзяржаву ты прымаеш:
Шмат небяспек рыхтуе самазванец,
Узброены жахлівым імем ён...
Я, з даўніх год да кіраўніцтва звычны,
Мог утрымаць мяцеж і неспакой;
Перада мной яны дрыжалі з страху;
Узвысіць тон не важылася здрада
Ты-ж малады, нявопытны ўладар,
Як кіраваць ты будзеш пад навалай,
Тушыць мяцеж і хітраваць са здрадай?
Бог—літасны! Ён навучае юнасць,
Ён слабасці дае магутнасць... Слухай;
Дарадніка па-першае вазьмі
Надзейнага, халодных, сталых год,
Любімага народам—між баярства
Паважнага пародаю ці славай—
Хоць Шуйскага. Умелы зараз трэба
Войск правадыр; Басманава пашлі
І з цвёрдасцю знясі баяр папрокі.
Ты з год малых сядзеў са мной у думе,
Ты ведаеш дзяржаўны лад сучасны;
Не адмяняй парадку спраў. Прывычка
Душа дзяржаў. Я вымушаны быў
Зноў аднавіць апалы, кары—можаш
Іх адмяніць; цябе благаслявяць
Так, як твайго благаслаўлялі дзядзьку,
Калі пасад ён Грознага пpыняў.
Праз нейкі час і пакрысе ізноўку
Дзяржаўныя паводдзі напінай.
Цяпер аслаб, але не выпускай—
Ласкавы будзь, даступны чужаземцам
Даверліва служэнне іх прыймай.

Са строгасцю хавай царкоўны статут;
Маўклівы будзь; не можа царскі голас
Абы калі губляцца на ўзвей-вецер;
Як звон святы, ён мусіць спавяшчаць
Адно бяду вялікую ці свята.
Мой любы сын! табе ідуць гады,
Калі нам кроў хвалюе твар жанчын.
О, беражы святую чыстату
Нявіннасці і гордую саромнасць:
Хто пачуццём у грэшнай асалодзе
Прывык у дні юнацкія тануць,
Той, вырасшы, пануры і няшчадны
І без пары яго цямнее розум.
Будзь галавой заўжды ў сваёй сям'і;
Да маткі будзь як сын, а царствуй сам,
Ты гаспадар і цар; любі сястру—
Ты ёй адзін заступнік застаешся.

Феодар (*на каленях*)

Не, не—жыві і царствуй даўгавечна:
Народ і мы загінем без цябе.

Цар

Канец прышоў, мае цямнеюць вочы
І холадам магільным тхне...

(Уваходзіць патрыярх, свяцічелі, за імі ўсе баяры.
Царыцу вядуць пад рукі, царэўна рыдае)

Хто там?
А! схіма... так! святое пастрыжэнне...
Ударыў час! Ідзе ў манахі цар—
І цёмная труна мне будзе келляй...
Пастой крыху, вялікі патрыярх,
Я цар яшчэ: паслухайце, баяры:
Вось той, каму я пакідаю царства;
Цалуйце крыж Феодару... Басманаў,
Сябры мае... пры смерці вас малю
Яму служыць стараннямі і праўдай
Ён 'шчэ такі і малады і чысты.
Клянецеся!

Баяры

Клянемся.

Цар

Я здаволен.
Даруйце-ж мне спакусы і грахі
І вольныя і патайныя крыўды...
Святы айцец, набліжся, я гатоў.

(Пачынаецца абрад пострыгу. Жанчын няпрытомных выносяць)

---

## *СТАЎКА*

(Басманаў уводзіць Пушкіна)

Басманаў

Зайдзі сюды і гавары спакойна.
І так, цябе ка мне ён пасылае?

Пушкін

Табе сваю ён дружбу абяцае.
І першы сан, пасля яго, у царстве.

Басманаў

Дык я-ж і так Феодарам высока
Узнесены; начальствую над войскам:
Ён для мяне не паглядзеў на чын
І гнеў баяр—я прысягаў яму.

Пушкін

Ты прысягаў наследніку пасаду
Законнаму; а раз жыве другі,
Законны больш?..

Басманаў

Паслухай, Пушкін, досыць,
Не гавары ты глупства, мне вядома,
Хто ён такі.

Пушкін

Расія і Літва
Дзімітрыем яго даўно прызналі,
А зрэшты я за гэта не стаю.
Быць можа, ён Дзімітры і сапраўдны,
Быць можа ён і самазванец; толькі
Я ведаю, што рана, а ці позна
Яму Маскву адступіць сын Барысаў.

Басманаў

Пакуль стаю за юнага цара,
Да тых часоў ён трона не пакіне;
Палкоў у нас даволі, дзякуй богу!
Я іхні дух адоляй узніму.
А вы, каго супроць мяне пашлеце?
Мо' казака Карэлу? можа Мнішка?
Ды колькі вас? не больш за восем тысяч.

Пушкін

Змыліўся ты: і тых не набярэш.
Я сам скажу, што войска наша дрэнь,
Што казакі рабуюць толькі сёлы,
Што палякі ўсё хваляцца ды п'юць,
А рускія... ды што і гаварыць—
Перад табой я хітраваць не стану;
Мы, ведаеш, чым моцныя, Басманаў,
Не войскам, не, не польскай дапамогай
А верою—так, верою народнай.
Дзімітрыя трыумф ты памятаеш
І мірныя яго ўсе заваёвы,
Калі яму усюды без баёў
Здаваліся слухмяна гарады,
А ваявод упартых чэрнь вязала?
Ты бачыў сам: ахвотна вашы раці
З ім біліся; пры кім-жа? пры Барысе!
Хіба-ж цяпер?.. О, не, спрачацца позна
І раздзьмухаць халодны попел бойкі:
З усім тваім і розумам і воляй
Не ўстоіш ты; дык ці не лепш табе
Даць першаму разумны, добры прыклад,
Дзімітрыя царом апавясціць
І тым яму навекі паслужыць.
Як думаеш?

Басманаў

Уведаеце заўтра.

Пушкін

Зрабі.

Басманаў

Бывай!

Пушкін

Падумай-жа, Басманаў.

(Выходзіць)

Басманаў

Ён праўду мне казаў; усюды здрада:
Што мне рабіць? Няўжо чакаць далей,
Каб і мяне бунтаўшчыкі звязалі
І выдалі Атрэп'еву? Мо' лепей

Буйны разрыў патока папярэдзіць
І самаму... Але зламаць прысягу!
Але навек мне ганьбу заслужыць!
Даверлівасць манарха маладога
Прадажніцтвам жахлівым аплаціць!
Апальнаму выгнанніку не цяжка
Аб мецяжы і змове меркаваць,
А мне, а мне цароваму ўлюбёнцу...
Ды смерць... ды сан... народныя пакуты...

(Задумваецца)

Сюды! хто там? (*свішча*). Каня! трубіце
збор.

---

## *ЛОБНАЕ МЕСЦА*

Пушкін, ідзе абкружаны народам.

Народ

Царэвіч нам баярына паслаў.
Паслухаем, што скажа нам баярын.
Сюды! сюды!

Пушкін (*на амбоне*)

Маскоўскі люд мястовы!
Вам кланяцца царэвіч загадаў,

(Кланяецца)

Вядома вам, як выратаван богам
Царэвіч наш ад рук забойцы быў;
Караць свайго злачынца ён ішоў,
Але сам бог Барыса пакараў.
Дзімітрыю скарылася Расія;
Басманаў сам, раскаяўшыся шчыра,
Прывёў палкі цару даваць прысягу.
Дзімітры вам нясе спакой і любасць.
Хіба-ж цяпер на радасць Гадуновым
Узнімеце руку вы на цара
Законнага, на ўнука Манамаха.

Народ

Вядома, не.

Пушкін

Маскоўскі люд мястовы!
Свет ведае, як многа вы цярпелі
Пад лютаю уладаю чужынца:
Вы зведалі падаткі, кару, ганьбу,
І голаду, і працы паспыталі.
Дзімітры-ж вас намеран надарыць,
Баяр, дваран, людзей прыказных, ратных,
Гасцей, купцоў—і добры ўвесь народ.
Ці-ж станеце ўпірацца неразумна
І ласкі той ганорліва ўнікаць.
Але ўладар ідзе на царскі трон
Сваіх бацькоў—у атачэнні грозным.
Не гневайце-ж цара і чуйце бога,
Цалуйце крыж законнаму ўладыку;
Скарыцеся і зараз-жа пашліце
К Дзімітрыю у стан мітрапаліта,
Баяр, дзякоў і выбарных людзей.
Хай б'юць чалом гасудару і бацьку.

(Сходзіць. Шум народны)

Народ

Што гаварыць? Баярын праўду кажа.
Няхай жыве Дзімітры, бацька наш!

Мужык з амбона

Народ! У Крэмль! У царскія палацы!
Ступай! вязаць Барысава шчанё.

Народ (*імчыцца натоўпам*)

Вязаць! тапіць! няхай жыве Дзімітры!
Хай гіне род Барыса Гадунова!

---

## *КРЭМЛЬ. ДОМ БАРЫСАЎ*

Варта ля ганку. Феодар пад акном.

Жабрак

Падарыце няшчаснаму, богам малю!

Варта

Ідзі прэч; забаронена размаўляць з вязьнямі.

Феодар

Ідзі, стары, я бяднейшы за цябе, ты на волі.

(Ксенія пад пакрывалам падыходзіць таксама да акна).

Адзін з народу

Брат ды сястра! бедныя дзеці, як птушкі ў клетцы.

Другі

Знайшоў каго шкадаваць? Праклятае племя!

Першы

Бацька быў злачынец, а дзеткі невінаватыя.

Другі

Яблыка ад яблыні недалёка падае.

Ксенія

Братка, братка, здаецца, да нас баяры ідуць.

Феодар

Гэта Галіцын, Масальскі. Другія мне незнаёмыя.

Ксенія

Ах, братка, сэрца замірае.

(Галіцын, Масальскі, Малчанаў і Шэрафедзінаў. За імі трох стральцоў)

Народ

Расступіцеся, расступіцеся. Баяры ідуць.

(Яны заходзяць у дом)

Адзін з народу

Чаго яны прышлі?

Другі

А пэўна прыводзіць да прысягі Феодара Гадунова.

Трэці

Сапраўды? чуеш, які ў доме крык! Трывога!—б'юцца!

Народ

Чуеш? віск! гэта жаночы голас—зайдзем! Дзверы замкнёны,—крыкі заціхлі.

(Адчыняюцца дзверы. Масальск з'яўляецца на ганку)

Масальскі

Народ! Марыя Гадунова і сын яе Феодар атруціліся. Мы бачылі іх няжывыя трупы. (*Народ у жудасці маўчыць*). Што-ж вы маўчыце? крычыце: няхай жыве цар Дзімітры Іванавіч!

У народзе нямая цішыня.

*В. Казлоў*

# БОЛЬШЭВІК

На досвітку чэрвеньскай начы імчаўся з Абдуліна ў Самару адзіночны пасажырскі паравоз.

Гнаўся за паравозам адпрацаваны пар, падымаючыся насустрач ранішняй зары.

Грукат колаў пранізваў ціш ночнага стэпу, трывожачы сон сусліка ў норцы, зайца пад кустом палыну, курапатку ў гняздзе.

Дрыжэў насып чыгункі і буйная раса на траве адхону жамчуговымі кроплямі асыпалася на зямлю.

У паравознай брыгады была адзіная думка: хутчэй дабрацца да Самары. Здаць паравоз у дэпо, а там... там будзе відней, што рабіць... Машыніст штурхнуў рэгулятар на большы пар і, адпусціўшы рэверс ніжэй, прагаварыў.

— Націскай, мілая, хутчэй у Самару...

Два чэхаславацкія салдаты лена пераміналіся з нагі на нагу, апіраючыся на вінтоўкі, клявалі носам... Яны суправаджалі паравоз.

Гэта было ў 1918 годзе, калі чэхаславацкія банды, захапіўшы горад Самару, гналіся за адступаючымі часцямі чырвонай гвардыі да Уфы, калі награбленае ў сялян і рабочых Паваложжа дабро адвозілася ў Сібір, адкуль насустрач ім ішоў са сваімі шайкамі інтэрвентаў і белагвардзейцаў Калчак, калі захопленыя белымі чыгуначнікі самарскага вузла пад націскам сілы акупантаў, вымушаны былі працаваць пад наглядам узброеных чэшскіх салдат. Чыгуначнікаў пад канвоем вадзілі на работу.

Ужо ўзыйшло сонца, калі паравоз, з грукатам прыляцеўшы на станцыю Пахвіснева, спыніўся.

Машыніст Колаў Васіль—здаровы, дужы мужчына гадоў пад сорак, з густой капой русых валасоў пад бруднай шапкай лёгка саскочыў з паравоза і, абвёўшы беглым позіркам машыну, падышоў да дзяжурнага па станцыі.

— Давайце, начальства, жэзл. Едзем далей да Самары.

— Не давядзецца...—шматзначна адказаў той.

— А ў чым справа?—кінуў трывожны погляд на дзяжурнага машыніст.

— На станцыі Бугуруслан тэрмінова пагрузіўся батальён войск. Састаў поезда—шэсцьдзесят вагонаў, а там ёсць толькі адзін малы таварны паравоз, гэты эшалон ён да Абдуліна не завязе. Аддзяленне і камендатура далі распараджэнне вярнуць вас пад гэты эшалон.

— Вось яно што-о-о!..—працадзіў праз зубы Колаў, хутка павярнуўшыся да паравоза, адкуль на яго глядзелі салдаты. Не жадаючы

быць карысным ворагам большэвікоў, ён гатовы быў рабіць усё, толькі не ехаць пад эшалон везці ворагаў, гнацца за чырвонымі франтавікамі.

„Але як выйсці з гэтага становішча?“—задумаўся ён на хвіліну. Марудзіць не было калі.

— Стой!—сказаў ён сабе у думках.—Выйсце ёсць!..—Шпарка падышоўшы да дзяжурнага па станцыі, які яго чакаў, праказаў.

— Ехаць назад у Бугуруслан я не магу... Майму паравозу патрэбен рамонт.

— А вы зайдзеце да дзяжурнага па дэпо, можа тут і адрамантуюць вам паравоз...

Дзяжурны пайшоў.

Машыніст пайшоў у дэпо, пакінуўшы паравоз на станцыі.

У дэпо Колаў растлумачыў дзяжурнаму па дэпо, што варочацца ў Бугуруслан пад вайсковы эшалон ён не можа, парваліся топачныя сувязі і залівае агонь.

— У такім выпадку хадзем да каменданта станцыі.

Прышоўшы да каменданта станцыі, чэхаславацкага афіцэра, дзяжурны па дэпо заявіў:

— Вось механік прыбыўшага паравоза заяўляе, што вярнуцца ў Бугуруслан пад эшалон не можа, што яго паравозу патрэбен рамонт у Самары.

— А які рамонт вашаму паравозу трэба?—спытаў, строга гледзячы на машыніста, нездаволены камендант.

— Парваліся топачныя сувязі і вада праз дзіркі сувязей льецца на агонь фарсункі.

— Ах, чорт вазьмі... Такі непрыемны выпадак...—па твары яго прабег цень нездавальнення,—а паравоз вельмі трэба пад эшалон. Там едзе жалезны батальён. Ён тэрмінова патрэбен на фронт Раеўка.

І тут-жа кемлівы чэх знайшоў выйсце са становішча:

— Ну, калі гэта так—нічога не зробіш, едзьце ў Самару, а толькі будзе мая да вас просьба: вазьміце у Самары два вагоны нашых раненых салдат. Ім у шпіталь трэба...

— Добра... Два вагоны я завязу.

— Вось і добра, вы будзеце рамантаваць ваш паравоз і нашы хворыя будуць у шпіталі,—адказаў з хітрасцю камендант.—Едзьце, механік, да вагонаў, а зараз прыбудзе стрэчны эшалон і вы паедзеце ў Самару.

Калі вышлі, камендант крыкнуў салдатам на паравозе:

— Шэцко! Айда з паравоза!

Салдаты сыйшлі, і машыніст паехаў да вагонаў, якія стаялі на запасным пуці станцыі. На душы было смутна. Ішлі цяжкія хвіліны чакання сустрэчнага эшалона.

У галаве Колава мітусіліся розныя меркаванні і думкі, і ён ухапіўся за адну з іх.

— Слухай, Ваня,—звярнуўся ён да свайго памочніка Хрыдзіна.—у нас дзве сувязі ў топцы, што вышэй фарсункі, лопнуўшыя...

— Так,—дапытліва паглядзеў на яго памочнік.

— Цяпер—пры высокім ціску пары вада з адтулін пульверызуе,

а калі ціск апусціць ніжэй, вада павінна паліцца струменем з лопнуўшых месц і проста на фарсунку, так-жа павінна быць?

— Вядома, фарсунку залье,—упэўнена сказаў памочнік.—А чаму вы пытаеце пра гэта?

— Проста так... цікава выходзіць...—і ён збянтэжыўся.

Погляды іх сустрэліся і яны зразумелі адзін аднаго.

Панура, аднастайна гудзела фарсунка. Цераз бак нафты на тэндэры заглядала ў будку сонца. Паравознікі маўчалі. Хутка пачулі яны свісток прыбываючага эшалона.

— Нарэшце!..— з палёгкай уздыхнуўшы, прагаварыў Колаў.

— Значыць зараз катанем, механік,—весела дадаў памочнік.

— Калі не перадумаюць,—заўважыў машыніст.

Хутка яны заўважылі, што да іх паравоза ідуць тыя-ж салдаты, якія ехалі да гэтай станцыі, а разам з імі ішоў і машыніст Лысецкі, вядомы па самарскаму дэпо як яры правакатар, які выдаў чэхам не аднаго чыгуначніка-большэвіка. Не раз спрачаўся з ім Колаў, даводзячы, што чэхі падкуплены капіталістамі для перамогі над большэвікамі.

— Што здарылася, машыніст?—спытаў Лысецкі, узлазячы на паравоз.

— Паглядзі, механік,—працадзіўшы скрозь зубы адказаў Колаў, адкрываючы дзверцы топкі.

Лысецкі, нагнуўшыся паглядзеў у топку, фыркнуў.

— Глупства адно. У мяне ўся рашотка труб цячэ, а я еду з Самары ў Абдуліна 263 вярсты.

Ён абвёў Колава злосным поглядам, і ўсе трое пайшлі з паравоза.

— Нягоднік!.. Падлюга!.. Прадасць—сцерва!..—хвалюючыся, амаль не крычаў Колаў услед адыходзіўшым.

— Та-а-ак...—памочнік махнуў безнадзейна рукой і адвярнуўся.

Эшалон, што прыбыў, адправіўся далей. Зноў па паравоз прыйшлі тыя-ж салдаты і стрэлачнік. Апошні адчапіў паравоз ад вагонаў, даў сігнал упярод.

— Айда, механік, на станцыю!

— У Бугуруслан паедзеш,—злосна дадаў адзін з салдат.

Колаў паехаў на станцыю.

Пад'язджаючы да перона, ён убачыў каменданта, які нервова пахаджваў. Як толькі паравоз спыніўся, камендант шпаркімі крокамі падышоў да паравоза, злосна крыкнуў:

— Не трэба стаяць!.. Айда ўслед за поездам у Бугуруслан!

— Пуцёўку-ж дайце на права язды ўслед поезду,—пачаў быў супярэчыць машыніст.

— Ніякай пуцёўкі вам няма! Язджайце ўслед за поездам... Вы большэвік!—і, звярнуўшыся да дзяжурнага па станцыі, злосліва дадаў:—Які гусь! У Самару ехаць можна, у Бугуруслан нельга! Машыне рамонт трэба... Сволач рудая... Большэвік!..

Потым па-чэшску нешта гаварыў салдатам.

Паравоз пайшоў услед за поездам, а камендант па тэлефону перадаў бугурусланскаму каменданту, што на адпраўленым паравозе едзе машыніст-большэвік, за якім трэба пільна сачыць.

Прыехалі ў Бугуруслан. На пероне ўжо чакаў стрэлачнік, ён на хаду ўскочыў на ступеньку паравоза.

— Айда, механік, пад поезд!

Паравоз усё-ж спыніўся і машыніст пабег да дзяжурнага па станцыі, дзе і заявіў, што машына не ў парадку. Адтуль накіраваўся да каменданта станцыі.

— Пан камендант!..—пачаў быў Колаў аднекваццa.

— Даволі! Сволач большэвіцкая...—крыкнуў камендант, адразу пачырванеўшы ад злосці. Здавалася ён гатовы быў выхапіць рэвальвер, але ведаючы, што машыніста скора не знойдзеш, стрымаўся і зласліва дадаў:—у Самару ехаць вы можаце, а ў Абдуліна не... Вы большэвік!... Едзьце пад поезд!.. Вам цяпер адпраўленне на Абдуліна.

Калі паравоз прычапілі да поезда, камендант станцыі папярэдзіў начальніка эшалона:

— Вы сачыце за гэтым машыністам, гэта большэвік. Яму хацелася ехаць у Самару, вось ён і прыдумвае розныя выверты.

— Будзьце спакойны, пан камендант. Я з ім доўга цацкацца не буду, не пагляджу, што механік,—адказаў начальнік.

Паравозы далі сігнал адпраўлення і эшалон, згінаючыся на крывых пераходных пуцях, павольна папоўз са станцыі.

* * *

Пільна сочаць за кожным рухам машыніста салдаты. Гэта бачыць і сам ён, асцярожна кіруючы паравозам, умоўнымі жэстамі паказваючы памочніку як кіраваць фарсункай.

Вось поезд узышоў на зацяжны пад'ём, цяжка працуюць паравозы, павольней папоўз поезд. Машыніст першага паравоза дае сігнал Колаву, патрабуючы большай дапамогі. Колаў адказаў двума свісткамі паравоза, што дапамагае, а сам адкрыў рэгулятар канца і зусім апусціў рэверс: машына пачала працаваць на ўсю сілу, вада пачала хутка адыходзіць з катла, і пара пачала садзіцца, бо фарсунка працавала па-ранейшаму.

Памылкі не было. Разлік Колава быў правільны. Пара хутка пачала ўбываць.

Памяншалася і скорасць поезда. Машыніст першага паравоза паўторна патрабуе дапамогі, але ў другім паравозе ўжо няма чым памагаць. Колаў даў сігнал спынення.

Поезд стаў...

Машыніст рабіў выгляд, што заклапочаны.

Прыкленчыў, зазірнуў у топку, і ўбачыў, што ўсё вышла так, як ён думаў: з лопнуўшых сувязей топкі лілася вада на агонь фарсункі, спыняючы гарэнне.

Спыненне поезда ў стэпу і на вялікім пад'ёме выклікала спалох чэхаў. Павыскакваўшы з вагонаў, неўразумліва пыталі адзін у аднаго—у чым справа?

Зараз-жа прыбег на паравоз усхваляваны начальнік эшалона.

— У вас пары ў катле няма!—крыкнуў ён, глянуўшы на манометр, і перавёўшы пагляд на вадамернае шкло, крыкнуў яшчэ мацней:

— У вас і вады зусім у катле няма!

— Таму-ж я і спыніўся...— ціха адказаў машыніст.

Начальнік з запененым ротам саскочыў з паравоза.

— Большэвік! Большэвік! Руды д'ябал!—і пабег у класны вагон поезда, а хвілін праз пяць ужо ішоў да паравоза карны атрад з вінтоўкамі цераз плячо. Паперадзе ішоў дзяжурны афіцэр, а ззаду ўсіх ішоў чалавек у адной споднявй сарочцы, шараварах колеру хакі, у бацінках з абмоткамі.

— Ідуць распраўляцца...—ціха праказаў Колаў, падышоўшы да свайго памочніка. Ён ведаў, што яго чакае. Але не пра гэта ён думаў. Мэта, якую ён паставіў перад сабой, дасягнута. Поезд стаіць на перагоне, пуць заняты, тэрміновая дастаўка эшалона сарвана. Дапамогі эшалону хутка не дачакацца: паравозаў у чэхаў асталося вельмі мала. І задумаўся ён, спусціўшы галаву. Успомнілася далёкае дзяцінства, у беднай беларускай вёсцы... Босы, узімку на санках па сумётах снегу... Слёзы маткі ўдавы з чатырма дзяцьмі... Праца ў памешчыка за 10 капеек у дзень... Вайсковая царская служба, суровыя ўзводныя камандзіры, жорсткія. Успомніў жонку, дзяцей...

— Стой!—гучна скамандаваў афіцэр атрада каля будкі паравоза.

Колаў здрыгануўся, кінуў смутны погляд на ўзброеных людзей. Адзін з атрада хутка лез на паравоз.

„Кат", мільганула ў думках.

Той, што ўзлез, спытаў:

— Хто будзе механік Колаў?

— Я...—ціха адказаў машыніст.

— Скажыце, калі ласка, што няспраўна ў вашай машыне?

Памочнік у момант схапіў некалькі ачосак, хутка памачыў іх у нафту, адчыніў дзверцы топкі, кінуў іх у фарсунку, якая гарэла як свечка.

— Глядзіце, калі ласка,—праказаў ветліва машыніст.

Чалавек глянуў у топку. Кінутыя на агонь фарсункі ачоскі хутка загарэліся, асвятліўшы ўсю топку і два струмені вады, якія ліліся з лопнуўшых сувязей. Яны ліліся на агонь фарсункі, ад чаго апошняя хліпала і патрэсквала.

— Гм-м...—прамычэў чалавек, гледзячы на струмені вады. Падняўшыся ад топкі, ён павярнуўся да машыніста, сказаў:

— Так, так... Цяпер я разумею... Гэта вада, якая цячэ з дзірак сувязей, лье проста на агонь фарсункі і яна не гарыць... Дрэнная справа...—і, пачухаўшы патыліцу, палез з паравоза.

Машыніст з памочнікам пераглянуліся, уздыхнулі з палёгкай.

Чалавек, што злез з паравоза, па-чэшску нешта расказваў афіцэру. Размахваючы рукамі, ён паказваў як льецца вада на фарсунку. Потым усе пайшлі.

— А жудасна усё-ж глядзець у вочы смерці, Ваня, га?— і машыніст паказаў памочніку на адзінокі крыж магілы каля тэлефоннага слупа.—Вось побач палажылі-б і нас.

Праз некалькі хвілін прыбег начальнік эшалона, спытаў:

— Што ж, механік, цяпер будзем рабіць? А можа трэба патрабаваць дапамогі?

— А вось паспрабуем узмацніць работу фарсункі, можа гэта дапаможа нам...

— А як доўга вы гэта будзеце рабіць?

— Ды гадзіны так тры, чатыры...

— Ай-я-ай,—ніба падколаны ўскрыкнуў начальнік.—Тры гадзіны стаяць на пуці!..—і, павярнуўшы да свайго вагона, ён шпарка закрочыў, паўтараючы некалькі разоў:—Тры гадзіны... Тэрміновы эшалон... Ай-я-яй!..

— Ну, Ваня, жвава бяры гаечныя ключы, айда пад паравоз, аднімай фарсунку і давай сюды.

Злезлі абодва з паравоза і машыніст шапнуў памочніку:

— Ты там надта не спяшайся... зразумеў?—і памочнік, кіўнуўшы ў знак згоды галавой, нырнуў пад паравоз, пачаў там пастукваць ключамі.

Стукалі ключы, падаў малаток, мітусіліся машыніст з памочнікам. Так прайшло тры гадзіны часу.

Гучна прагудзеў гудок паравоза, што азначала, што ўсё гатова, можна адпраўляцца.

На сігнал паравоза прыбег начальнік эшалона, спытаў:

— Значыць, механік, усё гатова,—можна рушыць?

— Так,—адказаў Колаў.

Хутка ўсе пасталі на месцы, прагудзеў сігнал адпраўлення. Але ад цяжару шасцідзесяці вагонаў цяжка было крануцца з месца на пад'ёме. Поезд стаяў. Тады машыніст першага паравоза пераравёў рэзерв на задні ход, асадзіўшы паравозы назад. Колаў парашыў і гэты выпадак скарыстаць, каб затрымаць поезд. Калі першы паравоз другі раз даў сігнал адпраўлення, Колаў наўмысна паспяшаўся адкрыць пару адначасова з першым паравозам і абодва паравозы так ірванулі поезд, што ў трэцяга ад галавы поезда вагона сарваўся ўпражны крук.

— Пракляцце на тваю галаву!—прасіпеў скрыгаючы зубамі, начальнік эшалона.

З дапамогай запасных ланцугоў адарваную частку поезда адвезлі на раз'езд, а пасля, вярнуўшыся, паравозы тузалі састаў эшалона некалькі разоў узад і ўперад пакуль, нарэшце, рушылі з месца і адправіліся далей.

З-за „рамонта“ эшалон прастаяў тры гадзіны з палавінай, ды затрымка з разрывам дала мінут трыццаць. Гэта дало магчымасць чырвоным часцям адбіць моцны напор насядаючай інтэрвенцыі і паправіць сваё становішча на фронце.

Так беспартыйныя большэвікі ўхітраліся пад пагрозай варожых штыхоў дапамагаць сваёй слаўнай Чырвонай арміі.

5. XII-36 г.
г. Магілёў

---

*Мікола Сямашка*

# БЕСПРАЦОЎНЫ

(З вершаў аб Заходняй Беларусі)

Няшчадным і страшным радзіўся твой
дзень,
як смерці кастлявае цень,
каб зноў табе ў вочы злавесна глядзець
вачамі галодных дзяцей.

Устануць з падлогі—усе ў лахманах—
і скажуць знаёмае: „дай"...
Не помніш калі—лік згубіў ты у днях—
апошні кавалак аддаў.

А сёння?
Што скажаш сягоння ты ім,
сухотным і брудным малым?
Мо' скажаш, што хлеба ты пойдзеш купіць,
каб потым між іх падзяліць?..

Ты вышаў на вуліцу. Грукат і шум,
нязведанай роскашы бляск—
ён гневам і роспаччу поўніць душу,
тугою ірве напалам.

Жанчына у шоўку павольна прайшла,—
ружовы, раскормлены твар.
Ты жонку успомніў,
Што смерць узяла,
Што тыдзень назад пахаваў.

І гнеўнага жалю знядужаны крык
у горле застыў як клубок...
А горад рагоча вачамі вітрын,
багаццем сваім над табой.

І босыя ногі няшчадна пячэ
гарачы прапылены брук.
Ты стаў. Ты ў кішэнях шукаеш яшчэ
далонямі высахлых рук.

*Мікола Сямашка*

# ЯК СЦЮДЗЁНЫ НАСУНЕЦЦА ЗМРОК

(З вершаў аб Заходняй Беларусі)

Як сцюдзёны насунецца змрок,
Дзень сканае ў агнях залатых,
з сутарэння, з нары сырой
ценню ганьбы выходзіш ты.

Хто адчуе пякучую боль,
боль прыніжанай, хворай душы,
брудных сцежак сцюдзёную золь,
гэтай вострае крыўды нажы?..

То апошняй надзеі агонь
камянём у тваім сэрцы застыў,
як выходзіш з бярэмем — тугой
крадучыся на вуліцы ты.

Як нясеш прадаваць уначы
зацяганае цела сваё,
днём каб лішнім жыцця надтачыць,
крок цяжкі бруднай сцежкі тваёй.

Ты прагнала з жаночай душы
чалавечага сораму страх
для адзінага, прагнага—жыць...
Брудны грош маладосць тваю скраў.

Ты, як злодзей, стаіш на рагу
шумнай вуліцы, бурнай такой.
Ловіш горада ўзбуджаны гул,
падзываеш прахожых кіўком.

Напускаеш усмешку на твар
хваравітасцю вуснаў нямых.
Толькі-ж крыўды тваёй не схаваць
Крыж маўчання ў вачах тваіх.

Ў іх—адцвіўшых—туга і праклён,
і пагарда да ўсіх, да ўсяго.
Ў іх—маўклівая роспач без слоў
і нясмелага гневу агонь.

Ў іх—прыніжанай горкі дакор,—
У бяздонных і дзікіх вачах,—
і павольны, і жудасны скон,—
і глыбокі, як мора, адчай.

Бо, як злодзей, стаіш на рагу
шумнай вуліцы, бурнай такой.
Ловіш горада ўзбуджаны гул,
запрашаеш прахожых кіўком.

*Улад. Глазырын*

# МУЗЫКА ЛІСТА

Вецер першых зляцеўшых з інструмента гукаў праляцеў па вузкаму і крывому завулку... праляцеў і сціх. Сціх прыглушаным, ледзь чутным звонам. Потым зноў буйнымі кроплямі сарваліся гукі. Яны ўпалі на яснае і тонкае шкло. Шкло празвінела кароткай трэллю жаўранка, што ўзвіўся ў паднябессе. Затым настала пауза. І пасля кароткай паузы блакітнае мора ціхім прыбоем заплёскалася на каменнях ля берага. Над морам пранёсся ветрык. Ледзь чутны і ласкавы. Сонца купалася ў аранжавым захадзе і непадалёк заіграў пастухоўскі ражок.

На дымчаста-блакітнай паверхні мора бялеўся парус. Цішыня. Толькі на каменнях і жвіры бяскрыўдным вурчаннем ціха-ціха шуршыць адліў.

Новы баян змоўкнуў. Змоўкнуў пытаннем. Нібы не было знойдзена вырашэння пакутлівай і хвалюючай загадкі.

— Скончыў, Вася, ці што?

— Скончыў.

— Добра, а вось не зразумею, аб чым... Вось ты сыграў, а я нібы дома ў Еўпаторыі пабываў,—да чаго, Вася падобна ігратвая на Еўпаторыю, на мора. На парусы рыбацкія, што на гічках трапечуцца па вятрах ранішніх... эх!..

Баяніст застыў. Ён думаў, не прымаючы рук ад баяна. Слухачы маўчалі: яны ўсе былі пад уражаннем музыкі. Баяніст пазіраў на сады, аблепленыя ў квецень уруку і вішні, думаў аб Тамбоўскай старане і аб дзіўных у жыцці з'явах.

— Што гэта, Вася, за песня?

— Не ведаю. Не ведаю вось, а дарагая яна мне... Памяць аб людзях дарагіх яна...

— А як-жа любяць людзі гэтую песню, Вася. Каб ды ў словах яе, Вася...

Разам з байцамі слухалі музыку гэтую узбекі, і былі яе мелодыі дзіўнымі для кішлака, які ведае толькі гукі зурны ды гул бубна. І для вуліц кішлака, толькі ўчора слухаўшых усходнія „хар'яр'я", была яна незвычайнай, і людзі прагна яе слухалі.

Вось малады узбек просіць музыканта паўтарыць ігру, дэхкане пацвярджаюць ягоную просьбу, ківаючы галовамі. Музыкант зараз зноў пачне... Людзі ссоўваюцца шчыльней. Музыка людзей зблізае. Байцы гасцінна адсоўваюцца, запрашаючы дэхкан зручней парассесціся на зямлі. Адзін саступае узбеку палову каменя, на

якім сядзіць. Увага напружаная... Але замест баяна ў паветры пачуліся сухія рэзкія гукі кавалерыйскай сігналкі. Труба трывожна пела сядлоўку. Байцоў як не было. Не было і баяна.

Праз пятнаццаць мінут эскадрон, узнімаючы па крывых вуліцах кішлака жоўты і цяжкі пыл, выступіў на новую аперацыю з басмачамі.

Адкуль-жа ў байца Васіля Гулявіна з Тамбова, у баяніста-самавучкі, гэтая мелодыя, гэта музыкальная п'еса? „Новая песня“— завуць яе байцы. Адкуль гэта песня, якую так палюбілі байцы і дэхкане і гукі якой так дзівосна гучаць па вуліцах узбекскага кішлака, малюючы сіняе мора, якога узбекі ніколі не бачылі?

1

Над горадам спускалася трывожная ноч.

Вакол горада, у стэпу бушаваў неўгамонны вецер, перамешаны з дробнымі асколкамі лёду і жорсткім, як стоўчанае шкло, снегавым пылам. Вецер з віскатам выў і сам сабе падвываў—прарэзліва, воўчымі падгалоскамі.

Вые стэп па-воўчаму.

Зоры пахаваліся за кашлатымі, налітымі дымячым свінцом хмарамі. Толькі з-за космаў хмаравых палчышчаў часамі ў прагалінах неба вытыркнецца вузкім серпам сарамлівы месяц і, спалохаўшыся земнага пекла, зноў азызла схаваецца ў кашлатым атрэп'і шпарка лятучых хмар.

Тады становіцца зусім цёмна.

Толькі прызвычаеныя вочы стэпавага жыхара, калі прыкрыць іх рукой, могуць вызначыць роўны прастор стэпу. У ціхае надвор'е стэп роўны да шчымячага сэрца суму, да ныцця ў душы, але зараз ён здаецца ўвесь у ярах і ўзгорках.

Горад стаіўся ў стэпавай лагчыне і з нецярплівасцю чакае світання, чакае сцішэння з досвіткам бурану.

Па стэпавай раўніне да горада шпарка рухаецца ледзь прыкметная кропка. Калі выгляне месяц, яна робіцца больш выразнай. Часам, схаваўшыся за ўздыбленымі буранамі, яна знікае і здаецца завеянай снегавым пакрывалам. Але вось яна зноў вынырнула і, прыспешыўшы рух, набліжаецца да горада.

Зараз выразна відаць конніка. Ён у востраверхім кіргізскім малахаі, і па скасабочанай постаці і сядлу з высокавытыркнутымі лукамі ў ім не цяжка пазнаць качэўніка. Правая рука з бізуном у ёй шморгае па баку каня ў такт іназодзі.

З бураю гэтаю збіралася над горадам другая бура. І горад трывожна стаіўся, чакаючы іншага бурану. Гэта былі белыя банды атамана Андроннікаў-Чорнага.

І стаіўшыся, горад не спаў.

І кіргіз, што ўначы прыскакаў, вестку прывёз: „Захапіла банда аул Джангіз-Кара, юрты паабрабавала, людзей перапарола, перастраляла, перарэзала“.

Уранні чырвонаармейскі атрад павінен быў з горада выступіць, банду Андроннікаў-Чорнага злавіць, знішчыць.

Да світання яшчэ гадзіны чатыры засталося, але атрад ужо на нагах быў.

Белы казачы ўраднік Шылахвосты, старшына другога эскадрона, далажыў камандзіру атрада Голубеву, што на яго думку і па ўсіх прыкметах, вядомых яму з дзяцінства, буран да світання сунімецца.

Васька Гулявін, „штатны“ баяніст атрада, ён-жа канавод камандзіра, сядзеў у штабе і чакаў загаду ад Валер'я Нікалаевіча (так ён зваў камандзіра атрада таварыша Голубева).

— Васіль, рыхтуй „Казбека“, ён падкаваны лепш... А зараз я пайду... Буду праз гадзіну...

Голубеў быў спакойны: з бандамі не ўпершыню стыкацца, але гэтая банда асаблівая, проста яе не возьмеш,—дужая, хітрасць асобую ўжыць трэба. Калі хітрасцю не закапканіш—справы могуць павярнуцца горш, чым можна чакаць,—банда прарвецца ў насельную паласу і аддасць на рабунак, на гвалт, на пагалоўныя забойствы дзесяткі аулаў і пасяленняў.

У Голубева план гатовы. Голубеў спакойны і ўпэўнены ў поспеху. Аднойчы Андроннікаў-Чорны ўжо ўцёк ад яго, але зараз ён яго не выпусціць. Практыка сустрэч з ім ёсць. Усё гатова, і на досвітку...

Няхай свішча бура,—яна, бадай, і дапаможа яму: абы да світання сціхла.

Наглуха заплікнуўшыся ў скураную куртку, Голубеў выйшаў на вуліцу.

2

На кватэры ў музыканта Івавоўскага была глухая цішыня. У адным з пакояў гарэла завостраным цяпельцам тонкая васковая свечка. Скрозь рамы вакна і паркалёвыя фіранкі неўпрыкмет прасочваліся нябачаныя струменьчыкі ветру: кволае цяпельца свечкі замірала і ўздрыгвала і вось-вось збіралася патухнуць, але разгаралася мацней і пачынала раскідваць па сценах пакоя пачварна прыгаючыя цені. Водблескі свечкі рэзалі сцены пакоя на доўгія і вострыя, якія ламаліся на падлозе, трыкутнікі.

Пакой меў гнятучы сіратлівай адзінотай выгляд. У куце вялікай цмянай скрыняй стаяў захінуты ў пакрывала раяль. Гэта быў „Блютнер“—рэдкасны ў тутэйшых месцах інструмент. Раяль быў вялікай асабовай і некалі сямейнай гордасцю Іваноўскага. Сапраўдны „Блютнер“ быў адзіным у горадзе. Гэта быў таксама і адзіны ва ўсім горадзе раяль.

Гісторыя набыцця інструмента Іваноўскім змяшчала ў сабе цэлыя звенні матэрыяльных цяжкасцяў: напоўгаладнае існаванне сям'і, адсутнасць людскай вопраткі; студэнцкія нягоды адзінай дачкі Іваноўскіх Марыі, курсісткі адной з сталічных вышэйшых навучальных устаноў. Усё гэта, нарэшце, дало магчымасць на працягу некалькіх год сабраць грошы на раяль.

Раяль быў куплены ў шаснаццатым годзе. Але стары застаўся з „Блютнерам“ адзін—жонка памерла, дачка не вярнулася з сталіцы. У гарадку часта мянялася ўлада. Бадай чатыры гады не было ніякіх вестак аб дачцы—стары выкрэсліў яе са спісу жывых,

прымірыўся з лёсам адзінокага. Раяль дапамагаў старому ўспамінаць і бачыць вобразы жонкі і горача любімай дачкі. Стары іграў у ціхія вечары і перад ім узнікаў вобраз Мурачкі. Тады стары плакаў. Плакаў і іграў. Іграў любімыя рэчы дачкі.

Але стары ў апошнія дні баяўся, што ягоны адзіны сябра „Блютнер“ ад яго адыйдзе. Адчуваючы гэтую боязнасць, ён усё-ж такі спакойна чакаў гэтага лёсу свайго сябра. Раяль будзе патрэбны або клубу або нардому—так, відаць, трэба па ходу спраў, у якіх ён зараз, бадай, і не асабліва што разумеў. Некалі ён разбіраўся ў палітыцы, але ў гэтай глушы воляю абставін і часу ён адышоў ад усяго.

Даўно-даўно яго, студэнта варшаўскай музычнай школы, выслалі за ўдзел у студэнцкіх беспарадках у Варшаве ў гэтую туркестанцкую глуш. Ён прыехаў адзін. Потым у яго стала сям'я і—амаль пад канец жыцця—раяль; раяль, аб якім ён марыў праз усё жыццё. Няхай возьмуць цяпер раяль, ён папросіць, каб разам з інструментам узялі ў клуб і яго, там ён будзе іграць на ім і берагчы свайго старога сябра.

Хваравіты спакой кватэры музыканта парушыў стук. Стары гэтага стуку чакаў. Чакаў цэлымі днямі і нават па начах ужо некалькі тыдняў. Прышлі па „Блютнера“.

Стары пайшоў адчыняць дзверы. Ён адсунуў цяжкую засаўку дзвярэй, нават не спытаўшыся, хто стучыць. Той, хто прышоў, засунуў за сабой засаўку знадворных дзвярэй і яны разам, праз маленькую кухню, увайшлі ў кватэру.

Полымя свечкі ў пакоі стала роўным. Перад старым стаяў чалавек, апрануты ва ўсё скураное, пры зброі, з пяціканцовай зоркай на жоўтым аколышы уланскай фуражкі.

Стары маўчаў. Ён не пытаўся аб прычыне гэтакага познага і незразумелага прыходу чалавека. Нашто пытацца? Ясна. Прышлі па раяль.

Незнаёмы маўчаў, сеў без запрашэння на адзін з поўдзесятка ўбогіх стулаў, парасстаўленых у пакоі, і збіраўся загаварыць. Музыкант з-пад ілба пазірнуў на начнога, няўрочнага, але чаканага наведніка. Зрэшты-ж погляд з-пад ілба не быў выяўленнем злосці або непрыязнасці да прышоўшага. Музыкант пазіраў так заўсёды.

У наведніка былі стомленыя вочы і стомлены твар. Госць здзеў фуражку, і музыкант у бледна-шэрым поўзмроку выразна убачыў укрыты маршчакамі стомы твар, а чатыры вялікія зморшчыны беглі ад скроні да скроні, глыбока праразаючы прыгожы высокі лоб. На адкрытых вачах і твары ляжаў цяжар дрэнна схаванага смутку.

Гэта быў не хто іншы, як камандзір кавалерыйскага чырвонаармейскага атрада, што быў раскватэраваны ў гарадку,—Валер'ян Голубеў.

Маўчанне было напружаным. Нарэшце, камандзір загаварыў:

— Я прашу вас...—Тут Голубеў крыху замяўся:—Мне казалі: вы добры музыкант; вядома вы іграеце Ліста...

О, яшчэ-б музыкант Івановскі добра не ведаў Ліста! Ліст, Мендэльсон, Шуман, Грыг... О, гэта яго любімыя кампазітары. Але, хоць голас гэтага чырвонаармейца і прыемны,—да чаго-ж ён хі-

ліць гутарку? Раяль можна ўзяць і так. Няхай возьме...—разважаў музыкант.

— Я прашу вас, вельмі прашу сыграць „Consolation“ Ліста...—прадаўжаў камандзір:—нумар трэці...—і пачырванеў, і сам адчуў, што пачырванеў: што падумае гэты стары, як зразумее ён яго просьбу...

За сваё шасцідзесяціпяцігадовае жыццё музыканта Іваноўскі багата бачыў і ведаў дзіўных рэчаў, але падобнага нічога з ім ніколі не было і нічога падобнага зараз ён чакаць не мог. Ноч. Буран. Вакол белыя банды. Большэвік у фуражцы варшаўскага уланскага палка з чырвонай зоркай,—аколыш яму гэткі знаёмы па Варшаве. Увесь у зброі. Стомлены, відаць, баямі. Раптоўна да яго прышоў. Голас яго прыемны. Твар у зморшчынах. І просіць Ліста. Дзіўацтва. Незвычайнае дзіўацтва.

Стары паглядзеў на чалавека ў зброі з неўразуменнем, потым падышоў да „Блютнера“, сарваў пакрывала, адкрыў клавіятуру і прыўзняў верхнюю дошку. Зараз гэта ўжо быў не стары, ён усё гэта прарабіў са шпаркасцю і спрытнасцю юнака, але ўсе яго рухі і крыху прыўзнятыя плечы выказвалі здзіўленасць і неўразуменне.

Ноты ён не шукаў. Гэтую п‘есу Ліста ён ведаў без нот.

Камандзір зараз сядзеў, ўзлакаціўшыся на маленькі пісьмовы стол. Правая рука яго, неўпрыкмет для яго самога, абаперлася на стале локцем на сямейны альбом.

Стары прайшоўся па клавішах. Раяль запеў—і здалося, што ў пакоі стала цяплей і святлей. Полымя свечкі замерла ў адным стане і стала больш яркім.

Голубеў не глядзеў на выканаўца п‘есы Ліста, ён напоўадвярнуўся ад раяля і ўслухоўваўся ў глыбіню гукаў.

Стары ўжо скончыў ігру, а для слухача струны ўсё яшчэ гучэлі. Голубеў моўчкі, не зварухнуўшыся, прадаўжаў слухаць.

Музыкант пазірнуў на госця, некалькі секунд глядзеў—ён чакаў адказу на музыку, хоць-бы звычайнага, прынятага ў такіх выпадках адказа,—магчыма, нават шаблоннага,—але госць прадаўжаў заставацца ў нерухомасці, захоўваючы ранейшую позу ля стала.

... Музыкант заіграў зноў. Тую-ж п‘есу. Пасярэдзіне партыі ён праз плячо пазірнуў на Голубева. Зараз твар Голубева, злёгку падаўшыся ўперад, павярнуўся да раяля, але вочы нічога не бачылі і не глядзелі, увесь твар напружана ўслухоўваўся, нібы штосьці шукаў у музыцы. Музыкант ад здзіўлення перапыніў ігру, а госць усё-такі слухаў.

... І чаму здзівіўся Іваноўскі—з воч чалавека ў скураным адзенні скацілася сляза. Чалавек нешта ўспамінаў і не бачыў вакол нічога. Нават не заўважыў, што музыка перапынена. Але маўчанне раяля было кароткім—стары прадаўжаў п‘есу. Ён дакараў сябе зараз за тое, што дазволіў сабе перапыніць ігру, павярнуцца і тым самым, хоць злёгку, але ўсё-такі ўварвацца ў інтымныя адчуванні гэтага чалавека—інтэлігентнага чалавека ў скуранай куртцы.

Вочы старога заблішчэлі. Ён пачаў іграць з нейкім асаблівым уздымам. Але гэта цягнулася нядоўга, раптам погляд яго стаў

сумным, галава схілілася і хоць ён прадаўжаў іграць з ранейшым захапленнем, але, як відаць, забыў на сябе, на абкружаючыя прадметы і на госця.

... І калі ён скончыў іграць—успомніў, што ў пакоі ёсць яшчэ адзін чалавек, якому і быў дадзены гэты канцэрт. Але для старога гэта быў ужо не чалавек, што заказаў канцэрт. Гэта быў госць, блізкі госць, свой чалавек, чалавек, які жыў з ім некалькі кароткіх хвілін адной і той-жа музыкай. І ён, гэты чалавек, быў дарагі яму.

Але што гэта? Чалавек маўчыць, таксама, як маўчаў да гэтага часу, не выказваючы ні гуку, ні слова аб музыцы. Музыкант не чакае ні падзякі, ні захаплення яго ігрой—але ўсё-такі госць павінен-жа што-небудзь сказаць. Але няўжо чалавека так кранула ігра—чалавек-жа па сапраўднаму плача.

Стары прайшоў у дальні цёмны кут пакоя і, пакорпаўшыся там з мінуту, выйшаў на святло.

У руках яго была старадаўняя ручная арфа. Жоўтае дрэва арфы залацілася пры цмяным святле.

Стары заіграў. Гэта быў той-жа „Consolation“. На арфе музыка была вельмі гучная. Арфа пела поўнагруднымі, сакавітымі, вельмі гучнымі галасамі. Голубеў, убачыўшы арфу, стаяў уражаны. Ён хацеў нешта сказаць, але ўтрымаўся. Вочы яго блішчэлі, былі сумна-радасныя. Ён, слухаючы, разглядаў старога.

Зараз, іграючы, плакаў стары. Ды не, не плакаў—проста некалькі буйных слязінак скацілася з яго воч.

Зараз будзе заключны акорд. Голубеў не даў яго даіграць. Ён рэзка падышоў да старога, перапыніў ігру.

Дзве рукі злучыліся ў рукапацісканні. Рукапацісканне было з пачуццём, сяброўскае. Не сказаўшы ні слова, Голубеў выйшаў. Пакуль стары ішоў са свечкай у сенцы, цёмная вуліца ўжо праглынула чырвонаармейскага камандзіра.

Да раніцы Іваноўскі не лажыўся, яго хвалявалі дзіўныя паводзіны не менш дзіўнага наведніка. Іваноўскі ўсю ноч думаў пра свайго госця, і момантамі яму здавалася, што нейкія дзіўныя і незвычайныя ніці звязваюць яго з гэтым сумным і, як ён вырашыў, гераічным чалавекам.

Адгадку гэтаму, такому нечаканаму вываду музыкант знайшоў. Проста чалавек сімпатычны і ўсімі сваімі дзіўнымі, але асаблівымі паводзінамі зрабіў на яго вялікае ўражанне, выклікаў да сябе сімпатыю, і вось гэтая кароткая сустрэча стварыла ўражанне даўняга, цікавага знаёмства.

Занялося шэрае світанне. Буран, слабеючы, лажыўся на зямлю і ўжо не ўзнімаўся.

Альбом, трапіўшы пад локаць Голубеву і неўпрыкмет адсунуты ім у бок, ляжаў на самым краі стала. Стары пераклаў яго на сярэдзіну і раскрыў. На першай старонцы быў фотаздымак—партрэт дзяўчыны бландынкі. З твару, атуленага футравым каўняром, пазіралі вялікія шэрыя вочы. Твар быў прыемны сваёй даўгаватасцю і, не гледзячы на строга сціснутыя губы, неяк сарамліва і проста ўсміхаўся, захоўваючы аднак пры гэтым сур'ёзнасць.

Простая футравая, круглая і крыху высокая, шапачка рабіла яго мілавідным і чароўным. Стары доўга глядзеў на партрэт: гэта была яго адзіная, любімая дачка Марыя—трагедыя адзінокай яго старасці, незаслужана не ўцешанай пяшчотамі любімай дачкі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Афіцэрская банда Андроннікаў Чорнага перлася размашыстай стэпавай рыссю. Наперадзе бяспечна скакаў добраконны раз'езд, коннікаў у дванаццаць,—вінтоўкі ў руках, на рамні, стваламі ўніз. Уначы прайшоў навакол буран—стала быць, Андроннікаў-Чорнаму і чакаць на сустрэчу некага. З аула Джангіз-Кара—апошняга абрабаванага пункта—ніхто ў горад весткі даць не мог. Не пусцілі з аула ні аднаго качэўніка. У горадзе не чакаюць—ясна. Сам „атаман-бацька" Андроннікаў быў бяспечны, чаго-ж людзям хвалявацца?

Рыссю ішлі. Іннаходзец пад атаманам драбніў часта, на дрымоту лёгкай хадою наводзіў.

Ёкалі гучна селязёнкі іннаходцаў, ляскала прыглушана жалеза вуздечак і страмён аб рамяні аброцяў і потнікавыя пакрышкі. Порскалі коні парай у сцюжу марозную. За атаманам штандар на піцы везлі: велізарны чэрап на чорным шоўку ззяў правалінамі воч, косці пад чэрапам дубінкамі разбойніцкімі скрыжаваліся. Надпіс над чэрапам: „У імя хрыста, за Расію"—славянскай вяззю—матляўся,—не ад ветру матляўся, а ад хады вялікай.

У апошніх шарэнгах паходнага строю „па тры" „Ермака" гугнявілі рознагалоса, вагаючыся ў такт рысі.

Роўны стэп—хоць шаром пракаці. Але вось ён у яры перайшоў, у нізіны і ўзвышшы—равы і ўзгоркі пайшлі ўправа і ўлева.

— Каратуйскія курганы,—прахрыпеў „бацька",—хутка да С*** пад'ыйдзем, стала быць.

І, павярнуўшыся да строю, рысі не сунімаючы, пракрычаў хрыпла—голас быў скрыпучы:

— Эй, браты-станічнікі, паснулі, маць вашу ў жалезныя ходы дзеравянныя... Хутка справа—падцягніся, казакі сібірскія, паны-афіцэры,—у сядле распрастаўся і ў носе калупаць пачаў, а потым сплюнуў вялікім пляўком з прыкархам праз вушы конскія і прабурчэў:

— П'еш і самагонку і брагу, мёд і кумыс—у бруху ды ў грудзях, чорт яго ведае, што атрымоўваецца, не пракархаеш ніяк.

... Што такое?

Ад схаваўшагася між узгоркаў дазора скача, распластаўшыся намётам, да калоны коннік—есаул Панюшкін.

Панюшкін, не даскакаўшы да калоны, п'яна, моташна крычаў:

— Чырвоныя, маць іх у сэрца, кавалерыя... эскадрон... у бой разгарнуліся, пруць ва ўсю, з кургано́ў выскачылі...

Следам за расхрыстаным есаулам агалцелы раз'езд скакаў, рассыпаўшыся.

— У лаву! марш!—заскрыгатаў каманду Андроннікаў, і банда афіцэрская захісталася ў шпаркім перастраенні, замацюкалася...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У лоб ішоў эскадрон—разгорнутым строем каціўся з гары. Перавага была безумоўна за нападаючым з вышыні.

Двума эшалонамі ішоў эскадрон.

А банда была ў плоскай яме.

— У лаву!—скрыгатаў Андроннікаў-Чорны.

Банда разгортвалася, разыходзілася—не па-статутнаму, баявым казацкім парадкам—азіяцкай лавай. Разрэджвалася па лагчыне і ўзгорках.

— А потым з флангаў абыйду атакуючую шарэнгу, чорта-лешага мяне зловяць,—парашыў Андроннікаў.

Зараз банда ўжо не ўяўляла страявога парадку—яна расплываючыся па стэпу, адыходзіла ад сярэдзіны ў флангі, направа і налева.

Эскадрону і ўдарыць няма па чым, у цэнтры ўдару—усяго з дзесятак белых коннікаў.

Хітры „атаман-бацька“ Андроннікаў. Рассыпалася банда казацкая па стэпу і ўлева падавацца пачала.

Цэнтр лавы ўжо валіцца пад саблямі чырвонаармейцаў. Астатнія ўцякуць зараз.

У гэты час... Што такое? Сканцэнтраваныя злева паны-афіцэры дрогнулі.

З за ўзгорка выскачыў, саблі на-гала, новы эскадрон чырвонаармейцаў.

Тым часам першы эскадрон павярнуў фланг і, стаўшы пад простым кутом да лініі лавы, зліўшы эшалоны, кінуўся ў атаку.

Банда ў абцугах.

— Ура!

Мацюканне.

Чорны штандар з хрыстовым імем і чэрапам матлянуўся і ўпаў.

Банда апынулася паміж двума атакуючымі эскадронамі. Эскадроны фронтам ішлі адзін да другога, на імклівым алюры, знішчаючы белагвардзейцаў.

Крыкі. Ляскание сталі. Тупат коней. Стогны. Мацюканне. Багародзіца. Падаючыя людзі. Абяспамяцеўшыя коні. Малітвы да хрыста. Ура! Недзе стрэл. Зноў: Ура!

Гэта цягнулася мінуты са дзве.

Банды не было.

Валер'ян Голубеў ляжаў на зямлі. Каля яго асірацела тупаў конь.

Палонныя прасілі літасці.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ледзь пачалося світанне, прывёў свой конны атрад камандзір Голубеў да Картуйскіх курганоў. Схаваў адзін эскадрон між узгоркаў, з другім чакаў сустрэчы, і як убачыў дазоры ворага—рушыў адкрыта. Аперацыя была бліскуча праведзена. Сваіх легла з дзесятак.

4

Атрад уваходзіў у горад. Вёў атрад адзін з эскадронных камандзіраў. У хвасце калоны на парным кулямётным тарантасе ляжаў Голубеў. А за ім вярхам, ведучы гнедага „Казбека“ на повадзе,—Васька Гулявін.

Атрад вяртаўся з перамогай. Не ўпершыню з перамогай вяртацца атраду. Песні заўсёды атрад спяваў, з песнямі ішоў пераможцам.

А вось сёння без песень. Моўчкі. Без смеху, без жартаў. Без размоў нават. Сумныя сядзяць у сёдлах байцы.

Сядзіць на кабыле, на „Анютцы“ сваёй, Васька Гулявін, прыгаруніўшыся.

— Ї-эх, Валер'ян Нікалаевіч... дарэмна... Ї да чаго-ж наперадзі жыццё прывольнае ідзе,—у Бухару на басмачоў хутка рушым... а ты... дарэмна, Валер'ян Нікалаевіч...—слёзы каціліся па твары ў байца.

5

Народны дом быў упрыгожаны чырвонымі ў жалобе сцягамі. Ля цела камандзіра Валер'яна Голубева стаяў бяззменны каравул кавалерыстаў—апошняя вайсковая пашана герою. Цела ляжала ў труне, пакрытае баявым кавалерыйскім штандарам. Некалькі газовак цмяна асвятлялі залу, у напоўзмроку чырвона-алыя сцягі мелі строгі выгляд. Ужо прыходзілі для аддачы пашаны мясцовыя ўлады і арганізацыі. Быў ужо і мітынг ля труны. Заўтра Валер'яна Голубева пахаваюць. Схаваюць у зямлю ў Тургайскай стэпавай глушы—у гарадку, якога, можа быць, ён і не ведаў ніколі, не чуў аб ім. Заўтра паставяць драўляны помнік на глухіх павятовых могілках і помнік гэты будзе мець форму пяцікантовай зоркі. Пісар штабнай каманды ўжо выпальвае на помніку надпіс:

„Тут пахаваны герой рэволюцыі В. Н. Голубеў—загінуў у баі з бандай Андроннікава, 12. 11, 20 года“.

Байцы нячутна хадзілі па нардому. Васька Гулявін сядзеў у адным з куткоў залы і трымаў у руках баян. Ён ужо некалькі разоў сыграў на баяне жалобны марш. І калі ён іграў апошні раз, адзін з байцоў падышоў да яго і сказаў:

— Не нудзі, і так моташна. Эх, стэпы Тургайскія, старана дальняя... Даруй, таварыш Голубеў, камандзір ты наш...

Людзі разыходзіліся. Заланалівалася цёмным смуткам. У зале засталіся Гулявін, каравул ды крыху байцоў.

Байцы сядзелі каля Ваські. Ён ім расказваў пра камандзіра, успамінаючы мінулыя баявыя эпізоды. Зрэдку ціхую, плаўную гаворку яго перапыняў хто-небудзь са слухачоў аднаскладовым пытаннем, патрабуючы тлумачэння незразумелых у расказе мясцін ці паўтарэння цікавых, захапляючых выпадкаў. Васька расказваў і біяграфію камандзіра, што ведаў. Ля труны пабліскавалі два клінкі.

Праз кожную гадзіну прыходзіла змена вартавых, яе прыводзіў адзін з комузводаў голубеўскага атрада.

Усё ужо расказаў Гулявін. Не было чаго больш расказваць. Сумныя сядзелі байцы. Немігаючы і скупа свяцілі газоўкі. Раптам у зале паявілася фігура напоўзгорбленага старога ў доўгім сурдуце, без пальто, без шапкі, шыя была захутана ў доўгі шалік. У канцах шаліка стары штосьці абярэжненька нёс.

Уражаныя паяўленнем дзіўнага наведніка, байцы ўзняліся з месцаў. Стары дрыготкай хадою накіраваўся да труны. Ніхто не пасмеў яго стрымліваць. Воддаль ад старога да труны падышлі байцы.

Твары вартавых захоўвалі бясстраснасць, хоць вочы глядзелі на раптоўна прышоўшага старога са здзіўленнем.

Стары доўга глядзеў на твар камандзіра кавалерыйскага атрада. Углядаўся ў яго, штосьці мармытаў. Твар яго быў засмучаны.

... Стары разняў канцы шаліка. Паказалася жоўта-залацістая дэка арфы, а потым і ўся арфа.

Усё гэта адбылося шпарка. Ніхто не паспеў уцяміць таго, што адбывалася, як стары, прыпаўшы трымцячымі рукамі да струн і дэкі арфы, заіграў...

... Па вялікай, жалобна ўпрыгожанай зале прабеглі поўныя смутку поўнагучныя галасы.

Васька Гулявін падставіў старому табурэт. Стары сеў.

... І, здавалася, смутак разрывае паветра і ўзнімае буру ў сэрцах. Маркотная мелодыя мясцінамі пераходзіла ў прыцішаны ўрачысты марш. Марш зноў змяняўся мелодыяй смутку.

Пра старога даведаўся ўвесь атрад. Зала напоўнілася байцамі. Стаяла цішыня.

Стары час ад часу перапыняў ігру і зноў іграў. Але часцей ён іграў нейкую адну і тую-ж рэч. Гулявін адышоўся ў кут залы і ўзяў у рукі баян—ён пераймаў на галасах баяна гукі гэтай рэчы і рэч гэта ўсё больш і больш урэзвалася ў памяць Гулявіна.

Толькі пад ранне, знямогшы, стары прыкархнуў у куце каля печкі. Уранні байцы прынеслі яму чаю.

Цікава, што ніхто з байцоў і камандзіраў атрада не спытаўся ў старога: хто ён і чаму ён іграе ля труны іх камандзіра.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Уранні Голубева хавалі. За трунай вялі на повадзе „Казбека". Ішоў у конным страі ўвесь атрад. Ішлі мясцовыя арганізацыі. Уздрыгвалі ўсхвалявана на ветры асеннім штандары, але музыкі не было—не было аркестра ні ў горадзе, ні ў атрадзе. За арганізацыямі ішлі абывацелі.

Жыхары гарадка не мала дзівіліся з таго, што за трунай ішоў з арфай музыкант Іваноўскі. Вецер калмачыў ягоную вялікую сівую шавялюру і задзіраў фалды чорнага сурдута.

Калі вырас магільны ўзгорак і быў пастаўлены помнік, усе разышліся. Каля магілы застаўся стары Іваноўскі і юнак Гулявін. Васька павёў старога дахаты.

Стары пачаў кашляць і ў яго з'явілася гарачка. Васька застаўся ў старога і за ім прыглядаў.

Пад ранне стары дужа аслабеў і пачаў траціць памяць. Мясцовы ўрач, прысланы па распараджэнню новага камандзіра атрада на кватэру да Іваноўскага, адзначыў безнадзейную прастуду старога.

Стары паміраў. Некалькі гадзін зблізілі двух музыкантаў—піяніста і баяніста.

Стары шаптаў ледзь чутна: „Блютнер" і арфу—народнаму дому... Ноты... А вось, вось альбом.. дай мне... Глядзі, гэта мая дачка—Марыя, Марынька... яе няма—яна памерла... у Петраградзе... Картку вазьмі сабе...—стары перадаў партрэт Марыі Гулявіну.

Стары заснуў. Спакойна заснуў. Васька схаваў фотаздымак у кішэнную кніжку.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

6

Атрад паходным парадкам ішоў у Бухару. Звінеў гучнагалосны Васькін баян. І больш за ўсё любілі байцы тую рэч, якую Васька пераняў ад старога музыканта,—яна ўспамінала ім аб героі, аб іх камандзіры, аб Голубеву.

І пад музыку гэтую, што шугала далёка па стэпах сярэднеазіяцкіх, ішлі байцы да новых перамог, ахвяравалі сваім жыццём.

Стэп мора не ведаў, але калі іграў баян,—адчуваў яго.

7

Голубеў нарадзіўся і вырас у Табольску. Бацька Голубева, настаўнік гарадскога вучылішча, рана прадаставіў свайму сыну Валер'яну права на самастойнае існаванне. Ва ўзросце сямі год Валер'ян застаўся без бацькі. Не было яму яшчэ дванаццаць год— памерла маці. Маці даводзілася роднай сястрою нечакана разбагацейшаму купцу з чалдонаў-сялян, Глазаву Пятру Савасцьянаву, уласніку рыбалавецкіх—па Таболу ды Іртышу—промыслаў.

Такім чынам, дванаццацігадовы Валер'ян Голубеў перайшоў на выхаванне да роднага купчыны-дзядзькі.

Яшчэ пры жыцці маці Валер'ян пачаў вучыцца ў рэальным вучылішчы. Зімой ён вучыўся, а летам на промыслах рыбалавецкіх нельму ды максуна, асятра ды сцерлядзь падлічваў на пуды, разрахункі вёў з рабочымі—сваё выхаванне ў дзядзькі-купца адрабатваў.

З дзядзькам выйшла сварка і ён ад яго пайшоў. Правільней, дзядзька яго прагнаў. Амаль пабіраючыся, Валер'ян у чатырнаццатым скончыў рэальнае вучылішча і паехаў у Пецербург.

Потым было напоўгалоднае студэнцкае жыццё. Пасля гэтага ён быў прызваны ў армію і залічаны вольнаапрадзяляючымся ў лейб-уланскі варшаўскі полк. Фронт на Стаходзе. Вошы, ужо не раз апісаныя ў літаратуры, нягоды франтавага жыцця, якія не адрозніваюць радавога салдата ад вольнаапрадзяляючагася, і, нарэшце, параненне—вось дадатковыя дэталі наступнага існавання студэнта-юрыста. Затым Петраград—каманда ачуньваючых. Люты 1917 года. Ліпеньскія дні. Ён—член РСДРП(б). Зрэшты, бальшэвіком у душы ён быў ужо даўно.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Яе ён сустрэў на партыйным сходзе ў Маскоўска-Нарвскім раёне. Засядала адна з баявых большэвіцкіх арганізацый. Абмяркоўвалася пытанне падрыхтоўкі да паўстання. Гэта было незадоўга перад дваццаць пятым Кастрычніка. Яны былі разам у камісіі па выпрацоўцы рэзалюцыі. Ён быў уражаны яснасцю і дзелавітасцю яе прамовы і лагічнасцю яе вывадаў. Асабліва ўразіла яго скупая прамова і халодная разважлівасць. Думкі, выказаныя ёю, былі ясныя і простыя. Не гледзячы на лаканічную сухасць прамовы, яна гаварыла пераканаўча. Кожны сказ завісаў у паветры, як бясспрэчная, няўхільная ісціна. Да ўсіх гэтых якасцей трэба яшчэ дадаць прыгожы, сакавіты голас. Ён тады ўжо вырашыў, што яна

павінна добра спяваць. Нехта каля яго ціха сказаў: „Пэўна, бестужэўка?“ „Медычка“,—вырашыў Валер‘ян.

Пасля схода стыкнуліся яны на цёмнай лесвіцы. Чыйсьці голас папрасіў яго пасвяціць. У яго былі запалкі. Яшчэ не ўсціраючы запалку, ён пазнаў яе па голасу. Калі яны выйшлі на вуліцу, імжыў дробны імглісты дожджык, туман адчуваўся і без святла. Яны моўчкі павярнуліся ў адзін бок і, прайшоўшы квартал, яна спыталася ў яго: „Дзе вы жывеце?“ Ён адказаў: „У Лясным“. Адказаў і прапанаваў яе правесці, не спытаўшыся нават пра адрас яе кватэры.

Ён узяў яе пад руку і яны так ішлі. Ішлі і маўчалі. Яна была ростам крыху ніжэй за яго. Ішлі ў ногу. Яна ішла вольна, ёй не было патрэбы спяшацца за ім—крок у абодвух быў аднолькавы.

Ён загаварыў першы, спытаўшыся:—Вы медычка? Яна адказала:—Не,—і засмяялася. Ён таксама чамусьці засмяяўся, а потым спытаўся:—З чаго вы, таварыш, смяецеся?

— А з таго, таварыш, што мяне ўсе за медычку прымаюць—і вы туды-ж: медычка!

Яны зноў маўчалі. Але маўчалі непрымушана. Калі дайшлі да яе кватэры на Фарштацкім, яна проста прапанавала:

— Зойдзем да мяне.

Яна займала асобны пакой на другім паверсе. Частка пакоя была аддзелена шырмай і з-за яе віднеўся акуратна прыбраны ложак.

Пілі чай. За чаем яна спыталася, як яго завуць. Ён адказаў: „Голубеў“.

— Як завуць?—паўтарыла яна пытанне. Тады ён, падумаўшы з хвіліну і мала не пачырванеўшы,—яму здалося, што ён няправільна зараз адказвае, сказаў:—Валер‘ян Нікалаевіч.

— Добра. Я буду вас называць Валер‘ян. Проста. Мяне завуць...

Тут Голубеву прышла дзіўная думка і ён, не даўшы ёй дагаварыць, перабіўшы яе, сказаў:—Ведаеце, вам-бы вельмі ішло імя...—і замяўся.

Яна здзіўлена ўскінула на Голубева вочы, чакала, што ён скажа далей. Тут Голубеў набраўся смеласці і вымавіў:

— Белка!

Абодва доўга і шчыра смяяліся. Потым яна сказала:

— Мяне так ніхто і ніколі не называў. Мне падабаецца гэта імя. Для вас я—Белка.

Гаварылі пра фронт. Пра партыйную работу. Пра надыходзячыя большэвіцкія справы. Ён расказаў ёй, што ў мінулым ён—студэнт-юрыст.

Калі ён хацеў даведацца яе прозвішча, яна адказала: яе партыйная мянушка—„Кавалёва“.

— Дык вы, Валер‘ян, прынялі мяне за медычку?

— Так. Бачыце, па дзелавому тону на сходзе вы—медычка. А па... па...—ён не мог падабраць слова,—вы—не медычка.

Яна гучна засмяялася.

— Я студэнтка кансерваторыі.

Ён быў уражаны.

— Дазвольце,—кансерваторыі?

— Вы здзіўляецеся? Здзіўляецеся, што я—большэвічка?

— Н-не,—гэтае „н-не“ значыла: „Так, здзіўляюся“.—Але гэта дзіўна.

Вялікая канцэртная арфа была ў яе пакоі і, не гледзячы на позні час, Белка ўселася за арфу. Яна іграла галоўным чынам Ліста і апошняе, што яна сыграла і што асабліва запомніў Велер‘ян, была „Consolation“.

Час да раніцы Голубеў правёў у сваёй новай знаёмай. Дадому ісці было позна і рана. Ён спаў напоўраздзеўшыся ў яе пакоі, на куцаватай кляёнчастай канапе. Уранні яны разыйшліся кожны па сваёй справе—яна ў свой раён, ён—у салдацкую секцыю совета.

Так завязалася простае, па-студэнцку традыцыйнае, спаянае простасцю адносін, сяброўства.

Былі гарачыя дні—было не да сустрэч, але ўсё-такі яны знаходзілі магчымасць калі-ні-калі сустрэцца і Белка іграла Валер‘яну „Consolation“. Кожны раз пасля кароткага сну ў Белкі ён адчуваў асаблівую бадзёрасць.

Так нарадзілася шчырае чалавечае каханне, абгрунтаванае простым сяброўствам.

З семнаццатага да дваццаць сёмага кастрычніка яны не бачыліся, хоць Валер‘ян і часта бываў у Смольным, дзе працавала ў апошнія дні Белка.

Валер‘ян камандаваў эскадронам лейб-драгунскага запаснага палка. Эскадрон днём раззбройваў юнкераў, уначы нёс службу пікетаў на пецербургскіх ускраінах. Стомленыя баямі і баявой дазорна вулічнай службай, чырвонагвардзейцы-драгуны былі пад вечар дваццаць восьмага кастрычніка зняты на адпачынак.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Валер‘ян ачнуўся ў шпіталі. На адрыўным календары, што вісеў на белай сцяне супроць яго ложка, буйна-чорным—значылася:

„9 лістапада 1917 года“.

— Дзе Белка, дзе арфа, дзе пакой Белкі?

— Ну, як сябе адчуваеце, таварыш Голубеў?—пачуў ён справа ад сябе голас. Павярнуўся і ўбачыў побач з сабой, на наступным ложку, пахудзелы бледны твар; рыжая шчэць непабрытасці рабіла твар хваравіта бледным. Чалавек усміхаўся Голубеву не тварам, а вачыма.

— Дзе я і хто вы?

— Вы ў ваенным шпіталі, у тыфозным аддзяленні. А я—хворы, таксама як і вы,—сусед па ложку. Я вас ведаю, вы з сваім эскадронам у нас на Охце стаялі ў тыя дні.

Голубеў без натугі зразумеў, што значыла „ў тыя дні“.

— Дык я ў тыфу? А дзе ж Белка?

— Так, вы ў тыфу. Але нічога, таварыш Голубеў, пройдзе. Крызіс мінуў. Што гэта за Белка? Вы ўвесь час трызнілі Белкай, нейкія пісьмы ўспаміналі, крычалі, кагосьці раззбройвалі. Прасілі кагосьці іграць на арфе...

— А Белка, дзе-ж Белка?—ужо застагнаў Голубеў, прадчуваючы на поўную свядомасць, што здарылася нешта неадхільнае, страшнае.

Узяўшы сябе ў рукі, Голубеў выклікаў дзяжурнага ўрача і ў яго ўстанавіў: „Дастаўлены ён у шпіталь у ноч з 28 на 29 кастрычніка. Перад тым, як санітарны аўтамабіль яго забраў, прыйшла нейкая старая з Фарштацкага і заявіла, што ў пакоі ў яе кватаранткі, курсісткі кансерваторыі, ляжыць і брэдзіць ваенны з „вашых“—як заявіла старая,—гэты ваенны і раней прыходзіў у госці да яе кватаранткі, а калі ўвечары 28 кастрычніка прыйшоў—курсісткі дома не было...

Голубеў з Фарштацкага быў дастаўлены ў шпіталь і да сёнешняга дня быў без памяці“.

— Доктар, напрамілуй бог, пазваніце ў Смольны. У оргбюро. Даведайцеся пра Кавалёву прашу вас, а то я сам...

— Пра Кавалёву? Добра. Для дакладнасці—як яе імя?

— Белка.

— Бэла?

— Ды не. Белка. Хоць,—даруйце, доктар,—па гэтаму імю яе ніхто не ведае,—спытайце Кавалёву, аднаго з арганізатараў дружыны ў Маскоўска-Нарвскім раёне. Для дакладнасці—яна курсістка кансерваторыі.

... З Смольнага дзяжурнаму ўрачу пятага петраградскага ваеннага шпіталя паведамілі: „Большэвік Кавалёва, курсістка кансерваторыі, працаваўшая ў Маскоўска-Нарвскім райкоме РСДРП, у ноч з 28 на 29 кастрычніка ў часе следвання з групай таварышоў на машыне на адзін з заводаў для правядзення мітынга—забіта за Обухоўскай заставай. На машыну напалі блукаўшыя бандай за горадам афіцэры каўказскай туземнай дывізіі“.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

8

Нескладаная маемасць загінуўшага ў баі з бандай Андроннікаў-Чорнага камандзіра кавалерыйскага атрада Голубева па аднадушнаму прыгавору байцоў атрада перайшла да канавода Голубева—Гуляева Васіля. Па закону маемасць загінуўшых байцоў і камандзіраў падлягае адпраўцы сваякам загінуўшага, а калі няма сваякоў, дык па няпісанай традыцыі Чырвонай арміі перадаецца блізкім баявым таварышам. Самым блізкім баявым сябрам Валер'яна Нікалаевіча быў Васіль Гулявін.

Ды і якая там маемасць. З бялізны што-якое, ды кніг з поўдзесятка ў чамадане патрапаным.

Сярод пераплеценых томікаў Гейне, у выданні Маркса, дадатак да „Нивы“—Васька знайшоў запісную кніжку. Кніжка вялася выразным почаркам, але запісы алоўкам з цягам часу сцерліся. Толькі ясна вызначаўся адзін запіс: „10. XI. 20. Заўтра дзень смерці Белкі. У гэты дзень я кожны год слухаю „Consolation“. Любая Белачка, памяць аб табе мне гэтак дарагая. О, калі-б ты была жывая! Скончыцца вайна, я паеду ў Петраград і асеннія хрызантэмы кожны год у гэты дзень будуць упрыгожваць тваю магілу на Волкавым могільніку. Наперадзе дарога ў шчаслівыя дні,—прыкра, вельмі

прыкра, што тваё кіпучае жыццё абарвалася так не ў час. Кажуць, у горадзе ёсць стары музыкант, па прозвішчу Івыноўскі, пайду заўтра да яго і папрашу сыграць Ліста—не зусім ёмка, але нічога, я папрашу, і калі ён сапраўдны музыкант, ён не адмовіць. Можа, усё гэта і сантыментальна, але ўсе гэтыя пачуцці—пачуцці жывога чалавека".

— Ды вось зачым Валер'я Нікалаевіч пайшоў да старога ўначы, вось яна, прычына тая...—і Васька задумаўся. Перад вачыма паўстаў твар старога музыканта з арфай.

— Што такое?—з напоўададрванай кішэні пры вокладцы запісной кніжкі на стол выпаў фотаздымак. Са здымка глядзелі вялікія вочы дзяўчыны; сумныя; вусны сцятыя... Дзяўчына ў футравым каўняры, у круглай і крыху высокай коцікавай шапцы...

— Ды дзе-ж я яе бачыў... ах ты... дзе?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І Васька таропка дастаў фотаздымак, перададзены яму паміраючым старым-музыкантам.

З абодвух картак глядзеў адзін і той-жа твар. Гэта быў адзін і той-жа здымак. На адным фотаздымку было напісана: „Слаўнаму, добраму, старому бацьку. 23. IV. 1917 года. Марыя".

На другім: „Любаму Валер'яну. На ўспамін аб каханні, што палымнее агнём,—велічным і бясконцым, як шчасце. 13. X. 1917 года. Белка".

— Э-эх,—толькі і сказаў Васька і абмахнуў сарамлівую слязу.

* * *

Людзі стаялі вакол Ваські, а ён іграў. Да чаго-ж ён добра іграў на баяне—увесь кішлак сабраўся. Сотня людзей—і ўсе моўчкі слухалі. А вакол кішлака ляжаў стэп і гулліва плёскаліся вясенняй вадой, што бяжыць з гор, арыкі.

Васька скончыў іграць. Людзі, заваражаныя музыкай чараўніка-баяна, маўчалі. Васька глядзеў, як праменні вячэрняга сонца заміраюць у садах на вішнёвай квецені, і думаў пра Тамбоў, пра Валер'я Нікалаевіча, пра Марыю, што Белкай звалі, пра старога музыканта...

— Вася, што гэта за песня? Проста, Вася, у палкавыя-б яе запісаць, таму што ўвесь полк яна, Вася, абыйшла, і любяць яе байцы, як марш баявы. А памятаеш, Вася, ты як пачаў іграць яе пад Акцюбінскам, дык да Старай Бухары кожны дзень на паходзе іграў. Проста не песня; а паёк другі. Вася, што гэта за песня?

— Не ведаю.

— Гэта „Консоляцыён" нумар тры—Ліста. Быў у Аўстрыі кампазітар такі—Ліст Франц... Класік музыкі,—адказаў за Ваську падышоўшы да байцоў і дэхкан палкавы настаўнік, які да гэтага слухаў музыку Ваські зводдалі.

Людзі слухалі Ліста і не хацелі разыходзіцца.

А заўтра зноў у бой з басмачамі. Кажуць, каля Тэрмеза новая банда паявілася.

Спускалася цёмная ноч. Чорны аксаміт усходняга неба адсвечваў яркім бляскам зорак.

*Пераклаў Р. Л.*

---

*Сілан Гусеў*

# РАССТРЭЛ

Балоты цягнуліся на захад. Бяроза, альха, лаза густым хмызняком раслі вакол дрыгвяністых мясцін. Вада ў невялікіх азёрцах была зялёная ад ціны, а дзе-ні-дзе зарасла густой асокай і чаротамі.

Усе масты на дарогах цераз балота разбураны. Бярвенні і дошкі, раскіданыя, тырчэлі канцамі з рэчкі і па канавах.

К усходу, між густымі зараснікамі, на зялёным лужку, ляжалі трупы людзей, відаць былі груды зямлі і глыбокія чорныя ямы—ад выбухаў знарадаў.

У лагчыне, каля густога зарасніка, блішчэла вада. З чаротаў тырчэў сошнік станкавага кулямёта з прывязаным канцом вяроўкі. Тут-жа двое забітых—матрос і юнак у зашмальцаванай рабочай блузе. Матрос, у белай форменцы, у чорных штанах, у туга насунутай бесказырцы, ляжаў на грудзях, зарыўшыся тварам у зялёную траву. Блакітны каўнярок яго форменкі быў у плямах крыві. Падагнуўшы пад сябе рукі, забіты, здавалася, намагаўся ўстаць.

Юнак ляжаў каля матроса, упаўшы на левы бок. З яго разарванага пляча сачылася кроў і цямнела на траве. Твар юнака бледны. Адкрытыя шэрыя вочы нерухома пазіралі на сонца. У правай руцэ юнак усё яшчэ трымаў карабін. Навокал грудкамі валяліся стрэленыя гільзы, шабля, скручаныя ў трубкі кулямётныя істужкі. Крыху далей,—забітыя пятлюраўскія гайдамакі. Яны то ў зялёных гімнасцёрках, то ў чорных кароткіх мундзірах, перашытых на грудзях цёмнымі шнурамі. Іх шапкі-папахі, рабыя і чорныя, былі параскіданы па траве.

К поўдню за гаем, воддаль ад лужка, яшчэ чуліся, як трэск сухога сучча, вінтовачныя стрэлы. Часам гэтыя стрэлы пакрываў выбух гарматы. Тады ўздрыгвала зямля, уздрыгвала спакойнае паветра. З-за гаю пятлюраўцы вывелі на поле дзевяць чалавек палонных. З голымі шаблямі, з карабінамі і з прымкнутымі да вінтовак штыхамі пятлюраўцы шчыльным кальцом акружылі палонных.

Спякотна і душна. Палонных вядуць на дарогу. Рэдкія стрэлы гармат і стрэлы вінтовак ужо заціхлі.

Гай маладых бяроз і сосен застаўся далёка ззаду. Насустрач палонным то ўзводамі, то эскадронамі, па шырокай дарозе верхам імчалі пятлюраўскія гайдамакі. Рушыла калонамі пяхота. Шасцёркамі, васьмёркамі коней вязлі гарматы. А следам цягнуўся абоз.

— У палон яшчэ іх браць? На мушку чырвоную сволач!—час адчасу ўскрыквалі пятлюраўскія афіцэры, якія конна праляталі каля палонных.

— Паспеем! Загадана жывымі іх даставіць!—крычаў у адказ ім атаман Гапун.

Пяць конных гайдамакаў і дванаццаць пешых, на чале з атаманам, абкружалі чатырох палонных. Голыя шаблі, гранёныя штыхі і рулі карабінаў паблісквающь на сонцы вакол іх.

Уперадзе палонных ідзе матрос Ключэнка. Ён у стаптаных камашах, без шапкі, у фланелеўцы, што адзета на паласатую матроскую цяльняшку. Яго доўгі клёш у рыжых плямах балотнай гразі. Медна-загарэлы твар—пануры. Пад шырокімі, як крыллі ў палёце, чорнымі брывямі матроса свецяцца маленькія вочы, поўныя яшчэ і цяпер рашучасці і адвагі з гонарам сустрэць смерць ці перамогу.

— Трымайце, таварыш, усё ў сакрэце,—прашаптаў Ключэнка, калі праехала пятлюраўскае войска і здалёку чуўся толькі грукат абоза.

— Памром... Але не выдадзім, таварышы,—пацвердзіў малады хлопец, комсамолец Петрачэнка, які ішоў за матросам. Ён босы, у палатнянай сарочцы, у цёмных, паласатых штанах. Яго русыя, кучаравыя валасы ўздымаліся ад лёгкага подыху ветра.

— Памром, таварышы, але не выдадзім,—зашапталі і ўсе астатнія палонныя. Стомленыя ўпартым боем, яны ўсё-такі рушылі цвёрдымі крокамі.

— Не размаўляць!—крыкнуў атаман Гапун, пачуўшы шэпт палонных. Ён, як ехаў наперадзе, адразу прыпыніў каня.—Бісавы худобы! Там з вамі пагаворым!—закрычаў атаман, калі параўняўся з палоннымі.

— Пагаворадь і з вамі, белы гад!—вырвалася ў Петрачэнкі.

— Оце... ты шчэ...—Гапун брыдка вылаяўся, падскочыў на кані да юнака і з усёй сілы ўдарыў бізуном комсамольца. Бізун засвістаў у паветры і абвіўся па грудзях і па спіне Петрачэнкі. Юнак уздрыгануўся, пахіснуўся, яго вочы бліснулі нянавісцю. Ён хацеў схапіцца за бізун, вырваць яго з рук атамана. Але прыстаўлены да грудзей штых гайдамака з рыжымі вусамі стрымаў намер юнака.

— Там пагавару з табой, чырвоны д'ябал!—пакарэжыўся ад злосці твар атамана, а двайны падбародак сударгава затросся. Рэдкія, як у кітайца, вусы звісалі канцамі да куткоў роту. Гнеды конь фыркаў, матляў галавой, рваўся ўперад...

Палонныя чырвоныя партызаны і канвой ішлі далей ужо моўчкі пыльнай дарогай. Вакол было роўнае поле з ярыной, пацямнеўшае каля дарогі ад пылу. Уперадзе ледзь прыметна была відаць двухглавая царква. Глава і шпіль званіцы бачны, як пікі, даўжэйшая і караџейшая. Улева ад царквы высокі ўзгорак. Каля ўзгорка віецца дарога, а далей жаўцее бясконцае жыта.

Канвой вядзе палонных далей. Вось ужо відаць з шэрымі сценамі і ўся царква. Як картонкі, відаць хаты сяла з вострымі трыкутнымі стрэхамі.

Ключэнка ідзе ўперадзе партызан усё тымі-ж валюгастымі крокамі матроса. Здавалася, што ён зусім нядаўна сыйшоў з карабля і як пасля пяражытага на моры шторму спакойна ішоў па беразе ў горад. На яго грудзях, шырокіх, мускулістых, матляўся ласкут разарванай фланелёўкі, каля ласкута відаць была трыма палоскамі

цяльняшка. Яшчэ нядаўна, некалькі гадзін таму назад з грудзей Ключэнкі быў сарваны ордэн Чырвонага Сцягу. Яго сарваў сам атаман Гапун. Сарваў там, у гаі, і потым клінком шаблі плашмя ўдарыў матроса па грудзях.

— Оце, ты галоўны большэвік!.. Кажы!—крычаў тады атаман і трэсся ад злосці. Ён потым забраў і ўсе дакументы ў Ключэнкі.

У баку, за гаем, у гэты час яшчэ грукатаў выбух гармат, дзені-дзе чуліся вінтовачныя стрэлы. Ключэнка стаяў перад штыхамі.

— Так, я галоўны!—адказваў ён, стрымліваючы пякучы боль ад удара шаблі па грудзях...

... Нечым было адбіцца гэтай, якая засталася ў жывых, групцы чырвоных партызан. Не хапіла патронаў, не хапіла гранат. Ва ўпартым баю з няроўнымі сіламі, атрад Ключэнкі быў разбіты яшчэ на лужку. Ён прыняў там бой з пятлюраўцамі, прыняў, каб стрымаць ворага, пераважаючага сіламі ў шмат разоў, і, ахвяруючы жыццём, даць магчымасць астатнім атрадам чырвоных партызан адыйсці ў глыб балот, адыйсці і захаваць свае сілы—па неабсяжных зарасніках бярэзніку, альхі і лазы.

Хоць і афяраваў сваім атрадам і самім сабой Ключэнка, але затое дасягнуў ён мэты! Галоўныя партызанскія сілы былі захаваны... з групкай людзей, адданых справе, Ключэнка ўсё-ж прабіўся ад лужка да гаю, прабіўся, нанёс вялікія страты ворагу. Гэта яго цяпер хвалявала, не зважаючы на тое, што прадбачна была няўхільная смерць у такім палоне...

... Канвой падыходзіў да сяла. Шырокая вуліца вяла да вузкай, з невялічкімі прытокамі, рэчкі. Каля прытокаў рушылі гуртамі ўзброеныя пятлюраўцы. Яны трымалі напрамак на сяло. Відаць, пятлюраўцы толькі што перайшлі рэчку.

Сяло нібы вымерла, яно ціхае, як могільнік. Толькі з двара, што каля самай царквы, праз расчыненыя вокны чуліся гукі раяля, п'яныя галасы і воклічы жанчын і мужчын.

„Адыйшлі, захаваліся таварышы. Ворага будзе ямчэй у патрэбны час з тыла ўдарыць",—думае Ключэнка, падыходзячы да царквы.

— Гэй! Глядзіце! Нашы большэвікоў вядуць!—крыкнуў нейчы п'яны голас з акна з вялікай папоўскай хаты. І хутка з ганку, брынкаючы шпорамі, ужо збягалі афіцэры, за імі спяшаліся дзяўчаты і дамы ў святочных убёрах.

Побач з домам папа ля драўлянай агарожы стаялі ў цяньку сядланыя коні.

Сонца паступова хавалася за ўзгорак, які цяпер апынуўся на захадзе.

Выбегшыя афіцэры прыпыніліся ля канвоя з палоннымі. У баку ад іх шапталіся жанчыны, яны баяліся падыйсці бліжэй да палонных. Нібы коцячыся па зямлі, спяшаў сюды і поп. Ён худзенькі з твару, але тоўсты ў аб'ёме. Полы яго доўгай і шырокай расы хісталіся. Бародка ў папа, як у казла, зусім нейкая рэдзенькая, нібы абскубаная кім. З-пад саломенага, з шырокімі палямі, капялюша, тырчэла ззаду рэдзенькая каса.

— Гм... большэвікоў прывялі, — праказаў поп, пазіраючы на Ключэнку, і стаў каля афіцэраў.

— Так, вадалаз, угадаў, — нядобра усміхнуўся Ключэнка... Поп меў вельмі смешны выгляд. Ключэнку здавалася, што поп падобны да чорнага жука, які вось зараз распастрэ крыллі, каб узняцца і ляцець...

— Гэта галоўны іх! Яшчэ і айца зневажае ён! — крыкнуў атаман Гапун і, саскочыўшы з каня, падбег да Ключэнкі, ударыў кулаком па твару. Матрос не варухнуўся, толькі з нянавісцю паглядзеў на Гапуна, на афіцэраў і папа. Шустры гайдамак хутка адвёў гнядога атаманавага каня да агарожы.

— У падвал гэту брыдоту! Дапытаць! Потым за ўзгорак! — даў загад старшы афіцэр з чарнявымі каротка-астрыжанымі вусікамі.

І афіцэры пайшлі ў дом папа. За імі павярнулі дзяўчаты і жанчыны. Яны цяпер нешта крычалі адна адной, падымаючыся на ганак.

Палонных партызан пасадзілі ў склеп пад царквою. Вялізныя ўмураваныя ў сцяну камяні і чорная земляная падлога склепа пакрыліся вільготнай цвіллю. У невялічкае, з кратамі, акно дзьмуў летні вецер. Цесна, халодна і брудна. Вільготная цвіль бралася за вопратку нявольнікаў, прыліпала да рук.

— Катаваць будуць нас. Трымацца, таварышы, не выдаваць атрады, — сказаў Ключэнка і ад стомленасці апусціўся на чорную вільготную зямлю.

— Няхай катуюць, гады. Усероўна не выдадзім, таварыш камандзір, — адказалі ўсе разам, нібы згаварыўшыся. Яны апусціліся адзін каля аднаго ў цёмным склепе на падлогу.

* * *

У бяссонні плыла першая ноч. Партызаны былі стомленыя, змардаваныя.

Яны сядзелі моўчкі і часам драмалі. І толькі перад усходам сонца, калі шмат хто з іх ужо спаў, пятлюраўцы парушылі цішыню ў склепе, парушылі і сон нявольнікаў. Яны пачалі выводзіць іх са склепа па аднаму. Вакол царквы і да самых дзвярэй склепа быў густы ланцуг узброеных гайдамакаў.

— Оце хто з вас, хлопцы, мацнейшы, выходзь — лупцаваць чырвоную сволач, — чуўся голас Гапуна. Ён выбіраў дужых пятлюраўцаў і неўзабаве першым вывялі катаваць Ключэнку, — матроса-камандзіра. Яго адразу паклалі ў дзвярах склепа на зямлю. Потым сарвалі фланелеўку і клёш. Схапілі за рукі, за ногі і за галаву — расхрысталі яго хутка і пачалі лупцаваць бізунамі і шампаламі.

— Кажы, крамольнік! Кажы, дзе чырвоныя! Колькі іх? — чуўся азвярэлы, п'яны голас атамана Гапуна.

Удары шампалоў і бізуноў мацнелі. Ключэнка то стагнаў, то скрыгатаў зубамі. Яго скрыгат і стогн і ўдары, якімі яго надаралі гайдамакі, чуліся навакол царквы, чуліся і ў склепе. Палонныя партызаны гарэлі нянавісцю. Мацней сціскаліся кулакі.

Разам з катамі быў і поп.

— Кайся, блудны сын, ва грахах сваіх. На тым свеце лягчэй стане. Кажы праўду за боскую веру,—мармытаў поп пад п'яныя воклічы атамана Гапуна, пад свіст бізуноў і шампалоў...

Так цягнулася катаванне кожнага палоннага партызана. Кожнага дапытвалі такой карай гайдамакі-афіцэры. Кожнага ўсчуньваў усе тымі-ж словамі поп. Катам мала было раніцы. Усход сонца як-бы перашкодзіў ім прадаўжаць расправу.

Над галоднымі нявольнікамі чацвертыя суткі здзекваюцца гайдамакі-пятлюраўцы.

— Хутчэй бы гады стралялі,—сказаў Ключэнка раніцай.

— Так... Хутчэй-бы, таварыш камандзір,—прагаварыў ахрыплым галасам Петрачэнка.—Яго апошнім, як і усіх, ужо трэці раз толькі дзве гадзіны таму назад катавалі шалёныя ворагі.

— Забіце, гады... не скажу!—увесь абліты крывёю крыкнуў Петрачэнка.

Ледзь жывым укінулі яго гайдамакі ў склеп да яго таварышоў, якія прайшлі ўжо сваю чаргу катавання.

— П'яўкі белыя! Хутчэй страляйце!—закрычаў да гайдамакаў партызан Храмічэнка, грузчык, высокі, мускулісты, з метровымі грудзьмі. Яго хударлявы твар з прасохлымі плямамі крыві распух. На маленькім роце губы павялічыліся, скрывіліся.

Юнак Петрачэнка крыху ачуняў. Яго кучаравыя валасы скамлычаны бруднымі рукамі пятлюраўцаў. Твар у зямлі і крыві. Маленькіх вяснушак ля круглага невялічкага носу ўжо не было відаць.

— Брацішка! Малайчына! Моцны ты духам. Сапраўдны комсамолец!—пазіраючы на бледны твар Петрачэнкі сказаў матрос. Юнак усміхнуўся белымі, як снег, роўнымі зубамі. Блакітныя вочы яго ўсё яшчэ блішчэлі гонарам за свой лёс. Вішнёвыя губы яго пацямнелі, засохлі.

Увесь дзень прайшоў марудна і сумна. Як ніколі мучыў голад. Да кожнага непрыкметна падбіралася смерць. Ад катавання і голаду к вечару памёр партызан Курыленка. Ён скурчыўся ў склепе і ляжаў тварам угару. Партызаны тады стукалі ў дзверы, клікалі вартавых, але гайдамакі, якія вартавалі каля дзвярэй, не адзываліся, а калі адзываліся, то з лаянкай, пагражаючы страляць праз жалезныя дзверы склепа...

Найшла ноч, ціхая, жнівеньская. Неба ўкрылася воблакамі. За гэтымі воблакамі плыў, нібы к усходу, месяц, асвятляў палі, сяло, рэчку, узгорак... Партызан вядзе моцны канвой. Вядуць да ўзгорка на расстрэл. Ззаду чуўся сіпаты голас атамана Гапуна. Ен брыдка лаяўся. Яму не дапамаглі ні голад, ні кары шомпаламі і бізунамі. Вырваць весткі ад партызан, на якія так спадзяваўся шалёны Гапун, не ўдалося.

Шапка-папаха ў атамана з доўгім цёмным мяшком, перахрыстаным срэбранымі шнуркамі, заломлена на патыліцу. Ён блішчыць увесь у срэбры, хістаецца п'яны ў казацкім сядле на гнядым кані. Конь лёгка падымае свае каваныя ногі, паблісквае ў пылу падковамі.

— Хутчэй, хутчэй!—зноў падганяе лаянкай Гапун.

Ключэнка зноў ідзе ўперадзе. Але цяпер ён у набраклай крывёю бялізне, босы. Побач з ім комсамолец Петрачэнка. Ён прывязан вяроўкай за левую руку да правай рукі свайго камандзіра-матроса. І ўсе астатнія ідуць следам з прывязанымі адзін да аднаго рукамі. Няма толькі партызана Курыленкі. Той застаўся ў склепе, з халодным і нерухомым тварам, на якім быў малады пушок цёмнай бародкі...

Калі пятлюраўцы выводзілі з склепа ўсіх партызан, Ключэнка апошні раз паглядзеў на свайго байца Курыленку і ціха праказаў:

— Даруй, таварыш,—і абвёў вачыма залітае месяцам поле, шэры двор папа і тупых пятлюраўскіх салдат. Яго вочы гарэлі, сэрца стукала. Петрачэнка ўжо стаяў побач з ім і з нянавісцю азіраўся. А калі пятлюравец нагнуўся і пачаў скручваць яго руку вяроўкай з рукой матроса-камандзіра, ён гучна праказаў над галавой гайдамака.

— Мацней, гад, вяжы. Я ведаю за што гіну, а ты не.

Усіх восем канвой падвёў да ўзгорка, які цяпер быў асветлены месяцам. Унізе ўзгорка глыбокая яма, прыкрытая ценню ад вяршыні, раззявіла сваю чорную бездань.

„Прышлі“—падумаў Ключэнка, падумалі і ўсе астатнія. Не паспелі яны прыпыніцца як неўзабаве пад‘ехала брычка. У ёй сілуэт папа і нейкага штацкага... у чорным капелюшы.

Да магілы было тры крокі. Першымі да яе падвялі матроса Ключэнку і комсамольца Петрачэнку. Яны стаялі моўчкі. Тут да іх першым падышоў з крыжам поп.

— У імя айца і сына...—замармытаў ён,—кайцеся, браты, во грахах. Ваш час прыйшоў. Скажыце праўду і вам богам будзе даравана на тым свеце жыццё,—і поп працягнуў крыж да Ключэнкі, яшчэ штосьці мармычучы.

— Адыйдзі, вадалаз!—крыкнуў матрос.

— Прэч, круцель!—крыкнуў Петрачэнка.

— Прэч, мракабес!—разам закрычалі і ўсе астатнія.

Матрос набраў у грудзі паветра і заспяваў моцным голасам:

... Вы жертвою пали
В борьбе роковой...

яго голас падхапілі ўсе нявольнікі.

— Оце, хлопцы, па два страляйце!—закрычаў атаман Гапун саскочыўшы з каня, выхапіў маўзер. Поп спалохана рвануўся ў бок.

... В любви беззаветной к народу...

—грымелі прачулыя галасы.

— У затылак па два! Хутчэй, оце. Вось так!—і атаман тут-жа пачаў страляць, выпускаючы абойму па матросу і комсамольцу. Як падкошаныя, Ключэнка і Петрачэнка паляцелі ў яму.

... Вы отдали все что
могли за народ...

чуліся ўсё яшчэ галасы над магілай. Грымелі стрэлы, галасы радзелі, абрываліся і нарэшце заціхлі зусім.

Праз хвіліну, калі сціхлі стрэлы над ямай, пачуўся выкрык атамана Гапуна.

— Оце, доктар! Як там?

— Так, ваша благародзіе! Канстатую смерць усіх,—і потым нехта прыціскаў зверху трупы нагамі, лазіў па іх.

— Ёмка,—прахрыпеў поп. Потым усё сцішала...

Штосьці ціснула за горла, за грудзі Ключэнку. У галаве звінелі стрэлы, гучэлі галасы партызан, крычаў ахрыплы п'яны Гапун. Так было некалькі хвілін...

На дне магілы ў Ключэнкі гарэлі раны. Кроў сцякала з яго і таварышоў яму на твар, на грудзі, на рукі.

Ключэнка паспрабаваў варухнуцца, яго цяжка прыціснулі трупы. Лежачы на баку, ён паварушыў толькі галаву. Паварушыў і ўбачыў з магілы попельна-блакітнае неба. Ірвануўся і вызваліў адну руку, другая прывязаная. Ён пачаў намагацца вызваліць і другую. Пацягнулася рука комсамольца.

— Брацішка!—з пякучай гаркотай у голасе прахрыпеў матрос. Але ніхто не абзываўся. Толькі больш і больш хлюпкае кроў, сцякае і халадзее.

— Усе расстраляны! О-о-ох!—уздыхнуў Ключэнка, сабіраючы апошнія сілы.

Несцярпімым цяжарам прыціснула цела. Раны гарэць як ад агню. Некалькі хвілін бязладна мільгаюць у галаве думкі. Вочы ловяць на попельна-блакітным небе апошнюю надзею на вырataванне...

Усе сілы напружвае матрос. Ён падцягнуў ужо руку комсамольца да свайго роту, пачаў грызці зубамі вяроўку.

Вызваліўшы правую руку ад вяроўкі, Ключэнка пацалаваў юнака і, увесь акрываўлены, доўгі час выбіраўся з-пад расстраляных таварышоў.

— Ратуйся, таварыш! Хутчэй ратуйся!—шаптаў нечы голас матросу, і нібы гэты голас быў ветра і жыта і месяца па-над магілай.

Цяжка выпаўз Ключэнка з ямы. Месяц срабрыў узгорак і поле. Зірнуў апошні раз матрос у яму і цяжка ўздыхнуў. К горлу, як атрута, падкаціўся камяком жаль. Ён не вытрымаў, заплакаў.

— Даруйце, браты і таварышы! Вы загінулі за справу...—шапталі сасмаглыя вусны марака.

Падцягваючы прастрэленую вышэй калена нагу, крывячы ад болю твар, ён доўга поўз полем...

У жыце Ключэнка адпачываў. Ён нагінаў каласы жыта, рваў іх зубамі, разжоўваў, глытаў... і заснуў.

* * *

У поўдзень Ключэнка расплюшчыў свае вочы. Вакол ціха і сумна, над галавою пахучае сухое сена. Праз невялічкі прасвет угары відаць неба. Яно празрыстае.

Убінтованы ў белае палатно, матрос ляжаў на чыстай пасцілцы,

і не ведаў, дзе ён. Нылі раны. Зудзіла ад пабояў усё апухшае цела.

Так было некалькі хвілін. Але за сенам пачуліся крокі, потым цяжка параненага разам абдало святло сонца, і каля матроса апынуўся чалавек.

— Паеш крыху, таварыш. Ты вырataваны,—сказаў чалавек, і святло хутка закрылася дзвярыма, зробленымі з сена і нейкіх рэдзенькіх зялёных пруткоў.

Чалавек выняў з белай сарвэткі ежу, прысеў каля Ключэнкі. Ацяжэлымі вачыма пазіраў матрос на добрага чалавека і ўсё яшчэ нічога не разумеў.

— Паеш крыху. Сілы вернуцца, таварыш,—прадаўжаў чалавек з маленькімі пасівелымі вусікамі. Ён поўны шчырасці і чуласці. Маршчыны ляжалі па ўсяму кругламу ілбу і на шчаках і шыі як у клапатлівай, перажыўшай на сваім жыцці шмат пакут і гора, жанчыны. Валасы, коратка астрыжаныя, срабрыліся ад палоскі святла праз шчыліну ў стозе сена...

— Дзякую, але хочу есці,—ціха сказаў матрос і прагна пачаў есць.

— Досвіткам таварышоў закапалі. Мы бачылі расстрэл. Сачылі... чулі вашы спевы... у яме агледзелі... Яны мёртвыя, вас па сляду крыві знайшлі... Сляды зацерлі,—гаварыў чалавек і голас ягоны ласкавы, цёплы надаў сілы Ключэнку, ён паварушыўся, скрывіў ад болю твар.

— Дзякую вам, таварыш,—крыху мацней праказаў матрос, калі скончыў есці.

— У белых перапалох. Гайдамакі адступаюць. Знянацку іх шмат пабілі партызаны,—прадаўжаў чалавек. Гэта быў фельчар, які жыў на хутары і спачуваў чырвоным, Якаў Панасавіч Загорны.

Ключэнка разумеў падзеі і захваляваўся...

Амаль тыдзень ляжаў матрос у стозе сена. Загорны аб ім клапаціўся, гутарыў, і быў рады, што выратаваў матроса. А калі прыйшлі чырвоныя, ён хутка перавёў Ключэнку са стога ў сваю хату і паклікаў з Н-скай часці да сябе чырвонаармейцаў...

Каля ўзгорка, дзе засталіся сем расстраляных белымі партызан, быў зроблены помнік. І на ім запісалі імёны загінуўшых. Сюды перавезлі закатаванага ў склепе пад царквой і партызана Курыленку.

* * *

Прайшлі гады. Былы матрос Ключэнка працаваў на заводзе машыністам. Даўно загаіліся яго раны. Даўно зажылі і крывавыя рубцы ад пятлюраўскіх шампалоў.

У дваццаць шостым годзе Ключэнка ездзіў у Маскву, каб устанавіць свой згублены ў палоне ў дзевятнаццатым годзе ордэн Чырвонага Сцягу. Там абяцалі высвятліць гэту справу. З ім трымалі пісьмовую сувязь.

Але пачаўся вучот чырвонагвардзейцаў і чырвоных партызан. Неяк у апошнюю чаргу пайшоў у партызанскую камісію і Ключэнка. Калі ён увайшоў у пакой, то да яго пачаў прыглядацца

старшыня камісіі, таксама па прозвішчу Ключэнка. Ён з ордэнам Чырвонага Сцягу, брыты, гладкі і выпешчаны. З двайным падбародкам, твар потны, як нацерты тлушчам.

— У вас брат быў партызанам на новай Украіне?—спытаўся старшыня камісіі, калі прагледзеў анкету.

Былы матрос Ключэнка ўглядаўся ў старшыню, які не адрываў позірку ад ягонай анкеты. У старшыні новенькі зашчытнага колеру суконны гарнітур. Ордэн Чырвонага Сцягу акуратна прыкалоты на грудзях.

— Чаму маўчыш?—гучна прадаўжаў старшыня камісіі Ключэнка.

Былы матрос, цяпер машыніст і ўдарнік буйнага завода, пільна ўглядаўся ў ордэн.

— Маіх братоў няма. Яны расстраляны на новай Украіне белагвардзейцамі Пятлюры,—неяк пагрозна адказаў былы матрос.

Члены камісіі зірнулі адзін на аднаго, і агледзелі з ног да галавы былога матроса. Яны хацелі пра нешта запытацца. Але старшыня камісіі ўсё яшчэ ўглядаўся ў анкету, круціў яе ў руках. Тады матрос працягнуў сваю руку да кабура з наганам.

— З кім і дзе ты ваяваў? Дэзертырам быў, а?—крыкнуў старшыня і паклаў у бок анкету Ключэнкі.

Перад машыністам Ключэнкам хутка паўстаў бой на лужку, паўстаў гай... паўстаў канвой. Увесь у срэбры грозны атаман. Гапун... поп з крыжамі... катаванні... магіла... расстрэл... чуўся і гэты агрубелы голас.

— Оце, хлопцы... доктар... Чуліся і спевы:

... Вы отдали все что могли...

Вось таму пацягнулася рука Ключэнкі машыніста ў кабур да нагана.

— З табою, белы гад, на Украіне ваязаў! З табою!—крыкнуў былы матрос і выхапіў наган.

— Рукі ўгору, белая сволач... Дэзертыры табе?—закрычаў былы матрос.

Члены камісіі спалохаліся. Руля нагана Ключэнкі ўжо глядзела ў грудзі былога атамана, які нечакана замяшаўся, падняў угару рукі.

— Зніміце з гэтага белага гада зброю... А то буду страляць!—скамандаваў членам камісіі Ключэнка. Хтосьці з членаў хутка выняў з кабуры старшыні браўнінг.

— Зніміце ў ката і мой ордэн Чырвонага Сцягу,—загадваў раз'юшаны матрос.

Ён пазнаў свой ордэн па ўдаўленай на Чырвоным Сцягу маленькай ямачцы ад кулі. Тады былы белагвардзеец рынуўся к расчыненаму акну і хацеў выскачыць на вуліцу, але яго тут і затрымалі.

Белагвардзейца арыштавалі. Ён, як высветлілася, аказаўся дыверсантам, звязаным з цэлай зграяй шпіёнаў.

Праз два тыдні машыніст Ключэнка насіў на сваіх грудзях два ордэны Чырвонага Сцягу. Першы ён атрымаў у баях да палону, другі пасля...

---

Снежань, 1936 г.

*Л. Фіглоўская*

# ПАЭЗІЯ ДАРЭВОЛЮЦЫЙНАЙ „ПРАВДЫ“

*(Да дваццаціпяцігоддзя з дня заснавання)*

## I

Даная праца ставіць сваёй задачай—пазнаёміць чытачоў з той вялікай роляй, якую адыграла большэвіцкая „Правда“ ў стварэнні кадраў рабочых пісьменнікаў, а таксама паказаць асноўныя ўзоры праўдзісцкай паэзіі. Трэба адзначыць, да рэчы, што гэты цікавейшы бок дзейнасці „Правды“ і сама праўдзісцкая паэзія зусім недастаткова даследаваны. А паміж тым эпоха „Звезды“ і „Правды“ мела важнейшае значэнне для фармавання стыля пролетарскай літаратуры.

Да вялікіх гістарычных заслуг большэвіцкай „Правды“, у справе падрыхтоўкі рабочага класа Расіі да пераможнага Кастрычніка, дадаецца яшчэ адна значная заслуга: пад кіраўніцтвам „Правды“, на яе старонках, пры самым непасрэдным удзеле Алексея Максімавіча Горкага ствараліся першыя кадры масавай рабочай паэзіі і рэволюцыйнай літаратуры наогул.

„Правда“ на справе ажыццяўляла важнейшае гістарычнае ўказанне Леніна аб тым, што „літаратурная справа павінна быць *часткаю* агульнапролетарскай справы, „калёсікам і вінцікам“ аднаго адзінага, вялікага соцыял-дэмакратычнага механізма, які прыводзіцца ў рух усім свядомым авангардам усяго рабочага класа“*.

На працягу усёй слаўнай гісторыі „Правда“ бліскуча выконвала ролю большэвіцкага калектыўнага прапагандыста, агітатара і арганізатара мас.

Вакол „Правды“ групаваліся тысячы карэспандэнтаў. Яна сістэматычна асвятляла жыццё рабочых і арганізоўвала масы на барацьбу супроць капіталістычнага ладу. Асабліва вялікую ролю адыгрывалі ў „Правде“ артыкулы Леніна. Уладзімір Ільіч—па словах П. Керженцава,—„пісаў туды амаль кожны дзень. У сваіх пісьмах ён даваў указанні рэдакцыі, як трэба весці газету; ён сачыў за тым, як газета распаўсюджваецца. Дасканала некалькі разоў ён падлічваў лік рабочых карэспандэнцый у „Правде“, лік узносаў, якія рабочыя прысылалі ў газету. Гэта-ж паказвала, як мацнеюць сувязі газеты з рабочай масай“ **).

*) *Ленін*, т. VIII, стар. 387 (Тут і ў далейшым цытаты з Леніна прыведзены на 3 выд.—Л. Ф.).

**) Жизнь Ленина“ Партиздат ЦК ВКП(б) 1935., г. стар. 135.

Велізарную працу праводзіў у „Правде“ таварыш Сталін, які з'яўляўся арганізатарам і фактычна кіраўніком газеты.

Міхаіл Іванавіч Калінін у сваім артыкуле „Рулевой большевизма“, гаворачы аб дзейнасці таварыша Сталіна на этапе 1912 год—1914 гг., зазначае, што „ў прыватнасці пецербургскі пролетарыят, яго старэйшае пакаленне, з пачуццём здавальнення ўспамінае яго (тав. Сталіна—*Л. Ф.*) работу ў „Правде“, арганізацыю выбарчай кампаніі ў IV Думу і г. д.“ *).

Створаная Леніным і Сталіным, „Правда“ з'явілася магутнейшым сродкам згуртавання шырокіх пластоў рабочага класа вакол партыйнага сцяга, яна была тым цэнтрам, дзе выкоўвалася артадаксальная рэволюцыйная думка марксізма-ленінізма.

„Правда“ узнікла на грэбні новага ўздыму рэволюцыйных падзей 1912 г. Першы нумар газеты вышаў 5. V (22. IV па ст. стылю) 1912 г.

З першага дня свайго існавання „Правда“ ўступіла ў непрымірымую барацьбу з ліквідатарствам, рэнегацтвам, інтэлігенцкай палавінчатасцю і лібералізмам. Сваёй задачай газета ставіла ізалявацца „ад ліберальнага тупаумія, ад палітычнай хісткасці, бясформенасці, неакрэсленасці, расплывчатасці, беспрынцыпнага „прымірэнцтва“. Толькі з адным класам звязвала свой лёс „Правда“—з рабочым класам. Толькі ад яго, ад яго руху, ад яго перамог і паражэнняў не хацела ізалявацца „Правда“, сама ў літаральным сэнсе слова дзіця рабочага класа“ **).

Штодзённая легальная рабочая газета стала баявым органам падполля, большэвіцкаю трыбунаю. Велізарнейшую арганізацыйна-палітычную ролю газеты падкрэслівалі ўвесь час правадыры сусветнага пролетарыята.

„Яна,—гаварыў тав. Сталін пра „Правду“,—была не проста газетай, якая падводзіла вынікі поспехам большэвікоў у справе заваявання легальных рабочых арганізацый,—яна была разам з тым арганізуючым цэнтрам, згуртоўваючым гэтыя арганізацыі вакол падпольных ачагоў партыі і накіроўваючым рабочы рух да адной пэўнай мэты“ ***).

А Уладзімір Ільіч, якога цікавіла кожная дэталь работы газеты, пісаў, што комуністычная партыя здолела праз „Правду“ прасунуцца ў *другой форме, па іншаму*—у цытадэль ворага і штодзённа, „легальна“ пачаць работу ўзрыва праклятага царскага і памешчыцкага самадзяржаўя знутры“ ****).

Не лёгкім быў шлях „Правды“. Штрафы, канфіскацыі, рэпрэсіі безупынна сыпаліся на большэвіцкую газету. Аднак, ніхто і нішто не здолелі паслабіць уплыў „Правды“ на працоўныя масы. Яна некалькі разоў пад іншымі назвамі аднаўляла свае існаванне.

---

*) *Сталін.* Зб. артыкулаў да пяцідзесяцігоддзя з дня нараджэння. ГІЗ М. 1929 г. стар. 28.

**) „Правда“, 22. IV 1914 г.—юбілейны артыкул.

***) *Сталін,* „К десятилетию „Правды (успаміны). „Правда“ 5 мая 1937 г. № 122 (7088).

****) *Ленін,* т. XXVII, стар. 293.

Пасля таго, як „Правда“ на 40 дзён была закрыта, пачала выходзіць „Рабочая правда“, пасля—„Северная правда“, „Правда Труда“, „За праўду“, „Пролетарская Правда“, „Путь Правды“, „Рабочий“ і ўрэшце, „Трудовая Правда“.

Непераможнасць „Правды“ заключалася (і заключаецца) у большэвіцкай партыйнасці і непасрэднай сувязі яе з рэволюцыйнымі масамі. Менавіта таму маленькая рабочая газета, якая працавала пад напасрэдным кіраўніцтвам комуністычнай партыі, якая была створана на ўласныя грошы свайго класа, газета, якая абаранялася толькі сталёваю воляю рускага рабочага, здолела праіснаваць $26^1/_2$ месяцаў (IV-1912—VII-1914 г.). За адну першую палову 1912 г. адзначана 504 рабочых групавых зборы, што складала ў агульнай суме 4288 р. 84 к. „Кожны групавы збор азначае не толькі суму пятакоў і грывеннікаў, але яшчэ нешта куды больш важнае: суму сумеснай, масавай энергіі, рашучасць *груп* рабочую газету падтрымліваць, распаўсюджваць, накіроўваць, ствараць сваім уласным удзелам“ *).

Вось чаму, гаворачы аб выданні „Правды“, Ленін з вялікай радасцю падкрэсліваў, што: „Наладзіўшы штодзённую рабочую газету, пецярбургскія рабочыя зрабілі буйную,—без перавялічэння можна сказаць, гістарычную справу“. І далей ён гаварыць: „Стварэнне „Правды“ астаецца выдатным доказам свядомасці, энергіі і згуртаванасці рускіх рабочых**).

Аб любоўных адносінах рабочых да „Правды“ яскрава сведчаць іх шматлікія, цёплыя, радасныя прывітанні рэдакцыі газеты. Для прыклада падамо ліст групы рабочых Окцябрскай (раней Нікалаеўскай) чыгункі: „Вітаем, родная, што гадок ты пражыла, і пажаданні нашы такія, каб той цярністы шлях, па якому ідзе „Правда“, не перашкодзіў ей пранікаць у самыя аддаленыя, глухія куткі, а ў будучым мы створым такі шлях, па якому рабочая газета наша плаўна пойдзе да запаветнай мэты вызвалення ўсіх працоўных“.

„Правда“ расла і развівалася разам з ростам нашай партыі і рабочым класам у цэлым. Яна аб'яднала дзесяткі і сотні тысяч перадавых працоўных, спрыяла афармленню і росту іх рэволюцыйнай свядомасці, выхавала, урэшце, цэлае пакаленне пролетарскіх рэволюцыянераў, якое адыграла велізарнейшую ролю ў барацьбе за соцыялістычнае грамадства.

Владзімір Ільіч, падкрэсліваючы велізарнае значэнне „Правды“, ставіў яе рост у арганічную сувязь з развіццем міжнароднага руху ў цэлым. У артыкуле „К десятилетнему юбилею „Правды“, В. І. Ленін пісаў:

„Дзесяцігадовы юбілей штодзённай легальнай большэвіцкай „Правды“ паказвае нам навочна адну з вех вялікага паскарэння найвялікшай сусветнай рэволюцыі***).

„Правда“—бліскучая і незабыўная старонка ў гісторыі класавай барацьбы большэвіцкай партыі і рабочага класа.

---

*) *Ленін*, т. XVI, стар. 47.
**) *Ленін*, т. XVI, стар. 45.
***) *Ленін*, т. XXVII, стар. 293.

Сваёй няспыннай непрымірымай барацьбой супроць ліквідатараў, эсэраў, меншавікоў і іншых ворагаў рабочага класа „Правда“ выхоўвала працоўныя масы ў напрамку большэвізма.

Побач з гэтым, „Правда“ выступіла і з новымі ўзорамі мастацкай літаратуры, літаратуры баявой, масава-агітацыйнай, адлюстроўваючай усё яскравей і выразней нарастаючыя рэвалюцыйныя настроі рабочага класа. З „Правдай“ шчыльна і непарыўна звязана літаратурная дзейнасць буйнейшага пролетарскага пісьменніка, аснавальніка соцыялістычнага мастацтва—М. Горкага. На старонках большэвіцкай газеты, пры непасрэдным удзеле і кіраўніцтве Аляксея Максімавіча, рыхтуюцца першыя кадры рабочых журналістаў, карэспандэнтаў, рэвалюцыйных і пролетарскіх пісьменнікаў. Уздымаецца масавы рэвалюцыйны рух. У гэты час разгортваецца масавы рабочы друк. З'яўляецца рад часопісаў („Ткач“, „Булочник“, „Рабочий по металлу“, „Деревообделочник“, „Кожевенник“ і г. д.), у якіх удзельнічаюць рабочыя пісьменнікі.

Як вызначае А. М. Горкі, на працягу 1900—1910 гг. ім асабіста было прачытана больш 400 рукапісаў пісьменнікаў-самавучак, асноўную масу якіх складалі „рабочыя, саматужнікі, сяляне“ *).

Перад нашай партыяй стаяла „цяжкая і новая, але вялікая і ўдзячная задача—арганізаваць шырокую, рознабаковую і рознастайную літаратурную справу ў цеснай і непарыўнай сувязі з соцыял-дэмакратычным рабочым рухам“ **).

Гэта задача і была ўскладзена на большэвіцкія газеты—„Звезду“ і „Правду“.

Выходзячы з агульных задач, „Правда“ і скарыстоўвала творчую ініцыятыву мас, уцягвала ў літаратуру новых сапраўдных прадстаўнікоў працоўных. Адной з сваіх задач, — па словах т. Сталіна,—„Правда“ ставіла тады „выпрацоўку літаратараў з асяроддзя рабочых і уцягванне іх у справу кіравання газетай“.

„Няхай не гавораць рабочыя, што пісьменніцтва для іх „непрывычная“ работа: рабочыя літаратары не падаюць гатовымі з неба, яны выпрацоўваюцца толькі паступова, у ходзе літаратурнай работы. Трэба толькі смялей узяцца за справу: раз-два спатыкнешся, а там і навучышся пісаць“... — пісала „Правда“ ў 1912 г. у № 1***).

ЦК нашай партыі і тав. Ленін, і тав. Сталін, надаючы вялікую ролю мастацкай рэвалюцыйнай літаратуры, прымалі належныя захады да арганізацыі літаратурнай справы, для наладжвання літаратурнага аддзела ці літаратурнай старонкі.

З першых дзён арганізацыі „Звезды“ Уладзімір Ільіч пачынае ўважліва сачыць за літаратурным аддзелам. У пачатку 1911 г. ён просіць А. Горкага дапамагчы рабочым паэтам. Правадыр сусветнага пролетарыята быў вельмі задаволены, калі вялікі рускі пісь-

---

*) Зб. „О писателях-самоучках“, выд. „Жизнь и знание“, 1914 г.
**) *Ленін*, т. VII, стар. 390.
***) *Сталін*, „К десятилетию „Правды“ (успаміны), „Правда“ за 5 мая 1937 г. № 122.

меннік пачаў кіраваць літаратурным аддзелам часопіса „Просвещение“. У 1913 г. Ленін піша Горкаму:

„Вось сапраўды надзвычайна будзе, калі мы памаленьку прысуседзім белетрыстаў ды рушым „Просвещение“! Надзвычайна! Чытач новы пролетарскі,—зробім часопіс танным,—белетрыстыку станеце Вы пускаць толькі дэмакратычную, без ныцця, без рэнегацтва. Рабочых змацуем. А рабочыя пайшлі харошыя“*).

Гэта імкненне супроцьставіць рэволюцыйную літаратуру рэнегатам і ныцікам, згуртаваць рабочыя літаратурныя кадры на чале з буйнейшым прадстаўніком пролетарскага мастацтва—А. М. Горкім—вакол большэвіцкага часопіса,—яскравы ўзор ленінскай літаратурнай палітыкі. Літаратурная творчасць пролетарскіх пісьменнікаў фармавалася ва ўмовах жорсткай барацьбы рабочага класа з капіталістычным ладам. Барацьба пролетарыята за сваю гегемонію, за перамогу соцыялізма выклікала да жыцця і абумовіла існасць пролетарскай літаратуры, якая з самага пачатку свайго існавання абʻяўляе бязлітасную вайну буржуазна-дваранскай літаратуры.

У нашу задачу не ўваходзіць аналіз барацьбы літаратурных стыляў эпохі імперыялізма, барацьбы паміж двумя класава-супроцьлеглымі тэндэнцыямі, рэволюцыйнага і рэакцыйнага, рэалістычнага і антырэалістычнага мастацтва—гэта тэма асобнага і спецыяльнага даследвання. Трэба толькі зазначыць, што буржуазія дарэмна імкнулася заглушыць расткі маладой пролетарскай літаратуры.

„У супроцьвагу буржуазным нравам, у супроцьвагу буржуазнаму прадпрыемчаму, гандлярскаму друку, у супроцьвагу буржуазнаму літаратурнаму карʻерызму і індывідуалізму, „барскаму анархізму“ і пагоні за нажывай,—соцыялістычны пролетарыят павінен высунуць прынцып *партыйнай літаратуры*, развіць гэты прынцып і правесці яго ў жыццё ў магчыма больш поўнай і цэльнай форме“,—пісаў Ленін у артыкуле „Партыйная арганізацыя і партыйная літаратура“**).

Комуністычная партыя і яе ЦК на чале з Леніным і Сталіным уважліва сочаць за развіццём пролетарскай літаратуры, зварочваюць вялікую ўвагу на літаратурна-мастацкі аддзел „Правды“. Працоўны чытач неаднойчы патрабаваў наяўнасці такога аддзела, а затым і пашырэння яго. Захавалася шмат успамінаў, якія даводзяць аб надзвычайнай зацікаўленасці рабочых мастацкай літаратурай.

„Цікавы яшчэ той факт,—піша тульскі рабочы патроннага завода,—што вершы з „Правды“ можна бачыць у вырэзках адзежных шаф і на горнах у кузні. Я ведаў аднаго рабочага, які завучваў іх напамяць і на ўласны матыў распяваў у часе работы“***).

У адной з сваіх зводак „Правда“ зазначае таксама, што пераважная большасць чытачоў стаіць за тое, „каб белетрыстыка была, бо чытанне яе зʻяўляецца адпачынкам пасля цяжкой працы і адцягвае многіх рабочых ад захаплення „Копейкой“ з яе бясконцымі

*) *Ленін*, т. XVI, стар. 327.
**) *Ленін*. т. VIII, стар. 387.
***) Зб. „Путь Правды“. Матэрыялы і ўспаміны. 1912—1922 гг., выд. „Октябрь“, 1923 г., стар. 196.

лубачнымі раманамі. Многім таксама падабаюцца вершы, якія надаюць, па іхных словах, бадзёрасць і энергію",*)—прывучаюць да чытання сур'ёзнай палітычнай літаратуры і г. д.

Для выхавання сваіх уласных рабочых паэтаў „Правда" і прыцягвала рабочых да літаратурнай працы, узялася за наладжванне літаратурных гурткоў на вытворчасці.

„Побач з партыйным гуртком,—гаворыць рабочы І. В. Шувалаў,—на радзе фабрык і заводаў узнікаюць гурткі рабочых паэтаў і пісьменнікаў, якія з'яўляюцца часткаю партыйных гурткоў у большэвікоў. Такі гурток узнікае і на нашай фабрыцы. Памятаю з якім уздымам прагучалі першыя вершы рабочага нашай фабрыкі Паўла Кузняцова... Гэтыя вершы з'явіліся вясной 1913 года на фабрычнай браме з ілюстрацыяй пра становішча рабочага, з'явіліся і іншыя творы з заклікам да стачкі. Гэта была першая ў сваім родзе нелегальная насценгазета гуртка „Правды".

Для працы сярод пісьменнікаў рэдкалегіяй „Правды" быў вылучаны спецыяльны работнік К. Ерамееў. „Ён (гаворыць паэт М. Артамонаў) задаваў тэмы. Вам трэба ісці на фабрыку, паглядзець як працуюць, не раз казаў ён, а пасля апісаць работу ў вершах... Да такога то дня давайце такія-то вершы. Увесь тыдзень на чацвертай старонцы газеты адводзілася месца якому-небудзь спецыяльнаму пытанню, напр., аўторак—работніца, серада—дрэваапрацоўшчыкі і металісты, чацвер—шахцёры і г. д. Пісалася пра іх быт, умовы работы, змяшчаліся карэспандэнцыі з месц і вершы. Гэта рабілася неяк тонка, без асаблівых падкрэсліванняў, а спецыяльны матэрыял зліваўся з іншым матэрыялам. Нярэдка К. Ерамееў казаў нам: „Запішыце сабе ў запісную кніжку, у які дзень які аддзел ідзе, а то вы можаце забыцца. І часта на адну і тую-ж тэму пісалі вершы ўсе пяць-шэсць паэтаў рабочых, якія стала наведвалі „Правду"...**)

Колькасць рабочых паэтаў узрастала з кожным днём. Як толькі з'явіліся рабочыя газеты—з'явіўся і масавы рабочы паэт. Сотні вершаў невядомых рабочых паэтаў друкаваліся на старонках большэвіцкіх газет. Малапісьменныя іншы раз паэты, імя якім легіон, удзельнічалі разам з нашымі лепшымі пролетарскімі пісьменнікамі ў стварэнні пролетарскай літаратуры.

„Правда" аб'яднала вакол сябе армію першых рабкораў большэвіцкага друку, выхавала кадры рабочых журналістаў, вырасціла кагорту рабочых паэтаў і, такім чынам, стварыла баявую масавую пролетарскую паэзію. Праўдзісцкая паэзія выдатна тым, што яна прадукт творчасці цэлага класа, прадукт калектыўнай работы, сапраўды, паэзія масавая.

Аляксей Максімавіч Горкі, які выконваў роль арганізуючага цэнтра пролетарскага літаратурнага руху, які з любоўю і адданасцю працаваў над вырошчваннем маладняка пролетарскай літаратуры, які, урэшце, сваёй творчасцю рабіў велізарнейшы ўплыў на рост літаратурных кадраў, надаваў выключнае значэнне гэтай паэзіі.

---

*) „Правда", 12. IV 1912 г.
**) „Успаміны" І. Шувалава—гл. часопіс „Комбайн" № 9—10, 1932 г.

„Калі гісторыя,—звяртаецца ён да аўтароў першага зборніка праўдзісцкіх пролетарскіх пісьменнікаў*),—раскажа пролетарыяту ўсяго свету пра тое, што пражыта і зроблена вамі за 8 год рэакцыі, рабочы свет будзе здзіўлены вашай жыццедзейнасцю, бадзёрасцю вашага духу, вашым гераізмам. Можа вы самі не ўсведамляеце, не заўважаеце, як многа зроблена вамі, але будучыя пакаленні рускіх рабочых і ўвесь пролетарскі свет нашай планеты несумненна пачарпнуць у прыкладзе вашым вялікія сілы для барацьбы за новую сусветную культуру“.

Роля „Праўды“ ў гісторыі пролетарскай літаратуры заключаецца ў стварэнні моцнага ядра пролетарскіх пісьменнікаў, журналістаў, першых рабкораў. Звязаная з шырокімі рабочымі масамі, большэвіцкая газета з'явілася цэнтрам маладой пролетарскай літаратуры, агітацыйна-масавай, палітычна-завостранай. Асабліва вялікаю была ў газеце роля Максіма Горкага.

## II

Пераважная большасць вершаў, змешчаных у „Праўдзе“ (усяго змешчана іх больш за 800), прасякнута нянавісцю да прыгнятальнікаў працоўных, барацьбою за рэволюцыйныя ідэалы і моцнаю вераю ў лепшае будучае.

Паэты-праўдзісты агітавалі за арганізацыю і з'яднанне працоўных мас, за ўзброенае паўстанне, прычым большасць з іх—непасрэдныя ўдзельнікі рэволюцыйнага змагання. І іх паэзія адразу загаварыла мовао барацьбы.

Паэты дарэволюцыйнай „Праўды“ высоўваюць новае разуменне мастацтва, якое ў сваіх лепшых элементах увойдзе ў арсенал совецкай паэзіі. Паэзія—заяўлялі яны—павінна падпарадкавацца агульным задачам класавай барацьбы за вызваленне працоўных.

„Рабочаму класу трэба ведаць праўду і рабочая газета „Праўда“ павінна адпавядаць сваёй назве“,—чытаем мы ў перадавым артыкуле першага нумара большэвіцкай газеты. Менавіта пад гэтым лозунгам, лозунгам праўдзівага адлюстравання рэчаіснасці, развіваецца маладая пролетарская паэзія. Вострая палітычная паэзія „Праўды“ з яе простаю, суроваю, рэалістычнаю моваю рэльефна вылучылася на шэрым фоне буржуазна-эстэцкага „Парнаса“.

„Для красивых звуков тесен мир, где скована свобода,“—гаварылі паэты „Праўды“.

Невядомы аўтар *Сцяпан* у адным з сваіх праграмных вершаў раскрывае агульную накіраванасць пролетарскай паэзіі гэтага часу:

Не печаль березок белых,
Не лазурь пустых небес,
Воспоем мы в песнях смелых,
Может быть и неумелых,
Неокрепших, недозрелых,—
Как дубков весенний лес.

---

*) Выд. „Прыбой“, СПБ, 1914 г.

Не хвалебный гимн природе,
Панегирик красоте,
*Нет, мы песни о народе,*
*Гимны радостной свободе,*
Будем петь, хотя и в моде
Нынче песенки не те! *)

Сваёй асноўнай мэтай паэты „Праўды" ставілі—паказаць навакольнае жыццё, змаганне рабочых, іх думкі, пачуцці, гора і радасці, наогул—праўдзіва адлюстраваць тагочасную рэчаіснасць. Таму праца і быт рабочага, працоўнага селяніна, рэволюцыйная барацьба і палітычнае жыццё складаюць сутнасць праўдзіцкай паэзіі. Тэма працы і барацьбы—асноўная тэма пролетарскіх паэтаў.

Бязмерна цяжкая, рабская праца, якая адымае ў чалавека мозг і розум, маладосць і радасць, праца, якая, прыкоўвае чалавека да станка і ператварае ў просты дадатак да машыны і якая, аднак, не можа забяспечыць чалавеку поўгалоднага існавання—вось так успрыймаюць рабочыя паэты працу на капіталістычным прадпрыемстве:

Терзающих звуков нестройные хоры,
Как демон грохочет и стонет работа—
Кругом изможденные, мутные взоры,
Глубокие вздохи, немые укоры
И капли тяжелого, жаркого пота...
Взгляни на суровые и темные руки:
В глухом напряжении все мускулы вздулись.
И люди не знают движений без муки
И люди, как ивы повсюду нагнулись...
(Самабытнік—„В заводе") **).

Песняры, якія вышлі з рабочага класа, якія самі з'яўляюцца рабочымі і таму ўціск існуючага ладу адчуваюць асабліва моцна, даюць рэльефныя малюнкі эксплаатацыі—цяжкай працы, безрадаснага жыцця рабочага розных узростаў і станаў.

У гэтых адносінах характэрны ўжо назвы саміх вершаў: „Дворник", „Углекопы", „Каталь", „Сапожник", „Жизнь кочегара", „Столяр", „Накладчик", „Слесарь", „Токарь", „Железнодорожники", „Булочник", „Торфяники", „Бондари", „Наборщик" і г. д. Некаторы прафесіяналізм гэтых назваў сведчыць аб тым, што рабочыя паэты пачыналі з найбольш зразумелай і блізкай ім тэматыкі, пераходзячы паступова да агульнакласавых тэм.

Сустракаецца шмат вершаў, у якіх рабочыя паэты з абурэннем паказваюць розныя крывавыя „здарэнні", якія адбываліся амаль кожны дзень на вытворчасці і каштавалі жыцця многім рабочым:

Надрываясь от стонов пронзительных,
Как грозой, пораженные, вдруг
Люди падали в корчах мучительных,
Трепеща от испуга и мук...

———

...Сотни тел-полутрупов, чуть бившихся
Там ложились один пред другим,
И в соседа очах закатившихся
Каждый видел... что смерть перед ним.
Зоркі—„Жертвы труда" ***).

*) „Правда", 11. VI 1912 г., № 16. стар. 2.
**) „Путь Правды", 25. I 1914 г., № 4, стар. 2.
***) „Путь Правды", 19. III 1914 г. № 40, стар. 2.

Частым матывам з'яўляецца пакутнае жыццё жанчыны-пролетаркі—найбольш абяздоленай часткі рабочага класа ва ўмовах капіталізма.

Праца па 10—12 гадзін, мізэрны заработак, галодныя дзеці, пабоі мужа, здзекі майстра і адміністрацыі—вось малюнак жыцця працоўнай жанчыны на капіталістычнай фабрыцы. Рабочая газета „Правда Труда“ прыводзіць агіднейшы, але характэрны факт з жыцця работніцы-рудакопа ў дарэволюцыйнай Расіі.

„Маці прыносяць з сабою на работу дзяцей і хаваюць у ямы руды, бо адміністрацыя строга забараняе мець іх пры сабе“.

Жанчына-работніца часта выносіла ўвесь цяжар утрымання сям'і. Яна вымушана была працаваць не толькі сама, але пасылаць на капітаістычную фабрыку сваіх дзяцей.

Все мы дзеці-подростки, живя в нищете,
Переносим болезни, невзгоды,
И работаем в смраде, в пыли, в духоте
И проводим здесь юности годы.

* * *

Капитал нашу бодрость и жизнь-красоту
Отнимает и гонит в могилу,
А живым он в подарок несет нищету,
За пропавшую детскую силу.

(„Все мы дети“*)—Работніца Паня).

Рэволюцыйны ўздым выклікае рост класавай самасвядомасці рабочага класа ў цэлым, у тым ліку і жаночага пролетарыята. Жанчына-работніца ўсё больш і больш уцягваецца ў рэволюцыйную работу і паэты-рабочыя заклікаюць яе да сумеснай барацьбы:

За машынным станком, за рабочим столом,
На полях, над снопами сгибаясь,
Добываешь свой хлеб ты тяжелым трудом
И с ним всюду сейчас проникаешь.

И бесправный твой труд приравнял тебя тут
К нам, родная, мужчинам-рабочим,
И об общей судьбе ты подумай-ка тут,
Стать со знаменем нашим рабочим.

(Екацерынаславец—„Работнице“**).

Жанчына-работніца жыве жыццём рабочага класа, радасцямі яго рэволюцыйных перамог і балюча перажывае паасобныя паражэнні і няўдачы. На старонках „Правды“ мы знойдзем не мала вершаў, прысвечаных жанчыне-пролетарцы. („Женщине-пролетарию“, „Матери“, „Девушка-узница“ і г. д.

Тэма цяжкой працы і бязрадаснага жыцця рабочага ў буржуазным грамадстве—адна з найбольш частых тэм праўдзісцкай паэзіі. Сваімі вершамі паэты большэвіцкай газеты спрыялі ўзняццю класавай свядомасці працоўных да арганізаванай барацьбы за канчатковую перамогу над капіталізмам. Вось адзін з вершаў, у якім

*) „Правда“, 14. VI 1913 г. № 135 (339) ст. 4.
**) „Путь Правды“, 13. III 1914 г. № 35, ст. 3.

аўтар уздымаецца да тыпізацыі паасобных бакоў праклятага мінулага.

Жизнь рабочих—цепь страданий,
Реки пота, море слез.
Жизнь рабочих—ад терзаний,
Вечность муки, тучи гроз...
Вот заводы: шум и грохот,
Визг и шелест, вой и звон,
Будто адский, злобный хохот,
Словно жуткий, долгий стон...
Вот постройки: камни, балки,
Пыль и грязь, сквозняк и зной,
Люди—тени, известь, свалки,
Смерть с костлявою рукой...
Вот пекарни: мрак, решетка,
Сырость, смрад и духота,
Рак, экзема, тиф, чахотка,
Голод, холод, нищета...
Жизнь рабочих—рабство воли,
Путь тернистый, смерти пир,
Жизнь рабочих—царство боли
Тьма, насилье, скорбный мир.

(„Труд“*) Н. Е. Дадаева)

Каментарыі для данага верша непатрэбны.

Пролетарская паэзія не абмяжоўваецца толькі паказам жыцця рабочага ў капіталістычных умовах. Праўдзісцкая лірыка таму і з'яўляеццца рэалістычнаю, што яна адлюстроўвае сучаснасць у яе развіцці, што яна нясе ў сабе элементы гераічнага, што яна афарбавана пафасам барацьбы і рамантыкі рэволюцыі. Кашмарныя малюнкі жыцця, сумныя старонкі суровай рэчаіснасці не здолелі разбіць веру і ўпэўненасць пролетарыята ў лепшае будучае, адняць моц і энергію ў барацьбе за соцыялістычнае будучае. Пролетарская паэзія ў сваёй асноўнай лініі была пазбаўлена адчаю і роспачы, нават, песімістычных нотак. „Без „гневу“ пісаць пра шкоднае,—значыць, нудна пісаць“**),—пісаў Ленін у рэдакцыю „Праўды“ 19. VII—1912 г. Палітычна завостраная праўдзісцкая лірыка была насычана гневам, абурэннем да класавага ворага, пафасам рэволюцыйнай барацьбы. Непахісная ўпэўненасць у перамозе рабочага класа, моцная вера ў лепшае новае—характэрная асаблівасць пролетарскай паэзіі.

Таму, амаль усе вершы „Праўды“ заканчваюцца радасным акордам, пафасам актыўнага ўспрыняцця свету.

Ни жизнь без просвета, ни цепи судьбы,
Ни горе раздумья меня не гнетут—
Но ясные мысли и радость борьбы,
Все глубже, все шире, смелее растут!..—

піша Давід Скарбяшчы***) рабочы паэт, які сваёй творчасцю заклікае працоўных да барацьбы з капіталістычным ладам, упэўнены ў перамозе рабочага класа.

*) „Северная Правда“, 25. VIII 1913 г. № 20, стар. 3.
**) *Ленін*, т. XVI, стар. 73.
***) „Правда“, 26. VIII 1912 г. стар. 2.

Вось чаму, нават турэмныя песні пролетарскіх байцоў слова вызначаюцца высокай узнятасцю і аптымізмам самага рэволюцыйнага ў гісторыі чалавецтва класа.

Заковали... но что—только ноги,
А душа, ведь, осталась вольна:
Не наложат на душу оковы,
Не удержит ведь душу тюрьма*).

Лірыка рабочых паэтаў афарбавана настроямі барацьбы за новае грамадства, барацьбы асветленай перспектываю перамогі і радасці жыцця.

„Радавыя пролетарскага строя“ (так называлі паэтаў „Правды“) ведалі, што за імі ідуць рабочыя калоны, што на змену загінуўшым прыдуць новыя масы загартаваных байцоў, якія пабудуюць светлае грамадства соцыялізма.

Наступит время, наши внуки
Иные радости найдут:
Мечи в орала раскуют...
Сомкнутся в мирном братстве,
Благословенен станет труд...
(„С глубокой верою в грядущее“ **).

Па вершах гэтага часу можна прасачыць рост класавай свядомасці, арганізаванасці пролетарыята. Для гэтай мэты спынімся яшчэ на некаторых асноўных момантах праўдзісцкай паэзіі. Можна з упэўненасцю сказаць, што няма другой тэмы, якой-бы маладыя паэты адводзілі такую вялікую ўвагу, як тэма працы рабочага на прадпрыемстве. Аб працы, як „зазорном бремени“ ў капіталістычнай грамадзе прыходзілася ўжо гаварыць. Але побач з паднявольнай працай, выступаючай як праклёны існуючаму ладу, на старонках легальнай большэвіцкай газеты выкоўваюцца новыя адносіны да працы. Праца, як сродак узняцця свядомасці пролетарыята, фабрыка, як месца аб‘яднання працоўных, выступае ў творчасці рабочых паэтаў.

Мы верим в грядущие светлые дни,
Настанут желанные годы...
Звени-же наш труд беспокойный, звени
Во имя свободы!—

заканчвае свой верш „Гимн труду“ ***) Я. Б.

Паэты „Правды“ усведамляюць ролю пролетарыята, як самага рэволюцыйнага класа. Яны даводзяць пры дапамозе мастацкіх вобразаў, што адначасова з ростам буржуазіі адбываецца і рост яе магільшчыка, „Стального титана вселенной“ (выраз паэта—*Л. Ф.*).

Зварочваючыся да братоў па класу, рабочы Еф. Ан. пісаў:

Мощь в руках—твое богатство.
Крепче молот свой сжимай,

*) „Северная Правда“, 30. VIII 1913 г., № 24, стар. 2.
**) „Путь правды“, 22. IV. 1914 г., № 67, стар. 6.
***) „Правда“, 28. IV 1913 г. № 97 (301), стар. 2.

И на наковальне рабства
Мир заветный создавай.
Куй смелее, сын народа,
Не рабом ты в гроб уйдешь,
Скоро вечную свободу
Ты трудом своим скуешь. („Кузнец"*).

Адсюль выцякаюць і асаблівыя адносіны да фабрыкі, завода. Фабрыка і завод выступаюць як арганізатар рабочага класа, як выхавальнік пролетарскага калектывізма. Па вершах „Праўды" можна прасачыць розныя этапы, па якіх узнімаецца пролетарская думка да вяршынь класавай свядомасці. Ад бяссільнай жальбы ў заводскай частушцы рабочыя паэты ўзнімаецца да палкага, захапляючага гімна заводу, які пачынаецца такім зваротам:

Люблю тебя, сзывающий завод...
Люблю тебя грохочущий завод...

Любіць таму, што прадбачыць „светлой жизни ход".

О знаю я: под молотом твоим
Нет, не металл, а сами мы горим,
Горим, чтоб встать
И вновь создать
Жизнь яркую для новых поколений!
(„Люблю тебя". А. Клявс**).

Нават і ў тым, што першыя вершаваныя творы былі прысвечаны працы і рабочым пэўнага раёна, а не „Прекрасной даме", як гэта звычайна рабілі буржуазна-дваранскія пісьменнікі,—захавана праграма новага класа. Рабочыя паэты глыбока рэалістычна малююць характэрныя з'явы сучаснасці. Яны ствараюць рад рэльефных мастацкіх эскізаў з фабрычна-заводскага жыцця („Утро на фабрике", „Ночная смена", „Спуск в шахту", „Труд", „По гудку" і г. д.).

У пролетарскіх паэтаў у процівагу буржуазным няма апалагетыкі капіталістычнага горада. Пролетарскія паэты, паказваючы цяжкую паднявольную працу, натоўпы галодных і беспрацоўных у фабрычных кварталах і рабочых ускраінах, цені прастытутак, худых і абарваных дзяцей, беспрытульных***), раскрываюць жудасную праўду капіталістычнай рэчаіснасці. У той час, як буржуазныя ці дваранскі паэт, малюючы гэтыя з'явы, прымірaецца з імі, як вечна існуючымі, або актыўна змагаецца за іх умацаванне, пролетарскі паэт у мэтах знішчэння іх заклікае працоўных да барацьбы за сваё вызваленне. Менавіта таму праўдзісцкая лірыка і была прасякнута рэволюцыйным пратэстам супроць капіталістычнага ладу і ма-

*) „Правда Труда", 26. IX 1913 г., № 14, стар. 4.
**) „За Правду", 31. X 1913 г., № 24, стар. 4.
***) Гл. вершы: „Голод", „Хлеба", „Жаль вас мучительно", „Феи ночные", „Будни рабочих", „После гудка" „Жертвы труда", „Дети улицы" і г. д.

гутным заклікам „к светлой цели“ („Мир не знает того“— верш Дм. Одзінцова).

У паказе сваіх адносін да буржуазнага горада і капіталістычнага завода пролетарскія паэты таксама карэнным чынам адрознiваліся і ад дробнабуржуазных пісьменнікаў, якія перад тварам нарастаючага крызіса капіталізма выступалі не супроць сутнасці буржуазнага ладу, а супроць машыннай працы, супроць індустрыі, як такой.

Ідэалам дробнабуржуазных пісьменнікаў з'яўлялася старая патрыярхальная Русь. У процівагу ім, большасць пролетарскіх пісьменнікаў разумелі прагрэсіўную ролю капіталізма на пэўным гістарычным этапе. Яны не выступалі супроць магутных гарадоў з іх вялікімі пабудовамі, заводамі-волатамі і фабрыкамі з буйнай тэхнікай, кіпучым жыццём. Але яны цвёрда памяталі, што ўсё гэта створана крывёю і потам рабочых.

Пролетарскія паэты ўсведамлялі, што сучасны горад—гэта арэна рэвалюцыйнага змагання двух светаў, двух класаў („Два мира“), што там расце і загартоўваецца пролетарыят, які падрыхтоўвае працоўныя масы да наступа на цвярдыні капіталізма. Для паэтаў праўдзістаў фабрыка—месца, дзе расце рабочая еднасць, класавая свядомасць, загартоўваецца клас, які прад'яўляе свае правы.

Звяртаючыся да капіталістычнай фабрыкі, адзін з пролетарскіх паэтаў зазначае:

Но не забудь, что не всесильна ты!
Что хруст костей заснувший мир разбудит,
Что в кровь пролитую окрасятся цветы,
И жаждою борьбы наполнят наши груди.
Придет пора—твой дикий гул и свист,
Твое рычанье будут нам покорны...

(„Фабрике“*) П. З.)

Па меры роста класавай свядомасці рабочага класа і паэзія рабочых паэтаў набывае большую палітычную, мастацкую канкрэтнасць і насычанасць.

Заклікі да ідэёвай салідарнасці рабочых становяцца адной з баявых тэм:

В солидарности—мощная сила
И залог в единении масс...
Солидарность—рабочих светило,
Среди них ее свет не угас...

Такім дэвізам заканчвае свой верш „Рабочая солидарность“**) Н. Е. Дадаеў.

На канкрэтных прыкладах (смерць работніцы ці рабочага, масавыя атручванні на фабрыках, арышты лепшых барацьбітоў) мужныя байцы агітуюць за стварэнне адзінага фронта знізу.

*) „Правда“, 7. XII 1912 г. № 187, стар. 2.
**) „За правду“, 14. XI 1913 г. № 35, стар. 4.

Рабочая салідарнасць, еднасць узнімаецца ў вершах рабочых да пролетарскага інтэрнацыяналізма („В столице, в деревне, в селе, в городке“*).

Барацьба „Правды“ за працоўнае сялянства, як саюзніка рабочага класа, знайшла свой адбітак і ў пролетарскай паэзіі. Наогул, тэма гістарычнага лёсу і шляхоў сялянства стала адной з асноўных вузлавых тэм пролетарскай літаратуры. Прыкладна, з першых год мінулага стагоддзя „мужик“ з'яўляецца неабходным персанажам у мастацкай літаратуры. Лепшыя людзі свайго часу—Герцэн, Некрасаў, Салтыкоў-Шчэдрын на чале з вялікім рэволюцыйным дэмакратам і сапраўдным ідэолагам сялянскай рэволюцыі Чэрнышэўскім—раскрылі жудасную праўду жыцця дарэволюцыйнай вёскі.

Паэты „Правды“ ў сваю чаргу, руйнуючы народніцкае ўяўленне аб сялянстве, выразна ставяць пытанне аб класавых узаемаадносінах у вёсцы. Яны паказваюць страшэнную праўду лёсу селяніна. Катаржная праца, дрэнныя ўраджаі, якімі апроч таго распараджаецца пан і паліцэйскі, бязмерная беднасць, паўгалоднае існаванне, цемра, гразь, раз'ядаючае бескультур'е, выраджэнне, выміранне і п'янства,—яскравыя штрыхі жыцця дарэволюцыйнага працоўнага селяніна. Гэта жорсткая рэчаіснасць—асноўны аб'ект мастацкага ўсведамлення пролетарскіх паэтаў дарэволюцыйнага часу.

На ниве бесплодной,
Где густо лег мрак,
Трудится голодный
Крестьянин бедняк.
Пашет ли землю,
Боронит ли он,
Думы в деревне
О хлебе одном...
(З вершу А.—„На ниве бесплодной“**).

Пролетарскіх паэтаў у першую чаргу цікавіць працэс эканамічнай і палітычнай дыферэнцыяцыі вёскі ў розных момантах развіцця. Яны пераважна паказваюць тую частку сялянства, якое знаходзіцца на мяжы поўнага жабрацтва („Деревенское“, „Батрак“, „Судьба“, „Раззор“). Яны выяўляюць эканамічную прыроду „раскрестьянивания“, сутнасць сталыпіншчыны, вызначаючы пры гэтым далейшы лёс працоўнага селяніна. І калі сяляне Гл. Успенскага шукаюць выйсця з тупіка ў межах дробнаўласніцкай гаспадаркі, калі селянін Чэхава ў тых-жа умовах дэградыруе і не бачыць выйсця, то селянін пролетарскай паэзіі знаходзіць ужо сваё месца ў класавай барацьбе. Гэты селянін ідзе ў горад і далучаецца да арміі рабочых не для таго, каб вярнуцца да сваёй дробнай уласнасці, а для таго, каб у горадзе, праз горад вырашыць свае соцыяльна-эканамічныя пытанні. Такі селянін зразумеў ужо (або хутка зразумее) адзінства сваіх інтарэсаў з інтарэсамі рабочага класа і ўсвядоміў кіруючую ролю апошняга. Ён ўпэўнены і моцна верыць

*) „Правда“, I.V 1913 г. № 99 (303), стар. 3.
**) „Путь Правды“, 23. IV 1914 г. № 68, стар. 2.

у лепшае будучае, у радасць жыцця ўсіх працоўных. Звяртаючыся да маці-сялянкі, паэт піша:

... Сын твой любимый ударами молота—
Лучшую долю кует,
Грезы и думы в нем ярче, чем золото,
К новой он жизни идет!..
... Выйдут из мрака все силы народные
Благостен будет наш день...
Будут вам в жизни дороги свободные,
Дети родных деревень.
(„Матушка, матушка"* С. Кешкароў.
Разрадка мая—Л. Ф.)

Праўдзісцкая паэзія з'яўлялася глыбока агітацыйнай і тэндэнцыйнай, „бо няма і не можа быць у эпоху класавай барацьбы літаратуры некласавай, нетэндэнцыйнай; нібы апалітычнай" (Жданаў **).

Паэзія „Правды" была тэндэнцыйнай у самым лепшым сэнсе гэтага слова. Тэндэнцыйнай таму, што ў ёй знаходзілі яскравы адбітак класавыя інтарэсы эксплаатуемых мас. Пролетарскія лірыкі рэалістычна адбівалі „тэндэнцыйнасць" самога жыцця. Яны ўскрывалі прычыны эксплаатацыі, заклікалі працоўныя масы на барацьбу за новае будучае. Ідэйная мэтаімкнёнасць паэта не толькі не парушала гэтай праўды, а, наадварот, непараўнальна павялічвала пераконваючую моц і эмацыянальную выразлівасць.

Такім чынам агітацыйная паэзія, якая ў „Правде" займала шырокае месца, мела надзвычай вялікае палітычнае значэнне. Агітацыйны жанр з'яўляўся адным з вядучых жанраў сярод пролетарскай паэзіі гэтага часу. І гэта зусім зразумела. У перыяд вялікага рэволюцыйнага ўздыму, калі пролетарыят разам з працоўнымі ішоў на штурм самадзяржаўя, да соцыялістычнай рэволюцыі, патрэбна была такая паэзія, якая-б мабілізоўвала і запальвала масы на рэволюцыйную барацьбу, якая сярод іх прапагандавала-б ідэю соцыялістычнай рэволюцыі. Актыўныя адносіны да рэчаіснасці і абумовілі агітацыйны жанр праўдзісцкай паэзіі, жанр, які ўключае ў сябе з аднаго боку—рэволюцыйны пафас, агнявы заклік, а з другога боку—палітычны памфлет, пякучую сатыру на капіталістычную рэчаіснасць. Агітка вельмі рознастайная. Яна можа быць рэалізавана ў песні, у частушцы, паэме, байцы і г. д. Найбольшае распаўсюджанне сярод агітацыйнай паэзіі „Правды" атрымала байка, так званы „маленькі фельетон". Байка стварала вялікія магчымасці для замаскаванага выражэння тых ідэй і настрояў, якія ва ўмовах царскага рэжыма адкрыта не маглі быць выказаны. У байках пролетарскія паэты знайшлі адну з тых форм, пры дапамозе якой яны здолелі давесці да свядомасці мас рэволюцыйныя ідэі. У гэты час байка непарыўна звязана з імем Д. Беднага, які рашуча ламае старую, пасіўна-маралізатарскую байку, створаную буржуазнымі песнярамі, і стварае палітычна-завостраную байку.

*) „Трудовая Правда", I. VII 1914 г. № 29, стар. 2
**) Прамова на 1-м Усесаюзным з'ездзе совецкіх пісьменнікаў. (Асобнае выданне).

Байкі Д. Беднага былі звязаны з штодзённаю практыкаю пролетарыята, яны ішлі па баявому шляху, следам за палітычнымі падзеямі.

Д. Бедны з'яўляўся найбольш вядомым, але не адзіным, майстрам жанру байкі. Апроч яго ў гэты час мы мелі Зігзага—ён-жа і Ціт Падкузьміхін, а ў сапраўднасці—стары большэвік Ф. Ф. Сырамалотаў, Ніла Арцельнага, Сяргеява А., Мяжуева А. К., Савіцкага і інш. У сваіх байках песняры закраналі галоўным чынам пытанні соцыяльна-палітычнага жыцця. Іх байкі былі насычаны тымі-ж матывамі, што і газета. Пытанні прадвыбарнай барацьбы, страхавой кампаніі, падпольнай барацьбы, стачачнай кампаніі, рэволюцыйнай арганізаванасці і пролетарскай еднасці знаходзіліся ў полі зроку паэтаў.

У сваіх байках песняры выкрывалі рэакцыйна-буржуазную прыроду „соцыялістычных" партый. Яны сатырычна малявалі фігуры эсэраў, кадэтаў, меншавікоў і іншых здраднікаў рабочага класа. У байках ускрываецца ўвесь цяжар паднявольнай працы, жабрацтва, беспраўе працоўных ва ўмовах бязлітаснай эксплаатацыі. Ад працоўных адбіралі ўсё, што магчыма было: моц, здароўе, радасць. Іх абкладвалі рознымі падаткамі. Прыгонніцкі капіталістычны лад „прыдумваў" кожны дзень усё новыя і новыя падаткі. Вось узор „байкі" на „сістэму падаткаў":

Много в Турции больных—
Обложить налогом их,

Обложить табачный дым
Нам налогом небольшим:
Если хочет кто курить,
Можно: только не дымить.

Нищих надо обложить,—
Запретить им всем просить
Без акциза: бандероль
Раньше выправить изволь.

(„Турецкий бюджэт" *)

Хоць у гэтай байцы упамінаецца Турцыя, рабочы і селянін лёгка мог угадаць у ёй тагочасную рускую рэчаіснасць. Алегарычнасць, інасказальнасць байкі дазваляла лягчэй абыходзіць рагаткі царскай цэнзуры. За традыцыйна-алегарычнымі вобразамі мурашак, зайцаў, яршоў, павукоў, шчупакоў і г. д. працоўныя бачылі саміх сябе і сваіх класавых ворагаў.

У сатырычных фельетонах і байках выступала драпежніцкая прырода капіталізма, яго асноўныя супярэчнасці. Пролетарскія паэты паступова ўсвядамлялі, што ніякіх іншых узаемаадносін, акрамя бязлітаснай барацьбы з эксплаататарскімі класамі, быць не можа. У гэтых адносінах заслугоўвае ўвагі байка „Крестьянин

*) „Правда", 8.XI 1932 г. № 163, стар. 2.

и комар“, у якой селянін, звяртаючыся да камара (сімвал эксплаататара), гаворыць:

Когда-б ты кровь мою не пил
Свой дух давно-б ты испустил;
И комара он без пощады рукою раздавил.

Кто хочет басни смысл открыть,
Попробуй-ка за плугом походить *).

Так праз мастацкае слова песняры востра выкрывалі ўсе гнуснасці царскай Расіі—гэтай сапраўды д'ябальскай машыны эксплатацыі, прыгнечання і рэакцыі. Сваімі лепшымі байкамі перыяда 1912—1914 гг. яны давалі магчымасць зразумець, нават, самаму адсталаму рабочаму, што:

... „Над студэнтам і сектантам, мужыком і пісьменвікам надругваецца і бясчынствуе тая самая цёмная сіла, якая так прыгнечвае і душыць яго на кожным кроку яго жыцця“... **).

Пролетарскія лірыкі зрывалі ўсе і ўсякія маскі з царскіх чыноўнікаў, паноў, ліберальнай буржуазіі, агаляючы іх тупасць, убоства, ганебна-рэакцыйную прыроду. („Миротворцы“ „Либеральный профессор“, „Воля“, „Святочная чепуха“ і г. д.).

Выкрываючы пануючы лад, паэты „Правды“ заклікалі працоўных да ўзброенага паўстання. Яны ўвесь час падкрэслівалі неабходнасць змычкі пролетарыята з асноўнымі масамі сялянства, устанаўлення рэволюцыйнага саюза паміж імі. Байкі давалі яскравы малюнак росту палітычнай свядомасці працоўных мас. Мільёны эксплаатуемых сталі на шлях рэволюцыйнай барацьбы. Яны зразумелі, што няма і не будзе іншага выйсця акрамя пролетарскай рэволюцыі, што прыгоннікі і буржуазія дарэмна імкнуцца затапіць у крыві наспяваючую рэволюцыю—яе не перамагчы („Крестьянин и комар“, „На аэроплане“).

Амаль кожная з такіх баек становіць маленькі драматычны твор, асноўнаю пружынаю якога з'яўляецца барацьба паміж двумя супроцьлеглымі класамі. Адсюль прыём антытэзы, як галоўны кампазіцыйны прыём пабудовы байкі, рэльефная акрэсленасць драматычнай сітуацыі, вялікая напружанасць дыялага, моцны, кіпучы рытм. Байка была кароткаю: фон і разгортванне дзеі часта знаходзіліся ў самым загалоўку. Дзеючыя асобы з'яўляліся ў пачатку і адразу пачыналі барацьбу. Кожны вобраз байкі дыша ці класавай нянавісцю, ці глыбокай пролетарскай сімпатыяй.

Байкі былі сугучны і зразумелы масам таму, што былі натхнёны новымі метадамі, новымі задачамі рэволюцыйнай барацьбы. Яны былі палітычна актуальны, узрыўчаты, насычаны аптымізмам рабочага класа. Вось чаму байкі з'яўляліся магутнаю зброяю пролетарскай грамадскасці. Задача пролетарскіх паэтаў заключалася не ў тым, каб спакойна фіксаваць факты, не ў тым, каб з аб'ектывісцкім „беспристрастием“ фатографа іх адлюстраваць.

*) „За правду“, 4. X 1913 г., № 3. стар. 2.
**) *Ленін*, т. IV, стар. 415.

Задача пролетарскіх паэтаў заключалася ў тым, каб паказваць гістарычную праўду самога жыцця, каб за гэту праўду змагацца.

Акрамя агітацыйнага жанру, сярод праўдзісцкай паэзіі сустракаўся і жанр лірыкі ў вузкім сэнсе гэтага слова. Наяўнасць любоўнай лірыкі на старонках большэвіцкай газеты паказвала, наколькі беспадстаўнымі ўжо і тады з'яўляліся думкі аб тым, што ў перыяд рэволюцыйнай барацьбы гэта лірыка знікае. Праўда, пролетарская інтымная лірыка нясе ў сабе іншую, новую якасць. Адбіваючы думкі і пачуцці пролетарыята ў перыяд наспяваючай соцыялістычнай рэволюцыі, паэты „Правды" насычалі свае лірычныя вершы пафасам рэволюцыйнай барацьбы, класавай нянавісцю да буржуазнага ладу. Гэтыя вершы не былі разбаўлены інтымналірычнай вадой. На старонках газеты, побач з пахнучымі порахам і крывёю нататкамі аб ленскіх расстрэлах, побач з паведамленнямі аб атручванні работніц на Абводным канале, чуваць быў энергічны поступ паходнай песні, песні звонкай, пафаснай, мужнай і строгай.

У процівагу паэтам занепадаючай дваранскай культуры, у творчасці якіх матывы кахання ў своеасабліва „изощренной" трактоўцы займалі галоўнае, калі не выключнае месца, у процівагу буржуазным пісьменнікам, якія пры падачы гэтай тэмы ўпадалі ў эротыку, пролетарскія паэты дарэволюцыйнай „Правды" адлюстроўвалі каханне, як адзін з момантаў рэальных узаемаадносін людзей, як неабходную ўмову для поўнага гарманічнага развіцця асобы, немагчымага ва ўмовах капіталізма. Каханне ў паказе песняроў пролетарскай „Правды"—гэта не нізкае „каханішка", заснаванае на куплі, продажу, ашуканстве, подласці, пагардзе да чалавека, каханне ў іх паказе—гэта моцны саюз двух людзей для сумеснага жыцця і барацьбы. Вось чаму каханне да аднаго чалавека ўключае ў сябе любоў да эксплаатуемых, да працоўнага чалавецтва.

Таму пытанні індывідуальна-асабістага жыцця ў пролетарскіх паэтаў падпарадкаваны агульным задачам рэволюцыйнай барацьбы. У любым факце, у любой з'яве маладыя паэты заўважваюць арганічнае злучэнне асабістага і грамадскага, вытворчага і бытавога. Зразумела, класаваму і грамадскаму прадстаўляўся рашаючы голас.

Я за общее дело страдаю;
За рабочее дело стою.
Жалко мне, я тебя покидаю
Дорогую подругу свою.
Ночи мрак нам приносит страданья.
Верь, что близок желанный рассвет,—
Я вернусь к тебе вновь из изгнанья.
Не тоскуй, помни данный завет. .
„Ожидание"*) верш Кузьмы Цёркіна.

У сувязі з гэтым, не сум па невядомым будучым, не імкненне да блакітнай кветкі шчасця прасякае любоўную лірыку большэвіцкай „Правды", а дружба і барацьба працоўных за новае жыццё. Жанчына для пролетарскага паэта—не вобраз „Прекрасной дамы", незвычайнай незнаёмай, а ў першую чаргу такі-ж самы чалавек,

*) „Путь Правды" 20.II 1914 г. № 17, стар. 4.

блізкі таварыш і друг, удзельнік рэвалюцыйнага змагання („Милая девушка“, „Работнице“, „Женщине—слесарю“). Паэты дарэвалюцыйнай „Правды“ выкрывалі буржуазную і дробнабуржуазную камерназамкнёную лірыку, і стварылі новую рэвалюцыйную лірыку, у якой індывідуальнае і грамадскае знаходзяцца ў арганічным адзінстве. Марксісцкае палажэнне аб акрэсліваючай ролі грамадскага ў адносінах да асабістага, вытворчага—да бытавога знайшло ўжо свой адбітак і ў тэматыцы, і ў матывах, і, наогул, ва ўсім ідэалагічным змесце маладой праўдзісцкай паэзіі. Адлюстроўваючы асабістыя перажыванні, маладая пролетарская паэзія падкрэслівала галоўнае—барацьбу за ўладу. Справа рэвалюцыйнай барацьбы для свядомага рабочага стаяла вышэй за сугуба індывідуальныя інтарэсы.

Не в лазурную высь улетаю мечтой,
Не в заоблачном царстве витаю,
За решеткой в окне, за высокой стеной
Про борьбу и любовь вспоминаю.

(„Из дневника пролетария“ *, верш Строгаля).

Каханне падпарадкоўвалася высокім грамадскім запатрабаванням, у сувязі з чым яно (каханне) набывала новы, багаты, прыгожы змест.

Лірычныя вобразы, у прыватнасці вобразы, аднесеныя да каханай або да рэвалюцыянера, насычаны сапраўднай цяплынёй, сагрэты ўсімі адценнямі самых прыгожых, рознастайных адчуванняў, юнацкіх свежых перажыванняў і светлых настрояў новага чалавека, які фармаваўся.

Улюбёны лірычны герой маладой пролетарскай паэзіі не адгараджвае сваё асабістае, бытавое, як крыніцу сапраўднай радасці, ад вытворчасці, сумнай і цяжкой „прозы жыцця“. Ён таксама не падаўляе з пурытанскай суровасцю свае асабістыя інтарэсы ў імя грамадскіх. Як на сваё кроўнае і глыбока асабістае, глядзіць ён на грамадскую справу, справу свайго класа. Нават малюнкі прыроды ўсведамляюцца не ў плане асабістых, інтымных асацыяцый, а як своеасаблівае адлюстраванне эмоцый барацьбітарэвалюцыянера.

Тэму прыроды пролетарскія паэты дарэвалюцыйнай „Правды“ даюць у спецыфічна новай трактоўцы. Па-новаму ставяць яны праблему ўзаемаадносін прыроды і чалавека. Пейзаж праўдзісцкай паэзіі акрэслен агульнай ацэнкай рэчаіснасці паэтамі: у ім праяўляюцца адносіны аўтара да свету, яго пункт гледжання. Новым разуменнем рэчаіснасці абумоўліваецца як выбар, так і распрацоўка асобных пейзажных малюнкаў пісьменнікам. У праўдзісцкай паэзіі пейзаж не мае самастойнага, самадаўлеючага значэння.

Амаль ні ў адным вершу мы не знойдзем эстэцка-сузіральных адносін да прыроды. Пейзаж патрэбен паэтам пераважна для па-

*) „Путь Правды“ 6. IV 1914 г. № 56, стар. 5.

глыблення сацыяльна-эканамічнай характарыстыкі тагочаснага жыцця працоўных.

Над рекою туманы густые
Покрывают пространство и дали,
Гаснут звезды—огни золотые,
Тени на берег черные пали.

... Чу! Вдали за рекой зазвенели:
Точат косы... пришли батраки.
Закипела работа артели
Разбудивши прибрежье реки.

Затянули унылую, грустную
Песню-повесть про жизнь батрака,
Как в деревне зимой захолустною
Голодала семья бедняка...

(„Утро", верш Паволжскага).

Малюнак радаснай, светлай вясновай раніцы яшчэ рэльефней паказвае жыццё чалавека ў капіталістычным грамадстве, яшчэ больш выкрывае сацыяльныя супярэчнасці, яшчэ лепш спрыяе ўсведамленню эксплаатацыі галадаючых батракоў.

Аднак, не ў гэтым навізна пейзажа праўдзісцкай паэзіі. Гэты пейзаж новы пераважна таму, што песняры тэмы прыроды ставяць у арганічным адзінстве з тэмай барацьбы, з тэмай сацыяльнага вызвалення. Чалавек, яго цяжкая праца, жудасны быт і класавая барацьба за новае будучае даюцца паэтамі „Праўды" разам; ва ўсіх вершах чытач не знаходзіць ніводнага пейзажа без чалавека:

... Вздрогнул я и очнулся... Светлы небеса!
Волга катит широкие воды,
Реют в синей дали челноков паруса,
Как знамена крылатой свободы.
И исчезли, как дым, и сомненья и страх,
Сердце бьется уверенно, твердо...
И душа отряхнув бледной немощи прах,
К солнцу правды возносится гордо...
Вновь я—вольный пловец, жадно жду непогод;
Вновь синеют зовущие дали.
„Эй, вставайте, друзья! Скоро буря придет,
Хороните печали!

(Верш А. Калючага „На Волге" *).

Вясна ў прыродзе асацыіруецца з вясною ў жыцці чалавецтва („Снег пропал. Замолкла вьюга", „Первые ласточки", „Весна", „Рассвет" і г. д.).

У той час, як паэты зыходзячых класаў галоўным чынам апяваюць сумную восень, маладыя пралетарскія паэты пераважна малююць радасную вясновую прыроду, заклікаючы пры гэтым масы на барацьбу з капіталістычным ладам. Паэты вераць

*) „Путь Правды" 15. V 1914 г. № 87, стар. 3.
*) „Правда" 23. XII 1912 г., № 201, стар. 2.

у будучае свайго класа, які заваюе іператворыць свет на новых соцыяльных асновах, які зменіць у корані твар зямлі.

Глухое болото, гнилая трясина,
Унылые кочки, зловонная тина,
Угрюмый и жесткий камыш...
...Но и в топях болота—
Я знаю—свершается дружно работа,
Работают дружно ключи!
Настанет пора и на смену трясине,
Заблещет лазурью в цветущей долине,
Зеркального озера гладь.

(„Болото“ *)—разрадка мая—Л. Ф.).

Часамі традыцыйны рускі пейзаж—сінія далі, бліскучыя зоры, густыя туманы—падаецца ў плане барацьбы з старой паднявольнай Расіяй: („Смеются зори... Плывут туманы...“).

Паэты „Правды“ арганічна злучаюць тэму пейзажа з тэмай пра класавае змаганне, падымаючы яе да тэмы новага чалавека, новага свету, новага твару зямлі.

Прырода ў вершах рабочых паэтаў выступае пераважна як крыніца жыццёвай энергіі чалавека-пролетарыя, які, уступаючы ў барацьбу з капіталістычным светам, перамагае і стыхію прыроды. Такім чынам, праўдзісцкая паэзія, якая адбівала думкі і пачуцці пролетарыята ў перыяд растучага рэволюцыйнага ўздыму і наспяваючай соцыялістычнай рэволюцыі—баявая, агітацыйна-масавая паэзія. Яна насычана пафасам рэволюцыйнага змагання і актыўнага ўспрыймання рэчаіснасці.

Мірныя, павольна-сузіральныя малюнкі менш за ўсё былі падыходзячымі для паказу барацьбы рабочага класа разам з усімі працоўнымі горада і вёскі за ўладу. Таму найбольш характэрнымі для праўдзісцкай паэзіі з'яўляліся сімвалы—навальніцы, пажараў, марскіх прыліваў, магутных шквалаў, буйных ветраў, злавесных хмар—яскрава адцяняючых размах і веліч рэволюцыйнай барацьбы.

Зловещие, черные тучи висели
На сумрачном небе холодно—немом
И долго пугали, катились, гремели,—
Грозили кровавым дождем...
Зловещие тучи давно пролетели
Сменились солнечным днем...

(„Зловещие, черные тучи“ **).

Адпаведна гэтаму пераважаюць вобразы смелых і адважных барацьбітоў-плаўцоў, рыбакоў, маракоў, якія змагаюцца са стыхіяй прыроды і перамагаюць усё на сваім шляху.

У процівагу пісьменнікам занепадаючых класаў, якія ірацыянальнымі вобразамі яшчэ больш падкрэслівалі адыход ад рэальнага жыцця ў „іншабаковы“ свет, свет містыкі,—пролетарскія паэты

*) „Правда“ 17. VI 1912 г. № 42, стар. 2.

**) „Правда“ 23. XII 1912 г. № 201, стар. 4.

сваімі вобразамі, нават і фантастычнымі, уздымалі актыўнасць мас і заклікалі на барацьбу з існуючым ладам.

Не страшась борьбы упорной,
Неустанно день за днем
Мы по бездне моря черной
В даль заветную плывем.

---

...Мы гребцов усталых сменим,
И бесстрашно в свой черед
Дружно волны моря вспеним,
Смело двинемся вперёд!
(„Гребцы" *), разрадка мая—Л. Ф.)

...Только сильные душою,
Только храбрые умом
Могут выступить с любовью
На борьбу с великим злом **).

Рэволюцыйны ўздым, моцная вера ў будучае патрабавалі і іншых малюнкаў, іншых вобразаў, якія-б самі заключалі ў сабе мэтаімкнёнасць, рух. Адным з такіх найбольш вядомых вобразаў з'яўляецца вобраз карабля, які імчыцца ўперад.

Безрадостно серы и долги рабочие дни,—
Но будут вам бури и светлая радость победы.
Пусть каждый скорее займет свой ответственный пост,
Чтоб общее дело всех дружной семьёю спаяло,
И если внезапно подует холодный Норд-ост,—
Смелее навстречу порывам упорного шквала.
Спешите, матросы, к своим кораблям!
Счастливого плаванья вам...

(„В тумане" ***), верш Вс. Кажэўнікава).

З другіх вобразаў можна яшчэ адзначыць вобраз рабочага будаўніка палаца, пры дапамозе якога паэты падкрэсліваюць творчыя бакі рэволюцыі.

Построим зданье,
То будет наших рук созданье,
Его фасад из царства тьмы
К лицу зари направим мы.

Но мрачной кровлей не покроем,
С кристальным куполом построим,
И башню с флагом огневым
Над ним победно водрузим.
Дружней, дружней!
К рассвету дней!

(„Молотобойцы" ****).

---

*) „Правда" 26. VIII 1912 г. № 101, стар. 2, верш Самабытніка.
**) „За Правду" 13. XI 1913 г. № 34, стар. 4, верш Барцова.
***) „Правда" 30. IX 1912 г. № 131, стар. 1.
****) М. Барэцкая—„Правда" 4. V 1912 г. № 10, стар. 2.

Сімвалам прыгожага новага з'яўляўся таксама вобраз сонца, блакітнага неба, вясны, светлых агней.

Братья, проснитесь от тяжкого сна,
Сбросьте оковы гнетущей печали,
Верьте, вернется к нам снова весна,
Солнце осветит широкие дали,
Солнце проникнет в густые леса,
В темные дебри уснувшей природы...

(„Братья, проснитесь от тяжкого сна" *).

А моря лазурь голубая
Играет и плещет вдали,
Под небом чужим распевая
О радостях вольной земли.
(„Досмотрщик" **).

Мы бачым такім чынам, тэма соцыяльнага вызвалення, тэма класавага змагання патрабавалі і адпаведных сімвалаў; пры чым гэтыя сімвалы не з'яўляюцца выключнаю прыналежнасцю стыля асобнага паэта, а наадварот, імі шырока карыстаюцца ўсе пролетарскія паэты, як агульным паэтычным багажом.

Патрэбна зазначыць, што большасць з гэтых вобразаў былі распрацаваны ў нашай літаратуры значна раней. Так, на пролетарскую паэзію дарэволюцыйнай „Праўды" ў першую чаргу зрабіла ўплыў рэволюцыйная лірыка 1905 г., рэволюцыйна-разначынская паэзія 60—70 гадоў мінулага стагоддзя і нават літаратура прагрэсіўнага дваранства.

Сімволіка „грамадзянскай" лірыкі ад Радзішчава і дзекабрыстаў да паэтаў-разначынцаў 60—70-х гадоў скарыстоўвалася паэтамі дарэволюцыйнай „Праўды". Апора на старую рэволюцыйную спадчыну ўпаўне законамерна і натуральна. Асабліва моцны ўплыў на праўдзісцкую паэзію зрабілі прадстаўнікі рэволюцыйна-сялянскай дэмакратыі, у прыватнасці Н. А. Некрасаў. Вельмі часта літаратурныя ўплывы даходзілі да звычайнага пераймання. Так, верш Міхаіла Артамонава: „Идет весна" нагадвае „Зеленый шум" Некрасава. Гэтым-жа вершам навеяна і форма яго другога вершу „Фабричный шум".

Фабричный шум, машинный шум!
Как много он наводит дум
О прожитых былых годах,
В душе рождая смутный страх!

Акрамя Некрасава на раннюю пролетарскую паэзію рабілі ўплывы сваёй творчасцю Кальцоў, Нікіцін і інш.

Селянін Афінагенаў „На матыў Кальцова" піша:

Что ты спишь, мужичек?
Ты в земле, как жучек,
Лето, осень торчишь
И живеш ты—молчишь? ***)

---

*) *С. Вадавозаў*, „Правда" 25. XII 1912 г., № 202, стар. 4.
**) *Д. Одзінцоў*, „Пролетарская правда" 10 XII 1913 г. № 3, стар. 4.
***) „За Правду" 21. XI 1913 г. № 41, стар. 4.

Баявая палітычная паэзія „Праўды“ ў адносінах формы несла новую якасць. „В нашей песне огни и призывы“,—так характарызавалі сваю творчасць рабочыя паэты. І сапраўды, праўдзісцкая паэзія была насычана пафасам самага рэволюцыйнага класа, гэта— баявая паэзія, якая заклікала працоўныя масы на барацьбу з капіталістычным ладам. На старонках большэвіцкай газеты выкоўваўся агітацыйны жанр, жанр „маленькага фельетона“, які ўздымаўся да рэволюцыйнага памфлета. Паэты дарэволюцыйнай „Праўды“ далі рознастайныя прыклады пролетарскай сатыры.

Акрамя таго яны выкрылі індывідуалістычную, камерна-замкнёную буржуазную і дробнабуржуазную лірыку і стварылі новую рэволюцыйную лірыку, у якой індывідуальнае і агульнае знаходзяцца ў арганічным адзінстве. Яны прарабілі ўсё гэта не гледзячы на незаўсёды дасканалую форму сваіх твораў. У вядомай прадмове да першага зборніка пролетарскіх пісьменнікаў Аляксей Максімавіч Горкі пісаў: „Прафесіянальны літаратар, я, быць можа, больш рэзка чым вы, адчуваю тэхнічныя недахопы прозы і вершаў зборніка, але мне здаецца, што сэнс выдання гэтай кніжкі Вы павінны адчуць мацней за мяне“.

Па меры развіцця рэволюцыйнага руху, росту класавай свядомасці, паэты „Праўды“ мацнелі і як перадавыя байцы рэволюцыі, і як паэты. Вершы іх адбівалі настрой пролетарыята, які ішоў па шляху перабудовы жыцця на новых асновах. Маладая пролетарская паэзія ўсё больш і лепш выкрывала буржуазную рэчаіснасць, паказвала перспектыву гістарычнага развіцця, заканамернасць перамогі новага над старым. У процівагу мастацтву занепадаючых класаў, у праўдзісцкай паэзіі элементы рэволюцыйнага рэалізма шчыльна пераплятаrange з элементамі баявой, узнятай рэволюцыйнай рамантыкі. Ідэя вызвалення працоўных ад уціску капітала адчыняла для пролетарскага мастацтва надзвычайныя ўмовы росту. Пролетарыят пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, пры непасрэдным удзеле Леніна і Сталіна стварылі масава-літаратурны рух, які даў рад таленавітых пісьменнікаў. На першым месцы сярод іх стаяць выдатныя імёны А. М. Горкага, Серафімовіча і інш. Геніі перадавога чалавецтва з вялікай любоўю вырошчвалі кадры пролетарскіх пісьменнікаў. Аб гэтым сведчыць тая сур'ёзнейшая ўвага, з якой яны сачылі за развіццём літаратурнай справы. Аб гэтым сведчыць і тая цікавая перапіска, якая існавала паміж правадыром сусветнага пролетарыята Владзімірам Ільічом і буйнейшым пісьменнікам вялікага класа—Аляксеем Максімавічам Горкім. Аб гэтым сведчаць і тыя сталінскія клопаты аб нашых совецкіх пісьменніках, якія маюць усе магчымасці і ўмовы для свайго творчага росту. Вось чаму яшчэ да рэволюцыі па ініцыятыве Леніна і Сталіна наладжваецца выданне спецыяльных літаратурных зборнікаў. Ужо ў 1913 г. выходзіць першы зборнік пролетарскіх паэтаў—„Нашы песні“, узнікае і большэвіцкі часопіс „Просвещение“, на старонках якога рабочыя пісьменнікі друкуюць свае творы. У 1914 г. з'яўляюцца часопісы праўдзісцкага напрамку („Утро жизни“, „Рабочий“, „Работница“) з літаратурна-мастацкімі аддзеламі. У тым-жа годзе па ініцыятыве Ал. М. Горкага „Правда“

выдае першы зборнік пролетарскіх пісьменнікаў. Усё гэта сведчыць аб тым, якую велізарную ролю надавала партыя большэвікоў стварэнню пролетарскага мастацтва. У той час, калі прадстаўнікі контррэволюцыйнага меншавізма і трацкізма сваёй падрыўной работай імкнуліся дэзарганізаваць рабочы клас, адмаўлялі магчымасць пролетарскага мастацтва, комуністычная партыя большэвікоў на чале з Леніным і Сталіным настойліва змагалася за пролетарскую літаратуру. У вядомай прадмове да 1-га „Зборніка пролетарскіх пісьменнікаў“ М. Горкі пісаў: „Я моцна пераконаны, што пролетарыят можа стварыць сваю мастацкую літаратуру, як ён стварыў з вялікімі цяжкасцямі і велізарнымі ахвярамі сваю штодзённую прэсу“.

Партыя большэвікоў на чале з Леніным і Сталіным ва ўмовах палітычнага і эканамічнага ўціску, ва ўмовах бязлітаснай барацьбы рабочага класа з капіталам, узялася за збіранне і вырошчванне кадраў пролетарскай літаратуры, перацягваючы на свой бок лепшую частку дробнабуржуазнай літаратурнай інтэлігенцыі. Большэвіцкая сістэматычная праца з пачынаючымі пісьменнікамі дала тыя багатыя вынікі, якія мы бачым на прыкладзе праўдзісцкай паэзіі. У гэтай большэвіцкай рабоце выдатная роля належыць вялікаму майстру пролетарскага мастацтва Ал. М. Горкаму.

Большэвіцкая „Правда“, для якой стварэнне кадраў пролетарскіх пісьменнікаў было адной з асноўных задач,—тым самым падрыхтоўвала той слаўны шлях, па якому ідзе зараз самая перадавая ў свеце совецкая літаратура. Вось чаму пролетарская паэзія „Правды“ з'явілася—па словах А. М. Горкага—„крокам наперад да культуры сусветнай“*), цікаваю і бліскучаю старонкаю ў фармаванні пролетарскай літаратуры, небывалы росквіт якой адбываецца на нашых вачах у краіне пераможнага соцыялізма.

---

*) Першы „Зборнік пролетарскіх пісьменнікаў“, 1914 г.

*Е. Кніповіч*

# СУЧАСНЫ ГІСТАРЫЧНЫ РАМАН НА ЗАХАДЗЕ

I

Калі мы гаворым пра росквіт гістарычнага рамана на Захадзе— азначэнне наша выклікана не колькасцю і featured разнастайнасцю кніг, якія там выйшлі, не традыцыйнай папулярнасцю жанра гістарычнай белетрыстыкі.

Любаванне „добрымі старымі часамі“, таленавітае і бяздарнае награмаджэнне гістарычных дэкарацый, больш або менш утончанай плёткі пра вялікіх людзей мінулага,—усё гэта існавала і на жаль існуе.

Калі мы цяпер гаворым аб праблеме заходняга гістарычнага рамана, мы маем на ўвазе нешта зусім іншае. Гэта праблема ўзнікае ў сувязі са з'яўленнем нямногіх, лічаных кніг. І кнігі гэтыя па свайму сэнсу, па сваіх традыцыях, па свайму творчаму лёсу звязаны зусім не з агульным патокам гістарычнай белетрыстыкі Захаду. Вялікі заходні гістарычны раман з'ўляецца толькі разнавіднасцю таго „рамана вынікаў“, які акрэслівае цяпер твар вялікай літаратуры Захаду.

Адчуванне грандыёзных гістарычных маштабаў адбываючыхся падзей, адчуванне гістарычнай адказнасці за свой асабісты і творчы шлях, адчуванне соцыяльных патрасенняў, як фактаў свайго індывідуальнага лёсу, такія характэрныя асаблівасці „рамана вынікаў“ сучаснага Захаду.

Адчуванне гісторыі ў гэтых творах нярэдка звязана з амаль заўсёды неасвядомленым адчуваннем канца „чалавечай прадгісторыі“. Толькі гэтым можна вытлумачыць настойлівае жаданне разлічыцца з мінулым, са ўсім мінулым чалавецтва! Толькі гэтым тлумачыцца трывожная пераацэнка ўсіх непахісных каштоўнасцей чалавечай культуры, якая праводзіцца ў шмат якіх творах. Больш таго, хоць гэта адчуванне канца пэўных гістарычных працэсаў нярэдка паўстае ў дэкадэнцкім зашыфраваным аспекце „исполнения времен“, мы нідзе не сустрэнем парочныя і такія ўласцівыя перыяду сімвалізма думкі пра вечны зварот, пра бяссэнснасць кругазвароту гісторыі. Нават найбольш бяскрыўдная форма гэтай ідэі—думка пра цыклічнасць гістарычнага развіцця знаходзіць у канцэпцыі сучасных мастакоў Захаду вельмі слабы, нібы адбіты водгук.

Нават для тых вялікіх майстроў Захаду, чые творчыя традыцыі цясней за ўсе сплятаюцца з мастацтвам дэкаданса, цяпер ужо

робіцца ясна—спрэчка ідзе на чыстату, гэта апошняя спрэчка, гэта вынік усёй чалавечай гісторыі. „Новы соцыяльны свет—арганізаваны, адзіны, планавы свет, у якім чалавецтва ўпершыню вызваліцца ад усяго, што не варта чалавека і без усякай неабходнасці выклікае яго пакуты, гэты свет прыдзе... Ён прыдзе таму, што павінен быць створан вышэйшы разумны парадак, адпаведнай ступені, якой дасягнуў чалавечы дух“.

Гэтыя словы сказаны Томасам Манам. І яны асабліва паказальныя таму, што іменна ў творчасці Томаса Мана ў найбольш вострай форме адбываецца сутычка паміж неабходнай, заканамернай спробай разлічыцца з гісторыяй і тымі сродкамі, якімі мастак спрабуе гэта ажыццявіць.

Погляд наследніка гуманістычных традыцый, погляд мастака, вытокі творчасці якога звязаны з буржуазным рэалізмам, прымусіў Томаса Мана заўважыць шмат якія рэальна-існуючыя супярэчнасці буржуазнага грамадства. Але ўсе гэтыя супярэчнасці, вялікія і малыя, аказаліся для яго нерухомымі, абсалютнымі, па-загістарычнымі дылемамі. Іменна так ставіцца ў яго творчасці праблема высокай „зададзенасці“ і страшнай „дадзенасці“ буржуазнага свету, а прблема жыцця і мастацтва і г. д.

Погляд на супярэчнасць, як на дылему няўхільны для буржуазнага мастка. Не на дапамогу рэалістам мінулага прыходзіў той бясстрашны гістарызм, які непарыўна звязан з вялікім крытычным рэалізмам. Вялікія рэалісты мінулага не толькі адчувалі гістарычныя маштабы свайго часу, яны разумелі спецыфіку сваёй эпохі, іменна ёй уласцівыя супярэчнасці і формы грамадскіх і асабістых адносін. Таму тыя дылемы, якія перад імі паўставалі, не былі для іх ні па-загістарычнымі, ні вечнымі, ні абсалютнымі. Вялікія рэалісты мінулага не хаваліся ад тых супярэчнасцей, якіх яны не маглі звесці да нейкага адзінства. Таму цаной незакончанасці, раздробленасці дадзенай імі карціны буржуазнага грамадства, г. ё. цаною бачнага паражэння, яны ў сапраўднасці дамагаліся перамогі, бо іменна створаны імі супярэчлівы свет казаў праўду пра буржуазнае грамадства.

Іменна гэтага бясстрашнага, практычнага гістарызма не хапае большасці сучасных мастакоў Захаду пры ажыццяўленні іхных высокіх задач. Страх перад гістарычным працэсам, перад яго супярэчлівасцю і незавершанасцю прымушае іх шукаць шляхоў да дасягнення ілюзорнага вонкавага адзінства. Той жа страх перад супярэчнасцямі грамадскага развіцця закрывае для іх магчымасць убачыць і зразумець класавую аснову канца старога буржуазнага свету непарыўна звязаную з нараджэннем новага свету. Прадчуванне гібелі капіталізма спалучаецца ў іх свядомасці, або з абыходлівым ігнараваннем, або з адкрытым страхам перад магільнікам капіталізма. Гэта і закрывае для іх шлях да сапраўды цэласнага ўспрыймання гістарычнага працэса. А паколькі „страх стварае багоў“, дык і ў канцэпцыях гэтых мастакоў з'яўляюцца тыя або іншыя рысы „бажэственага“. Як мы ўжо казалі, найбольш востра і аголена гэтыя богастваральныя тэндэнцыі выяўляюцца ў творчасці Томаса Мана.

Свае разлікі з мінулым чалавецтва, разлікі ў імя новага соцыяльнага свету, ён пераносіць у галіну міфалогіі, каб дамагчыся бачнага адзінства, ён зашыфроўвае гістарычны працэс. І аснову для гэтай міфатворчасці, якая цэментуе ложнае адзінства ідэі, Томас Ман няўхільна павінен запазычваць з арсеналу рэакцыйна-буржуазнай думкі эпохі імперыялізма. Ілюзія цэласнага ўспрыймання гісторыі чалавецтва, купленая цаною стварэння фрэйдысцкіх міфаў пра гісторыю, ёсць цяжкае паражэнне для мастака гуманіста, які змагаецца супроць парадка рэчаў, які перапварае чалавека ў „змучаную нянавісцю і страхам істоту".

У творчай практыцы Томаса Мана такім паражэннем з'яўляецца трылогія „Іосіф і яго браты", у яго творчай тэорыі,—тое ўзвелічэнне міфалагічнай зашыфроўкі гісторыі, якое маецца ў кнізе „Пакуты вялікіх майстроў".

Вядома, міфы Томаса Мана не маюць нічога агульнага з фашысцкімі міфамі аб гісторыі. Больш таго, яны калі можна так сказаць, з'яўляюцца палемікай з фашысцкай міфалогіяй. Несумненна таксама, што глыбокая адданасць гуманістычным традыцыям не магла не сказацца нават на тым зашыфраваным пераглядзе гісторыі чалавечай культуры, якім з'яўляецца апошняя трылогія Томаса Мэна. Але справа ў тым, што падмена гістарызма міфатворчасцю парочна сама па сабе. Добры міф адрозніваецца ад дрэннага не больш, чым „жоўты чорт" адрозніваецца ад „чорта сіняга". Самая традыцыя міфатворчасці, добра вядомая ў другой палове XIX ст. у Германіі (Геббель, Вагнер, Ніцшэ), з'яўляецца рэакцыйнай традыцыяй і самы ўдасканалены міф ёсць нягодная зброя ў барацьбе з сусветнай рэакцыяй.

Сапраўднае падвядзенне вынікаў, сапраўдная пераацэнка каштоўнасцей, накопленых чалавецтвам, пачынаецца там, дзе мастак не баіцца сустрэцца з гісторыяй тварам у твар. Пра тое, што гэта іменна так, сведчыць хоць-бы „Очарованная душа" Ромэн Ролана.

Антыгістарызм выяўляецца ў творчасці Томаса Мана асабліва востра, выразна і па свайму паслядоўна. Але тая тэндэнцыя, якая прывяла яго на шлях міфатворчасці, несумненна прысутнічае ў заходнім гістарычным „рамане вынікаў".

Хіба не страхам, які, калі не стварае багоў, то ва ўсякім выпадку адкрывае ім шматлікія лазейкі, прадыктаваны словы Фейхтвангера пра „аддаленасць у часе", пра „незаткнуты флакон", пра „выпараючыйся водар" незавершаных падзей. Хіба тое сцвярджанне пераважнасці добрай легенды, добрай выдумкі над гістарычным фактам, якое маецца ў „сэнсе і бяссэнсіцы гістарычнага рамана",—не адкрывае дарогі ўсякім багам? Сэнс выказванняў Фейхтвангера, прыкладна, супадае з сэнсам рускай пасловіцы „закон што дышла, куды павярнуў, туды і выйшла". Яно-ж, калі гісторыя ёсць „куча фактаў, пазбаўленых сэнсу", якую гісторык або мастак (гэтыя два паняцці для Фейхтвангера супадаюць) арганізуе па свайму суб'ектыўнаму жаданню, значыць і пытанне пра тое, што яны зробяць з гісторыі, залежыць толькі ад іх. Спасылка на Ніцшэ зусім не выратоўвае становішча. Калі мінулае непазнавальна і калі разам з тым „здаровае жыццё нараджае вобраз гісторыі, падпарад-

каваны патрэбам яе цяперашняга і будучага", то ў апошнім ліку гэта можа азначаць толькі тое, што з дрэннымі фашысцкімі міфамі трэба змагацца, ствараючы добрыя гуманістычныя міфы. І вядома, пры такім адмаўленні аб'ектыўнага існавання гісторыі, перанясенне ў мінулае сучасных праблем і канфліктаў з'яўляецца як-быццам бы справай зусім законнай. Там куча фактаў і тут куча фактаў—ці не ўсёроўна на чыёй тэрыторыі часу пабудаваць з іх тое, што табе патрэбна. Але справа заключаецца ў тым, што сучаснасць для Фейхтвангера не куча фактаў. Згодна ўласнай яго тэорыі, яна існуе, як працэс, як няхай сабе яшчэ не завершаны рух. Іменна гэта супярэчлівасць тэорыі Фейхтвангера робіцца глыбока плённай для яго практыкі.

У гэтай суб'ектывісцкай тэорыі гістарычнага рамана несумненна ёсць здаровае зерне пратэсту супроць буржуазнай гісторыяграфіі, супроць класавай абмежаванасці яе поглядаў, супроць няўхільнага пры гэтым скажонага ўяўлення аб гістарычным працэсе. Але замест суб'ектывісцка-агнастычнага скачка назад да асабістага самавольства (якое ўсёроўна будзе класава дэтэрмінавана) тут варта было-б падумаць пра іншае, пра суадносіны класавага і аб'ектыўнага, пра класава „суб'ектыўны" пункт гледжання пролетарскай ідэалогіі, якая адна толькі і можа аднавіць аб'ектыўную рэальнасць гісторыі.

Элементы страху перад гісторыяй уласцівы не толькі Фейхтвангеру. Іх можна знайсці і ў „Сервантэсу" Бруно Франка і ў „Трыумфе і трагедыі Эразма Ротэрдамскага" Стэфана Цвейга. Гістарычны працэс у гэтых творах робіцца адвечнай барацьбой двух сіл, сілы ствараючай і сілы руйнуючай, сілы рэакцыйнай і сілы прагрэсіўнай.

Уся гісторыя з'яўляецца толькі ланцугом паядынкаў, ланцугом эпізодаў барацьбы гэтых адвечных па-загістарычных сіл. У залежнасці ад часу мяняецца толькі форма, але не сутнасць гэтых сутычак. Адна і тая-ж злая сіла дзейнічае і ў пачатку Адраджэння ў Тыролі XIV ст. („Безабразная герцагіня") і ў Германіі XVIII ст. („Яўрэй Зюс") і ў Іспаніі XV ст. („Сервантэс") і ў Рыме пачатку нашай эры („Трылогія Іосіф"), і ў часы рэфармацыі ў Германіі (Эразм Ротэрдамскі). Увасабленнем той-жа сілы, адраджэннем старажытнага варварства з'яўляецца для гэтых пісьменнікаў і сучасны фашызм. Таму зусім законамерна зводзіць з ім свае разлікі на матэрыяле мінулага, паказваць рымскіх „штурмавікоў" пачатку нашай эры, або „белагвардзейцаў" эпохі рэлігійных войн.

Гэтая канцэпцыя, антыгістарычная і суб'ектывісцкая, народжана тымі-ж пошукамі ложнага, лёгкага, зманлівага адзінства, тым-жа спалохам перад рэальнымі супярэчнасцямі гістарычнага працэса, якім створаны міфы Томаса Мана.

Калі-б гэта тэндэнцыя была адзінай, калі-б яна акрэслівала шляхі заходняга гістарычнага рамана, нам бы прышлося прызнаць, што справа з ім абстаіць досыць безнадзейна і асабліва многа размаўляць пра яго не варта. Але гэту тэндэнцыю перакрывае другая, куды больш жывая і моцная.

II

Адчуванне таго, што „старыя „багі Еўропы“ павінны ўдзельнічаць і ўдзельнічаюць у вялікай сучаснай бойцы супроць аб'яднаных сіл рэакцыі—ёсць правільнае і здаровае адчуванне. І натуральна таксама, што сучасныя буржуазныя гуманісты Еўропы шукаюць сваіх герояў і свае традыцыі, сваіх продкаў у вялікім мінулым свайго класа. Да гэтых мінулых заслуг, да гісторыі барацьбы паміж феадальным сярэдневякоўем і нараджаючыміся капіталістычнымі адносінамі прыкаваны погляд сучасных мастакоў Захаду.

„У выратаваных пры гібелі Візантыі рукапісах, выкапаных з руін Рыма антычных статуях, перад здзіўленым Захадам паўстаў новы свет—грэчаская старажытнасць; перад светлымі вобразамі яе зніклі здані сярэдневякоўя. Італія дасягнула нечуванага росквіту мастацтва, якое з'явілася як водбліск класічнай старажытнасці і якое ў далейшым ніколі ўжо не падымалася да такой вышыні. У Італіі, Францыі і Германіі ўзнікала новая першая сучасная літаратура; Англія і Іспанія перажылі скора за тым сваю класічную літаратурную эпоху... Гэта быў самы прагрэсіўны пераварот, перажыты да таго чалавецтвам, эпоха, якая мела патрэбу ў тытанах, і якая нарадзіла тытанаў па сіле думкі, страснасці характару, па шматбаковасці і вучонасці. Людзі, якія заснавалі сучаснае панаванне буржуазіі, былі чым заўгодна, але толькі не буржуазна абмежаванымі“ (Энгельс).

Ці павінны мы меркаваць пра гэтых людзей па тым, што было ў іх дзейнасці няўхільна праходзячым, гістарычна абмежаваным? Вядома, не. І сучасныя гуманісты Захаду правы, калі яны заклінаюць буржуазнае грамадства яго мінулым, супроцьстаўляючы здзічэнню, шавінізму, надрузе над правамі чалавечага розуму тыя „прыгожыя ідэалы палітычнай маралі, справядлівасці, свабоды і грамадзянскай дабрадзейнасці“ (Гейне), якія былі створаны на зары буржуазнага грамадства.

Але ўжо Генрых Гейне, які горка шкадаваў аб гібелі гэтых ідэалаў, ведаў, што яны былі толькі „ружовымі снамі“, толькі прыгожай і няўхільнай гістарычнай ілюзіяй.

Задуманая дзяржава розуму, сусветнае царства чалавека ажыццявілася, як самы празаічны буржуазны свет. Чалавек і грамадзянін страціў паўнату, сілу і цэльнасць характару, зрабіўся рабом задушаным і скалечаным падзелам працы. Тэарэтычная „зададзенасць“ буржуазнага свету, якая, як паказвае Маркс, ішла далей непасрэдных практычных інтарэсаў буржуазнага грамадства, асталася неаплочаным векселем, выдадзеным гісторыі. Вось чаму новая дэкларацыйная прысяга сучасных пісьменнікаў Захаду прынцыпам гуманізма, традыцыям асветніцтва з'яўляецца глыбока плённай для іх творчасці. У ёй ёсць воля да хутчэйшай рэалізацыі „ружовых сноў“, у ёй ёсць дзерзкае патрабаванне ўплаты па векселях, выданых прадзедамі на зары буржуазнага грамадства. У гэтай прысязе ёсць жаданне зноў заваяваць вялікую спадчыну мінулага і яно нараджае тую жывую нянавісць да ўсіх рэакцыйных сіл гісторыі, дзякуючы якой у мастака раскрываюцца вочы на сапраўдную гіс-

тарычную сутнасць гэтых сіл. І калі сучасныя гуманісты Захаду адчуваюць гэту нянавісць, як сваю суб'ектыўную справу, аб'ектыўна яна супадае з воляй і жаданнем мільёнаў і нянавісцю да сучаснага варварства, здзічэння і мракабесся ў імя цяперашняга і будучага. Так сучасны гістарычны раман робіцца раманам антыфашысцкім.

Гэтыя жывыя, баявыя, прапагандысцкія адносіны да гісторыі чалавецтва ўзрываюць знутры антыгістарызм асноўных канцэпцый мастакоў Захаду. Злая сіла набывае рэальныя рысы пэўнай фармацыі і пэўнай эпохі. Чым больш суб'ектыўны пункт гледжання Генрыха Мана або Фейхтвангера набліжаецца да аб'ектыўнага сэнсу ўзятых імі падзей, тым выразней выяўляюцца ў барацьбе двух пазагістарычных сіл рэальныя абрысы пэўнага этапа класавай барацьбы і тым мацней выяўляюцца ў творчасці гэтых мастакоў рысы сапраўднага рэалізма, перамагаючага адцягненую трактоўку матэрыяла.

Фейхтвангер сам казаў пра тое, што ў аснове „Яўрэя Зюса" ляжыць думка пра пераход чалавека ад дзеяння да бяздзейнасці, ад актыўнасці да сузірання і што на гэту думку яго навёў лёс сучаснага чалавека, Вальтэра Ратэнау. І разам з тым, колькі гістарызма, руйнуючага замысел, заключана ў ажыццяўленні гэтага рамана. Карлікавы дэспат германскага феадальнага захалусця Карл-Александр, ваеншчына, якая ўсімі праўдамі і няпраўдамі імкнецца да ўлады, парламенцкая буржуазія, якая ідзе на любы кампраміс—усё гэта належыць Германіі XVIII ст., усё гэта народжана „нямецкім убоствам", спецыфічным гістарычным убоствам, маленькага ўчастка, той велізарнай „гнаёвай кучы", якой была ў той час свяшчэнная рымская імперыя.

П'еса „Керосиновые острова" даводзіць, што і ў аснове „Безабразнай герцагіні" таксама ляжыць адзін з пазачасовых эпізодаў барацьбы творчага і руйнуючага пачатку. І разам з тым, які гістарычны той паказ эпохі позняга феадалізма, які дадзен у рамане, якой гістарычнай і сацыяльнай праўдай поўны вобразы феадальнай драпежніцы Агнес фон Флавон, авантурыста Фрауенберга.

Дарэмна думае Генрых Ман, што Екацерына Медзічы і ўся феадальная кліка французскага двара толькі асаблівая „парода людзей", якая па сутнасці сваёй варожая розуму, справядлівасці, вольнай думцы. І гэтыя прадстаўнікі руйнуючага пачатку набываюць у „Юнацтве Генрыха IV"—рэальныя рысы гістарычных абаронцаў феадальнага прынцыпа. Самы тып палітыкі, якая праводзілася старой каралевай, яе ўзаемаадносіны з іспанскім дваром, яе фактычны атэізм, скрыты пад маскай рэлігійнага ізуверства, усе гэтыя рысы з'яўляюцца сапраўды гістарычнымі рысамі.

Такім чынам, жывая і правільная традыцыя ўваскрашэння мінулага несумненна насычае творчасць сучасных гуманістаў Захаду элементамі крытычнага рэалізма і сапраўднага гістарызма.

Але гэта традыцыя, якая так плённа сказваецца пры выкрыцці сапраўднага твару „руйнуючага пачатку" робіцца куды менш дзейснай пры паказе пачатку ствараючага. Чым тлумачыцца тое, што ў рамане Бруно Франка Філіп II і ўсе сілы іспанскага абсалютызма больш гістарычныя, чым вобраз Сервантэса? Чым тлума-

чыцца тое, што Агнес фон-Флавон, гістарычней Маргарыты Тюрынгскай? Гэта тлумачыцца тым, што шматвяковая барацьба за вызваленне чалавецтва абмежавана ў успрыйманні сучасных гуманістаў Захаду рамкамі буржуазнага гістарызма.

Таму сапраўдная прычына ўзнікнення „ружовых сноў“ на зары буржуазнага грамадства, гістарычная заканамернасць усечалавечых ілюзій буржуазіі астаецца для іх незразумелай. Сувязь паміж буржуазным гуманізмам і буржуазнай рэволюцыяй для іх з'яўляецца чыста ідэйнай сувяззю. Яны не ведаюць пра тое, што „трэцяе саслоўе“ ішло далей непасрэдных інтарэсаў буржуазнага грамадства пад ціскам сялянскай і плебейскай масы, чый удзел і абумовіў тое, „вялікае невыкаранімае, незабыўнае“, што ёсць у тэарэтычным і практычным ажыццяўленні барацьбы за вызваленне чалавецтва. Для сучасных гуманістаў Захаду існуюць „прынцыпы рэфармацыі“, існуе Лютэр і Эразм, але для іх няма Томаса Мюнцэра, няма паўстаўшых сялян, разам з якімі на арэне сусветнай гісторыі тады ўпершыню паказаліся „пачаткі сучаснага пралетарыята з чырвоным сцягам у руках і з патрабаваннем агульнасці маёмасці на вуснах“.

За адцягненымі прынцыпамі французскай рэволюцыі, якія для Фейхтвангера, і не для яго аднаго, ляжаць v аснове ўсякай чалавечай цывілізацыі, стаіць вялікі цень, стаіць „шавец, добры санкюлот“, народны баец супроць арміі феадальных інтэрвентаў, герой адной з выдатнейшых песень эпохі першай буржуазнай рэволюцыі.

Сучасныя пісьменнікі-гуманісты астаюцца ў палоне легенды, створанай буржуазіяй пра самую сябе. Таму для іх не ясна тое пытанне, якое было зусім ясным для рэволюцыйных дэмакратаў XIX ст. Калі Гейне, напрыклад, пісаў аб гісторыі рэлігіі і філасофіі ў Германіі, для яго не толькі была ясная сувязь паміж буржуазным гуманізмам і буржуазнай рэволюцыяй, для яго было ясна, хто з'явіцца наследнікам гэтых прынцыпаў, хто будзе патрабаваць выдадзены „тытанамі“ буржуазнага грамадства вексель. Для сучасных пісьменнікаў-гуманістаў прынцыпы гэтыя створаны адзінокімі, апярэдзіўшымі свой час „тытанамі“ і ўплаты па рахунку, рэальнага ўвасаблення „ружовых сноў“ патрабуюць іхныя не менш адзінокія і таксама апярэдзіўшыя свой час унукі. Так узнікае ў сучасных гістарычных раманах тэма трагічнага носьбіта ствараючага пачатку, тэма адзінокага гуманіста.

## III

У даўговай турме Сэвільі сядзіць стары аднарукі чалавек. Ён шмат перажыў і шмат чаго бачыў. Ён жыў пры папскім двары ў Рыме, ён пад начальствам Дон Хуана Аўстрыйскага біўся пад Лепанто. Доўгія гады прабыў ён у палоне ў карсараў, тройчы спрабаваў уцякаць. Вызвалены, дзякуючы вялікадушнаму капрызу пірацкага караля, прыніжаны, страціўшы ўсе надзеі, ён „з чорнага ходу“ вярнуўся на радзіму. Там чакалі яго новыя нягоды, няўдачы ў тэатральнай працы, прыніжаючае каханне, прыніжаючая жаніцьба, доўгі палон у вёсцы Манчэ, больш страшны,

чым палон у карсараў. І ўрэшце, на долю яго выпала дзяржаўная служба, якая прымусіла яго пастуліцца сумленнем, стаць у шэрагі рабаўнікоў і прыгнятальнікаў роднага народу.

Адчарукі стары страціў усё—удачу і любоў, славу і бацькоўства, нават самы гонар, нават права на годнасць сапраўднага чалавека. І разам з тым няўдачы яго не зламалі. Жыццё прайшло, як стрыкаты сон, як туман, які яго пранізваў, падобна да тонкай іголкі. Падзеі свету не маглі яго закрануць, таму што ў свой век ён быў страннікам і чужаземцам, адчувальнай пласцінкай, якая ўспрыймае ўсё, нічога не аддаючы. І на схіле гадоў, у даўговай турме прышоў час выканання той місіі, таго прадвызначэння, якое правяло яго праз жыццё. Перад адзінокім старым узнік вобраз рыцара, блукаючага па дарогах Іспаніі. І яго прыгоды павінны былі адлюстраваць увесь вопыт жыцця яго стваральніка, павінны былі зрабіцца кнігай справы, народнай кнігай, чый дух супроцьстаіць коснаму і мёртваму свету караля Філіпа II. Стварэнне „Дон Кіхота“—вось сэнс і апраўданне жыцця Мігеля Сервантэса. Вось тая рэальная справа, якая супроцьстаіць сну яго жыцця. Але справа сама па сабе не існуе, справа ажыццяўляецца, ператвараючыся ў жыццё. Каштоўнасць створанага правяраецца той ацэнкай, якую ёй дае жывое жыццё. Таму адбываецца выпрабаванне Сервантэс у турме чытае таварышам па заключэнню пра тое, як Дон Кіхот вызваліў катаржнікаў і пра тое, як ён паспрабаваў перавыхаваць іх добрым словам і пра тое, як катаржнікі высмеялі яго, закідалі каменнем і разбегліся: „Крык захаплення заглушыў яго апошняе слова. Агеньчыкі свечак затрапяталіся ад выбухнуўшага смеху. Яны крычалі. Яны хлопалі сябе па ляжках. Дамы былі зусім не ў сабе. З натхнёным вішчаннем яны абнімалі і цалавалі ўзасос сваіх суседзяў. Так, гэта быў поспех. Ён быў не зусім такі, як чакаў Сервантэс. Як жа гэта магчыма! Іх уласная доля была ім паказана і нехта ў хрупкай бране, хто адважыўся іх абараніць. Але ў іх нічога не знайшлося для яго, апрача выцця. Выццём апраўдвалі яны сваіх таварышоў па бядзе, якія пабілі заступніка каменнем. Сервантэс не пераўялічыў: яны давялі яму гэта. І ад доказу яму стала халодна“. Такі вынік жыцця Мігеля Сервантэса.

Не лягчэй і шлях Іосіфа Флавія, пра якога Фейхтвангер яшчэ не расказаў да канца. Але гэты служыцель культа, воін, вялікі пісьменнік, іудэй і рымскі дваранін таксама ахвяраваў усім для ажыццяўлення сваёй мары, сваёй місіі. Іосіф таксама адмовіўся ад славы, кахання, бацькоўства і гонару чалавечага, каб творчасцю сваёй паслужыць зліццю двух светаў, двух культур, каб хоць у творчым сваім лёсе зрабіцца грамадзянінам свету, першым грамадзянінам царства розуму і духоўнага чалавечага адзінства, царства, спалучаючага „горкае малаковаўчыцы Рыма“ і „сок вінаградных лоз Іудэі“.

Але кожны раз, як Іосіф робіць крок да ажыццяўлення сваёй місіі, кожны раз, калі ён прыносіць найвялікшыя ахвяры ў імя чалавецтва—ён бачыць вакол сябе толькі рагочучыя раты, толькі звярыны здзек, тупое неразуменне „бяссэнсНай чэрні“.

Адзінокі гуманіст на тонкім мосціку паміж варварствам рэакцый-

най сілы гісторыі і варварствам народнай стыхіі, без абароны, без карэння ў сапраўдным жыцці, звязаны толькі з вечнымі прынцыпамі дабра і справядлівасці, такі вобраз носьбіта „ствараючага пачатку“ ў большасці гістарычных раманаў сучасных пісьменнікаў Захаду. Гэты герой і яго жорсткі лёс, выхаванне, закліканае загартаваць яго волю і пераконанні, з'явіліся ў сучаснай заходняй літаратуры зусім невыпадкова. Апрача тых прычын, пра якія мы ўжо казалі, тут маецца яшчэ адна прычына, звязаная з соцыяльнай біяграфіяй і соцыяльным лёсам стваральнікаў гэтых вобразаў.

Калі мы зірнем на мінулую даваенную творчасць буйнейшых майстроў культуры Захада, мы адразу-ж сутыкнёмся з трагічным усведамленнем бяздзейснасці гэтай творчасці, з усведамленнем бяссіласці слова, якое перастала быць справай. Вобраз мастака, чый голас „звучал, как колокол на башне вечевой во дни торжеств и бед народных“, адышоў у мінулае. Не было больш тых, хто „становіцца на бок той або іншай партыі і змагаецца, хто словам і пяром, хто— мячом, а хто і тым і другім“. Воля, здольнасць да дзеяння лепшых прадстаўнікоў заходняй культуры мярцвелі у індывідуалістычным адзіноцтве, бясплодным бунтарстве. Перад тварам імперыялістычнай вайны, перад тварам ідучага ў наступ фашызма, баявыя лозунгі мінулага аказаліся для іх адцягненымі габінетнымі ісцінамі. Нямногія зразумелі, як Рамэн Ралан, што старыя багі Еўропы пакінулі сваю гістарычную радзіму, што законным наследнікам усіх непахісных, не ілюзорных каштоўнасцей мінулага, адзіным абаронцам сусветнай культуры з'яўляюцца зараз не адзіночкі, а масы— рэволюцыйны пролетарыят. І толькі для гэтых мастакоў старыя скарбы атрымалі новую дзейсную каштоўнасць, таму што канкрэтнае гістарычнае разуменне тэмы нараджэння новага свету канчае з тэмай адзіноты лепшых людзей свету старога.

Гэту адзіна правільную, адзіна магчымую пастаноўку праблемы адзінокага гуманіста шмат якія мастакі да гэтага часу падмяняюць лабараторнымі вопытамі выхавання сузіральніка. Як зрабіць гэтага сузіральніка чалавекам дзеяння ў межах тае ракавое адзіноты, на якую ён асуджаны. Вось, прыкладна, тая пастаноўка праблемы, якую мы знаходзім і ў Фейхтвангера і ў Бруно Франка. У творчасці Фейхтвангера праблема гэта стаіць асабліва востра таму, што добрая публіцыстычнасць, палітычная вастрыня, жаданне актыўна ўмяшацца ў жыццё, асабліва ўласціва гэтаму мастаку. У пошуках моцнага дзейснага героя, які здольны перарабіць свет, ператварыць у жыццё „ружовыя сны“ маладой буржуазіі, Фейхтвангер абыйшоў літаральна ўсе колы капіталістычнага свету. Сваіх моцных герояў Фейхтвангер нават у самых ранніх сваіх творах пераважна шукаў у мінулым буржуазнага грамадства. Так узніклі яго гістарычныя драмы „Калькута“ і „Галандскі купец“. Аднак, не гледзячы на аддаленасць у часе, не гледзячы на тое, што Фейхтвангер усякім чынам упрыгожваў каланізатарскую місію лорда Гастынгса („Калькута“) і мару пра гандлёвае заваяванне Афрыкі Даніэля Рауле („Галандскі купец“), яго героі заставаліся толькі буйнымі і моцнымі драпежнікамі, здольнымі абараніць практычныя інтарэсы буржуазнага грамадства, але далёкімі ад высокіх „прынцыпаў французскай рэволюцыі“.

Гэты доказ неўпарадкаванасці адносін паміж тэорыяй і практыкай буржуазнага свету Фейхтвангер у сваіх наступных творах робіць вечнай і пазагістарычнай супярэчнасцю. „Той, хто дзейнічае, заўсёды пазбаўлен сумлення. Толькі ў сузіральніка ёсць сумленне“. Гэтыя словы Гетэ з'яўляюцца эпграфам да главы пра рэвалюцыйную дзейнасць Томаса Вендта, героя „1918“—драматычнага рамана Фейхтвангера пра баварскую рэвалюцыю.

Ні ў адным з твораў Фейхтвангера разрыў паміж ідэяй гуманізма і ідэяй рэвалюцыі не даецца ў такой рэзкай, агаленай форме, як у „1918“. Увесь раман па сутнасці гаворыць пра адно: пра тое, як самая высокая ідэя можа быць ператворана ў жыццё толькі цаною такіх кампрамісаў, якія пазбаўляюць яе ўсякага сэнсу і зместу, ператвараюць яе ва ўласную процілегласць. Іменна таму Фейхтвангер канчае гісторыю баварскай рэвалюцыі там, дзе яна ў сутнасці пачынаецца. Ён свядома закрывае вочы на тое, што на змену 1918 году прыйшоў год 1919, што на змену рэспублікі буржуазных неўрастэнікаў Томасаў Вендтаў прыйшла баварская савецкая рэспубліка. Свядомая гістарычная недакладнасць, якой канчаецца п'еса, таксама невыпадковая. Па Фейхтвангеру буржуазная рэакцыя пачынаецца непасрэдна пасля Томаса Вендта. Міністр фінансаў кааліцыйнага міністэрства, пан Шульц— увасабленне усёй мярзотнасці старога свету—пры ўсеагульным захапленні становіцца на чале новага ўраду.

У сапраўднасці, буржуазная рэакцыя ў Баварыі прыйшла на штыхах генерала Гофмана і народ зусім не „захапляўся“, а жыццём сваім адстойваў савецкую рэспубліку. Гістарычная няпраўда „1918“ робіцца і мастацкай няпраўдай Песімізм і інтэлігенцкая разгубленасць перад падзеямі, акрэсліваючая „1918“, абяскровілі гэты твор, зрабілі яго пралогам да таго ўзвелічэння „духоўнага“ свету і перавагі сузірання над дзеяннем, якім прасякнуты замысел „Яўрэя Зюса“.

Калі спроба знайсці ў межах буржуазнага грамадства героя, які здольны практычна перарабляць свет на асновах гуманістычнага розуму і справядлівасці, кончылася ў творчасці Фейхтвангера няўдачай, дык да гэтай спробы ён вярнуўся на другой аснове. Месца практыка заняў ідэолаг. Па новай канцэпцыі Фейхтвангера, чалавек здольны вытлумачыць свет, тым самым перарабляе яго. Аднак і ў галіне ідэалогіі Фейхтвангеру не ўдаецца проста і не хваравіта вырашыць праблему ўзаемаадносін гуманістычнага сумлення і дзеяння. Дзейсная кніга, кніга стваруючага пачатку, згодна думцы Фейнхтвангера, можа быць створана толькі цаною здзелкі з сумленнем. Толькі шлях кампраміса, толькі доза свядомай маны дапамагае апошняму улюбёнаму герою Фейхтвангера, іудэйскаму гісторыку Іосіфу Флавію выканаць сваю місію. Іосіф Флавій таксама стаіць адзінока паміж „няўмеючай мысліць большасцю“ і рэакцыйнымі сіламі гісторыі. І шлях Іосіфа Флавія—гэта шлях вонкавага прыстасавання, шлях свядомага падпарадкавання гвалту, шлях бясконцых і прыніжаючых здзелак.

Тэма „розуму—першароднага сына божага“, тэма розуму, у імя якога варта не толькі не заяўляць пра свае пераконанні, але нават

адмаўляцца ад іх, калі гэтага патрабуюць—з'явілася ў творчасці Фейхтвангера ўжо даўно. Словы пра тое, што „ўсё супрацьўнае розуму ўродлівае" упершыню сказаны мудрым Куганам, адным з герояў надзвычайнай п'есы „Ці будзе амністыраваны Хільд" (1925). Формула гэта, несумненна, з'яўляецца формулай скрытага і таму тым больш небяспечнага разрыва паміж гуманістычнай і рэволюцыйнай традыцыяй. Калі ўся справа заключаецца толькі ў тым, каб царства божае было ўнутры нас, калі за дзейнасцю ідэолага адмаўляецца ўсякае практычнае агітацыйнае значэнне, калі ён працуе на будучыню, ігнаруючы сёнешнія інтарэсы, значыць у апошнім ліку калі давесці гэты пункт гледжання да яго мяжы, да яго лагічнага канца, можа быць апраўдана ўсякае прыстасаванне да вонкавых умоў, усякая здзелка з сіламі рэакцыі.

Уся справа ў тым, што будучае не валіцца з неба, зерняты яго закладзены ў цяперашнім. Той гуманістычны прынцып, які вечна адыходзіць у будучыню, высмеяны непазнаны і незразумелы, мае ўсе шансы астацца вечнай зданню, астацца неўвасобленым назаўсёды. А іменна так бачыць гуманізм і Фейхтвангер і Бруно Франк. Калі ў творчасці Фейхтвангера ёсць элементы спрэчкі, бунта, барацьбы супроць уласнага ўяўлення аб гуманізме, калі ў „Сям'і Опенгейм" ён шчыльна падыходзіць да тэмы расплаты за адзіноту і канец адзіноты, то Бруно Франк гаворыць пра гэта як пра адзіна магчымае і вартае.

З Дон Кіхота трэба было смяяцца. Чым-жа ён быў незадаволены? Але аднойчы—такі быў яго замысел, усё-ж выступіць з яго кнігі існіна без маскі, зразумелая кожнаму. Аднойчы ён загаворыць. Яшчэ вельмі не скора, у самым канцы, пасля сотні прыгод і тысячы старонак, скажа ён чараўнічае слова. На заднім парогу будынка вырашыў ён пакласці маленькі ключык ад яго сакравеннейшага тайніка. Набліжаецца канец Дон Кіхота. Яго акружаюць сябры. Санчо, усхліпваючы загаварвае з ім пра новыя паходы, пра новыя подвігі. Але павязка мары спадае з вачэй, назаўсёды ачараванага, і ён кажа: „Цішэй, паны мае, цішэй. Мінулагоднія гнёзды не для цяперашніх птушак. Я больш не Дон Кіхот з Манчы. Я зноў Алонсо Кіхана, якога калісьці называлі Алонсо добрым". Так, спагадзя доўгія гады, аднойчы кончыцца яго кніга гэтым простым усераскрываючым словам „добры".

„Неба над Трыанай яшчэ злёгку свяцілася. І ён убачыў, аддаляючагася туды гіганцкага і кастлявага конніка. Праз прасторы і часы гнаўся за адыходзячым мігценнем рыцар, капыты яго клячы спатыкаліся на іспанскай зямлі, але шляхетная і смешная галава яго амаль краналася зорак".

Калі для Бруно Франка жыццё Сервантэса стрыкаты сон, ключ да якога—пагоня за адыходзячым мігценнем, калі вялікі рэалістычны раман Сервантэса, які ў роўнай меры выкрывае ўродлівасць двух светаў, адыходзячага феадальнага і нараджаючагася буржуазнага—таксама толькі „пакрывала маі", якое ахутвае „ключык" вечнага, пазагістарычнага гуманізма, дык і да высокай мары Бруно Франка можна знайсці свой „ключык", скрыты ў нядаўніх публіцыстычных выказваннях аўтара „Сервантэса". „Не, гуманнасць не пустое

слова! Не дазваляйце, каб вас марочылі гарладзёры нашай панурай эпохі, хворыя на амок заклінальнікі д'ябла, і крыклівыя дэрвішы, якога-б там ні было веравызнання. Быць праўдзівым, быць простым, аставацца з мяккім сэрцам, бадзёрым і спакойным у пакутах і небяспецы, любіць жыццё і не баяцца смерці, служыць духу і не верыць у духаў, нічому лепшаму не вучылі чалавека з тых часоў, як круціцца наша зямля".

Так абстрактнае служэнне будучаму робіцца неразуменнем цяперашняга, адмаўленнем тых зярнят будучага, якія прараслі ўжо сёння.

Невыразнасць, недадуманасць, недагаворанасць канцэпцый вялікіх пісьменнікаў-гуманістаў сучаснага Захаду, у многім акупляецца той нянавісцю да фашысцкага варварства, якой прасякнуты іхныя творы і тымі рысамі новага крытычнага рэалізма, якія ім уласцівы. Але сярод кніг пра адзінокага гуманіста ёсць творы, якія з'яўляюцца небяспечным каментарыем да гэтай тэмы.

Тое, што для Фейхтвангера і Бруно Франка робіцца пакутлівым пытаннем і цяжкай праблемай, тое для Стэфана Цвейга вельмі проста і ясна. Ствараючы свой вобраз Эразма Ротэрдамскага, ён паслядоўна і просталінейна робіць усе вывады з палажэння пра адзінокага гуманіста.

Гуманіст павінен быць, перш за ўсё, далёкім ад усякай партыі. Ён эвалюцыяніст, таму што „дух гуманізма супроцьлеглы духу рэволюцыі". Яго задача ўтрымацца паміж двух варожых станаў. Інакш ён зрабіць не можа, таму што справа перавялічэнне і злева перавялічэнне, справа фанатызм і злева фанатызм. Рэволюцыянеры і гуманісты гэта „розныя пароды людзей". Асноўныя рысы першых „фанатызм, сляпая страсць, стыхійнасць, нацыяналізм". Асноўныя рысы другіх: „цярпімасць, розум, культура, касмапалітызм".

Гуманісты заклікаты ўсімі сродкамі захоўваць светач культуры, на які ў роўнай ступені пасягаюць абодвы пароды варвараў справа і злева. Місія гуманіста—гэта пасрэдніцтва, гэта згладжванне супярэчнасцей, гэта „служэнне залатой сярэдзіне".

Ажыццяўляючы гэту высокую задачу, гуманіст зусім не павінен актыўна заступацца за сваю ісціну, перці на ражон. Сімвал гуманіста—„гнуткае трысце", ён гнецца перад бурай управа і ўлева: хістанні яго неістотныя, бо місія яго грандыёзна, ён трымае ў сваіх руках вечны светач культуры.

Натуральна, што пры такім гістарычным разуменні гуманізма і агульнае ўяўленне Цвейга пра эпоху рэфармацыі выглядае досыць злавесна. На фоне спаленых вёсак, расцярзаных трупаў мітусяцца „сляпыя фанатыкі" Гус і Саванарола, Сервет і Кальвін, Томас Мюнцэр і Лютэр, і кожны з іх раздзьмухвае „ракавое полымя" рэлігійнага вар'яцтва, даводзячы сваім супрацоўнікам, што іменна ён правільна разумеў Хрыста. І над усімі, крыху адсунуўшыся ў цень, стаіць сапраўднае ўвасабленне Рэнесанса—Эразм Ротэрдамскі, чыя тонкая рука не ўзброена мячом, чые ззяючыя блакітныя вочы спагадліва глядзяць на ўсе праявы адвечнага чалавечага глупства. Так, згінаючыся ўправа і ўлева і прастаяў Эразм, згодна Стэфану Цвейгу, усё жыццё ахоўваючы ад варварскіх сіл

сярэдневякоўя і ад варварства „рэвалюцыянера Лютэра“ тыя гуманістычныя ідэалы, якія, як высвятляецца ў апошнім раздзеле, ніколі ў жыццё неператварыліся ды і не маглі ператварыцца.

Тэму гуманізма, адыходзячага ў будучае, Стэфан Цвейг таксама даводзіць да яе лагічнага завяршэння. Бо, згодна яго кнізе, мара гуманізма пра вырашэнне супярэчнасці ў духу справядлівасці, чакаемае аб'яднанне нацый пад знакам адзінай культуры асталося утопіяй і наўрад ці ажыццявіма наогул у жыцці. Але аказваецца каштоўнасць утопіі і заключаецца ў тым, што яе нельга ажыццявіць. Іменна таму, што яна не запэцкана граззю рэальнага ажыццяўлення, іменна таму яна астанецца вечным брадзілам, якое не дасць чалавецтву супакоіцца на справах сёнешняга дня.

Цікаўна, што ў гэта, ужо нават не зашыфраванае, а проста неіснуючае ўяўленне пра гісторыю мінулага ўсё-ткі ўрываюцца зусім рэальныя адгалоскі гісторыі сёнешняга дня. Стэфан Цвейг раптам прызнае, што слабасць гуманізма ў тым, што ён адарваны ад жыцця, што яго мара пра адзіную культуру будуецца не на аб'яднанні народаў, а на аб'яднанні выбраных розумаў, што нават у „габінетных людзях мінулага“ ўжо быў „гран смешнага“ і што з тых часоў іхныя ідэі зрабіліся здабыткам яшчэ больш адзінокіх і слабых наследнікаў. Так у кнізе Цвейга раптам паяўляецца і адваротны бок вобраза гуманіста, чалавека, „які прапусціў гістарычны час“, пасля чаго яму астаецца толькі „ісці ў сваю келлю і закрыць занавескі“. Гэты аспект адзінокага гуманіста таксама мае мала дачынення да праблем XV ст. Але затое ён з несумненнай дакладнасцю адлюстроўвае самакрытычныя настроі некаторых гуманістаў XX ст. І ва ўсякім выпадку, ён больш гістарычны, чым той „неўзброены гуманіст“, якога Цвейг з такой любоўю паказвае ў першых раздзелах сваёй кнігі. Кнігі пра людзей мінулага, якія, як гаворыць Чэрнышэўскі, „не жартавалі ідэямі“ і завяявалі сваім жыццём права на слова, здольнае зрабіцца справай—гэтыя кнігі людзі Захаду пішуць цяпер у навучанне сабе і іншым. Тэма выхавання адзінокага гуманіста, імкненне ўсімі сродкамі выпаліць, выбіць з яго палавінчатасць, слабасць, інертнасць, народжана недавер'ем сучасных пісьменнікаў Захаду да сябе саміх і сваіх таварышоў, да якасці іхняй волі, якасці „мускулаў“ байца, які ўжо не мае сілы падняць дзедаўскі меч. Тэма адзінокага гуманіста ёсць і тэма сцвярджэння сваіх правоў на вялікую спадчыну мінулага.

Ва ўсёй гістарычнай белетрыстыцы заходняга гуманізма ёсць толькі адзін прыклад зусім іншых адносін да спадчыны. Генрых Ман вядзе мінулае да рубяжоў новага свету, як поўнапраўны наследнік, як гаспадар. „Юнацтва Генрыха IV“—арліны ўзлёт заходняга гуманізма, кніга сцверджання вялікага і непарыўнага адзінства рэвалюцыйнай і гуманістычнай традыцыі. Генрых Ман—палкаводзец, і ў сёнешні дзень ён прыходзіць не разам з адзінокім гуманістам. За ім ідзе армія гуманістаў, ні ў чым не падобных на іншых герояў заходніх раманаў. Гэтыя гуманісты ўмеюць „не толькі мысліць, але і трымацца ў сядле і валодаць мячом“. Няхай сабе, што яго Генрых Наварскі—гэта не гістарычны Генрых IV—вялікі майстар кампраміса, які расчышчаў шлях фран-

цузскаму абсалютызму. Затое, гэта той „тытан“, вобраз якога малюе Энгельс у „Дыялектыцы прыроды“. Гэта чалавек партыі, які ідзе ў бой за сваю справу, узброены не толькі мячом, але і філасофіяй Мантэня і томікам Плутарха.

Няхай сабе, што ў разуменні гісторыі Генрых Ман далучаецца ўсё-ж да той-жа традыцыі, якая ўспрыймае гістарычны працэс як адвечную барацьбу сілы злой і добрай, рэакцыйнай і прагрэсіўнай. Затое ў яго гістарычнай канцэпцыі няма месца „трэцяй сіле“. Войска гугенотаў б‘ецца не толькі за свяшчэнныя правы розуму і свабоды, але і за „прыгнечаных і абяздоленых“—гэта „трэцяе саслоўе“, абараняючае інтарэсы ўсяго народу, прыгнечанага феадалізмам. Няхай сабе, што падзяляючы ілюзіі „трэцяга саслоўя“, Генрых Ман часамі ўступае ў канфлікт з рэальнымі, аб‘ектыўнымі гістарычнымі фактамі, з рэальнымі адносінамі класавых сіл у эпоху рэлігійных войн ва Францыі. Затое ўся яго кніга прасякнута ваяўнічай нянавісцю да „белагвардзейцаў“ усіх часоў і народаў, цвёрдым пераконаннем, што іх можна пабіць і трэба біць усімі сродкамі і без усякіх кампрамісаў. Цікаўна, як ставіць Генрых Ман у сваёй кнізе праблему фармавання, праблему апісання гуманіста. Кароценькія moralité, якія заканчваюць кожную кнігу рамана, з‘яўляюцца ў сутнасці летапісам ужо пройдзеных этапаў, ужо рэальна заваяванага. І чырвонай ніткай праз усе moralité і праз увесь раман праходзіць адна і тая-ж думка—раўнавага паміж гуманістычным сумленнем і магчымасцю ператварыць яе загады ў жыццё дасягаецца толькі дзеяй, толькі абаронай сваіх пераконанняў.

Прынцыпу розуму, у імя якога трэба стрымлівацца ад дзеянняў, Генрых Ман супроцьстаўляе дзерзкія словы Мантэня пра тое, што ўсе вялікія падзеі робяцца „очертя голову“. І Генрых Ман цвёрда ведае, што лёс будучага вырашаецца толькі ў баях сёнешняга дня.

„Юнацтва Генрыха IV“ яшчэ не рэвалюцыйна-гістарычны раман у нашым разуменні гэтага слова. Але Генрых Ман стаіць у пачатку новага разумення гістарычнай традыцыі, таму, што замест трывогі за адзінокага чалавека ўвесь яго раман прасякнут трывогай за чалавецтва.

## IV

У кнігах заходніх гуманістаў аб мінулым ёсць шмат чаго—спелае майстэрства, сапраўдная суб‘ектыўная шчырасць, горыч стагоддзямі накопленага скепсісу, філасофская вастрыня думкі. Іх героі, як і ерэсіархі ў „Спакушэнні святога Антонія“ адзін за другім разгортваюць скруткі сваіх доказаў. Але ў гэтых кнігах няма маладосці. У іх няма радасці, у іх няма здзіўлення перад тым светам, які ляжыць наперадзе, упершыню адкрываючыся вачам. Зноў-такі адзіным выключэннем з‘яўляецца тут „Юнацтва Генрыха IV“, кніга, поўная юнацкага хвалявання, закіпаючага маладога лірызма.

Яшчэ больш рэзка, яшчэ выразней гучыць голас маладосці ў кнігах, якія прысвечаны не лёсу чалавека, а лёсу людзей, не гісторыі ўсечалавечых ілюзій, а гісторыі рэальнай барацьбы за шчасце і свабоду ўсіх працоўных. Кніга Рэглера „Сяўба“ і Касу „Кры-

вавыя дні Парыжа“ яшчэ не эпапеі. Героіка масавай барацьбы дадзена ў іх праз юнацкае здзіўленне, праз лірычнае захапленне перад тым светам, які ляжыць наперадзе і які трэба заваяваць. Ствараючы вобраз сялянскага правадыра XV стагоддзя Іоса Фрыца—Густаў Рэглер бессумненна памятаў пра неўміручы дух Фландрыі, пра Тыля Уленшпігеля. Іос рэалістычней і гістарычней за свайго літаратурнага правобраза. Гэта той правадыр, пра якога апавядаюць нам „сялянскія войны у Германіі“, гэта плебейскі рэвалюцыянер, які расце разам з рухам, усё больш усведамляе „земную“ сутнасць патрабаванняў, схаваных пад рэлігійнай абалонкай.

Гэта—мудры арганізатар і нястомны прапагандыст. Але разам з тым ён і ўвасабленне рэвалюцыйных спадзяванняў лесарубаў, рыбакоў, аратых, гаражан, брадзяг, ландскнехтаў, чый вобраз узнікае на актыўным і масавым фоне яго эпохі. Ён, як Уленшпігель, усё жыццё ездзіць па дарогах роднай краіны і, кроў Вельтына—настаўніка і правадыра, якога казнілі князі, усё жыццё стукаецца ў яго сэрца. Лёс яго канчаецца гэтак-жа, як лёс славутага Уленшпігеля, Іос не памёр. Пасля разгрому другога саюза „Башмака“ ён са сцягам на грудзях ідзе ў невядомасць—сімвал вечна новай, вечна маладой, неўміручай барацьбы працоўных за сваё вызваленне. Іос не „выхавальнік“, не „балельшчык“ за чалавека, або нават за чалавецтва. Іос носьбіт той сапраўднай рэвалюцыйнай мужнасці, якая спалучае ў сабе гатоўнасць да смерці не толькі з воляй да барацьбы і перамогі, але і з воляй да жыцця.

Змагаючыся за лёс паўстаўшых сялян і плебеяў,—ён тым самым змагаецца і за свой лёс, таму што ён неадрыўны ад лёсу класа. Іменна таму яго барацьба за будучае ёсць і барацьба за цяперашняе. Але іменна таму яго паражэнне ў цяперашнім з'яўляецца толькі этапам агульнай барацьбы, толькі ступенню да будучай перамогі.

Навошта Рэглеру пераносіць у эпоху сялянскіх войн праблемы і канфлікты нашай сучаснасці? Для яго, як і для ўсіх нас, дастаткова сучасна і важна тое, як цяперашняе рыхтавалася ў мінулым, як выспявала ў мінулым воля і актыўнасць мас. Так, гэты раман, як усякі гістарычны раман, носіць на сабе адзнаку сучасных, суб'ектыўных адносін яго аўтара да гісторыі. Але суб'ектыўны пункт гледжання аўтара супадае з суб'ектыўным пунктам гледжання шматмільённай масы працоўных свету, з тым класава-суб'ектыўным пунктам гледжання рэвалюцыйнай пралетарскай ідэалогіі, якая і ёсць адзіна-аб'ектыўная.

Таксама і сучаснасць пагляду аўтара зусім не робіцца мадэрнізацыяй гісторыі. Барацьба працоўных за свае правы, сваё шчасце і свабоду з'яўляецца для Рэглера адзінай непарыўнай традыцыяй і ў гэтым сэнсе для яго сучасная і барацьба брухрэйнскіх сялян.

— „Башмак“ перастане існаваць, Іос Фрыц, але замест яго сялян аб'яднае вакол сябе Бедны Канрад. Восем тысяч узброеных сялян з'явяцца каля брамы Шорыдорфа. Яны ўзнімуць кінжал над самым наглым з герцагаў. Пройдуць гады і першыя калоны пад гукі флейт і барабанаў, пройдуць міма ручая, такога, як вось гэты каля тваіх ног, Іос, і скінуць свае ланцугі у сцёчную канаву. І ты

будзеш з імі, Іос Фрыц, ты пачуеш як яны будуць гаварыць пра тваіх шлетштадскіх і брухрэйнскіх сялян і ты будзеш шчаслівы, хоць яны і не пазнаюць цябе. І яшчэ пройдуць гады і праз гэтую раўніну рушаць новыя атрады сялян і накіруюць свае гарматы на Брухзам. Ядры гэтых жэрлаў ударaць у сцены і ты зноў будзеш там. І зноў будзе развявацца сцяг, і зноў паны задрыжаць ад страху перад Башмаком, які к вечару ўзнімецца над гарадскімі сценамі... Успамін пра цябе астанецца, як заклік да свабоды. Твая справа не памрэ, Іос Фрыц і што-б ні здарылася, сляды „Башмака“ назаўсёды застануцца на ўсіх дарогах нашай краіны, па якіх ён прайшоў“.

Так канчаецца мужная кніга пра два паражэнні рэволюцыі, кніга маладая, лёгкая, аптымістычная, поўная любові да жыцця і веры ў перамогу справы працоўных.

Кніга Касу поўная такога-ж сапраўднага жывога адчування адзінства рэволюцыйных традыцый чалавецтва. Кніга Касу—выдатны гістарычны раман і разам з тым раман сучасны. Праўда, гісторык мог-бы зрабіць аўтару шмат папрокаў. Гераічная барацьба комунараў праходзіць у кнізе, як агнявы віхор. Выразнага паказу падзей, будняў комуны, тых элементаў першай Дзяржавы працоўных, якія ў ёй намячаліся—усяго гэтага ў кнізе Касу няма. Затое ў ёй ёсць іншае. Ёсць глыбока правільнае, глыбока гістарычнае і сучаснае разуменне сэнсу барацьбы комунараў. Таму кніга пра смерць, пра пакуты і паражэнне таксама робіцца кнігай радасці, маладосці, закліка да жыцця.

Кніга Касу цікаўная яшчэ і тым, што гэта па сутнасці таксама „інтэлігенцкая кніга“. Праблема адзіночкі і масы, дзеяння і сузірання выступае ў ёй без маскі. г. зн. як праблема інтэлігенцыі і рэволюцыі. І вырашэнне гэтай праблемы, якое дае Касу, з'яўляецца адзіным правільным вырашэннем. Дэкласаванага буржуа—адзіночку—лятуценніка Тэадора Кіша прывяло ў рады комунараў не інтэлектуальнае спачуванне „малым гэтым“, не жаданне „выхаваць“ і менш за ўсё жаданне ахвярна загінуць. „Я хочу сказаць гэта табе і яшчэ і яшчэ раз паўтарыць: калі я тут, дык не дзеля прыгожых вачэй смерці. Не, не і не. Я не пераможан і не ўпаў у роспач. Я не шукаў смерці, я толькі зрабіў тое, што павінен быў зрабіць і не з-за пачуцця доўгу. Я прышоў сюды, я знайшоў свой шлях сярод дарог, што бялелі ў густэчы, сярод мноства вуліц, якія пераплятаюцца ў Парыжы, у сталіцы, якая гарыць... І я таксама гару, але не паміраю!“

Для Тэадора Кіша сапраўдная смерць—гэта астацца ў палоне таго буржуазнага свету, які ён пакінуў. У імя чаго-ж прыйшоў да рэволюцыі Тэадор Кіш? Тэма рэволюцыйнай барацьбы, тэма веры ў рэволюцыю і адданасці справе працоўных вельмі цесна пераплятаецца ў рамане Касу з тэмай кахання, з тэмай высокай, напружанай, лірычнай улюбленасці. Тэма рэволюцыі неадрыўна ў рамане ад тэмы Мары-Роз, парыжскай работніцы, жаноцкага ўвасаблення гераічнага парыжскага народу, рэволюцыйнай народнай Францыі. Таму, калі Тэадор Кіш гаворыць пра сэнс іхнага кароткага і трагічнага кахання, ён тым самым выказвае самую сакравенную сут-

насць сваіх адносін да рэвалюцыі, свайго шляху да яе. І тут барацьба за цяперашняе, юнацкае захапленне перад адкрытым і заваяваным таксама вырастае ў упэўненасць, што чалавек, які арганічна звязаў свой лёс з рэвалюцыяй, ніколі не будзе адзінокім і пераможаным:—„Я ведаю, што было, Мары-Роз, а было незвычайнае і прыгожае. Тэадор і Мары-Роз пазналі адзін аднаго і палюбілі. Яны зрабілі гэта наўпярок усяму свету. Так, так. Яны зрабілі гэта па сваёй волі, таму што яны так хацелі. Вось што важна зараз. Гэта і ёсць цуд. І гэта зрабіў я. Я цябе люблю. Для гэтага я павінен быў прайсці доўгі, бясконца доўгі шлях, а цяпер ззаду нас палае ўвесь Парыж. Я разарваў з усім, што звязвала мяне з другім светам, паміж ім і намі агнявая сцяна. Мы-ж ідзем у нагу, прытуліўшыся адзін к аднаму. Чаго-ж табе яшчэ трэба?“

У гэтай мужнай барацьбе за жыццё, у гэтай упэўненасці канчаецца тэма адзіноты. Разам з ёй знікае і страх перад цяперашнім, які ператвараецца і ў страх перад мінулым. Сапраўдны гістарызм і сапраўдная народнасць, пошукі герояў не сярод адзінокіх гуманістаў, але ў масавых рухах, прагнасць падняць вялікую гераічную народную традыцыю, звязваючую ў адно ўсю вызваленчую барацьбу чалавецтва, адзінства пафаса і ведаў—вось рысы сапраўднага рэвалюцыйнага гістарычнага рамана, які ствараецца на Захадзе. Іменна гэтыя рысы сведчаць пра яго кроўную роднасць з развіваючымся савецкім гістарычным раманам.

Тут на новай аснове спалучаюцца гуманізм і рэвалюцыя, гуманістычныя мары пра свабоднае чалавецтва і рэвалюцыйнае дзеянне.

Велізарная палітычная задача, на ўвесь рост пастаўленая тав. Дзімітравым, задача ўзняць усе баявыя высокія традыцыі народных рухаў, ператварыўшы іх у магутную зброю сучаснасці,—прымушае нас чакаць вялікага сапраўднага рэвалюцыйнага гістарычнага рамана. Да яго будуць прад'яўляцца рэвалюцыяй вялікія патрабаванні.

З поваду савецкага гістарычнага рамана справядліва паказалі шэраг савецкіх пісьменнікаў, што справа ідзе зараз не толькі аб „правільнасці“ раманаў, але аб неабходнасці вялікіх канцэпцый, пра тое, што пісьменнік павінен стаяць на ўсёй вышыні сучаснага палітычнага вопыта, павінен мець „дзяржаўны розум“, каб па сапраўднаму ацаніць вопыт мінулага. Падобна да гэтага стаіць пытанне і для Захаду. Мы чакаем гістарычнага рамана, у якім пісьменнік, сінтэзуючы ўвесь аграмадны вопыт сучаснай барацьбы двух светаў, з вышыні гэтага вопыту, з мудрасцю марксіста і страсцю байца ацаніў бы рухі мінулых стагоддзяў.

Рэглер, Касу, Гергель яшчэ не зусім задавальняюць усім гэтым патрабаванням. Але яны ўжо авалодалі многімі важнымі подступамі да сапраўднага гістарычнага рамана. Разам з тым, шлях Генрыха Мана паказвае, што і ад творчасці сучасных гуманістаў адчынен шлях да яго, шлях, які праходзіць праз заваёву той мудрасці рэвалюцыі, якая неабходна для вялікага гістарычнага рамана гэтак-жа, як яна неабходна зараз для ўсякай вялікай творчасці.

---

*Ф. Палевіч*

# МАТЫВЫ НАРОДНАЙ ТВОРЧАСЦІ Ў ПУШКІНА

Пушкін жыў у той час, калі пытанне аб стварэнні рускай літаратурнай мовы было вельмі востра пастаўлена ў парадак дня. Блізкая да царкоўна-славянскай мовы і „афранцужаная" руская літаратурная мова XVIII ст. была надзвычай далёкай ад жывой размоўнай мовы. Яна не толькі не спрыяла прагрэсу рускай культуры, а наадварот, з'яўлялася перашкодай у яе развіцці. Адказную і ганаровую задачу — знішчыць гэту перашкоду — узяў на сябе А. С. Пушкін. Ён з'вярнуўся да „свежых вымыслаў народных", да „жывых вытокаў народнага слова", смела і ўпэўнена заклікаючы вучыцца правільнасці і чыстаце мовы ў народзе, на вуліцах, на пляцах і рынках. „У нас,—гаварыў Пушкін,—яшчэ няма ні славеснасці, ні кніжак; усе нашы веды, усе нашы разуменні з маленства пачарпнулі мы ў кніжках іншамоўных. Мы прывыклі думаць на чужой мове... Размоўная мова простага народу, не чытаўшага іншамоўных кніжак і дзякуй богу, не скажаючага, як мы, сваіх думак на французскай мове, варта таксама глыбейшых даследванняў. Нядрэнна нам іншы раз прыслухоўвацца к маскоўскім просвірням, яны гавораць дзівосна чыстай і правільнай мовай".

У мове простага народу, яго творчасці, Пушкін бачыў невычарпальную крыніцу для стварэння рускай літаратуры і рускай літаратурнай мовы. Ён з вялікай любоўю вывучаў мову „простага" народу. Але Пушкін не абмяжоўваўся толькі мовай „простага" народу. Для яго было зразумела, што: „пісьменная мова ажыўляецца памінутна выразамі, нараджаючыміся ў гутарках, але не павінна адракацца ад набытага на працягу вякоў. Пісаць выключна мовай размоўнай—значыць не ведаць мовы". І таму Пушкін, апрача размоўнай мовы, вывучаў усё тое, што да яго выпрацавала літаратурная мысль, вывучаў багатыя помнікі народнай творчасці народаў былой царскай Расіі, браў лепшае з заходне-еўрапейскай літаратуры.

* * *

Перш чым гаварыць аб матывах народнай творчасці ў Пушкіна, неабходна ўявіць сабе вялікі ўплыў французскага выхавання, мовы і літаратуры на сучаснае Пушкіну рускае дваранскае грамадства. Выхаванне Аляксандра Сяргеевіча і яго сястры Ольгі было даручана гувернёрам французам. Хатняе навучанне дзяцей, за выключэннем рускай мовы і „закона божыя" вялося на французскай

мове. У доме па-руску гаварыла толькі прыслуга. У бібліятэцы бацькі Пушкіна можна было бачыць выключна французскую літаратуру. Жывучы больш-менш вольна ад бацькоўскага нагляду, Пушкін тайком пранікаў у габінет бацькі і там без разбору, цэлымі начамі чытаў, што траплялася пад рукі. К 11 гадам Пушкін ужо добра ведаў французскую літаратуру.

Свае першыя вершы Александр Сяргеевіч піша на французскай мове. І толькі ў 1812 г. ён упершыню піша на рускай мове верш „О Дэлія драгая“.

Таварышы Пушкіна сцвярджалі, што ў ліцэі Пушкін упарта вывучаў рускую славеснасць, французскую мову і гісторыю. Але вядома, што асаблівых ведаў па рускай мове Пушкін у ліцэі не атрымаў. Гэта прымусіла яго пасля ліцэя самастойна вывучаць сінтаксіс і рускую літаратурную мову.

У 1820 г. за свабодалюбівыя вершы самаўладства саслала паэта на поўдзень. Тут і пачынаецца яго сур'ёзная праца над сабой. Адарваны ад шумлівага жыцця Пецербурга, ён запаўняе свой час чытаннем гістарычных і этнаграфічных кніжак. З захапленнем чытае казкі, якія прыслаў яму Раеўскі. Праяўляе вялікую цікавасць да народнай творчасці, да асобы С. Разіна, аб якім яму давялося чуць у паўднёвых стэпах, з песень казакаў. Народны дух гэтых песень, казак і павер'яў захапляе паэта. У сваіх лістах з Кішынёва Пушкін просіць брата пісаць яму лісты на рускай мове. У гэты-ж час Пушкін задумваецца над лёсам рускай славеснасці, займаецца даследваннямі, робіць шэраг сваіх заўваг па гэтаму пытанню. У артыкуле „Аб прычынах, замедліўшых ход нашай славеснасці“, Пушкін піша: „Прычынамі, затрымаўшымі ход нашай славеснасці... звычайна лічацца: 1-е, агульнае ўжыванне французскай мовы і пагардлівыя адносіны да рускай. Усе нашы пісьменнікі на тое скардзіліся, але хто-ж вінават, як не яны самі? Выключаючы тых, якія займаюцца вершамі, руская мова ні для каго яшчэ не можа быць досыць прывабнай...“ „вучонасць, палітыка і філасофія яшчэ па-руску не выказаліся.. Проза наша так яшчэ мала апрацавана, што нават у простай перапісцы мы вымушаны ствараць звароты для выказвання разуменняў самых звычайных, так што ленасць наша ахвотней гаворыць на мове чужой, хоць механічныя формы даўно гатовы і ўсім вядомы“.

У канцы 20 і пачатку 30 гг. Пушкін амаль выключна карыстаецца рускай мовай. Яго лісты да жонкі напісаны не толькі на рускай мове, але і сам склад іх не падобны на агульнапрынятый характар лістоў дваранскага асяроддзя: „Што жонка? Маркотна табе, мне сумна без цябе. Каб не сорамна было, вярнуўся-б проста да цябе, ні радочка не напісаўшы. Ды нельга, мой ангел,—узяўся за гуж, не гавары, што не дуж“.

Цікавасць да вывучэння рускай мовы не пакідала Пушкіна на працягу ўсяго яго жыцця. Ён самастойна вывучае этымалогію, граматыку, марфалогію і гісторыю мовы. Даследуе правільнасць перакладу чужаземных слоў. З сваімі дагадкамі ён звяртаецца да вучоных і гэтым часта прымушае іх таксама займацца даследваннямі.

Блізкая сувязь з народамі поўдня Расіі, нагляданні за іхным жыццём і цікавасць да „простанароднай“ мовы не маглі не даць вялікіх станоўчых вынікаў. Пушкін захапляецца народнай творчасцю. Ён вывучае пасловіцы, прыказкі і нярэдка ў лістах да прыяцеляў скарыстоўвае запас сваіх ведаў у гэтым сэнсе. „Што табе скажу? Пра старыя дрожжы не гавораць тройчы, не радуйся найшоўшы, не плач згубіўшы. Перанясі мужна перамену долі тваёй, па адзёжцы цягні ножкі, усё перамелецца—мука будзе. Ты бачыш, што апрача пасловіц нічога путнога сказаць не ўмею“ (з ліста Сабалеўскаму).

У 1832 г. Даль выдаў свой першы зборнік рускіх казак, які, як быццам, павінен быў пазнаёміць публіку з народнай моваЙ. Пушкін вітаў гэты крок Даля па шляху ўнясення народнай мовы ў літаратуру. „Казка казкай,—гаварыў Пушкін,—а мова то наша сама па сабе, і ёй то нідзе нельга даць гэтага рускага раздолля, як у казцы. А як гэта зрабіць?.. Трэба-б зрабіць, каб навучыцца гаварыць па-руску і не ў казцы... Ды не, цяжка, нельга яшчэ! А што за раскоша, што за сэнс, што за толк у кожнай прыказцы нашай! Што за золата. „А не даецца ў рукі, не!“

Мы тут не будзем даваць ацэнку казкам Даля. Нас цікавіць сам факт, як Пушкін аднёсся да пранікнення „простанароднай“ мовы ў літаратуру. Пушкін цаніў у асобе Даля знаўцу народных слоў, зваротаў і да некаторай ступені мог яму ў гэтым зайздросціць.

Значную ролю ў сэнсе цікавасці Пушкіна да „простанароднага духу“ адыграла няня Арына Радзіонаўна. Вось што гаворыць аб гэтым сам Пушкін“:

„Ці ведаеш мае заняткі? Да абеда пішу запіскі, абедаю позна, пасля абеда езджу вярхом, увечары слухаю казкі і ўзнагароджваю тым недахопы праклятага свайго выхавання“... Знаёмства Пушкіна з народнай творчасцю адбывалася, вядома, не толькі праз няню. Прасякнуты любоўю да народнасці, ён сам хадзіў у гушчы народу і падслухоўваў яго мову, песні і казкі. Будучы ў Пскове, Пушкін амаль поўнасцю аддаваў свой час вывучэнню народнага жыцця. „Ён шукаў,—гаворыць Чэрнышэўскі,—сродкі для адшукання жывой народнай мовы ў самым яе вытоку: хадзіў па базарах, цёрся, што называецца, паміж людзьмі і вельмі паважаныя людзі горада бачылі яго пераапранутым у мяшчанскую вопратку, у якой ён нават раз з'явіўся ў адзін з пачэсных дамоў Пскова“.

Цікавасць да народнай творчасці ў Пушкіна дыктавалася жаданнем знайсці новыя формы і сродкі для стварэння высокамастацкай літаратуры, жаданнем зрабіць літаратуру здабыткам шырокіх мас народу.

Пад уплывам народнай творчасці Пушкін піша ў 30 г. г. цэлы шэраг сваіх казак, якія сведчаць пра шчыльную сувязь паэта з народам, з яго творчасцю. Кідаецца ў вочы майстэрская перадача народных казак. Праўда, часам паэт адступае ад пачутага ім сюжэта, але робіць гэта з вялікай асцярожнасцю, не парушаючы народнага адцення. Таму народная творчасць у яго перадачы здаецца „вясковай песняй, прапетай вялікім майстрам“ (Анненкаў). Казка

„Пра цара Салтана“ па свайму метрычнаму памеру вельмі нагадвае народны склад. Героямі казак Пушкін часта бярэ звяроў, птушак і інш. (напрыклад, у няскончанай казцы пра мядзведзіху). У гэтай казцы выводзіцца народнае ўяўленне аб мядзведзі, як аб баярыну ў лесе. Іншыя звяры таксама надзелены імёнамі, якія вядомы з народнай творчасці (лісіца—пад'ячыха, белачка—княгінюшка, бобр—гандлёвы госць і г. д.) Гора сваё мядзведзь аплаквае прычытаннямі, падобнымі да народных:

Ах, ты, свет моя медведица!
На кого меня покинула,
Вдовца несчастного,
Вдовца горемычного?

У казцы „Пра рыбака і рыбку“ па сапраўднаму захоўваецца рускі народны дух, хаця ў аснову яе ўзята не руская, а нямецкая казка (Грымма). Яна з'яўляецца непараўнаўчым тварэннем вялікага рускага казачніка, авалодаўшага багаццямі фальклора.

Асабліва многа запісваў Пушкін народных песень і складаў свае, наследуючы ім. Гэта можна пацвердзіць словамі Кірыеўскага. „Вось гэту пачку... даў мне сам Пушкін і пры гэтым сказаў: „калі небудзь ад няма чаго рабіць разбярыце-ка, якія спявае народ і якія змайстраваў я“... І колькі ні стараўся я разгадаць гэту загадку, ніяк не мог дайсці толку. Калі гэты мой зборнік будзе надрукаван, песні Пушкіна пойдуць за народныя“. („Вестник Европы“ 1891 г., стар. 637).

Мы пакуль што ўказалі, якую цікавасць Пушкін праяўляў да народнай мовы, казак і песень. Трэба адзначыць, што яго цікавіла народная творчасць ва ўсім яе аб'ёме. Яго прыцягвалі пагаворкі, лягенды, у якіх „хараство прастаты і вымысла“. Калі вышаў зборнік „Песні западных славян“, складзены з напісаных французскім паэтам Просперам Мерыме песень, Пушкін перакладае іх на рускую мову.

* * *

Пушкіну былі „дарагімі працоўныя ўсіх нацыянальнасцей, дарагой была кожная мова, кожная культура“—пісала „Правда“. Праз Пушкіна руская грамадскасць упершыню азнаёмілася з бытам, звычкамі, грамадскім укладам і элементамі мастацкай культуры народаў, насяляючых паўднёва-ўсходнія калоніі царскай Расіі. У паэмах „Каўказскі нявольнік“, „Бахчысарайскі фантан“, „Цыгане“— Пушкін робіць першую спробу ў рускай літаратуры перадаць песні каўказскіх горцаў, крымскіх татар і бесарабскіх цыган. Пушкін не ведаў мясцовых моў, яму нядоўга прышлося быць сярод гэтых народаў і ён не мог поўнасцю вывучыць іх творчасць. Таму ён вымушан быў пайсці па лініі стылізацыі народных матываў. Гэтыя паэмы адыгралі вялікую ролю ў рускай літаратуры. Яны разбілі няправільнае ўяўленне аб дзікасці каўказскіх горцаў і крымскіх татар і абудзілі цікавасць рускай грамадскасці да мастацкай культуры гэтых народаў.

Больш глыбока Пушкін вывучыў быт, звычкі і паэтычную творчасць народаў Бесарабіі. Песні „Чорная шаль“, надрукаваная ў

„Сыне отечества“ з падзагалоўкам „Малдаўская песня“ і песня Земфіры („Цыгане“), напісаны ў выніку азнаямлення паэта з нацыянальным мастацтвам Бесарабіі. Зараз устаноўлена, што песня Земфіры:

Старый муж, грозный муж,
Режь меня, жги меня:
Я тверда, не боюсь
Ни ножа, ни огня.—

не цыганская, а малдаўская народная песня „Адрэ-мэ Фриджэ мэ!“, якую распявалі цыгане. Пушкіна цікавіла і другая малдаўская песня „Тю‘юбески пити масура“. У рукапісах Пушкіна мы сустракаем словы яшчэ адной малдаўскай песні, якія ён думаў скарыстаць эпіграфам да паэмы. Вось яны:

Мы люди смирные, девы наши любят волю—
Что тебе делать у нас!

Надзвычай многа Пушкін запісаў малдаўскіх песень аб героях паўстання 1821 г. (—одоре Владимирску и Бимбашисавве), пра важкоў балгарскіх і румынскіх паўстанцаў.

Такім чынам, мы маем поўнае права яшчэ раз сцвердзіць, што руская грамадскасць упершыню праз Пушкіна азнаёмілася з нацыянальным мастацтвам Бесарабіі. Будучы на Поўдні, Пушкін добра вывучыў Украіну, яе нацыянальныя асаблівасці. У выніку, у творчасці Пушкіна мы маем адбітак вуснай украінскай творчасці. Яшчэ ў ліцэі (1814 г.) Пушкін піша верш „Казак“, які па зместу і стылю нагадвае украінскую песню „З-за гори—гори ідуть мазури“ і „Ой відтіль гора, а відтіль крута“. У аўтографе гэтага верша Пушкін сам робіць прыпіску: „Наследванне маларасійскаму“.

У працэсе працы над паэмай „Палтава“ Пушкін вывучаў украінскія песні і „думы“, звязаныя з імем Мазепы. Значную дапамогу ў вывучэнні украінскай народнай творчасці Пушкіну аказалі Гогаль і Максімовіч. Выданыя ў Маскве зборнікі Максімовіча: „Маларасійскія песні“ (1827 г.), і „Украінскія народныя песні“ (1834 г.) меліся ў бібліятэцы Пушкіна і ён над імі шмат працаваў. Гэта відаць з наступнага:

„У 1829 г.,—піша Максімовіч,—калі Пушкін вярнуўся з Закаўказскага падарожжа, я застаў яго аднойчы раніцою за пісьмовым сталом. Перад ім былі раскрыты украінскія песні майго выдання 1827 г.—„А я... абкрадваю вашы песні“,—сказаў ён і, узяўшы з стала... ліст, прачытаў з яго выразна:

А тютюн та люлька
Казаку в дорозі
Знадобіться!

Той-жа Максімовіч азнаёміў Пушкіна з украінскімі думамі пра Мазепу, з якіх больш за ўсё спадабалася яму:

У Кієві на Подолі
Порубани груши,
Погубів же пес Мазепо
Невінные души.

Цікавая украінская народная казка пра палёт салдата і ведзьмы на шабаш паслужыла асновай пушкінскага „Гусара". Казка гэта вядома і ў Беларусі і ў Польшчы. Але мы напэўна не памылімся, калі будзем сцвярджаць, што Пушкін узяў украінскі варыянт казкі, паколькі ў яго захоўваюцца словы: Кіеў, Днепр і інш. У зборніку „Рукою Пушкіна" змешчана пісьмо Гогаля да Пушкіна, на адвароце якога Пушкін запісаў украінскую песню „Чорная роля зафана". Гэты факт яшчэ лішні раз пацвярджае цікавасць Пушкіна да украінскай народнай творчасці.

Тое-ж можна сказаць пра грузінскую літаратуру. Да Пушкіна аб гэтай багацейшай літаратуры ніхто не ведаў. Толькі ў 1833 г. у „Тэлескопе" з'явіўся артыкул: „Шота Руставелі, грузінскі паэт". Александр Сяргеевіч і тут быў першай ластаўкай, прынёсшай звесткі аб грузінскай народнай творчасці. У сваіх заўвагах да „Каўказскага нявольніка" Пушкін гаворыць:

„Шчаслівы клімат Грузіі не ўзнагароджвае сваёй прыгожай краіны на ўсе няшчасці, вечна ёй перацерпліваемыя. Песні грузінскія прыемны і ў большасці сумныя. Яны славяць мінуты поспехаў каўказскай зброі, смерць нашых герояў—Бакуніна і Цыцыанава, здрады, забойствы, іншы раз каханне і асалоды". Гэта—беглая заўвага аб грузінскіх песнях, але і яна мае вялікую гістарычную цікавасць, як першая заўвага аб грузінскай паэзіі.

Пазней у 1829 г. Пушкін знаёміцца з грузінскім мастацтвам непасрэдна ў самой Грузіі. Па шляху ў Арзерум і назад ён чуў, вывучыў і запісаў шмат грузінскіх народных песень, а адну з іх пасля пераклаў на рускую мову.

Душа, недавно рожденная в раю!
Душа, созданная для моего счастья!
От тебя, бессмертная, ожидаю жизни і г. д.

У час працы над „Гісторыяй Пугачоўскага бунта" (1833 г.) Пушкін знаёміцца з жыццём і творчасцю калмыкаў, башкір, кіргізаў і іншых усходніх народаў былой царскай Расіі. У выніку гэтага азнаямлення ў „Капітанскую дачку" заносіцца калмыцкая казка пра арла і крумкача. Мы ўжо не гаворым аб вялікай колькасці ў аповесці народных пагаворак і ўрыўкаў з песень.

Тут-жа, на ўсходзе, Пушкін запісаў мардвінскую пагаворку: „Цяпер калмыкі так абруселі, што гатовы з жывога шкуру садраць". (Зборнік „Рукою Пушкина", стар. 341).

Выдатнейшы помнік народнай творчасці Казахстана, павер'е пра багатыра Косу-Корнечэ, узнікшае у 13 ст., але якое можна пачуць у стэпах Казахстана і цяпер, было вядома Пушкіну.

* * *

Народнасць літаратурнай мовы Пушкіна варожа сустракалася літаратурнымі рэакцыянерамі. Яны не пускалі ў літаратуру „простанародныя словы", знаходзячы ёдзін выраз бурлацкім, другі мужыцкім, трэці непрыемным для дамскіх вушэй". Нават тыя наіўныя „пажыткі", з якімі накіроўвалася Таня (раман „Яўгені Онегін") у Маскву, выклікалі абурэнне консерватыўнай крытыкі: „Мы не думалі,

каб гэтыя прадметы маглі складаць хараство паэзіі“. Зусім іншых поглядаў трымаўся Пушкін. Да народнай творчасці ён звяртаўся, як да багатай крыніцы літаратурнага матэрыяла. Ён уносіў у літаратуру новыя матывы, новыя слоўна-мастацкія сродкі і ўмеў адстайваць іх перад рэакцыйнай крытыкай. З паяўленнем у свет паэмы „Палтава“, пасыпаліся нападкі крытыкі на народнасць паэмы. Пушкін на гэта адказвае: „Словы: усы, вішчаць, уставай, ого, пара, паказаліся крытыкам нізкімі, бурлацкімі. Ніколі не ахвярую кароткасцю выражэння правінцыяльнай чапорнасці, баючыся паказацца простанародным...“ У другім месцы Пушкін указвае канкрэтныя шляхі для барацьбы з архаізмамі літаратуры 18 ст. „Нам надакучыла правільнасць і дасканаласць класічнай старажытнасці і бледныя, аднастайныя спісы яе наследвальнікаў... стомлены густ патрабуе іншых, мацнейшых адчуванняў і шукае іх у мутных, але кіпячых вытоках народнай творчасці... Вывучэнне старынных песень, казак і г. д. неабходна для сучаснага ведання ўласцівасцей рускай мовы“.

Асабліва моцна пранікае „простанародная“ стыхія ў мову Пушкіна ў канцы 20 гг. У гэты перыяд у яго творчасці з'яўляюцца словы і выразы, якіх не прызнавала граматыка, якія не ўжываліся у літаратурным абыходзе: „харчевня“, „кнут“, „острог“, „захочам“, „завизжала“, „убрались“ (у сэнсе пашлі), цэлыя сказы: „На лавку сел, потер глаза, зевнул“... „Плешивый лоб с досадою чесал“, „Молчи, пустая галова, слыхал я истину бывало: хоть лоб широк, да толку мало“ і г. д.

Пушкін ведаў, што толькі тая літаратура з'яўляецца народнай, якая прыгожа, па-мастацку, праўдзіва і проста паказвае жыццё, якая даходзіць да шырокіх мас народу. Адсюль яго жаданне, каб творы пісаліся проста, зразумела і коратка. У сваім артыкуле „О слоге“ ён рэзка выступае супроць тых пісак, якія пры паказе самых простых рэчаў заграмаджаюць іх непатрэбным слоўным хламам... „Што сказаць пра нашых пісьменнікаў, якія, лічачы за нізасць гаварыць проста рэчы самыя звычайныя, думаюць ажывіць дзяцінную прозу дапаўненнямі і вялымі метафарамі! Гэтыя людзі ніколі не скажуць дружба, не прыбавіўшы: „сіе свяшчэннае пачуццё, якога благародны пламень“, і інш. Трэба сказаць раніцой,—а яны пішуць: „чуць толькі першыя праменні узыходзячага сонца азарылі ўсходнія краі блакітнага неба“. Як гэта ўсё „нова і свежа“. Хіба яно лепш таму толькі, што даўжэй. Дакладнасць і кароткасць, вось першая вартасць прозы“.

Але не толькі ў гэтым сэнсе Пушкін разумеў народнасць. Ён арганічна звязваў мову твора з яго зместам. Разам з „простанароднай“ мовай у яго творчасці з'яўляюцца і прадстаўнікі „простанароддзя“. Мяняецца вобразная сістэма. Знікае аднастайная, адцягненая метафарычная структура французскага стыля.

Народнасць Пушкіна нельга змешваць з псеўданароднасцю пісьменнікаў тыпа Булгарына, Пагодзіна, у якіх паводле слоў Белінскага: „Рускія асобы ніжэйшых саслоўяў падобны былі на пераапранутых бар, а бары толькі імёнамі адрозніваліся ад чужаземцаў“. Гэты ілжывы, шавіністычны напрамак, не паказваючы сапраўднага народнага жыцця—быў чужы Пушкіну. Для яго народным было

ўсё праўдзівае, зразумелае шырокім масам мастацтва, у якім адлюстроўваецца самае істотнае з жыцця народа.

Прыпомнім скандал, узняты паэмай „Руслан і Людміла", якая сваімі карэннямі ўваходзіла ў рускую народную творчасць, у свет казачнага эпасу. У гэтай паэме Пушкін, шырока выкарыстоўваючы фантастыку народнай творчасці, разбурае каноны ложнакласічнай паэмы. Крытыка абвінавaціла „Руслана і Людмілу" ў простанароднасці, а крытыкі з рэакцыйнага лагера параўновалі гэту паэму з мужыком, які ў армяку і лапцях з'явіўся на балу ў маскоўскім благародным сабранні. Паэма сапраўды была новай з'явай у літаратуры той пары.

У паэме „Каўказскі нявольнік" Пушкін упершыню ў рускай літаратуры праўдзіва паказаў жыццё ўскраінных народаў былой Расіі. З выхадам у свет „Каўказскага нявольніка", дваццацітрохгадовы Пушкін з вучняў старэйшых рускіх паэтаў становіцца настаўнікам. Яму пачынаюць наследаваць, у яго вучацца.

Паэма „Браты разбойнікі" з'яўлялася наступным крокам паэта па шляху дэмакратызацыі яго вершаванай мовы. У гэтай паэме Пушкін выступае супроць літаратурнай мовы, разлічанай на „кволыя вушы чытачак". У лісце да Бестужэва Пушкін гаворыць: „Калі гукі бацькаўшчыны—харчэўня, кнут, астрог не спужаюць вушэй чытачак „Палярнай звязды", дык надрукуй яго" (урывак з паэмы „Браты разбойнікі"—Ф. П.).

У далейшай сваёй творчасці Пушкін змагаецца за народнасць літаратуры. Ён разумеў, што ні скарыстанне народнай мовы, ні скарыстанне падзей гісторыі, не робяць яшчэ літаратуру народнай. Літаратура мае права звацца народнай толькі тады, калі яна праўдзіва паказвае народнае жыццё. Раман „Яўгені Онегін" мы лічым не таму народным, што Онегін „Ярем барщины старинной оброком лёгким заменил", а таму, што ён з'яўляецца „энцыклапедыяй рускага жыцця". Тое самае можна сказаць і пра „Барыса Гадунова", „якім Пушкін здолеў праўдзіва і высока мастацкі паказаць адзін з перыядаў рускай гісторыі.

Пушкін, будучы выхадцам з дваранскага асяроддзя, падняўся над сваім класам і пайшоў у напрамку да абароны інтарэсаў прыгнечаных. Ён ламаў старыя формы літаратурнай мовы, стварыў новую рускую літаратурную мову, узбагаціў яе жамчужынамі народнай творчасці і лепшымі элементамі другіх моў. Літаратурная мова Пушкіна блізкая народным масам. Мы можам сказаць словамі Белінскага: „Поэзия Пушкина удивительно верна действительности, поэтому общий голос нарек яго русским народным и национальным поэтом". Праз Пушкіна рускі народ упершыню сказаў сваё слова ў сусветнай літаратуры.

* * *

Вось далёка няпоўныя сувязі Пушкіна з творчасцю народаў розных нацыянальнасцей, насяляўшых тэрыторыю былой царскай Расіі. Але і гэтага дастаткова для таго, каб зразумець, што Пушкін з'яўляецца тытанічнай фігурай рускай літаратуры, што ён увабраў у сваю

паэзію багацці народнай творчасці, усё лепшае з літаратурнай спадчыны папярэдніх гадоў, як рускай, так і іншакраіннай і стварыў высокамастацкую літаратуру і багатую рускую мову, даступную шырокім народным масам.

Мы не памылімся, калі скажам, што Пушкін сваімі паэтычнымі працамі зрабіў першы крок па шляху да вялікай дружбы народаў, у якой жывуць зараз сто семдзесят мільёнаў нашага шчаслівага шматнацыянальнага Савецкага Саюза і якая моцна цэмантавана Сталінскай Канстытуцыяй.

Ленін вызначыў межы сучаснай рускай мовы словамі:

— Ад Пушкіна да Горкага.

І гэта сапраўды так. Пушкін сапраўды з'яўляецца вялікім рубяжом у развіцці рускай літаратурнай мовы і рускай літаратуры.

Творы Пушкіна гэта неўміручы помнік, да якога ніколі „не зарастет народная тропа“. Яго творы—блізкія народным масам, працоўным і таму гэтыя масы з вялікаю пашанаю ставяцца да найвялікшага імя Пушкіна. У сотую гадавіну з дня гібелі паэта адзіным моцным голасам шматнацыянальнага народу Савецкага Саюза прагучэла—Пушкін наш!

---

# ХРОНІКА

## АНТАЛОГІЯ ПАЭЗІІ СОВЕЦКАГА САЮЗА

Да XX гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі выйдзе з друку антагалогія паэзіі Совецкага Саюза на беларускай мове. У анталогію ўвойдуць творы лепшых паэтаў ордэнаносцаў тт. Лахуці, Самеда Вургуна, Дзем'яна Беднага, Джамбула, Наіры Зар'яна, Сулеймана Стальскага, Галакціона Табідзе, Паўле Яшвілі, Аліо Машашвілі, Леанідзе, паэтаў: Н. Тіханава, Э. Багрыцкага, паэтаў Узбекістана, Украіны, Чувашыі, Казахстана і інш. Кніга выйдзе памерам у 25 аркушаў.

Складае кнігу П. Броўка, над перакладамі працуюць: Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, П. Броўка, М. Хведаровіч, П. Глебка, А. Куляшоў і інш.

## АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІІ НА РУСКАЙ МОВЕ

Выдавецтва „Огонек" у масавай серыі выдае анталогію беларускіх паэтаў. Анталогія выйдзе да XX гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі.

⊙ **Лібрэта для беларускай оперы напісаў паэт Пятрусь Броўка.** Лібрэта малюе жыццё бедных сялян да лютаўскай рэвалюцыі і перыяда сусветнай і грамадзянскай вайны. У лібрэта шмат народных песень.

## СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧЫ СХОД ПРАЎЛЕННЯ ЛІТФОНДА БССР

19-га мая адбыўся справаздачна-выбарчы сход беларускага аддзялення літфонда СССР. За тры гады сваёй дзейнасці праўленне ні разу не рабіла справаздачы.

Праўленне літфонда не дапамагала пісьменнікам, якія працуюць над мастацкімі творамі. Дапамога аказвалася па прынцыпу „як бы каго не пакрыўдзіць", а не ўлічвалася, над чым працуе пісьменнік, якая дапамога яму будзе больш эфектыўная. Лібералыйчанне, палітычная сляпата, бесклапотнасць і страта класавай пільнасці прывялі да таго, што сродкі літфонда выкарыстоўвалі і людзі, якія не мелі ніякіх адносін да літаратуры, а таксама класавыя ворагі.

Агульным сходам пісьменнікаў, рэзка крытыкаваўшым праўленне літфонда, абрана новае праўленне, у складзе тт. Кандрата Крапівы, Міхася Лынькова, Кульбака і Галавача.

## СХОД СЕКЦЫІ ДРАМАТУРГАЎ

16 і 17 мая адбыўся сход секцыі драматургаў БССР.

Справаздачны даклад старшыні секцыі т. Гурскага быў агульным і мала змястоўным. Ён гаварыў аб усім, але нічога канкрэтнага не мог сказаць пра самае галоўнае, пра работу секцыі, яе творчую прадукцыю.

У бюро драмсекцыі пранікді ворагі народу, якім па сутнасці было перадаручана кіраўніцтва секцыяй. Яны раскрадвалі дзяржаўныя сродкі, творачы свае агідныя справы. Варожая, макулатурная і паклёпніцкая іхняя „творчасць" прасоўвалася ў тэатры БССР.

Выступаючыя таварышы Чорны, Кучар, Вольскі і інш. рэзка крытыкавалі работу секцыі. Агульны сход прызнаў работу зусім нездавальняючай. Абрана новае бюро секцыі драматургаў, у склад якога ўвайшлі тт. Чорны (старшыня), Крапіва, Кульбак і Модэль.

## У ПАРТКОМЕ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ СССР

На сумесным паседжанні парткома Саюза совецкіх пісьменнікаў і партгрупы праўлення саюза абгаварвалася пытанне аб бліжэйшым саратніку трацкіста Авербаха—В. Кіршоне.

У выступленнях тт. Юдзін, Кулагін, Кірпоцін, Разенталь і Стаўскі яскрава абмалявалі постаць аднаго з важакоў авербахаўскай банды. Кіршон ужо даўно нічога не меў з партыяй.

Па заяве т. Ходарава, прадстаўніка парткома завода № 39, дзе Кіршон лічыўся ў партарганізацыі, ён ніякай партработы не вёў на працягу васьмі год, з дня прымацавання яго да завода. Кіршон заўсёды спасылаўся на тое, што ён нібы загружаны партыйнымі абавязкамі ў пісьменніцкай арганізацыі, але як высветлілася ён і тут ніякай работы не вёў.

На паседжанні высветліліся і новыя факты. Кіршон у 1921 г. у Свярдлоўскім універсітэце падтрымліваў трацкісцкую платформу у пытанні аб прафсаюзах і галасаваў за яе. Партком аднагалосна пастанавіў выключыць з партыі Кіршона, як актыўнага кіраўніка трацкісцка-контррэвалюцыйнай групы ў літаратуры.

Партыйная арганізацыя Саюза савецкіх пісьменнікаў таксама разглядзела пытанне аб актыўным удзельніку авербахаўска-трацкісцкай групы Бруно Ясенскім. Выступленне Ясенскага на гэтым сходзе лішні раз падкрэсліла, што ён у партыі знаходзіўся фармальна, быў заўсёды чужым чалавекам. Сход пастанавіў выключыць Ясенскага з партыі.

Таксама партгрупа разглядзела пытанне аб партыйнасці Афінагенава і Карабельнікава Тав. Стаўскі, Фадзееў, Юдзін ахарактарызавалі іх як галоўных заправіл авербахаўскай шайкі і высветлілі іх варожы антыпартыйны твар. Агульны партыйны сход пастанавіў выключыць Карабельнікава з шэрагаў партыі. Справа аб Афінагенаве была перадана ў партарганізацыю МХАТ СССР, якая выключыла яго з партыі.

Партгрупа аднагалосна адобрыла рашэнне сакратарыята аб правядзенні агульнага схода пісьменнікаў для абгаварэння пытанняў этыкі у сувязі з справай І. Шухава і пісьмом жонак пісьменнікаў, якое апублікавана ў „Праўдзе“.

Сакратарыят ССП паслаў свайго прадстаўніка ў станіцу Красноўскую для азнаямлення з справай Шухава.

## НОВАЕ БЮРО СЕКЦЫІ ДРАМАТУРГАЎ СССР

10 мая адбыўся сход маскоўскіх драматургаў, прысвечаны выбарам новага бюро секцыі драматургаў саюза савецкіх пісьменнікаў. Выступаўшыя таварышы ўнеслі многа каштоўных прапаноў, якія ўключаны ў творчы наказ бюро. Выбары былі праведзены тайным галасаваннем.

Выбраны: К. Трэнеў, В. Вішнеўскі, А. Файко, В. Гусеў і Б. Левін.

## НА СХОДЗЕ ПАРТГРУПЫ ЛЕНІНГРАДСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

Адбыўся сумесны сход парткома і партгрупы ленінградскага аддзялення саюза пісьменнікаў. На сходзе была раскрытыкавана рапаўская дзейнасць Міхаіла Чумандрына, Юрыя Лебедзінскага і іх творчая прадукцыя, у якой маюцца яўна-трацкісцкія тэндэнцыі. Сход не быў задаволены выступленнем кандыдата партыі Ольгі Бергольц, якая да апошняга часу падтрымлівала сувязь з ворагам народа Авербахам і тэрарыстам Макар'евым. Будучы адным з кіраўнікоў газеты „Литературный Ленинград“, яна ў поўнай меры нясе адказнасць за палітычна-шкодную лінію газеты, старонкі якой былі прадастаўлены цэламу шэрагу ворагаў народа.

Сход парткома і партгрупы вынес рашэнні паставіць перад агульным сходам партыйнай арганізацыі ленінградскага саюза пісьменнікаў пытанне аб належэнні партыйнага спагнання на Чумандрына. Пытанне аб далейшым прабыванні ў шэрагах партыі Ольгі Бергольц пастаўлена перад партарганізацыяй завода „Электросила“, у якой яна лічыцца. Пытанне аб Лебедзінскім сход вырашыў паставіць перад партарганізацыяй маскоўскіх пісьменнікаў.

## НА СХОДЗЕ ЛЕНІНГРАДСКІХ ДРАМАТУРГАЎ

7 мая ў Доме пісьменніка імя Маякоўскага на сходзе ленінградскіх драматургаў, выступаючы ў спрэчках, А. Н. Талстой расказаў аб сваіх сустрэчах ў Лондане з англійскімі пісьменнікамі. Ён гаварыў аб вялікай зацікаўленасці на Захадзе да савецкай літаратуры.

Характэрызуючы дзейнасць РАПП, А. Н. Талстой заявіў:

— РАПП вучыў нас фармальна думаць, думаць холадна, без адчування існасці і плоці жыцця. Ён падпарадкаваў творчасць мёртвай схеме. Для мяне РАПП— гэта фармалізм, фармальныя, халодныя, адносіны да ідэі.

Далей А. Н. Талстой, гаворачы аб недахопах савецкай драматургі, указвае, што прычына гэтага ляжыць у адсутнасці у драматургаў тэатральнай культуры.

— Мы не ўмеем пісаць п'есы,—сказаў ён.—Гэта майстэрства трэба развіваць. Для гэтага неабходна супрацоўніцтва пісьменніка з тэатрам. Інакш яго твор будзе толькі раманам у дыялогах. П'еса нараджаецца з супрацоўніцтва драматурга з тэатрам. Там ён навучаецца бачыць увасабленне тэмы у жывым чалавеку.

## АРХІЎ А. М. ГОРКАГА ПАПАЎНЯЕЦЦА НОВЫМІ МАТЭРЫЯЛАМІ

Штодзённа сейфы ўсесаюзнай бібліятэкі імя Леніна, у якіх захоўваецца архіў А. М. Горкага папаўняюцца новымі матэрыяламі. Аўтографы і пісьмы Аляксея Максімавіча, рукапісы розных аўтароў з яго праўкаю, кнігі з яго пазметкамі паступаюць з усіх канцоў Совецкага Саюза. У архіў А. М. Горкага за апошнія два месяцы (з 10 сакавіка па 10 мая) перадана камісіі па прыёмцы літаратурнай спадчыны вялікага пісьменніка, дзяржаўнымі, грамадскімі арганізацыямі і прыватнымі асобамі больш 35 тысяч рукапісаў, заметак, пісем і другіх матэрыялаў.

Асаблівую цікавасць прадстаўляюць рукапісы мастацкіх твораў А. М. Горкага. Іх у архіве—836. Тут маюцца аўтографы амаль усіх раманаў, аповесцей, п'ес, апавяданняў, створаных вялікім пісьменнікам за ўвесь перыяд яго літаратурнай творчасці. Сярод гэтых рукапісаў ёсць неапублікаваныя. Па розных прычынах не выйшлі з друку пры жыцці А. М. Горкага такія яго мастацкія творы, як апавяданне „Аб камарах“, напісанае ў 1893 годзе, аповесць „Публика“, напісаная ў 1905 годзе і шмат другіх твораў.

У архіве маецца каля 1300 пісем Аляксея Максімавіча, звыш 27 тысяч пісем, атрыманых А. М. Горкім ад розных асоб за совецкі перыяд і каля 2000, атрыманых пісьменнікам да рэволюцыі.

Папаўненне архіва працягваецца. Нядаўна 6 пісем паступіла ад Н. К. Крупскай, 4 пісьмы перадаў пісьменнік М. Кальцоў. Чырвонаармеец Бедноў прыслаў свой рукапіс з папраўкамі Горкага і пісьмо да яго Аляксея Максімавіча.

## ЛЕОН ФЕЙХТВАНГЕР АБ СВАІХ ПЛАНАХ

Рэдакцыя „Апошніх паведамленняў па цые“ звязалася па тэлефону з маленькім гарадком на поўначы Францыі Санары, дзе жыве вядомы нямецкі антыфашысцкі пісьменнік Леон Фейхтвангер.

Леон Фейхтвангер паведаміў наступнае: У сучасны момант я рэдагую п'есу „Бертольд Опенгейм“, напісаную совецкімі аўтарамі Ліўшыцам і Валавіковай па майму раману „Сям'я Опенгейм“. П'еса прынята да пастаноўкі ў Ленінградскім дзяржаўным вялікім драматычным тэатры і ў Растоўскім дзяржаўным тэатры. Адначасова я канчаю невялікую кнігу аб маіх маскоўскіх уражаннях, пад загалоўкам: „Масква 1937“.

Акрамя таго я пачаў падрыхтоўчую работу над п'есай „Эмігранты“, якую я пішу для тэатра імя Вахтангава. Гэтая п'еса будзе скончана да восені бягучага года. А вясною будучага года павінна адбыцца прэм'ера.

У Маскву я спадзяюся прыехаць у лістападзе. Думаю прабыць у Совецкім Саюзе доўгі час.

## НОВАЕ ВЫДАННЕ „ЭНЕІДЫ“ І. КАТЛЯРЭЎСКАГА

Заканчваецца работа па падрыхтоўцы да выдання самага цікавага твору украінскай літаратуры канца XVIII стагоддзя „Энеіды“ Івана Катлярэўскага.

Напісаная ў выглядзе „параліцоўкі“ аднаіменнай паэмы Вергілія, яна па сутнасці з'яўляецца самастойным яркім творам. „Энеіда“ Катлярэўскага ў сатырычнай форме, высмейвае сучаснае пісьменніку грамадства украінскіх памешчыкаў і старшын, іх быт і нораў.

Першыя тры часткі „Энеіды“ выйшлі ў 1798 годзе, а першае поўнае выданне з 6 частак з'явілася ў 1842 годзе.

Кніга, якая падрыхтоўваецца дзяржаўным літаратурным выдавецтвам Украіны, аднаўляе без усялякіх змен тое выданне якое рыхтаваў да друку сам Іван Катлярэўскі.

## НОВЫЯ КНІГІ

Знаходзяцца ў друку і хутка выйдуць у выданні Заходняга абласнога дзяржаўнага выдавецтва чатыры новыя мастацкія кнігі: В. Арыстаў—„Дело подполковника Энгельгардта“, Н. Рыленкоў—„Колосья“, Янка Купала—„Избранные стихи“ ў перакладзе з беларускай мовы М. Ісакоўскага і літаратурна-мастацкі альманах „Наступление“ (№ 2).

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Совецкая, 68. Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

## ЗМЕСТ

*Стар.*

## Заўважаныя памылкі друку

| Стар. | Радок | Надрукавана | Трэба |
|---|---|---|---|
| 80 | 2 | не сорамна табе, Ражкоў... | не сорамна табе Ражноў... |
| 81 | 10 | Даносчыкаў дапытвае сам | Даносчыкаў дапытывае сам |
| 83 | 16 | І сынам сам загадвае бацька | І сынам сам загадывае бацька |
| 83 | 32 | Іду прыняць; Басманаў, пачкай. | Іду прыняць; Басманаў, пачакай. |
| 96 | 33 | вазьміце ў Самары два вагоны... | Вазьмеце ў Самару два вагоны. |
| 53 | 25 | з мінулым, са ўсім мінулым чалавецтва. | з мінулым, ва ўсім мінулым чалавецтва. |
| 162 | 27 | „1918„ робіцца і мастацкай няраўдай. | „1918“ робіцца і мастацкай няпраўдай. |

Зак. 658.

